писатель Гиппель).

**15 ліпеня (нядзеля)**

Выхадныя, губляю дарэмна час. Патрэбна працаваць і яшчэ раз працаваць, пісаць. Амаль усе ўжо сабраў дакументы, яшчэ мед. даведку.

Хутка паездка ў Маскву! З каханай жанчынай, што яна прынясе мне (нам)? І зноў жа трэба! Паступіць на падрыхтоўчае аддзяленне. Як я гэтага жадаю!

Из трилогии «Нашествие монголов» В.Г. Яна, книга первая, «Чингиз-Хан»: *Лишь молчание могуче – все же иное есть слабость.*

**4 сентября (вторник)**

Тысячу раз собирался порвать со всем, прекратить записи, но видно все ж он мне нужен, мой дневник. Ведь я один…

Уже месяц, как лежу в Институте туберкулеза возле деревни Новинки. Вырван из жизни, но это очень «сильно». Здесь по-прежнему продолжаю работать над собой, читаю. Напечатана еще одна статейка о комсомольской работе в «Кировце». Жду, должен и надеюсь с «божьей» помощью устроиться на заочное п/о в БГУ, на факультет журналистики. Написал еще несколько стихотворений. Хочу все же стабильно устроиться в редакции «К».

Болезнь мою на деревне называют «сухотами». Если бы поступить, было б легче.

Не знаю, что делать. Здесь меня часто навещала Мария, хочет от меня ребенка. А я болен. Но я решил порвать и с ней. Только занятия!

**12 верасня (серада)**

Даўно не браўся за пяро, каб запісаць што-небудзь на тvae старонкі, мой адзіны сябрук.

Мінаюць дні, тыдні. Усё хварэю. Але і працую, працую. Чытаў Бальзака, зараз – родную літаратуру: Янка Брыль, Змітрок Бядуля, Альберт Паўловіч.

*Вецер будзе гнаць кудысьці аблокі, месяц – хавацца за соснамі, калі і мяне ўжо не будзе. І нехта іншы стане думаць-прадумаць, што так і суджана, мусіць, яму сумнявацца, горка тужыць і плакаць без слоў, і часта шукаць апоры, і горача любіць – жыццё, людзей, дабро, паэзію!..* Я. Брыль, “Трохі пра вечнае”.

Bo już bocian przyleciał do rodzinnej sosny i rozpiął skrzydła białe, wczesny sztandar wiosny.

**15 верасня (субота)**

Не ведаю, як лепш працаваць. Зараз вось паўтара месяца, як ляжу ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце туберкулёзу. Каб занатаваць што-небудзь у дзённік – то вельмі рэдка бяру ў рукі пяро.

Але, між іншым, яшчэ адзін мой допіс надрукаваны ў "Кіраўцы". Пра сябра па працы Торапава Юрыя. Напісаў, нарэшце, замалёўку аб сяле Лошыцы-1-й. Занёс у рэдакцыю разам з вершамі. Але адчуваю, што гэтага мала для мяне. Трэба зноў падрыхтаваць матэрыял у "Чырвоную змену".

Асабіста пра мяне – і ўсё, і нічога. Гэты год для мяне – насычаны падзеямі, як прыемнымі, так і не вельмі. Першыя спробы пісаць, першыя поспехі і надзеі. Зноў каханне жанчыны. Хачу пісаць пра чалавека толькі і сам у адносінах з жанчынамі кожны крок – боль. Марыя паехала ў водпуск, цяпер у мяне Валя, медсястра Люда і наогул богведама што. Што гэта ўсё значыць з майго боку?

А трэба ж самаадукацыя і самавыхаванне. І ўніверсітэт – не пацеха! Я павінен яго скончыць, чаго б мне гэта ні каштавала.

Чытаю зараз больш за ўсё беларускіх пісьменнікаў. Янка Брыль, толькі зараз адкрыў яго для сябе. Асабліва з лірычных запісаў і мініяцюр: *Шчасце наша, відаць, у самой апантанасці.*

Божа, аж сам жахаюся гэтай сваёй апантанасці. Зараз, цяпер, калі яшчэ і хварэю ў дадатак, але менавіта пісаць, шукаць тое слова роднай мовы, што не гукнулі да мяне і не скажуць там, наперадзе, куды мне не дайсці. Тое, што магу я, ніхто за мяне не зробіць, тым больш так, як гэта мог бы зрабіць я. Ды не мог, а абавязкова змагу!

Пасля столькіх сустрэч у маім яшчэ, можа, юначым жыцці, магу сказаць: цесны гэты свет для чалавека. Ходзіш дзесь побач – не заўважаеш. Прыгледзеўся – убачыў нешта прыгожае, каштоўнае, прыемнае. Пасля частых сустрэч з гэтым чалавекам, у паўсядзённых сутычках нешта сцёрлася, грані характава чалавечай асобы зашмальцаваліся – можа і сапраўды, а можа толькі ў нашых вачах – вось тут і патрэбен ужо сапраўдны рамонт нашых пачуццяў і адносін, пакуль будзённы сівер не выдзьмуў паміж цаглін яшчэ не замацаваны раствор дружбы-сяброўства, шчырых адносін, узаемаразумення і кахання. І тады трэба крычаць – людзі! Беражыце пачуццё першага захаплення, дзяліце яго як дарагія зярняты хлебу! Надалей хацелася б успомніць, прывесці да ладу думкі. Думкі пра бацьку. Але зараз хацеў бы зрабіць допіс у "Знамя юности".

Палохае верасень дажджамі з восенню разам.

Незвычайнае – у кожным свядомым і несвядомым кроку.

Дзяўчына – а мо і не ўжо? – у тваім жыцці. Зараз тут, у БНДІ туберкулёзу. І я з ёю амаль кожны вечар. Учора павяла мяне на “горачку” і за хваінавы лясок. Было хуткае змярканне і зоркі. А мо і спадарожнікі? Валя…

*Люблю рускіх, Расію, люблю Украіну… Але ніколі яшчэ не пашкадаваў, што я – беларус, ніколі не захацеў быць некім іншым, таксама як ніколі яшчэ не прыходзіў да недарэчнай думкі… стаць жанчынай. Я беларус таксама, як я – мужчына, і проста не магу глядзець на свет інакш.* (Я. Брыль)

**20 верасня (чацвер)**

“Лежачы” тут, у інстытуце, пазнаёміўся з “калегам” – журналістам Вашчылiным Міхайлам Міхайлавічам. Даў прагледзець мае “творы”. Прачасаў. Але я ўдзячны. Сустрэча гэта патрэбна вельмі. Больш яму спадабаўся першы мой нарыс пра настаўніка моладзі.

Сам скончыў факультэт журналістыкі БДУ, але мне раіў скончыць які-небудзь іншы – гістарычны, напрыклад.

Размова, пэўна, больш расхаладзіла мяне, але гэта і непрыемна. Нічога лепшага не выпадае, як яшчэ ляжаць да сярэдзіны снежня. А потым – невядома!

Трэба ўрэшце падрыхтаваць і аднесці ў рэдакцыю свае вершы.

Месца маё – ложак у 19 палаце. Акрамя мяне яшчэ траіх. Пачну з кутняга. Толькі што скончыў палітэхнічны. Сярожа Стрэльчык. Ужо жанаты, і дзіцятка ёсць. Заляцеў з хваробай, калі паехаў усталёўвацца на працу ў Наваполацк. Цяпер клопаты. Прапала чарга на малася-мейку, жонка ў Мінску з малым і без працы. Жывуць у маці, старая мучыцца астмай. Сярожа ездзіць дахаты – удаецца. Прывозіць пачастункі, кладзе на стале бальнічны ручнік, на ім – гасцінец. Яшчэ прывозіць Шукшына, але чытаць не даюць. З суседняй палаты грукочуць у сцяну. Гэта сігнал, знак, запрашэнне да гульні ў “тысячу”.

Трохі адступлюся ад свайго апавядання. Падумалася: “А чаму б не напісаць яго сапраўды, гэтае апавяданне?”. Пад назвай “Усе мы – суседзі”. І ўжо чым далей – не падабаецца. Здаецца, хлопец харошы – але і ліслівасць забягае наперад добрым пачуццям і дзеянням. Пэўна, што мне дадзена разбіраць людзей і судзіць іх судом, можа, меншым, чым сябе, але ж судзіць! А хто калі разбярэ мяне і пасудзіць за мае ўчынкі. Пільней за мяне наўрад ці хто гэта зробіць. Але ж і судзілі… І гэта трэба памятаць!

…Другі сусед з Магілёва, Жэня Голбан, – дабрадушны мужчына. Нават вясёлае спачатку расказвае з сур’ёзнай мінай: і калі мы, слухачы, разявіўшы раты, ад душы смяемся, ён дазваляе сабе ў канцы

расказу неяк лагодна, па-дзіцячаму і са сполахам, пасмяяцца. Падгаварыў мяне дапамагаць на кухні выносіць вёдры з адходамі. Цяпер кожны дзень торгае мяне, бо я вечна забываю і іду пасля абеду ў лен.пакой з кнігай… Піша, чэрціць штосьці. Наколькі гэта можна ўбачыць – ён рацыяналізатар. Адукацыя тэхнічная. Але можна яшчэ пагаварыць на “высокія тэмы”.

З пісьма Б. Пастэрнака Т. Табідзэ (1936):

*Не обращайтесь к общественной благотворительности, друг мой, надейтесь только на себя. Забирайте глубже земляным буравом без страха и пощады, но в себе, в себе. И если вы там не найдете народа, земли и неба, то бросьте поиски, тогда негде и искать.*

**Верасень, вечар, 20 чысло**

Толькі што натрапіў у Янкі Брыля: *А жыццё – гэта не тое, як мы рыхтуемся жыць, спадзяёмся, плануем, а як мы жывём. Рыхтаваўся, рыхтаваўся, а з гэтага рыхтавання яно і атрымалася – тваё жыццё.*

Як трагічна! Так вось і я рыхтуюся да жыцця ўжо ў свае 23 гады.

Хапай з-за пагоды – пішы, калі пішацца.

*Адно ў нашай уладзе – не ўпадаць у адчай, а – узброіўшыся яшчэ большай сціпласцю – жыць як мага разумна далей.* Я. Брыль.

Дваццаць другая мая восень на зямлі. Майго існавання, жыцця, свядомага значна пазней.

Ужо 22 і толькі 22. У залежнасці ад таго, што зрабіў, пакінуў… А па-сапраўднаму, дык пакуль што нічога.

У свае 22 гады я ўспамінаю дзяцінства і юнацтва, нібы мне ўжо было ці ёсць за 50. Але чаго варты ўспраміны праз колькі год? Я цяпер адчуваю сябе на новым шляху. Пакінута столькі хамства і гразі, і трэба здолець падняцца з балота. І не напалову, а зусім. Выбрацца на бераг волатных дубоў, прыпасці шчакою да іх кары, адчуць сілу, і сваю. І ведаць, што шляху назад не будзе!

Трэці мой сусед – Маркавіч. Нежанаты мужчына 48 год. Працуе ў Мінску і жыве з маткаю. На нейкай пасадзе, інжынер па адукацыі. Расказваў, што давялося працаваць у Маскве, на Урале і ў Сібіры разам са сваім праектным бюро ці інстытутам.

Чымсьці не спадабаўся мне “стары”. Мо таму што тут, у бальніцы? Але ж мы людзі, ці павінны ў чым горшых абставінах, самі апускаюцца ніжэй саміх, свайго “культурнага” ўзроўню. А тут. Мне абрыдла жамканне штовечар пошленькіх анекдотаў, ганьбаванне маёй мовы роднай. Да таго ж прыкра і паскудна, аж смярдзюча чуць з вуснаў гэтага “адукаванага” чалавека, які дзесьці там, па краіне пакінуў невядома ці прынятыя ў вытворчасці праекты, – чуць

разважанні аб беларускай мове і самыя творы. Як страшна гэта чуць і таму, што чалавек ужо на “схіле”. І яшчэ – закарэўшы ў халасцяцкім сваім вымярэнні жыцця, адносін да жанчыны. З нейкіх сваіх “вышынь” лічыць яе, жанчыну, нявартай асаблівай увагі. Якое мяшчанства! У гэтыя дні “сужыцця” з гэтым “суседам” часта ўспамінаю майго бацьку. Яму зараз 52. І ў параўнанні з гэтым угадаваным кніжнікам, што за ўсё жыццё сабраў бібліятэку ў 2 тысячы кніг, але якую няма каму пакінуць, жыццё цяжкое і бруднае, але і моцнае, жыццё бацькі вартае большай увагі.

Бацька – ён кахаў, сеяў жыта, пісаў нават. Апошнім часам працаваў паштальёнам і быў заўсёды патрэбны людзям. І ёсць у яго два сыны, дачка. Гэта – след, сапраўдны. Хоць пакінуты у блытаніне лёсаў і часоў. Бацька! Да твайго лёсу і жыцця я яшчэ звярнуся.

Верасень… Інстытут туберкулёзу. Калі я патрапіў у гэтую ўстанову, быў яшчэ канец ліпеня. Потым – жнівень.

…З акна палаты бачны жоўтыя ўзгоркі пад жытам… А зараз – упарта цягнецца па яго спіне трактар з плугам. За ім вялікая чарада сытых белых галубоў. Белых на тлустай і чорнай глебе. І дзіўна – чаму толькі галубы – не гракі, вароны ці галкі?

Дождж спыніўся. На палі адразу ж рынулі людзі – капаць бульбу. Колькі яшчэ тут качацца? Але ж ёсць час, каб займацца.

Знаёмства з Валяй Раманавец. Расказвала, як яна яшчэ летам выбіралася на вадасховішча ў сяло Дразды, купалася і загарала там. А я ўспамінаў прачытаны ў газеце беларускіх нацыяналістаў “Новы шлях” артыкул пра “Беларускі дзявочы лягер у Драздах”, што за сем км. ад Мінску. Гэта пры немцах, у 1943 годзе. З малюнкамі і фатаграфіямі вясёлых дзявочых твараў.

Жыццё маё жыццё! Чаго ты варта? Але ці ж не ў Ралана – жыць, каб жыццё лілося цераз край! Так, жыццё п’яніць, асабліва, калі адбываецца задуманае, калі здзяйсняецца.

Далэнга Тадэвуш Мастовіч (польскі пісьменнік): *Трэба быць нечым, няхай невялікім, але патрэбным.*

Новадзевічыя могілкі… Новадзевічы манастыр… Давялося пабыць у час паездкі ў Маскву. Магілы вялікіх. Крывабокая і занядбаная дзекабрыста Мураўёва-Апостала. Гэта ў ліпені 1984 года. На рэстаўрацыі.

“Не этычна”. Гэта гаварыў мне пры нашай сустрэчы Міхась (Міхал) Міхайлавіч В. Не этычна друкаваць спачатку ў рэспубліканскай газеце, а потым здаваць у “мнагатыражку”.

**26 верасня (серада)**

Хварэю. З'ездзіў у рэдакцыю "Кіраўца". Пагаманіў з супрацоўнікамі. Надрукавана мая замалёўка "Зоркі на абелісках". Трохі і самому падабаецца. Пра сяло Лошыцу.

**28 верасня (пятніца)**

Зноў дзень у шуканнях… самога сябе. Учора пакінуў Валю, нічога не сказаўшы.

…Ездзіў у горад, хацеў здаць сваю працу ў "Чырвонку", але не атрымалася. Закончыў чытанне "Западні" Эміля Заля. Спадабалася на другой палове кнігі. Наогул чытаць такія творы патрэбна ў цішы, без перашкод.

Вершы не ідуць. Хочацца ўзяцца за апавяданне, але і боязна. А персанажаў хапае, толькі вось кампазіцыя, сюжэт… Зноў чытаю Купалу, паэмы "Яна і я", "Гарыслава".

Ужо два месяцы, як ляжу ды п'ю лекі. Стараюся займацца, чытаць. І колькі ўжо адбылося ўсяго за два месяцы. Каханне дзьвюх жанчын…

Спачатку была надзея паступіць на п/о ва ўніверсітэт. Зараз – няма. Як яшчэ з работаю (працаю)? І прыходзяць на памяць не то даўнейшыя дзіцячыя сны, не то сённяшнія ўспаміны. Цётка Тарэса… Колькі сябе памятаю, жанчына гэта была неад'емнай часткай нашае немалой сям'і. У яе дзіўны і жахлівы лёс. Ісці к старасці, не маючы роднага вугла, каморкі, палка, дзе можна было б выцягнуцца, упёршы шурпатыя ступакі ў гарачыя цагліны печы.

Цётка Тарэса жыла "па людзях". Хадзіла з торбай за плячыма па вёсках ад хаты да хаты. Яе ведалі амаль не па ўсім раёне. Ведалі і давалі прытулак на ноч, а то і болей, бо не было ў чалавека нікога з родных людзей, як і сваёй роднай хаты. Так і совалася – і зіму, і лета па хатах, дапамагаючы ў чым-небудзь па гаспадарцы.

Расказвалі, што калісьці ў маладосці была цётка Тарэса замужам за мастаком-самавукам. Той маляваў пекных "матак боскіх" з малымі хрыстосікамі-бессаромнікамі, прадаваў свае карціны-іконы па вёсках, і тым яны жылі. Старыя, асабліва мужчыны, казалі, што і з розуму сышоў ён праз свой занятак, бо надта ж пекна маляваў. Маладая жонка не вельмі доўга гаравала і хутка дзесь знікла, хатку іхнюю, хутчэй падобную на закураную лазеньку, прыбралі ўвішныя вяскоўцы.

І вось калі зноў надарылася з'явіцца ў родныя мясціны, ад хаткі пабачыла яна хіба што вуголле. Тое, што не разабралі людзі, забраў агонь.

З той пары, з таго часу яна не ведала, дзе давядзецца ёй спаць заўтра. Але нельга было сказаць, каб яна галадала ці не дасыпала. Звычайна да нас яна прыходзіла зімою ці ранняй вясной. У гэтую пару іншы гаспадар не вельмі хацеў мець у хаце лішні рот, лішняга едака, ды і работы не было.

Прыходзіла яна, вінавата шэпчучы пад нос "дзень добры", вітаючыся з бабай Грасяй, а тая моўчкі даставала з печы якую-небудзь поліўку з грыбамі ці налівала брусніц, ставіла на стол чыгун з бульбаю і садзілася на зэдлік ля ложка. Цётка сядала на вечную табурэтку і пачынала есці. Якая б яна ні была галодная, але заўсёды ела памяркоўна, не спяшаючыся і нават засынала над стравай. У адной руцэ заставаўся хлеб ці бульбіна, у другой – драўляная, для разліву, лыжка. Калі яна раптам валілася з рукі, плюхаючы ў страву (пры гэтым пырскі ляцелі ў твар едаку), жанчына, страпянуўшыся, жавала сабе далей. А бабуля – баба Грася – глядзела ды ціха ўздыхала, латаючы спадніцу. Успамінаю гэтых родных мне людзей, якія ці жывыя яшчэ? Я гэтага не ведаю, сам качаючыся ў шпіталі. Мне здаецца, я зраблю апавяданне, бо хачу расказаць аб іх, аб гэтых невядомых, нікому не патрэбных людзях.

Яшчэ баба Грася часта лаяла цётку, што тая прыходзіць толькі есці ды спаць, а як памагчы, так няма. Не каб прыйсці ў сенакос, дапамагчы з сенам. Ці пасля, каб насеч якога бярэзніку ў Залатым Дне. І сапраўды, радзей за ўсё цётка прыходзіла ўлетку. Але для мяне ў пару майго арэхавага ды палыновага дзяцінства гэта было ўсё роўна. Мне цікава было іншае…

**29 верасня (субота)**

Удзень пабываў у Палацы мастацтваў на выстаўцы скульптуры маладых аўтараў. Глядзеў палотны Няпомняшчага і Дмухайло. Уразіла вось што. Сярод пейзажаў і партрэцікаў Няпомняшчага заўважыў невялікі малюнак касцёла. І як хто штурхнуў мяне да яго – здалося, што гэта касцёл у Будславе. Потым падышоў да карціны і прачытаў назву "Касцёл у Будславе". Да чаго ж! Колькі таямніц зліваецца ў чалавечых душах – маёй на той момант, самога мастака і яго карціны, калі яны, іх хвалі пачуццяў так пераліваюцца адна цераз адну. Дзесьці ж ён лёг, той мазок мастака, які змог у душы маёй скрануць галінку вечнага дрэва пачуцця, інтуіцыі, што адказала на яго спробу, што знайшла ў ім сваё, роднае.

**2 кастрычніка**

Учора сустрэў Марыну… Але я быў абыякавы з ёю. А яна ўсё ж была рада, прыехала з Геленджыка. Ды гэта не тое зусім. Урэшце

рэшт з гэтым я скончу. Я павінен працаваць з сабою.

Купіў у кіёску на Свярдлова кнігу твораў Ул. Галубка.

**5 кастрычніка**

Часамі, ды і не часамі, а пастаянна ў нейкім узбуджэнні, але знешніх прызнакаў ніякіх. Доктар (урач) аглядае, кажа, усё нармальна – і ціск, і тэмпература.

Ці можа арганізм ужо прызвычаіўся да майго штодзённага напружання, хвалявання. Не ведаю! Чым больш пасягаю, адкрываю ў гэтым жыцці, тым менш ведаю аб самім сабе.

Другі раз пакінуў Валю, а яна прызналася, што кахае, кахае! Чорт вазьмі! Але ж мне чамусьці вусцішна, дрэнна і… паскудна! Так, я кахаю! Я шчаслівы, што моц кахання майго дана не кожнаму. Але і сам жа пакідаю, як ні балюча. Ці можа я самы нікчэмны эгаіст, ці яшчэ больш. Колькі пакінулі мяне, зараз пакідаю сам. Я ўжо прывык, верная мне толькі мая адзінота. А з ёю сум, жаль. Бясконцы, як мара, аб’ёмісты, фізічны жаль. Самога сябе перш? Ды не, таго, што побач, што і хіба з табою. Вось так.

Да новага году выходжу са шпіталя, потым водпуск і на працу. Падаць заяву ў члены КПСС. Працаваць, пэўна, буду на ранейшым месцы, а можа і не.

**Субота, 6 кастрычніка**

З’ехаў з В. у горад.  Наведаліся ў парк Чалюскінцаў, каталіся на “арэлях”. Пасля – у Батанічны сад, у Палац мастацтваў. Купілі торт і з’ехалі да мяне. Забыў ключы ад пакоя, але напаткаў знаёмага хлопца з завода. Ён ахвяраваў мне свой. Мы з Валяй крышку пасядзелі ў кампаніі з ім за пляшкай віна. Потым засталіся адныя. Другая ноч з ёю… і сам сябе не пазнаю.  Ды затое амаль выспаўся. Ды наогул, ці добра тое, што пішу аб самым?..

Валя, Валя!..

А жыццё запас чыніць. Запас думак, перажыванняў, поглядаў на самое сябе, устояў і рыўкоў, матае-намотвае клубок згадак…

Пагода трымаецца, вёдра. Яшчэ зырка-ярка каламуцяць душу глыбокім донным блакітам васількі – адзінокія пад чыстым небам, сярод зжохлых, збуцвелых асцёбкаў канюшыны ды цімафееўкі. Пахне грыбам. На пагорках пастуджвае вецер, але сонца яшчэ песціць зверху. А вечарам машкара “мак таўчэ”. І ёсць надзея, што пагода заўтра будзе зноў.

Хварэю. Якая – і недарэчнасць, і наадварот. Размаўляў з Валяю пра сваё дзяцінства, плёў нават залішне. Яна таксама апавядала мне аб сабе, сваёй сям’і.

Людзі: знаёмыя, родныя, блізкія – адны адыходзяць з вачэй, з’яўляюцца новыя, другія. Ляжу ў бальніцы, і тут усё больш хочацца пабачыць бацьку. Як і раней. Хоць ён зусім не той. Але – цягне. Я – гэта ён, яго душа, маладосць. Я гэта ведаю. І таму што бацька. І яму жыццё не спраўляла мяккіх посцілак. Качаўся па ім, як па голай печы. Ну, а цяпер, цяпер хай выбачае. Але я яму ўсё ж скажу – дзякуй. За ўсё.

Успамінаю ўсё аб ім – больш, чым аб брату, сястры.

**9 кастрычніка**

Пагода. Пасля абеду зачаўся дождж: ледзь цярушыў спачатку, а потым пайшоў спory, як летам. І так да вечара. І ўвечары таксама цадзіў сум, нуду, жаль.  З кожнай кропляй – кожнаму чалавеку. І не зважаючы, ці быў той чалавек весел, шчаслівы і бестурботны, ці ўвесь ён захлынаўся ў адзіноце – усё адно атрымоўваў гэтым дажджлівым вечарам сваю скібу асенняй жуды-суму.

**11 кастрычніка**

Прайшоў-прашамацеў учора пасля абеду спорны дождж. А ўвечары па змярканні гулькнула свежая памытая поўня: панеслася, нібы насустрач ужо снегавым хмарам, што гнаў-падганяў гарэза-вецер.

Утульна і па-дамашняму ў палаце. Здаецца, гэта не побач з табою ляжыць хворы лёгкімі, харкае кроўю. І не ў гэтым “завядзенні” безнадзейныя, з разваленымі лёгкімі. Яны ўжо па сваёй чалавечай натуры не зважаюць ні на што – кураць, п’юць ды ў карты рэжуць. Бо і сапраўды яму-ім якое жыццё?

Як і ўчора лье сапраўды млечнае святло сыты месяц, нават зоркі збляднелі. Тут прыпамінаю, як, бывала, бацька ганяў мяне з раскладушкі, калі я ўмошчваўся спаць пад месячным святлом. Ён тады сцвярджаў, што гэта ўрэдна, а мне было таму яшчэ больш цікава. І сніліся пад поўняй дзівосныя сны-казкі, спляталіся з разнастайных відзэнняў каляровыя птахі; ляцелі, прарываліся ў будучыню, якую я не мог ведаць; ляцелі назад, у той час “да нараджэння”, калі сусвет гэты лунаў у касмічным прадонні без майго “я”, хаця б і не свядомага яшчэ.

Учора купіў у кіёску “Знамёнку”. Споўзаў у лес, разлажыў вогнішча, знайшоў баравіка. Потым, чытаючы, знайшоў фота. Зацікавіла. Пасля абеду напісаў пісьмо ў “Беларусь”. Думаю, нядрэнна.

**12 кастрычніка**

Зранку ішоў дождж, але ўжо пасля поўдня – сонца і вецер. Абмыты далягляд. Выходзіў у лес. Чытаю Веру Інбер (ленінградскі дзённік): *Ум не терпит неволи*.

Зноў чытаю Я. Брыля, аповесці “Ніжнія Байдуны” і “Золак, убачаны здалёк”. Здорава! Чытаю В. Інбер. Кідаюся запісваць. Напэўна, змагу выдаць апавяданне-успамін. Трэба было б наведаць дамашніх, бацьку. Пагутарыць, сабраць матэрыял.

Усё ніяк не здам свае вершы і замалёўку “Зоркі над абеліскам” у “Чырвонку”. Пачну з панядзелка. 15-га.

Из В. Инбер: *Знание есть лучшее из того, что приносит славу.*

**Суббота, 13 октября**

Читаю у В. Инбер: *В чем состоит так называемая жизненная мудрость? В том, чтобы покорять себе обстоятельства, когда это возможно. И умно покоряться обстоятельствам, если иначе невозможно….*

Пра маю хваробу, знаходжанне ў шпіталі…

**14 кастрычніка**

Нядзеля. Быў з В. у горадзе. Пагода – дождж, ды й пахаладнела. Зашыліся з ёй у бібліятэку імя Я. Купалы; я там запісаўся, узяў з рэдкіх выданняў сучасных дзве кнігі – збор твораў Каруся Каганца і Вінцэся Каратынскага. А ўвечары былі з ёю (В.) у кіно. І ёй хораша са мною. Мой хварышок, паляшучка мая! Напэўна ж і мне таксама…

З публіцыстыкі Він. Каратынскага:

*Прызначаны да таварыскага і грамадскага жыцця, чалавек напоўнены высакародным пачуццём любові, каб яно лучыла (яднала) яго не толькі з сучаснымі, але з мінулымі і наступнымі пакаленнямі чалавечага роду. Без сувязі ў гэтым ланцугу, “які расцягваецца, але не рвецца”, як хораша гаворыць паэт, удасканальванне чалавецтва было б немагчымым. Калі б кожны, пачынаючы і канчаючы на сабе дарогу маральнага развіцця, нічога не браў ад іншых і нічога іншым не пакідаў у спадчыну ад працы свайго духу, ніхто не змог бы ўзвысіцца над жывёламі.*

*…Таму вось чалавечая думка, узнятая ці то разумовым перакананнем, ці схільнасцю сэрца з нецярплівасцю залятае на крылах паэзіі ў бязмежныя абшары будучыні, з вялікай настойлівасцю імкнецца знайсці і ўвекавечыць кожную, хоць бы дробную крупінку мінулага.*

**17 кастрычніка (серада)**

Сягоння вырваўся са сваіх “харомаў белых”. Рашыў усё ж адвезці здаць матэрыял пра Лошыцу. Сустрэў у аддзеле раб.моладзі знаёмага – Івана Ждановіча. Ён пасля водпуску (памагаў дома бацькам, аж мазолі нагнаў). “Пахваліў” маю працу. Потым пазнаёміў мяне з загадчыцай аддзела пісьмаў і масавай работы Вольгай Мікалаеўнай Галубовіч. Яна канчаткова прыняла маю замалёўку, паабяцала яшчэ,

калі буду аддаваць вершы, то пакажа іх паэтэсе Раісе Баравіковай. Але яшчэ, мяркую, мне рана. Трэба давесці да ладу.

Сённяшняй ноччу амаль не спаў. Усплывалі неабрыўнай нітай думы-мроі. Здаецца, намацаў сюжэт, крынічку сцюдзяніцы вады, з якое зачарпну колькі кропель для свайго першага апавядання. Напэўна, дам назву “Мамай”. Цікава вельмі самому сабе і зараз.

А потым пісаў пісьмо бацьку. Ды і сапраўды трэба напісаць ды не толькі ў мыслях. Так і мінула ноч, а нараніцу ўзняўся марозік. Стала прыграваць сонца, і долу пасыпаліся мокрыя і самотныя лісты – падрэзаў іх першы прымаразак.

Эх! Хацелася б цяперака быць дома, на бацькавым хутары. А дубок яшчэ мяне прычакае ў сваім нарадзе шамотным, будзе гудзець лісцём, як ржавай бляхай. То дома!

А і ў горадзе ажно чуцен вясковы пах. Асабліва калі едзеш маршрутам 18-га аўтобуса праз Старажоўскі рынак, Слуцкае шасэ ды Шчадрынку.

Кастрычнік. Куваю адзін, як тая зязюля-гарапашніца. Але і добра, бо часам адзінота лепей лечыць збалелую душу, чымся неразумны натоўп. Праштудыраваў зборнік апавяданняў малавядомых нашых аўтараў з дакастрычніцкай прозы.

*Няшчасце не мае сваёй асобнай меркі для ўсіх людзей на свеце, але кожны чалавек мае сваю асобную мерку да няшчасця і свой асобны погляд на самое няшчасце*. З. Бядуля, “Пяць лыжак заціркі”.

Усё будзіць, тне душу хвалямі мрояў-дум лагода-восень. Заўжды была яе аціхаючая пара роўным кілімам смутку-суму, што спялеў з пачатку лета, з вясны самой нават. І вось загаласілі вятры ў застрэхах, засіпела, застагнала голымі палямі перакотная восень, панесла жальнуду сваю… Хвалюе сэрца яна нейкай асаблівай трывогай. Вось і справы, праца ў людзей падабралася. Стаяць пустыя палеткі: адарана бульбяное поле і агароды таксама завернуты на зіму з гноем. Толькі ў садах трымаецца моцны пах слодычнай антонаўкі.

Кастрычнік, лістапад, потым – Піліпаўка аж да першай Куцці. Усталюецца пара, калі дзень на вёсцы як стачыць. Толькі возьмецца гаспадар за якую-кольвек справу, а ўжо і шарэецца. Толькі і пасьпее, што скаціну пакарміць ды палена дроў у хату прынесці. І пацягнецца доўгі цёмны і глухі вечар за акном. Штосьці свішча, скуголіць у пустым садзе, трымціць каляны ліст на дубе, а з чарноцця ў неба сіратліва міргае зорка, нібы хоча як хутчэй зрынуцца на дол з ільдзістага касмічнага прадоння…

Абіваю бакі, ды ўсё як бы дарэмна. Апошнія ночы не спіцца, і

снуюць думкі повадам. Успамінаюцца такія вось вечары ў Піліпаўку, што бавілі мы з бабай Грасяй. Калі яна была ў добрым настроі, даставала з куфра мяшэчак, у якім было адсыпана чыста вышчалуканых арэхаў, і сваёй ёмістай і надзіва ўчэпістай жменяй частавала мяне зманлівымі жоўтымі бульбінкамі, што хавалі ў сабе салодкі смак – сыпала ў маю зашмальцаваную кепку-рагатыўку. Чаму іменна рагатыўку – не ведаю, але ж баба так казала.

Калі я атрымоўваў жменю-другую салодкага смакоцця, маці нялёгка ўздыхала. А я даставаў з-пад таго ж самага куфра малаток і пачынаў лушчыць свае ласункі. Для гэтай справы патрэбна была яшчэ адна рэч – ямка ў падлозе, каб можна было смела лажыць арэх, і тады ўжо смела лупіць па ім, але так, каб заставалася цэлым зярнятка.

Падлога на хаце была з новых шырокіх дошак, і ямка – след ад сучка. У суботу баба рабіла "генеральны парадак", пасля якога дошкі падлогі блішчэлі прыемнай свежай жаўцізной, і мая ямка была таксама чысьцюткай. А ўвечары я ўжо завіхаўся ля яе – з аднаго боку расла горка зярнятак, з другога – лушпінак. Вялікая была спакуса – сабраць разам і ў рот усе, але вытрымліваў пару, браў і клаў па аднаму зярняці сабе на далонь і клыпаў да бабінага ложка.

"А мой жа ты ўнучак, вот жа ж добрая душа…", – прыгаворвала баба, беручы з маёй рукі колькі зярнятак. Яна шчыра хацела дагадзіць мне, паказваючы, як ёй смачна, а падсохлае зерне качалася ў бязьзубым роце з дзясны на дзясну і потым ужо невядома як і дзе, а хутчэй усяго цалкам глыталася, але я ўжо таго не бачыў. Зноў ішоў і цюкаў малаточкам, а маці крычэла, што ёй ужо галоўка баліць.

А нараніцу, як спецыяльна, нечага рана ўставаў бацька, не знаходзіў на месцы малатка і будзіў мяне. Так пачыналася "святая нядзелька".

Вось і акрэсліваецца мяжа, што не раздзяляе, а намоцна нітуе жыццё сённяшняе, вірлівае, з тым, што яшчэ тоіцца і буяе ў тых хацінах, калысках нашага дзяцінства, нашага арэхавага маленства. Мяжа – ці можа яна быць адпаведнай свайму прызначэнню, калі на ёй песні матчыны, бацькавы прымхліцы-згадкі, калі ўсё яшчэ спеюць на ёй моцныя сваёй кволасцю зёлкі дабраты і спагады, калі нават камяні ў крушні пад мохам, як шчацінне бацькавай барады, ад якое не хочацца ўцякаць, а хораша, быццам таму вераб'ю ў веніку. На мяжы, а дзе ўжо і за ёй – застаецца назаўсёды зразумелы акрэс жыцця маіх родных, блізкіх і знаёмых людзей.

Сёння заглянуў на працу. Падумалася, як неаднойчы ўжо, што ніяк я не на сваім месцы… Што, мо лягчэй было б жыць мне крыху раней,

разам са сваімі дзядамі. А ці запытаў я хоць у бацькі аб тым бесклапотным жыцці?..

Чытаю ў зборніку М. Гарэцкага такія выдатныя думкі: …*Надышлі гады жыццёвага амбарасу і бясконцага дурнога клопату – і знішчылі творчую радасць, растапталі дыямент у пабітым шкле, з паэты зрабілі быдліну. Жыццё, жыццё! Мы ўсе прыходзім на свет хто песняром, хто разбяром, а хто і тым і сім патроху. Мы ўсе ў гады прагнавання нашага розуму – рэфарматары нягоднага старога, будаўнікі лепшай сацыяльнасці, славутыя настаўнікі ці добрыя разбойнікі, але часта-часта жыццё нічагусенькі не пакідае нам і робіць жаласнымі старцамі без пары.*

**23 кастрычніка**

Не сплю апошнім часам па начах. Усё вярзецца тая ці іншая тэма, ці вершы. І нават уяўна акрэсліваецца, толькі занатоўвай. А на другі дзень ужо нельга спаймаць тую думку-няўрымсту, што непакоіла ўночы.

Слова, слова не дае мне супакою ў гэтыя часіны шчымліва-салодкага восеньскага абмірання прыроды, што спачыне праз зімовыя стрэхі-завеі аж да вясновых буйных кропель-дзвонаў. Трымціць яно дзесь у каляным лісці бацькавага дуба, так жа не хочучы пакінуць сваю родную галіну; але забуяе вясельным хараством вясна і ўпадзе долу асохлы і змарожаны ліст, ляжа крупінкаю ўрадлівага гною. Западзе ў душу-летуценніцу слова-падарожнічка і паўецца з яго ніта моцная, што абудзіць, разварушыць пачуцці, прыстаўшыя ад будзен: гукне складным радком вершаваным, абернецца ў песню вольную…

Слова! Шукаю цябе адпаведнае ў багатшай са скарбонак – у мове народнай. Тое шукаю, што не ўмёрла б, раз пакладзенае на чысцюткім лісце. За справамі людзей, іх дзеямі, учынкамі ды клопатамі; за подыхам ветра-зуха, за шэрхным следам лістападаўскага марозцу, за пахам антонавых яблыкаў у бабуліным прыполе – усюды мая спадарожніца, маё роднае слова.

**31 кастрычніка**

Сягоння пайшоў дожджык. Цярушыць сабе ад абеду. Незвычайна заспакоена на душы.

**1 лістапада**

З’ехаў у горад, наведаў бібліятэку прафкома. Пагутарыў з бібліятэкаршай, узяў тры кнігі збору твораў К. Чорнага. Трэба прачытаць.

Полудзень, а дакладней, поўдзень, паўдня. Цёпла. Зусім нічога не пішу. Напэўна ўжо надрукавана ў “Чырвонай змене” мая замалёўка, але не ведаю, у якім нумары. Трэба падаць новы матэрыял. Трэба,

трэба…

Напэўна, заставацца мне аднаму, сам-насам. Пакінуў учора Валю, цяжка і балюча, і каб не мая вера і воля. Але гэта ўжо для маіх вершаў.

**7 лістапада (серада)**

Дзень амаль гэткі, як год назад. Хмарна, не холадна вельмі.

Нядзеля была апошнім нашым днём з В. Чорт яго ведае, але не мог я пакінуць. Няўжо і тут памыляюся ў сваіх да яе адносінах. Дзяўчынка мая, ты ж самы бліжэйшы да мяне чалавек. Ты столькі мне дазваляла, я пытаў "чаму" і адказам мне былі словы – "я кахаю цябе". Гэта найвялікшае дачыненне да існасці гэтага самага жыцця.

Толькі вось у панядзелак не ўдалося цябе праводзіць на аўтобус. Але ты не пакрыўдуеш. Мы яшчэ ўбачымся, Валя!

Неяк жа падрыхтаваў вершы. З'явілася яшчэ адна задума – апавяданне ці абразкі ў лістах (як аснова – лісты да бацькі ад былое парабчанкі, што жыла калісьці ў часе вайны ў сям'і нашай – дакладней, бацькавай тады). Вельмі цікавы матэрыял.

Патрэбна і жывая дзейнасць, ход думак адрываецца ад сучаснага існавання і сучасных запатрабаванняў жыцця – а гэта не вельмі добра… Чытаю.

* * *

Тую адзіную казку я апавядаю сабе ўжо каторую ноч – сон не бярэ. Казку свайго арэхавага галапятага маленства, што гушкалася са мною ў стаёнцы – перавернутай дагары табурэтцы; што хавалася са мною ў бабіным на ўсю хату куфры і пахла папяроўкамі і кортам; цябе я клічу з пакінутых вуглоў бацькоўскае хаты ў дарадцы мае сягонняшняй жыццёвае хады…

Дзве чысцюткія аблачынкі віталі мяне скрозь промні восеньскага сонца, яшчэ досыць высокага. Яны павісалі якраз над новым белым крыжам, што стаяў абгароджаны на пачатку вёскі, калі ісці з нашага боку. Я бег да павароткі, раптам прыпыняўся і, пакінуўшы ўсе свае смехі, чуць кланяўся таму дзядзьку, што быў прыбіты гваздамі пад бляшаным казырком на самым версе крыжа. Усё, што казала мне баба Грася, было мне і найпершым запаветам.

"– Не лянуйся, унучак, шапку зняць ля крыжа ці хоць галаву сукланіць. Можа ж не адваліцца яна ў цябе", – казала баба, пакуль маці моўчкі выпраўляла ў школу.

А дзве аблачынкі ў блакітным прадонні неба імчалі нада мною, над азімымі палеткамі, над тлустымі бараznamі разагнанай коньмі

бульбы. Пылела пад нагамі такая далёкая дарога, на якой пачаў я адкрываць цікавы і пякучы свет таямніц жыцця. Тады нeяк незалежна ад фізічнага акраслення майго "я" нарадзілася самастойная думка, што вось жыццё гэтага "я" пачалося, "я" пайшло ў школу і адсюль пачатак і адлік будзе той вялікай хады, якая не дасць ужо спакою і будзе гнаць, і будзе прымушаць да нечага…

Дзве аблачынкі завісалі над нашым крыжам, у пачатку нашай Альхоўкі, а на ім пад казырком вісеў прыбіты такі ж пан Езус. Я не праходзіў пад самым тым крыжам, але ўсё роўна кланяўся і зварочваў у вёску. Была яшчэ палавіна дарогі.

У школе я сядзеў за партай з дзяўчынкай Ліляй. Да канца заняткаў цяжка было ўтрываць, бо чамусьці рабілася раптам неяк непрыемна мокра і цёпла ў портках, з гэтае прычыны настаўніца выстаўляла мяне за дзверы і адчыняла фортку ў класе, хоць было ўжо і не так цёпла (на дварэ – *С.А.*). А мне быў час высахнуць і дайсці да сапраўднага стану рэчаў (дзяўчынка Ліля сікалася, а пападала мне, – *С.А.*).

**Лістапад**

Сёння – марозік, крыху – вецер. Зноў узяў у бібліятэцы К. Чорнага, Дастаеўскага "Униженные и оскорбленные". Чытаю. Чытаю, штосьці памыкаюся крэмзаць, але гэтага мала, трэба працаваць па-сапраўднаму.

Хвароба невядома што яшчэ прынясе. Можа яно зусім не так проста… Выгляд маю, здаецца, добры. Адгадоўваю бараду, як "Ібрагім". Чакаецца вельмі прыезд Валі…Успомніў цяпер, як, едучы ў аўтобусе № 18, сустрэўся ўзрокам з незнаёмаю дзяўчынай, яна сышла, пакінуўшы мне ўсмешку. Дакладней, то гэта я сачыў за яе тварам, а яна перахапіла мой пазірк, і ўжо ў адказ шчыра бліснулі яе вочы… Сустрэчы… Каб больш не паўтарыцца.

**Лістапад, 12**

Учора ўвечары наведалася В.Р. "Таптыжка" мая, быў з ёю, было мне радасна, і яна была дзеля мяне!..

Сёння дзень марозны, нават у паўдні не адпусціла. Гуляў крыху адзін. Скончыў чытаць Ф. Дастаеўскага "Униженные и оскорбленные".

*Если б только могло быть… чтоб каждый из нас описал всю свою подноготную, но так, чтоб не побоялся изложить не только то, что он боится сказать и ни за что не скажет людям… своим лучшим друзьям, но даже и то, в чем боится подчас признаться самому себе, – то ведь на свете поднялся бы тогда такой смрад, что нам всем надо было задохнуться.*

*…Нравственность, в сущности, тот же комфорт, то есть изобретена единственно для комфорта* (из диалога князя и автора, «Униженные и оскорбленные”, Достоевский).

**16 лістапада**

Меў па тэлефоне размову з Вольгай Галубовіч з “Чырвонкі”. Мой артыкул (ліст) надрукаваны ў газеце за 10-га. Трэба даць новы матэрыял. Зараз надвор'е, што лепшага нельга і чакаць. Мароз, суха, снегу ж няма. Менш выязджаю ў горад, усё лячуся, п'ю лекі.

**24 лістапада (субота)**

Учора пайшоў снег, мокры і доўга валіў. А сягоння ідзе дождж, аблівака. Сумна. Атрымаў газеты з сваім допісам ад Вольгі М.Г., крыху весялей, чакаў Валю да сябе, але ж пагода (надвор'е), не прыехала…

Чытаю Ул. Гіляроўскага “Масква і масквічы”, таксама Дзм. Грыгаровіча “Выбранае”. Скончыў чытку збору твораў К. Чорнага. Папаўняю веды свае галоўным чынам сістэматычным чытаннем, але не маю фізічнага і ўяўнага позірку на бягучае жыццё – у тым сэнсе, што вымушаны знаходзіцца ў вядомых межах такой установы, як туберкулёзны шпіталь. Як я наогул буду адчуваць сябе пасля пяці месяцаў лячэння? Адзіная “страсць”, якую я не хачу ў сабе заглушыць, – гэта само каханне (зноў жа тут я не дакладна выявіўся ў думках). Так, само каханне мяне калі-небудзь знішчыць. Усё ж астатняе я знішчу для сябе. Культура ва ўсіх яе дачыненнях: чысціня нораваў, характараў, пачуццяў, адносін і г.д. паміж людзьмі – вось што хвалюе ці, прынамсі, павінна! хваляваць мяне. І потым. Я павінен працаваць, працаваць у пары з душою над удасканальваннем чалавечых пачуццяў ва ўспрыманні сапраўднасці і жыццёвай чысціні нават у самым агаленым выглядзе ў нашым мастацтве. Імкненне да мастацкага вобраза ў чалавеку і яго паэтызацыі (не наадварот!).

*Так и рвется душа*
*Из груди молодой!*
*Хочет воли она,*
*Хочет жизни другой!*

Кольцов.

*Бывают случаи в жизни человека, – к какому бы ни принадлежал он классу общества, – которые хотя и кажутся с первого взгляда ничтожными, не стоящими внимания, но со всем тем они часто решают судьбу его или же производят в нем сильные перевороты*

*нравственные….* «Деревня», Д. Григорович.

*Дайте любому философу живописный участок земли, дом – какой-нибудь уютный, тёплый уголок, скрытый, как гнездо, в зелёной чаще сада; пускай вместе с этим домом соединятся воспоминания счастливо проведенного детства, – и тогда ... подъезжая к нему после долгой разлуки, он искренне сознаётся, что вся философия его – вздор и гроша не стоит!*

*Счастье заключается в простой жизни: просто живут те только, которые следуют своим побуждениям и доверчиво, откровенно отдаются движениям своего сердца. Не нужно быть вовсе мизантропом, чтоб чувствовать иногда сильнейшую потребность умственного, душевного спокойствия*, «Пахарь», Д. Григорович.

**27 лістапада**

Нічым цікавым гэтыя дні ў мяне не адзначаны. Нічога не пішацца, а ночы ў бессані.

*Когда я родился – я заплакал; впоследствии каждый прожитый день объяснял мне, почему я заплакал, когда родился….* «Гуттаперчивый мальчик», Д. Григорович.

Прыязджала Валя, не ведаю, як яно будзе надалей… Я з … Пакідаю аб гэтым запісы. Жыццё пакажа, і няхай застаецца шматкроп’е…

**1 снежня (субота)**

На “ВТЭК” прадоўжылі бальнічны ліст, буду ляжаць яшчэ месяц, дакладней, да новага году. Ну але нічога.

Быў у знаёмых – Сакалоўскіх. Застаў Анатоля С. Ён мне і паведаміў навіны з “дому”. Усё без змен, усё страшна ідзе да ўпадку сіл, занядбання і развалу. Загінуў дзядзька Казя – адзіны чалавек нашай злыбеднай сям’і, які застаўся чысты і нявінны душой і целам ува ўсіх “страсцях” людскіх. Ён быў не ў сваім розуме з дзяцінства. У каторы раз сышоў з дому, як гэта было на працягу ўсяго ягонага існавання. Ніхто яго не шукаў, і знайшлі яго потым збітага і мёртвага. Гэта я даведаўся са слоў Анатоля…

А мяне не выклікалі, і я, вядома, не буду ведаць усяго дакладна. Але паеду пасля лячэння… Там, у гэтай дарагой і светлай прасторы, дзе я выкачаўся з хвароб і клапоў, знявагі і дзікасці нораваў, і дзе гэтыя мае суседзі засталіся і яшчэ больш “расцвітаюць” у сваёй гнюснасці – там ёсць і свежыя заўжды пялёсткі ўзмужнелае зёлкі, што цвіце на абмежку свайго і майго жыцця. Пасля пісьма бацьку “там” стала вядома, што я ў Навінках, а значыць “здурнеў”. Так лічаць там.

Гэта страшна павінна быць. Не ведаю сам, як я ўспрыняў гэту навіну. Адзіная адзнака – гэта выпіўка. Пакаштаваў гарэлкі.

Канечне, няма чаго чакаць нейкіх праяў чуласці, пачуццяў ці яшчэ нечага ад усіх тых "родных" душ, бо каму, як не мне, усё тое ведаць. Але гэта яшчэ лішні раз умацоўвае мае намаганні…

Ад пачатку свядомага жыцця і да… напатканыя мною людзкія адзінкі рабілі мне многа зла, але і дабра таксама. І разумелі ў большай ці меншай ступені староннія, і дапамагалі, і любілі, і кахалі – толькі не родныя па крыві…

Хачу сказаць сабе: "Ненавижу человеческие страсти!". І баюся, што гэта таксама "страсць", а хутчэй – няпраўда.

Што я ёсць сягоння, зараз, у вось гэтую імклівую хвіліну, адкуль і куды яна мкне і бязлітасна чапляе мяне, маё ганарыстае "я" сваімі карэлымі аборамі жыццёвага вэрхалу. Хвіліна жыцця заўсёды варта і тыдню, і месяцу, і году, і сотні год, і – самому жыццю.

**11 снежня**

*Самое важное, чтобы где-то продолжало существовать всё то, чем ты жил. И обычаи. И семейные праздники. И хранящий воспоминания дом. Самое важное – жить для возвращения…*

* * *

*Себя судить куда труднее, чем других. Если ты сумеешь правильно судить себя, значит ты поистине мудр.*

* * *

*Чтобы положить основание любви, надо начать с жертвы. Потом любовь может вдохновить на новые жертвы, и они приведут к новым победам. Человек всегда должен сделать первый шаг. Прежде чем существовать, он должен родиться. Умирают только за то, ради чего стоит жить.* (Сент-Экзюпери, "Маленький принц").

**13 декабря**

Читаю, вернее, закончил чтение трилогии А. Толстого "Хождение по мукам", прочёл томик Сент-Экзюпери, прочёл избранное В. Вересаева…

Хутка на выпіску, ва ўсякім разе да 25-га буду "дома". І аднак жа цяпер трэба будзе браць пад увагу рэальны стан свайго здароўя. Што ж будзе ў мяне з В.?

Як рабкору заводскай многатыражкі вызначылі ўзнагароду ў 15 рублёў.

Апошнія дні стаіць мяккае надвор'е, крыху пацярушвае снег,

марозік. Выходжу ў лес кожны дзень.

Часамі прыходзіць свядомае адчуванне сваёй нікчэмнасці ў гэтым свеце – і тады яно, гэтае свядомае адчуванне, загадвае мне, і я зноў жыву і дзейнічаю да знямогі, выконваючы загад. Я нібы тая мыш перад сваёй згубаю-змяёй; мне страшна і агідна, і ледзянее хрыбет, але я імкну насустрач вечнаму прадонню, і калі ўжо я адчуваю, што апошні мой крок – там, раптам волатным сполахам развіваецца зара на ўсходзе. Дзякуй майму страху, адчаю, што кінулі мяне да падножжа чалавечай "пропасці", за якой я цяпер. Няма ўжо шляху назад, а значыць толькі наперад.

**14 снежня**

Ужо чытаю Ф.М.Д. "Подросток". Вось думкі пра маё "я":

*С двенадцати лет, я думаю, то есть почти с зарождения правильного сознания, я стал не любить людей. Не то что не любить, а как-то стали они мне тяжелы. Слишком мне грустно было иногда самому, в чистые минуты мои, что я никак не могу всего высказать даже близким людям, то есть и мог бы, да не хочу, почему -то удерживаюсь; что я недоверчив, угрюм и необщителен.*

*Опять-таки, я давно уже заметил в себе черту… что слишком часто обвиняю, слишком наклонен к обвинению других; но за этой наклонностью весьма часто немедленно следовала другая мысль, слишком уже для меня тяжёлая: «Не я ли сам виноват вместо них?» И как часто я обвинял себя напрасно! Чтоб не разрешать подобных вопросов я, естественно, искал уединения. К тому же и не находил ничего в обществе людей, как ни старался, а я старался; по крайней мере, все мои однолетки, все мои товарищи, все до одного оказывались ниже меня мыслями.*

*Да, я сумрачен, я беспрерывно закрываюсь. Я часто желаю выйти из общества…*

**16 снежня (нядзеля)**

Выпаў за ноч снег. Дзень быў пагодны. Рашыў прайсціся і сустрэў па дарозе хаўтуры (похороны). Аб уражанні, прайшоўшы ў пакой, пісаў замалёўку. Чырвоныя гваздзікі на заснежанай дарозе, і чорная працэсія, і чорныя вароны.

**17 декабря**

В романе Бальзака «Гобсек» и в романе Достоевского «Подросток» встретил одну и ту же мысль об отношении личности к толпе…

**24 снежня (панядзелак)**

Выпісаўся з бальніцы (БНДІТ). "Амаль" скончыў справы на заводзе ў звязку з водпускам, грашовыя.

У пятніцу папярэднюю з'ехаў да В., забраў яе да сябе (мой маленькі хварышок). Была ў мяне ўвесь наступны дзень. Дамовіліся сустрэцца ў чацвер, 27-га.

**25 снежня (аўторак)**

Была сустрэча ў рэдакцыі з І. Ждановічам. Зноў "задаў кучу тэм", прасіў зрабіць водгук на свой артыкул "Сапсаваны тэлефон". Думаю, што спраўлюся. Накрэмзаў ужо даволі, трэба было б зноў як-небудзь надрукаваць. Вельмі ўсё марудна кіруецца, а трэба было б хутчэй.

Зноў пішацца, пішацца, і лёгка ў сэнсе мовы, і цяжка, бо з болем крывавым, што з сэрца. Толькі жыць і жыць! Як чалавеку жыць, гэта сцвярджалі вялікія творцы.

**28 снежня (пятніца)**

Апошнія дні 84-га. Колькі іх было (будзе?) першых і апошніх дзён, спатканняў, потым растанняў… Учора быў у Валі. Хутка чарговы Новы год!

**28 снежня (субота)**

Адзінота! Гэтая страшэнная пачвара хутка глыне мяне ўсяго, і я сапраўды страчу розум. Божа, адкуль, адкуль гэтыя страшныя дзікія і недарэчныя думкі – скончыць жыццё самагубствам?! Хто я і што, і чаго мне жадаецца?

Вось і надыходзіць 85-ы, а я? Я хачу жыць, а жыць невыносна цяжка ў суме, з тугой і адзінотаю, дзяліць з імі свае крышталёвыя радасці, значыць аддаваць іх у нішто, у нябыт, у прадонне нікім нязведанай вечнасці.

Па назіраннях урачоў параметры работы сэрца і нервовай сістэмы не маюць парушэнняў. Але хто ж і як можа замераць ухілы маёй душы, якая з кожным днём шамльмуецца ўсё больш і больш? Адчуваю, як зноў і зноў грудзі мае сціскае туга аб тым, што пакінуў і да чаго імкнуся. Гэты год, здаецца, быў плённым і многага дасягнуў. Але зноў жа душа не ў спакоі.

Учора ўсё-ткі быў у Валі. Схадзілі ў кіно, потым гулялі па горадзе. Зайшлі на прахадную камвольнага, дзе яна працуе. На стэндзе паказвала мне сваю машыну. А пасля, пасля я зноў "страціў розум, успыхнуў", пакінуў яе не развітаўшыся. І вось зараз дурнею адзін у

гэтым праклятым пакоі!

Страшна, навязалася думка аб самагубстве. Здаецца, я пачынаю жыць з думкай аб смерці…

**30 снежня (нядзеля)**

Пісаў водгук на артыкул І. Ждановіча і не скончыў, вэрхал нейкі ў галаве. Вечарам не стрываў і выпіў, трапіўшы, як звычайна ў такіх выпадках, у гурт не вельмі “шыкоўны”. Ужо па дзесятай гадзіне з’ехаў да Валі і прывёз яе з сабою. Мой любы мядзведзік! Што змагу я даць табе ў жыцці, сам нічога не маючы, акрамя вострага майго адчування свету?..

**31-га, (панядзелак)**

Праспалі з табою да абеду, праспалі кіно – былі білеты на “Спартак”.

31-га, вечар. Не абыйшлося без прыгод: ледзь паспеў у інтэрнат да Валі, ехаў 20-м (тралейбусам, – *С.А.*), а потым брыў пехам. Усяго не буду занатоўваць – няхай гэта сустрэча захаваецца ў маёй памяці. Аднак жа было цудоўна! Быў такі смачна-прывабны стол, гэта рыхтавала яна, Валя, мая бульбашка і смяюшка.

Была яшчэ адна пара – Валя (ён) і Тоня (яна).

## 1985 год

Вось і 1985-ы.

А 84-ы застаўся ў гісторыі і для зямлі, і для чалавецтва, і для мяне. Ён быў надзвычай плённы ў працы і ў жыцці, а галоўнае – пачаў друкавацца ў шматтыражцы, па-сапраўднаму аднёсся да напісання вершаў на роднай мове, нарэшце, захварэў і праляжаў у БНДІТ амаль пяць месяцаў. Там жа сустрэў Валю Р. Быў у Маскве па пуцёўцы, зведаў каханне замужняй жанчыны.

Вось і другога студзеня. Жыццё, кажу табе толькі “ты”, і прымай мяне такога, недалікатнага, бо ты ў гэтым вінавайца!

Сягоння дапрацаваў допіс свой у “Чырвонку”, спакаваўся, каб ехаць дадому, але толькі паспеў занесці допіс, а на цягнік спазніўся. Затое допіс “пайшоў”. І.Ж. зазначыў, што вельмі слушныя ёсць думкі, нават глыбейшыя за яго ўласныя. Па-сапраўднаму намацваецца сувязь з “Чырвонкай”.

Заўтра – дадому!

З’явілася новая думка: пісаць сапраўдны артыкул пра адносіны да

роднай мовы. Пішу! Новае даў сабе заданне на Новы год.

**Студзень…**

*…У цара Саламона на пярсцёнку быў надпіс:* “*Усё праходзіць*”.

Ул. Караткевіч.

Так, усё праходзіць.

Думка: чаму сонца не мае ўласцівасці пераходзіць у адпаведныя фазы, як, напрыклад, луна (поўня)? “Дзядзечка, чаму сонца не ўзыходзіць месяцам?” Сапраўды, чаму?

*…Кожнага чалавека, які сустрэўся з табою па дарозе і ідзе ў той самы бок, што і ты, – трэба вельмі-вельмі берагчы і не губляць з вачэй* (“Леаніды не вернуцца да зямлі”, Ул. Караткевіч).

*…Адзінае, што можа ўзняць чалавека, які апусціўся, гэта мастацтва. Мастацтвам гуляць нельга. Гэта не гульня ў бірулькі, гэта сумленне зямлі…* (Ул. К.).

*Прыйдзе дзень, і мяне не будзе. Але свет не застанецца без слоў* (“Нельга забыць”, Ул. Караткевіч).

“Добры дзень, Валя! Ва ўсякім выпадку – “Добры дзень!”. Таму што толькі светлыя часіны павінны кіраваць жыццём, волатным чалавечым жыццём. Не хачу гаварыць проста, бо мы даволі яго спрошчваем, наша жыццё, нашы адносіны людзкія, а пра іх трэба ці шаптаць, ці крычаць болем душы і сэрца, але заўсёды так, каб словы к і п і л і слухача, каб хвалявалі і ўжо назаўсёды сеялі неспакой – глыбокі і ўдумны ў душах, малых і вялікіх.

Валька, мне прыйшла думка, што каханне, якое ёсць насуперак усяму, жыве, жыве, а не існуе вось ужо колькі год на планеце Зямля яшчэ і таму, што закаханыя прыносяць у скарбніцу гэтага пачуцця сваю адзіную галінку на магутнае дрэва любові. І калі двое ў шчасці кахання пралуналі да самага свайго жыццёвага канца, то і тады ў іх засталося хаця некалькі нясказаных слоў, затоеных уздыхаў і слёз, прыхаваных светлых позіркаў і мелодый. І яны – дзеля нас…

Валя, мой добры, харошы мядзведзік, каб ты ведала, як зварухнула мне душу ў нашу апошнюю ноч. Твае прызнанні аб усім наблізілі яшчэ больш цябе ка мне. Я хачу кахаць, любіць цябе так, як нехта ўжо не зможа… Валя, я дазваляю сабе меркаваць, што ведаю чалавечую псіхіку. І перш за ўсё па сабе, а таму скажу, што я быў больш эгаістам, калі ў тую ноч мне страшна жадалася дастаць, выкалупаць, выбавіць адкуль бы ні было тых чалавекападобных істот і з дзікім шаленствам таўчы іх галовы аб якое-небудзь жаляззё, рабіць

невядома што, абы толькі пакараць злачыннасць такімі карамі, якія не прыдуманы ніводнымі дзяржавамі свету…

Валя, з кожным днём я кахаю цябе больш і больш, і тое добра. Хацелася, каб толькі так былося. І я шчаслівы тваім каханнем. Калі б ведаў твае здарэнні, то яшчэ ў БНДІТе было б каму растаўчы мазгаўню. Ды толькі гэта мо і лепш, што не ведаў. Мне балюча за сваю любоў, за каханне, якое нельга запляміць, але можна застудзіць, схаваць у ценю гідкіх памкненняў…

Вось і зараз я імкнуся хоць крышачку выбавіць з душы мае шалёныя пачуцці…

Валя, ты як ніхто павінна ведаць цану тым ці іншым позіркам, якія будуць кідаць на цябе мужчыны. І калі ты прымеш без агіды і нянавісці пыхлівы, нахабны і ўвесь звярыны ненасытны той позірк – ты здрадзіш сваёй чысціні, сваёй цноце – і мне. Я зненавіджу цябе – і дарую. Я многа дарую, але ты будзеш у неспакоі. Хачу, каб самае вялікае, што ёсць у свеце, жыло і поўнілася паміж намі. Можа больш гора ты зведаеш са мною, чым шчасця, толькі любоў сваю я заўжды, у кожную хвіліну падарую табе.

Ведаеш, людзі праслаўляюць сябе тым, што даюць адны – волю сваім страсцям і пачуццям, бязмежна шырокім і неўтаймоўным, – другія гэтыя страсці навучыліся перацінаць жалезнай воляй. Я – з апошніх. Мяне таксама з'ядаюць страсці, але я буду біць іх па галаве, калі яны хоць крыху ўздумаюць паказаць свае прагныя зубы.

І яшчэ ёсць у мяне к табе пытанне, зноў жа як мужчыны, гэта мяне цікавіць. Каб дзейнічаць, трэба крышку ведаць.

Валя, навошта мне няснёныя летуценні, яны – гэта ты! Тое і люблю, што толькі ў цябе адной на ўсё жыццё. І тое яшчэ, што знайшоў у цябе рысы свайго, і таго, што служыць мне кірункам, маёй верай і надзеяй…

Але што словы – патрэбны яшчэ і справы, бо жыццё не адны толькі летуценні. Дарагі і родны мой жывенькі клубочак, каб ты хоць трошкі зведала і мела шчасця – сапраўднага людзкога. Ты амаладзіла неспакой у маім сэрцы!.."

* * *

Зноў і зноў вяртаюся да маіх запісаў на тваіх, колькі разоў пералістаных старонках, мой дружа. Можа гэта, што перш чым запісваць, я пражыў і перажыў, і прыдасца каму калі-небудзь.

Адзінае, што варта ўвагі ў гэтым свеце, гэта душа і сэрца чалавечае, бо толькі яны здольны рухаць наперад шэрае без іх існаванне

на зямлі, толькі ім падуладна волатна-магутная хваля кахання, якую яны выпускаюць з ракі жыцця на пусты бераг…

Але душа бывае таксама мелкатварая, а сэрца часта гоніць чорную кроў, якая муціць розум. І тады здараецца страшнае.

…Аб чым твае летуценні, зорка вечнасці?

**Апавяданне**

Зорка гарыць на сівым бязмесячным небе – адна, як заўсёды. Бачыш, яна часта-часта ўзміргвае, яна плача. І людзі на зямлі назіраюць за ёю, і робяць свае разумовыя заключэнні, вылічваюць колькасць і вагу калязоркавай прасторы і газу… Дзівакі! Навошта ім гэта? Трэба дапамагчы ёй, мой дружа. Адной у стылым сцюдзёным прадонні нябёс ёй адзінока, тужліва… Яшчэ не ўзышлі на нябесным палетку яе сяброўкі, і касмічны вецер гуляе ў яе туманах, і няма каму захінуць адзінокае плячо ад віхуры-сіверу.

Плача зорная душа, і слёзы на гарачых шчоках ператвараюцца ў туман. Плача – і ветру-студзянцу не ахаладзіць, не замружыць неспатольнай яе. І вечна ён будзе толькі блытацца ў вэлюме каралеўскіх туманаў, бо так наканавана лёсам.

Калі, у якую песню ўставіць гэтыя словы?

Глянь, асенняя муха за падвойным акном нашага пакоя. Сядзіць на самым відавоку, відаць, не паспела зашыцца ў цёмны куток. І сядзець ёй цяпер да самага вясенняга промня.

А добра ўсё ж, што мы з табой не мухі, а прадстаўляем, хоць, можа, і не лепшую палавіну, чалавецтва. У нас стынуць ногі ў шарсцяных шкарпэтках, бо пакой прамерз, як лядоўня, і гарбата пасівела ад холаду. І гэта цудоўна! Мы можам устаць і пахадзіць разагрэцца, закіпяціць пітво і зноў працаваць, працаваць! Толькі трэба разумець, што мы ёсць не мухі, і таму дадзена нам вялікасная магчымасць – магчымасць ствараць. Няхай лютуе мароз, няхай – гарачыня, а мы – творцы нашага жыцця, і нам не засмягнуць у міжваконні зямлі і неба.

…Пайшоў, ледзь грукнулі дзверы. Гэта мой дружбак. Хто ён? А мо гэта маё другое “я”, і яму проста надакучылі мае з ім разважанні? Але хутчэй за ўсё гэта такі ж дзівак, спадарожнік…

Добра! Добра, што ўсё, што ёсць – жыве і існуе!

Расквеціў мастак-мароз шыбы ў вокнах, а яны, як вочкі дзіцяці ў слязе, – вось-вось пацякуць, але пакуль што няма каму апаліць халодныя лісці ўзораў палымяным подыхам любові і журбы…

*Адзіны шлях. Жыць кожную секунду. Думаць, рухацца, рабіць кожную хвіліну. Тады, напэўна, за семдзясят год пражывеш, не менш за дрэва, якое трыста год стаіць на месцы… Варта паспрабаваць ва ўсякім разе…*

*І яшчэ кахаць. Той, хто кахае – бессмяротны* (Ул. Караткевіч, “Нельга забыць”).

Сягоння я зноў-такі не вытрымаю і з’еду к табе…

**12 студзеня (субота)**

Дзень і вечар, здаецца, былі крыху адметнейшыя за папярэднія. Не паспеў я ўсхапіцца з ложка пасля сну, як у пакой завітаў былы аднапакаёвец Сярожа Іваноў. Зараз ён займаецца на філалагічным факультэце БДУ. Крыху пагаманілі. Затым я паехаў на Сонечную, прыхапіў пляшку партвейну і гарачых з павідлам піражкоў, якімі і пачаставаў дзяўчат.

Потым з Валяй пачаставаліся ў пакоі суседа, “замачылі” пачатак Сярожавай сесіі. А праз якую хвіліну, праз паўгадзіны ўжо імчалі з ёю на лыжах. Ішлі праз возера, садам. Крышку пакаталіся з горкі, а Валя нават паспела з горкі на звычайным падносе з’ехаць, яго, напэўна, дзеці пакінулі. У мяне мацаванні крыху разбалталіся, але дайшоў…

Вечарам былі на дні нараджэння Валінай суседкі Галі. Увогуле было някепска, нават весела. Была яшчэ адна пара, астатнія дзяўчаткі былі адныя. Але я, як сам мяркую, быў “на ўзроўні” – вясёліў усіх, як мог.

Тут і спаткаў дзяўчыну, імя якой, на жаль, не ўведаў і з якою змог пагаварыць аб мове беларуса. Даволі цікава і, трэба думаць, у мяне з ёю яшчэ будзе сустрэча.

У адзінаццаць гадзін праводзіў дзяўчат на працу на камвольны.

«*И вновь прошедшее меня объемлет живо*» (А.С. Пушкин, з пісьма П. Труса да П. Глебкі ў зборніку паэзіі 1984 г.).

**8 лютага – 1985-ы год**

Вось нарэшце кранаюся пяром чыстага ліста новага дзённіка і новага і свяжэйшага подыху жыцця свайго.

У канцы студзеня атрымаў ліст ад Р. Баравіковай, з’явілася сталая надзея, а дакладней, дык стала мацнейшая, таму што яна існавала ўва мне даўно.

Учора ж, восьмага дня, перад працай заехаў да яе (Р.Б.). Яна бывае з раніцы па пятніцах у аддзеле кам. жыцця і літаратуры і мастацтва

(кансультант і мо яшчэ выконвае якія абавязкі). Вось і пазнаёміўся – даволі прыемная ў гутарцы жанчына. Збольшага разабралі з ёй мае некаторыя вершы. Для мяне цяпер, як і раньш, – працаваць. Р.Б. пажадала, каб больш сутыкаўся з літаратурным асяроддзем, запрасіла ў літаб'яднанне "Крыніца". Я паабяцаў заходзіць. Гурткоўцы збіраюцца прадапошнюю сераду кожнага месяца. Спытаў яшчэ, які, на яе погляд, стан мае сучасная беларуская мова. Прызнала, што становішча цяжкое.

Клапоціць і сваё здароўе, ды і як яно не будзе турбаваць, калі пралежаў амаль 5 месяцаў, і ўрач яшчэ паабяцаў, што ў хуткім часе мо ізноў прыйдзецца легчы на лячэнне. Цяжкая праца на заводзе за станком, але ўсё гэта, усе нягоды вытрымаем, дасягнем сваёй мэты. Абавязкова! Хоць марудная сцежка на Парнас.

Не магу пакінуць грамадскія дачыненні, хутка выступаць на перадвыбарных канцэртах. Трошкі раскрытыкавалі ў сваёй шматтыражцы. Трэба, напэўна, заняцца галоўным – вершамі.

**9 лютага (субота)**

Сустрэў з працы Валю Р., потым яна была ў мяне, разам вячэралі…

Нядзеля! Ужо дзесятае, і зноў 12 гадзін, б'юць куранты па радыё, зноў у віхуру працоўных дзён! Наведаў В.

«Nemo me impune lacessit» – «никто не тронет меня безнаказанно» (з лаціны, у кнізе "Тэатр" Вільяма Маэма).

**Люты, 15-га**

«…*Сколь мала жизнь человека, и сколь мал уголок земли, где он живёт»* – Марк Аврелий.

Праца па-ранейшаму, часу не хапае, пішу нешта ўрыўкамі. Ажаніўся мой сябрук Ю. Торапаў. Меў размову з тав. Давыдоўскім наконт уступлення ў партыю.

Жадаецца большага, таму, можа, і прапускаю ў запісах штосьці менш адметнае…

Учора былі ў нас у інтэрнаце артысты Белдзяржфілармоніі. Цудоўна ўсё ж сутыкненне з мастацтвам! І мы пакладзем на ягоную чашу свой дарунак.

"Bis dat qui cito dat" – "кто скоро даёт, тот дважды даёт" (лац., выказванне Сенекі).

Незразумела, дзіўна, чаму, чаму са мною жыве, ці, можа, дакладней будзе сказаць, ува мне існуе – не, жыве! – душа, душа архаічная,

як стыль маіх вершаў, маёй крыпаніны.

Праца на заводзе ўсё ж…Адчуваю колікі, і часта пад грудзьмі ў правым баку, тут якраз і пракол рабілі…

Прачытаў раманы Вільяма Сомерсета Маэма “Малый уголок” і “Тэатр”.

*У него была мечта, и мечта эта осуществилась. Что делает идеал прекрасным? Его недосягаемость. Боги смеются, когда люди получают то, что хотят. Ибо путь знания – единственный истинный путь, а он не минует ни одну дверь.*

*Вы – калека, прикованный к инвалидному креслу, и вам кажется вздором, что другие хотят ходить и бегать. Смирение? Это прибежище побеждённых. Единственный дар богов, который человек не делит со зверьми, это смех.*

Диалог Фреда и доктора Сандерса из романа Уильяма Сомерсета Моэма “Малый уголок”:

*– А вы во что верите?*

*– ...Ни во что, кроме самого себя и моего личного опыта. Мир состоит из меня, моих мыслей, моих чувств; всё остальное – мираж, чистое воображение. Жизнь – сон, где я сам создаю образы, которые проходят передо мной. Всё познаваемое, каждый объект моего опыта – лишь представление моего ума и без ума не существует. Нет ни возможности, ни необходимости доказывать существование чего бы то ни было вне меня. Сон и реальность едины. Жизнь – это связный и последовательный сон, и когда он перестанет мне сниться, весь мир с его красотой и болью, с его печалями... перестанет существовать.*

**20 лютага (серада)**

Узяў адгул на працы. Вечарам быў з Валяй на сустрэчы ў літаб’яднанні “Крыніца”. Я чакаў большага, але і тое, што пачуў і пабачыў, прымела сваю вагу, значнасць. Прысутнічала на сустрэчы большасць, а праўдзівей кажучы, дык усе невядомыя мне маладыя “творцы”, акрамя В. Шніпа і Р. Баравіковай. Слухалі вершы і апавяданне. Гэта сустрэча ўпэўніла мяне: мне ёсць таксама што сказаць.

Увечары, пасля сустрэчы, наведалі з Валяй кінатэатр “Дружба”.

**22 лютага**

Чытаю А.С. Грына “Алые паруса” і “Бегущая по волнам”.

**26 лютага**

Адышлі святочныя дні. В. павіншавала кветкамі – тры вялізныя вішнёвыя цюльпаны. Мая родная!..

Нешта няма маіх публікацый… Праца і праца, і не стае часу вольнага. А ў мяне ж яшчэ ёсць мая таптуха маленькая, як жа без яе…

На гэтай нядзелі быў з В. на вечары – адзначалі дзень нараджэння яе таварышкі. А ў чацвер глядзелі ў кіно "Знамя" фільм "Спартак". Разышліся неяк недарэчна.

Званіў на кватэру Р.А. Баравіковай, нічога не ўведаў; у яе там чуваць дзіцячы візгат, піск… Жыццё!

Будзе збор зноў 20-га.

*Если бы он кричал, выражал жестами или суетливостью злорадство, или ещё чем иным своё торжество при виде отчаяния Меннерса, рыбаки поняли бы его, но он поступил иначе, чем поступали они, – поступил внушительно непонятно и этим поставил себя выше других – словом, сделал то, чего не прощают* ("Алые паруса", А. Грин).

**2 сакавіка**

Дома, адзін у пакоі, званіў вечарам Р.А. Баравіковай.

*– Але ж чалавек таму і чалавек, што ён павінен ачышчаць сябе ад бруду – фізічнага і духоўнага, удасканальвацца, змагацца са сваімі кепскімі звычкамі, схільнасцямі* (У. Дамашэвіч, аповесць "Німфа").

Напярэдадні восьмага сакавіка занёс верш Р. Баравіковай, асабіста ёй. Павіншаваў супрацоўнікаў.

**8 сакавіка (пятніца)**

Вось і прайшло… Ідзе паласа дажджу, у душы – непагадзь. І тое напэўна, што я ва ўсім прычына…

Прыязджаў брат Павел, заехалі з ім да Валі, тут і пачалося! Божа мой, але ж я кахаю, кахаю яе, і не магу даравапь, і толькі мне вядома чаму! Але ж трэба быць мякчэйшым.

Як я кахаю цябе, Валя! І трэба мне быць мякчэйшым, гэта відавочна! Змарнаваў, згадзіў табе і ўсім свята!

**17 сакавіка (нядзеля)**

Мне 23! Прайшла напружаная працоўная нядзеля, трохі зарабіў.

Пішацца нішто сабе. Што яшчэ хацеў сказаць? Скажыцца. Столькі задум, але праца. Хочаш жаніцца – зарабляй грошы. А як жа.

*Приобретай в юности то, что с годами возместит тебе ущерб,*

*причинённый старостью. И поняв, что пищей старости является мудрость, действуй в юности так, чтобы старость не осталась без пищи* (Леонардо да Винчи).

**20 сакавіка (серада)**

Сягоння ўзяў адгул на працы, каб трапіць на сход літгурткоўцаў літаб'яднання "Крыніцы" пры "Чырвонай змене".

Але першапачаткова, напачатку сустрэўся з І. Ждановічам. Ён пазнаёміў мяне са Святланай Дзюбайлай. Дарэчы, выйшаў чарговы нумар "ЧЗ", у якім мой першы верш пад рубрыкай "На паэтычнай арбіце". Поспех? А як жа.

Першыя віншаванні з першымі поспехамі. Паслухаў іх (Івана і Светы) размовы-развважанні аб неабходнасці рабіць новую газету ў тым сэнсе, што трэба змяніць афармленне, дадаць абавязкова нешта свежае… Мне гэта трэба было паслухаць. Потым разам з імі паабедаў у сталоўцы, узяў тэлефон Светы Д. Пасля абеду ездзіў у БНДІТ, сустрэў медсястру, якая мяне трактавала таблеткамі. Меў размову з урачом, загадчыцай 2-га туберкулёзнага (тэрапеўтычнага – ?) аддзялення Шыман Ларысай Паўлаўнай, размову інтымную. І нарэшце ў шэсць гадзін, як заўсёды, сустрэча ў "Крыніцах".

На гэты раз сабралася даволі людзей, а, калі жартам, маладых паэтаў і празаікаў: Віктар Шніп, Валодзя (Уладзя), Павел і іншыя. Атрымалася добрая сяброўская размова, палемічная, з узаемнымі добрымі і слушнымі заўвагамі. Сваіх вершаў не выносіў на ўсеагульны суд, трэба паціху матаць на вус. Кінулі нават думку, дакладней, падала яе Р. Баравікова, аб тым, што льга было б збірацца за шклянкай кавы ці чаю.

Дамовіліся сабрацца на выступленне, якое мае адбыцца на заводзе халадзільнікаў па праспекце Машэрава. Там працуе Павел, адзін з нашых аўтараў.

Пасля другой змены паспеў сустрэць з працы В. Але яна сустрэла холадна, была нейкай разбітай і вялай. Ці дазваляў я з ёй такое? І яна, і я напэўна аб нечым здагадваемся. Хто ці што прычынай таго, што я падхапіў такой вар'яцкай заразы? Ці я сам па сабе мог захварэць? Але В., я не веру гэтаму, хоць урачы і кажуць, што гэтай заразы можна набрацца толькі пры блізкасці. Дык што тут, родная ты мая?

**24 сакавіка (нядзеля)**

Падзеі, падзеі…

Пазаўчора ехаў дадому з аднавяскоўцамі, хлапцамі. У іх была

пляшка гарэлкі і другая – спірытусу. Першую выпілі яшчэ ў электрычцы да Маладзечна. Была гутарка. Я даволі доўга не сустракаўся з хлапцамі і таму яскравей (разчэй) мне заўважаліся змены ў іх вобліку і адносінах да жыцця ў пэўную хвіліну.

Яны (іх было трое) толькі знешне маглі нагадаць звычайных бесклапотна (матляючыхся) юнакоў. Але для мяне, іх аднагодка і калісьці суседа, гэта тройка ўжо была на шляху сталай маладосці, развагі і свайго індывідуальнага разумення законаў жыцця.

Многа расказвалі хлопцы, многа. Адзін хоча жаніцца, і другі, і трэці таксама. Але ж ведама, дзела ўсё ў кватэры. Жыллё трэба, каб яно спрахне.

А хлапцы працуюць.

**25 сакавіка**

Учора і сягоння быў у Валі, а трэба было б не ездзіць. Я, напэўна, ведаю, што яе прыгнятае. Родная, я ўсё дарую табе і нічога – сабе! Бо – кахаю!

Чытаю “Рассказы Шукшина”: *Благоразумие – вещь не из рыцарского сундука.*

*Coelum, non animum mutant, qui trans mare currunt* – плывущие за море меняют небо, но не душу (лат.). (Б. Брехт, “Трехгрошовый роман”).

*Пазнай сябе, і ты пазнаеш увесь свет!* (Сакрат).

* * *

Свайго хроснага бацьку я не мог запамятаць. Ён трагічна загінуў, калі мне яшчэ і году не споўнілася. І ўсё ж я яго ведаю і зараз, і цяпер ён побач, ужо як мой аднагодак, як равеснік. Я не магу сказаць аб ім “я памятаю, помню”. Але я маю права сказаць: “Ты жывеш у маіх думках, дружа Міхал. І калі раптам прыцісне вялікі жыццёвы амбарас ці душа трапіць у завею нуды і паддасца тнючаму адчаю, я тады клікну майго нявіднага дапаможцу. І адчую, як волатная прахалодная рука прытрымае за локаць другую, гатовую апусціцца”.

Тады, трыццаць год таму, яны былі самымі лепшымі дружбакамі – два мае бацькі, родны і хросны. Былі яны маладымі, бязмежна марылі, кахалі і меліся яшчэ столькі стварыць на гэтым свеце. Дзеці вайны – яны імкнуліся як мага далей адцягнуць прыход сталасці і яшчэ хоць на вось столечкі застацца сам-насам з арэхавым дзяцінствам, толькі цяпер ужо не прапахлым потам ворага-чужынца, а правеяным вёснамі (вятрамі) будоўляў.

“Дзядзька Міхал” – так, напэўна, клікалі б яго цяпер дзеці майго брата і мае таксама. А ўнукі яго сыноў і дачок, якія ў яго абавязкова былі б, цешыліся б з восеньскіх дзедавых падарункаў – сцукрованых антонаў. А яшчэ залазілі б да дзеда на калені, каб дастаць да яго калючай шчакі і спытаць… Але… але тыя пытанні я не магу прыдумаць, бо яны патрабуюць жывых і непасрэдных слоў, слоў дзіцяці. Толькі іх няма.

Міхал. Ён паспеў толькі займець у сваім жыцці хрышчонага сына, дзіця свайго лепшага друга; ды з ім разам яшчэ – памяць...

Бацька мой родны працаваў разам з маці на Поўначы, пад Архангельскам, калі з’явіўся я. Восьмага сакавіка мама з татам збіраліся да суседзяў у госці, ды пад дзень маме раптам зрабілася нядобра. А ўжо на ноч гледзячы на свет зірнулі яшчэ адны жывыя вачаняты. Можа, гэта тая прычына, што я незвычайна смуглявы.

А яшчэ… (Адыйшоў ад тэмы!)

* * *

Прыехаў з горада сын. Ведама, што ў вёску. Дакладней калі, дык на хутар, да старога бацькі.

І вось у лепшай палове хаты, на стале, які старэйшы за госця, стаіць бутэлька гарэлкі, закуска: кілбаса, цыбуля, шмат сала і добры акраец хлеба.

У старога ў руках рассыпаецца махорка, сын прапаноўвае цыгарэту.

– Сталічныя, бач ты, – ні то пытае, ні то сцвярджае бацька. – А то, памятаю, пойдзем мы з тваім хросным на танцы ў Вераб’і, у яго “Казбек”, у мяне – “Памір”. Толькі і паспеем, што выкурыць па аднэй. Астатнія хлопцы разбяруць пашыкаваць. Вось смаката была…

Сын усміхаецца: – А ведаеш, бацька, я калі ехаў сягоння ў цягніку, дык пахваліўся хлопцам нашым, што купіў табе як гасцінца цыгарэт. Сам жа не куру. А яны, чэрці, на смех паднялі. Што ж ты, кажуць, не ведаеш, што твой стары любіць? Яму ж лепей люльку купіў бы ды табакі да яе, а то ад тваіх гэтых цыгарэт ён кашлём зойдзецца. А самі ў тамбуры, ці бачыш во, паўпачкі гэтых самых цыгарэт высмалілі. Вось д’яблы. Ды яно ж і праўда, бацька?

– Праўда, сын. З табакі пачынаў, табакай, відаць, і закончу. А дзіва, што ты не прывык. Не тое, што твой меншы. Той дык смаліць будзь здароў… Але ж нештачка ж мы зарана гаворку распачалі. Давай пацягнем па кілішку.

Выпіўшы, абое, і малады, і стары, закусваюць. Сын як бы ў раз-

губленасці ці забыцці не спяшаецца есці бацькоўскі пачастунак. Бацька заўважае гэта.

– Выбачай ужо. Трэба ж было нешта і падагрэць. Вось і фасолі яшчэ засталося на раз згатаваць. Але малака цяпер няма. На днях старая каза аказілася. Двое прыvяла, дык цяпер ёсць каму дудоліць. А ты ж гэта сённека і паедзеш? Ну дык выбачай. Добра, што ёсць чым крапчэйшым угосціць.

– Вось… – цягне, як звычайна, бацька і кажа: – … Ты ўжо і мяне перайшоў. Ніяк ад цябе слова зразумелага не дабіцца. Хоць і тлумачыш усё нешта. Ці гэта я стаў слаба кеміць, стары зусім стаў.

А ў сына на вачах слёзы, а ў іх адбіваюцца бацькоўскія глыбокія задубянелыя маршчыны.

– Вось застаўся б на чыгунцы, паслалі б вучыцца на брыгадзіра. Галава ж у цябе! – снуе далей ніту размовы стары. – Хату ў Крывічах начальства дало б – і жыў бы. Вось і майстар твой былы, што на станцыі жыве. Паважаны чалавек сярод людзей і бацька для дзяцей куды лепшы. А яшчэ ж малады – і трыццаці няма!

**10 красавіка (серада)**

За гэты час ездзіў дадому. Пагаманіў да душы з бацькам. Дамовае?!..

* * *

Вось і ўсё… з Валяй?! Як уцяміць, а можа тут і цяміць нічога асабліва не трэба? Га, каго пытаю?

Была першая, з якою адносіны, як сляза. Адчуваю, што пасля яе я ўжо сапраўды… не змагу доўга кахаць.

Валя, я не адпомсціў за цябе. Я зраблю ўсё магчымае і немагчымае, хоць ты ўжо і не “мая”. Ты так напісала, мядзьведзяня! Але ты не загадаеш выкінуць з памяці сябе. Маленькая.

Свята маё!

Ужо красавік, наперадзе – сустрэча ў літаб’яднанні. Рыхтуюся.

Купіў М. Гарэцкага першы том. А ўвогуле справы нядрэнныя. У сённяшім нумары (? – *С.А.*) змешчана мая замалёўка “Дзякуй табе, Юра!”. Але Валя, Валя! Я ж меў яе, можа… 2 красавіка пасля Валінага пісьма ездзіў у Дом друку, сустрэўся з Святланай Дзюбайлай і І. Ждановічам ды іншымі хлопцамі.

Из книги Зороастра: *Когда ты ешь, давай есть и собакам, даже если потом они тебя укусят. Умей уважать человеческие слабости (но не свои!).*

Из философских повестей Вольтера:

*К несчастному влечёт … сходство положений.*

*Радость счастливца была бы оскорбительной, а двое несчастных – как два слабых деревца, которые, опираясь друг на друга, противостоят буре.*

*Чтобы стать очень благоразумным, а стало быть, очень счастливым, – рассудил Мемнон, – надо лишь избавиться от страстей.*

*“Non magis quam hominibus infesta est ista quae vocatur memoria” – “то, что зовётся памятью, не враждебно ни людям, ни музам” (лат.).*

*Даже в стране атеистов любовь заставила бы поклониться Богу* – милорд Рочестер.

* * *

Хто ж ты для мяне была, чым стала, родная ці не ты мне? Ці ты ўсяго пялёстак ці кветка жывая, Валя?

**14 красавіка**

Атрымаў ганарар за верш у 5 рублёў 43 капейкі. Вечарам наведаў забягалаўку каля Дома кіно, выпіў шклянку гарэлкі.

**20 красавіка**

Адзін, як і не было побач нікога.

**24 красавіка**

Узяў адгул на працы на сённяшні дзень, а ўчора выступаў на конкурсе песні да 40-годдзя Перамогі ў заводскім клубе “Маладосць”.

Працаваў з раніцы над вершамі. На пяць гадзін паехаў у Дом друку. Там сабраліся ўсе мы – пііты, і з’ехалі ў майстэрню мастака нашага Мікалая Селешчука.

Майстэрня яго па вуліцы Казлова, насупраць Палаца мастацтваў. Было не дрэнна, цікава даволі. Паласаваліся супольна тортам (купіла Баравікова).

*Вот и взял то, что дали ему, человек,*
*Но сказал, ибо был с головой:*
*«За что вы даёте мне хлеб и ночлег?*
*Горе мне! Что будет со мной?»* Из староирландской баллады «Гибель господина Эйгина».

**1 мая (серада)**

З раніцы быў на дэманстрацыі. Нічога цікавага і вартага ўвагі.

Нарэшце еду дадому цягніком “Мінск-Полацк”. Еду адзін і разам жа ў мяне мноства ўжо знаёмых спадарожнікаў. Ці не таму мне падабаецца ездзіць чыгункай, што седзячы ў …

Люблю ездзіць цягніком. Вось і на гэты раз ледзь паспеў прысесці каля хлопцаў і дзяўчат, і знікла адчужанасць да людзей, якую неяк востра адчуваў дагэтуль.

Сяджу. Крануўся цягнік, вагоны тарганулiся i паплыло… Сяджу, думаючы ўпасці ў плынь сваіх летуценняў. Ды дзе там! Побач – жывенькія вочы малых, задуменныя ў іх мацярок. Задуменныя, канешне, знутры, і гэткія ж радасна-вясёлыя. І хто яго ведае, нейк прыкравата самому, бо словы, якімі хочаш апавядаць пра маіх спадарожнікаў, здаюцца пляскатымі і не вельмі ёмкімі. Апавядаць жа трэба пра мам, іх дзяцей, пра сумнаватых дзяўчат, пра хлопцаў – здаровых духам, якія тут, са мною, едуць пад бацькоўскія стрэхі хат; апавядаць аб іх самым чырвоным словам, і шчырым, і добрым.

Поезд не вельмі сабе хутка імчыць нас у бок полацкай зямлі, бліжай да сяміглавай Сафіі. Першыя маёвыя дні непакояць і мяне, і маіх чатырох суседзяў: двух хлопцаў і дзяўчат. Апошнія прыпалі да акна, часцяком зіркаючы на першых.

Чую гутарку гэтых (маладых) юнакоў. Яны побач з прадстаўніцамі слабейшага полу хочуць, відно, здавацца як мага сталейшымі, і заклапочанымі ў звязку з гэтым.

Мы толькі пакінулі станцыю і мінаем на шляху да Маладзечна шматлікія гарадкі і пасёлкі:

– Глянь ты, як заможна жывуць тут. Вось, бач, цэлы маёнтак. Ну зусім як у паноў.

– Ага, у нас пад Полацкам сціплей трохі. Але ж у тым і справа, (што) не паны жывуць у гэтых моцных дамах, а звычайныя нашы калгаснікі, рабочыя. Ды што тут казаць, таварышок, працуюць, дык і маюць людзі.

– А я хутка каапeратыўную буду мець.

– Не, мне, па ўсім відно, гарадскім жыхаром не быць. Валя мая кажа, як пажэнімся, дык папрэ мяне да сваіх старых у саўгас. Там будзем жыць. Рэдкі яна экзэмпляр у гэтым плане. Не хвалюе яе горад вельмі.

* * *

Гляджу ў твае вочы і як наскрозь бачу цябе. Мае вусны не варухнуцца, не пальецца гукакрэс маіх слоў. Але думкі нашы ўжо сустрэліся на шляху. Ён адзін, няма ростаняў. Няма нашых слоў. Вось вочы спаткаліся ў позірках, і думкі, і, можа, нават мары.

Смуглявая ты і дзіўнавата падобна ў нечым на мяне самога. Бровы сарамліва-лагодныя і зусім не клічуць сваім сціплым разлётам у палёт. Нос добра кірпаты… Ты, смуглявая, з той краіны каштанавых і арэхавых летуценняў, ты пасланніца яе і сама носьбітка маіх мар, маіх надзей… А вера ў мяне ў адно дабро, у адно каханне, у адно на зямлі жыццё. А нянавісць мая няўмольная да…

**7 мая (ужо!)**

Вечарам – дождж, цёплы, спорны. І гром. Хараша, свежа і весела, хоць сабе і адзін. А радасцю падзяліцца з кім шчыра? Што тое?

Адзінота.

**9 мая**

Дзень які! Дзень Перамогі! А ўсё ж адзін!..

Быў на выступленні самадзейнасці, сам выступіў, дрэнна… Ну, але… Потым у клубе "Маладосць" адзначылі нашу Перамогу, перамогу нашых бацькоў і дзядоў! Былі В. Несцяровіч, Слук Н., Г., Міша Літвін і яшчэ хлопец. Ды гэта зусім не важліва.

Валя, учора я здрадзіў табе пацалункам, які быў для іншай жанчыны. І я яго аддаў ёй.

А без цябе ўсё роўна не магу, Валя!

Пасля сустрэчы ў "Маладосці" чорт панёс на Маякоўскую. Быў у такім вертэпе (кафэ "Сняжынка", альбо, як кажуць мясцовыя, – "Сугроб"), зноў піў.

Ужо ідучы дварамі да жаночага інтэрнату, сустрэўся з інвалідам. Я застаўся ў яго ў халасцяцкай кватэры, прагаманілі ўсю ноч. Многа чаго расказаў. Дом яго каля інтэрнату недалёка, дзе жыве Валя. Былы ваенны лётчык, адстаўны маёр. Ваяваў у В'етнаме "інструктарам", а фактычна – лётчыкам. Быў збіты і цудам застаўся жывы, цяпер калека… Цяжка.

Яшчэ адзін дзень, я проста шукаю сустрэчы з табою, Валя!

**11 мая (субота)**

Дапісаў накіды пад назвай "Пад абярогамі памяці". Паехаў у Дом друку. Тут меў сустрэчу з І. Ждановічам і С. Дзюбайлай. Бачыў і Р.

Баравікову.

Аддаў на суд Святланцы сваё тварэнне. Яна пажадала сустрэцца, каб пагаварыць шчырэй. Трэба пазваніць…

Ёсць, ёсць сілы. Магу мець усё, акрамя ўжо стрончанага здароўя і жанчыны, якая разумела б мяне, а не проста ўмела трываць мае звычкі. Так, я многага жадаю і…

**12 мая (нядзеля)**

Дурань! Я трачу розум з свайго граху, я ніяк не магу ўзяць сябе ў рукі, бо ёсць недзе В. Але галоўнае – працаваць.

Сягоння прасадзіў чырвонец. Уплютаўся чорт ведама куды. Думаў зняць кватэру, а навошта такі глум часу і розуму?! Думаў знайсці цябе, Валя! На жаль…

**13-га, панядзелак**

Як бы там ні было, а я зноў і зноў кажу сабе: ты пражывеш пачалавечы, будзеш жыць так і, галоўнае, – не адзін. Я за кожны свой вострупвыжыву дабром і спагадай для іншых хвіліну, гадзіны, гады!

Не адзін хачу жыць, не адзін шчасліўіцца гэтым светам і толькі…

Штрыхі да абразкоў (штрыхі).

Пра хлеб усе словы.

Прыходзь да вытокаў (агульная назва).

* * *

…Сядзім мы з Сержам у нашым халасцяцкім пакойчыку і пярэсцім свежае паветра то (заціхаючымі), то (узбурваючыміся) гукамі размовы. Нейкі год назад мы днявалі і начавалі ў ім разам…

* * *

Людзі – тыя ж самыя дрэвы, і кветкі, і нават імхі. Яны абавязкова маюць свае карані куды танчэйшыя, нявідныя для ўраклівага вока, і патрабуюць яны штохвіліннай жывіцы (…) дабра, самаахвяравання і Памяці… Уся народная мудрасць даўно сказала пра тое…

* * *

Неяк, блудзячы за шумлівым горадам па старым і недаравальна занядбаным цяпер парку, аб якім пісаў яшчэ ў свае часы Д.-Марцінкевіч, я ўбачыў нешта, што нарадзіла два супрацьлеглыя ўразуменні…

У гэты парк – стары, з лістоўніцамі, таполямі, ліпамі, я заходжу і

зараз, і зараз стаіць у ім панскі драўляны дом, яшчэ добра збераждоны часам.

На доме – шыльда: “Дзіцячы дом нумар 7”. Яе не было дагэтуль. Падумалася, што вось і добра, што такая будыніна паслужыць…

**16 мая**

Ян Скрыган, “Скажы адно слова”:

*Аднаму чалавеку цяжка ўсё: нават свая ўласная радасць, калі яе ні з кім не дзеліш. Ды можна сказаць, наогул няма чалавечае радасці для сябе: яна мысліцца толькі тады, калі ты нясеш яе для другога.*

Быў у рэдакцыі “Кіраўца”. Меў размову з рэдактарам, ён і прапанаваў мне перавесціся да іх працаваць. Вось так яно. Думаю, трэба, тым больш, што збіраюся паступаць у БДУ.

А Валя?.. Чытаю Янку Скрыгана, і гэтае чытанне нагадвае нашы з табою адносіны, Валя. Я перад табою ўсё ж вельмі вінаваты.

З твораў Я. Скрыгана:

Пярэгалас (маргіналіі).

*Бог – гэта не тое, у што верыш. Без бацькаўшчыны не будзе ў душы ніякага бога.*

*Мы заўсёды любім больш мару, чым яву. Кожная ява абавязкова шукае новай мары. Гэтак, відаць, і трэба, каб ніколі не пераставаць шукаць.*

*Роднае слова – гэта першая крыніца, праз якую мы пазнаём жыццё і акаляючы нас свет,* – пісаў Я. Колас.

*Трымайцеся бліжэй да народнай мовы, шукайце прастаты, сцісласці, сілы…* – вучыў М. Горкі.

**Субота**

Адзін і працую. Цяпер над творамі Я. Скрыгана, дарэчы, цікава і даспадобы, і ёсць для разважання.

**Нядзеля, 19 мая**

Вось ізноў. Быў на Сонечнай, хацеў пабачыць цябе, Валя, але выйшла Галя Л. Паслухаў яе, і стала стыдна, прыеду сустракаць з працы.

*Жизнь людей без нравственного усилия – не жизнь, а сон* (Л.Н. Толстой).

**21 мая (аўторак)**

Здаў два допісы ў рэдакцыю “Кіраўца”. Апрацоўваю апавяданне,

назвы не даў яшчэ. А ўвогуле – сум-на, сумніца.

**<u>23 мая</u>**

Сустрэў на працы рэд(актара) Рэвяку. Пакуль што справа з уладкаваннем у рэд(акцыю) адцягваецца да восені. Напэўна, перад экзаменамі вазьму водпуск, усё ж адпачну.

Чытаю, як час: А. Грына, "Кюхлю" Ю. Тынянава, зборнік вершаў К. Сіманава.

* * *

Казкі мае, лятункі, дзівы, удуманыя мною, мяне ж і непакоіце, і штурхаеце наперад – ідзі, пніся, але не як жаба на корч, а волатна заяўляючы свету: Я чалавек, я хачу зваяваць сябе другога – дрэннага, помслівага, гразнаватага; я хачу і змагу перакрэсліць светлымі і свежымі імкненнямі к пасвячэнню чысцінёй усе мае памысленні хцівага цела.

Я – да змагання, да смяртэльнай барацьбы за істоту чалавечую, за чалавека ў істоце, за чалавечнае ў чалавеку змушаю сябе першнаперш.

**26 мая (нядзеля)**

Напісаў верш, адаслаў пісьмо Валі!

Надвечар пайшоў уздоўж Свіслачы. Людзі адпачываюць, сонца!

Зайшоў аж пад Лошыцкі парк.

На балоцістым беразе каля рэчкі дзве дзяўчынкі-падлеткі: адна ў светла-галубай сукні, другая ў бялюткай, з пялёсткавымі візэруначкамі. Першая, меншая і трохі спакайнейшая, стаіць, успёршыся на альховы сук, а сяброўка, нібы тое жабянятка, скок-скок – і ўжо на купіне. Стаіць і дзівіцца, і смяецца: "А ёечкі, як я сюды трапіла?". Потым па-буслінаму падкурчвае босую нагу і гукае таварышцы: "– Тут мой дом, я тут жыць застануся". "– Ага, – адгукаецца сяброўка, – от было б добра". І смяюцца аж заходзяцца ў вясёлым віраванні. А вечаровае сонца стала пасвечвае праз прырэчныя хмызы і таксама нібы хоча гукнуць зямлі: "Мне хораша тут, над табою, квітнеючай ў зяляніне".

І раптам грымае хор крыксух з пукатымі вачанятамі. І ім, відаць, добра жыць у сваім вадзяным доме…

Думкі:

у прыску людзкіх страсцей закаляецца чалавечы розум;
на попеле перагарэлай страсці не расце дурнап'ян.

**29 мая (серада)**

Сягоння не пайшоў на працу. Рыхтаваўся да сустрэчы ў "Крыніцах".

Сход прайшоў у шчырай размове, сяброўскіх спрэчках. Гаварылі кожны аб набалелым, аб п'янстве, яго пагражальных памерах. Цікава было для мяне. І што галоўнае, я мог хоць крышачку выгаварыцца. А як з гэтай маёй працай на заводзе? А Валя? Колькі я з вамі… Сям'і хочацца, але каб без любімага занятку, ды, бадай, і працы, дык зноў жа будзе яшчэ горш.

Пісаць!

Чытаў свае тры вершы, нічога выходзіць, льга пісаць! Але буду працаваць з прозай.

28 мая ў "Кіраўцы" надрукаваны матэрыял "Быть или не быть". Як казаў мой сусед па станку, – "калюча".

Добра. Так і трэба: пісаць і працаваць. І забіваць у сабе падонка-себялюбца!

Дэні Дзідро, "Філасофскія думкі":

*Толькі страсці і толькі вялікія страсці могуць узняць душу да вялікіх спраў. Без іх канец усяму ўзвышанаму як у маральным жыцці, так і ў творчасці…*

Карл Маркс у пісьме да Жэні Маркс 21чэрвеня 1856 года:

*Маё каханне да цябе, варта табе апынуцца ўдалечыні ад мяне, паўстае такім, якое яно на самой справе – у выглядзе волата; у ім сканцэнтроўваюцца ўся мая духоўная энергія і ўся сіла маіх пачуццяў. Я зноў адчуваю сябе чалавекам у поўным сэнсе слова…*

* * *

Я страціў волю над сабою, як яе вярнуць?!.

*Славамір Адамовіч*





Мікола Бушчык, *Светлы подых*, 2015 г.

*Галіна Самойла*

# СВЕТЛАЕ МАРЫВА

***

Ты мяне на гэтым свеце не пакінь,
Каб на той я не скацілася слязою.
Дачакайся мяне ў лодцы ля ракі,
Паплывём у іншы свет дваіх з табою.
На мяжы жыцця і смерці не пакінь.
Адзінока пераплыць яе нялёгка.
Я прыйду з букетам вогненных вяргінь,
Падару яго рацэ і сяду ў лодку.
Пакладзём нячутна мы рука ў руку,
Завяслуем разам вольнымі рукамі,
Накіруем нашу лодку праз раку.
Страцім памяць, а каханне будзе з намі...

***

Прыжыўся голуб на маім балконе,
Звіў верабейка пад страхой гняздо,
На грушу села белая варона,
Пярэсты дзяцел дзюбае мой дом,
У шыбы б'ецца крыламі сініца,
У ганак шызы попаўзень паўзе,
І чорны бусел вырашыў прыбіцца:
Сядае на мой комін кожны дзень.

Яны клююць імгненні на сутонні
І п’юць блакіт з нябеснага каўша.
Яны чакаюць: у хвіліны скону
Чый воблік мая выбера душа?
Не чутны галасоў іх перазвоны –
Мая прастора грукае, шуршыць.
І я маўчу, што выбрала варону:
Яна здалёку сочыць і з цішы...

***

Я ў бяскрайнее поле
Адпушчу сваю волю.
Стану мягкай, як гліна.
Ў нечай форме застыну.

Я ў сусвет вечаровы
Адашлю думкі-словы.
Стану лёгкай, як пена,
У гульні пераменнай.

У віры з каламуццю
Я пакіну пачуцці.
Стану цвёрдай, як камень,
І нязменнай вякамі.

У туман сіне-белы
Апрану сваё цела.
Стану марывам светлым
І ... зусім непрыкметнай.

Дзе цяпер я? Упала
Ў вечны змрок небыцця?
Ці іскрынкаю стала
Для другога жыцця?

*Галіна Самойла*



*Ала Нікіфорская*

# ЛЕТА
# Ў СВЕЦЕ АСЕННІМ

***

о нарэшце сустрэла мужчыну!
выдыхнула за тысячы кіламетраў
так грахоўна-нявінна
ў гэты свет
ў гэты час
дзе сустрэча – век! – немагчыма
і не толькі з прычыны адлегласці

о нарэшце сустрэла мужчыну!
выдыхнула
не з роспачы – амаль з усмешкі
амаль – з радасці
з маёй каменнай наканаванасці
дзе ўсё жыццё – суцэльнае расстанне

***

асыпáліся сэрцы як лісці
ні адно не змагла затрымаць
ці прысвоіць

у бязлітасна-доўгай прасторы
чужога сусвету
шукала цябе
каб аднойчы знайсці
і згубіць назаўсёды

*PS.*
не, я не згодна
не тая праграма!
**каб не страціць ніколі**
і халодны сусвет замяніць
на шчаслівы

***

перапісваю вершы
мяняю праграмы
чарую жыццё на сустрэчу
твой голас
яшчэ не прыйшоў мне здалёк
а рэха ўжо адбіваецца ў сэрцы

***

поўня – у небе
поўнач – у часе
вятры Гародні мяняюць напрамак
вятроў Беэр-Шэва
згараюць свечкі нязбытных лёсаў

***

гэтае лета ў свеце асеннім
згубілася – як назаўсёды
лашчыць і цешыць душу і цела
светліць стамлёныя вочы

след твой згубіўся ў зімовых прасторах
ці адшукаю калі?

***

даганяю – і не магу дагнаць
бягу – а ты адыходзіш усё далей
у сне
у бязмежжы Сусвету
у бясконцасці шляхоў і сцежак

пераможа сустрэча

***

на хвалях твайго болю
плаваю ў бязмежжы мора
захлынаюся
і падаю ў сваім чалавечым бяссіллі

вельмі хацела б адмяніць яго
калі б была Богам
хвілю

***

я даю табе Магдэбурскае права
як Леў Сапега – Слоніму
.....................
мой прывілей
пацвярджае верасень
сваёй сургучовай пячаткай –
шчодрымі промнямі сонца
і ўжо парыжэлымі лісцямі
гарадзенскіх каштанаў

***

мой сонечны
сатканы з слёз маіх і болю
мой радасны
з адных пакут маіх і несустрэч
наканаваны лёсам
Богам
не можаш  ты прайсці ні міма
і ні воддаль
адна дарога і адна душа

і я хацела адвярнуцца
зачараваная на адзіноту-волю
а можа адвярнулася даўно
у час мой неад’емна-вечаровы
але
расшатвае нябёсы і злятае
магутна-трыадзінае святое
“Лікуй, Ісайя!”

*Ала Нікіфорская*



Павел Каспяровіч

# Добры самаранін

Пасля абеду раптоўна высветлілася, што цешча адправіла перадачу. Навіна была радаснай, бо чакалася мноства рознай смакаты. Але аўтобус прыходзіў а 23-яй гадзіне, аўтамабіль сям'я маладога дыякана яшчэ не набыла, і цягнуць торбы заўсёды прыходзілася яму самому.

Марнаваць грошы на таксі айцец Міхаіл шкадаваў, бо як толькі пачынаў вагацца, адразу ўзгадваў фразу Ноны Мардзюковай з вядомага фільма:"Што нашыя людзі ў краму на таксі не ездзяць". Ды і бацька выгадаваў яго ў духу простых савецкіх мужчын, якія перавозілі ў грамадскім транспарце ўсё неабходнае для лецішча і гарода.

Цешча вельмі ганарылася дачкой, якая выйшла замуж "за бацюшку" і, як магла, дапамагала – шчыльна складвала ў валізкі садавіну, гародніну, слоікі з агуркамі, сала і паляндвіцу. А потым цесць – дужы працавіты мужык, як з верша Купалы, цягнуў ровар з гэтым грузам у любое надвор'е на далёкую аўтастанцыю. І праз шэсць гадзін аўтобус мусіў сустрэць зяць.

З-за моцнай завірухі аўтобус прыйшоў з невялічкім спазненнем.

Айцец Міхаіл выгрузіў на заснежаны асфальт торбу са скрыняй і ўжо сабраўся бегчы дробнымі перабежкамі на прыпынак, як пачуў за спіной:

– Дапамажыце даехаць дамоў ветэрану Афганістана, добры чалавек…

Ён спалохана азірнуўся – на інвалідным вазочку сядзеў нейкі запэцканы мужык без ног.

– А на якой вуліцы вы жывяце? – пацікавіўся айцец Міхаіл.

– Я не тутэйшы, – адказаў дзядзька.

– Ого… А грошы ў вас ёсць?

– Па нулях! – прахрыпеў незнаёмец.

Айцец Міхаіл пакінуў торбы з вазочнікам і збегаў у круглasутачную касу, але патрэбны аўтобус адыходзіў толькі з раніцы. І дзверы аўтавакзала былі замкнёныя. Па новым раскладзе станцыя

закрывалася пасля дваццаць трэцяй, бо ў цёплай зале чакання збіраліся бамжы і паскудзілі так, што смурод стаяў потым цэлы дзень.

– Можа ў Вас ёсць нехта знаёмы, каб пераначаваць, – яшчэ раз з надзеяй запытаўся дыякан.

– Не, няма…

Здалёк па праспекце прагукацеў тралейбус, на які збіраўся папсець айцец Міхаіл.

– Не кідаць жа яго тут на лютым марозе аднаго, – з жахам падумаў святар і стаў задаваць сабе цяжкія пытанні, – няўжо дамоў яго везці? На тралебусе з вазочкам і торбамі праз увесь горад з перасадкамі? І што скажа жонка з месячным дзіцём на руках, калі ўбачыць мужа з бязногім інвалідам ноччу на парозе?

– Госпадзі, чаму я, навошта?! – узмаліўся ён.

І ўжо не голас Ноны Мардзюковай і не спачылага бацькі загучаў у яго сэрцы, а голас Госпада – Творцы неба і зямлі, малітвы Якому ён узносіў на кожнай літургіі:

“…Чалавек нейкі ішоў з Іерусаліма ў Іерыхон і трапіў да разбойнікаў, якія раздзелі яго і паранілі, і пайшлі, пакінуўшы ледзь жывога. Выпадкова адзін свяшчэннік ішоў тою дарогаю і, убачыўшы яго, прайшоў міма…” (Лк. 11, 30-31)

– Божа, Божа! Дапамажы… – айцец Міхаіл са страхам азірнуўся вакол.

Раздаліся гукі аўтамабільнага матора і на пляцоўку аўтастанцыі ўехала патрульная машына міліцыі.

– Божа, дзякую! – закрычаў ён і пабег напярэхваткі.

Але “УАЗік” і так ужо звярнуў да дзвюх падазроных постацяў на бязлюдным вакзале.

– Што здарылася? – з аўтамабіля выйшлі чацвёра здаравенных амапаўцаў.

– Таварышы міліцыянеры! – хвалюючыся пачаў расказваць айцец Міхаіл, – я праваслаўны дыякан, служу ў храме на Усходнім мікраараёне. Вось чалавек – ветэран Афганістана, якому няма дзе начаваць. Вы, як прадстаўнікі закона, мусіце знайсці для яго прытулак…

– Хто… хто ты? – перабіў яго адзін з міліцыянераў.

– Дыякан – гэта ніжэйшы чын святарства. У дыяканскія абавязкі уваходзіць саслужэнне святару і епіскапу падчас багаслужэння, сам дыякан не можа самастойна здзяйсняць ніводнага таінства… – пачаў тлумачыць айцец Міхаіл.

– “Шасцёрка” значыць, – падвынікаваў другі амапавец і пасвяціў ліхтарыкам у расхваляваны твар айца Міхаіла з рэдкай юнацкай барод

-кай.

– Нейкі ён малахольны, – прамовіў старэйшы з іх, – дакументы ёсць? Няма… – і агледзеў мужыка на вазочку, – былы афганец, значыць, а ў торбах што?

– Перадача з вёскі…

Па рацыі перадалі нешта, і афіцэр прадоўжыў ужо сур’ёзна: – Слухай, святоша, бяры свайго небараку і цягні яго на чыгуначны вакзал – тут непадалёку. Няхай сядзіць там да раніцы, каб не замёрз, – а пасля дадаў: – Хутка ўсе ў машыну!

Але айцец Міхаіл радаваўся толькі ад таго, што стала зразумелым, куды падзець гэтага інваліда.

Ён паставіў картонную скрыню мужыку на абрубкі ног, каб той трымаў рукамі, узваліў торбу на плячо і пасунуў вазок перад сабой.

Праз сотню метраў ён узмакрэў, і паніка змянілася нават ганарлівасцю:

– А што, насамрэч я, як той самаранін з прытчы. Нават амапаўцы прайшлі міма, а я застаўся!

Да вакзала заставалася яшчэ некалькі кварталаў хады. Горад быццам вымер ад якой пошасці – яны не сустрэлі нікога, хто мог ацаніць учынак маладога дыякана. Гумовыя колы слізгацелі на заледзянелым тратуары, і цяжэй за ўсё даваліся высокія бардзюры. На адным з пад’ёмаў вазочак перагарнуўся, і інвалід з усяго маху грымнуўся на асфальт. З-за пазухі ў яго выляцелаі глуха пляснулася аб лёд бутэлька гарэлкі.

– А-а-а!!! – закрычаў мужык. Святар нахіліўся, каб вярнуць яго на вазок, але той учапіўся за паліто і стаў біць айца Міхаіла кулаком па твары.

– Мужык, ты што!!! – Міхась папытаўся вырвацца, але хватка таго была мёртвай. Тады ён таксама стаў біць:

– Адпусці, прыдурак!

Па дарозе праязджала машына таксі.

– О! Стой! Глядзі, бамжы б’юцца! – усхапіўся пасажыр, і машына запаволіла хуткасць.

–Эй, свалата барадатая, адчапіся ад калекі! – крыкнулі ў фортку.

Але айцец Міхаіл злаўчыўся і стукнуў дзядзьку каленам пад дых. Інвалід захрыпеў і расціснуў рукі.

– Казёл ты! – айцец Міхаіл ліхаманкава аціраў снегам разбіты нос, – дай хоць дацягну цябе да вакзала, каб не замёрз ты тут.

– Я цэлы вечар сшыбаў на гэтую пляшку, – не сунімаўся мужык,– у мяне трубы гараць!

Айцец Міхаіл плюхнуў яго ў вазок і пацягнуў далей. Толькі скрыня разбітых слоікаў засталася на месцы іх бойкі.

Урэшце яны давалакліся да чыгункі.

Інвалід брыдка лаяўся і ўсё намагаўся ўдарыць айца Міхаіла кулаком за спінай, а той ухіляўся. Пад першым ліхтаром вакзальнай плошчы дыякан спыніўся і як мага далей адштурхнуў вазок у бок будынку:

– Ведай, скаціна няўдзячная, што я – праваслаўны святар! – і пабег прэч.

Мужык развярнуўся і вылаяўся наўздагон: – Ідзі ты нахер, сука!!!

Праз некалькі хвілін у заднія дзверы апошняга аўтобуса ледзьве паспеў заскочыць скрываўлены хлопец у выпэцканым паліто з вялізнай торбай на плячы. Пасажыры спалохана пасунуліся, бо якіх толькі злыдняў не бадзяецца ноччу па горадзе – можа ён абрабаваў каго-небудзь? Але ніхто з іх не ведаў, што некалькі хвілін таму па заснежаных вуліцах услед за гэтым дзіваком крочыў басанож Сам Гасподзь, цярпліва назіраючы за няўдалым выратаваннем былога камандзіра баявой машыны пяхоты, ногі якога перабіла асколкам падчас нападзення на калону савецкай спецтэхнікі ў Панджшэрскай цясніне.

# Nirvana

Айцец Аляксандр стомлена прагортваў стужку навінаў. Пашуковік змяшаў усё да кучы: баі ММА, выступленне прэзідэнта на кароўніку, праграмы для зніжэння лішняй вагі, крымінальныя здарэнні, "крыжалом" у Курапатах, 25 гадоў пасля смерці Курта Кабэйна…

Святар схамянуўся ад здзіўлення:

– Як, няўжо 25 гадоў прайшло? Але ж дакладна, красавік 1994 году. А здаецца нядаўна было. Як бяжыць час…

Пра "Нірвану" ён пачуў ў 1992 годзе перад выпускам са школы. Патрапілася зацемка ў "Камсамольскай праўдзе", што малады амерыканскі панк-гурт выпусціў альбом пад назвай "Nevermind" і збірае поўныя стадыёны. Саша здзівіўся тады, што даволі смела называць дэбютнік словам з назвы вядомага альбома " Nevermind the bollocks» гурта "Sex Pistols", і пачаў цікавіцца, дзе запісаць "Нірвану".

Гэта цяпер маладзён можа спампаваць у сеціве любы запіс. А ў той час новую музыку можна было запісаць ці ў студыі гуказапісу, ці ў знаёмых, і добра, калі быў дзвюхкасетнік, а так трэба было цягнуць два магнітафоны са шнурамі.

Ды і ў студыях гуказапісу не ўсе навінкі знаходзіліся адразу. А маглі там проста змухляваць, як Сашку аднойчы запісалі замест "Алісы" Эліса Купера і грошы не вярнулі, маўляў, думалі, што па-англійску назва. А ён прыйшоў дамоў, радасны 15-гадовы хлопчык, слухае і здзіўляецца, што гэта за "глэм-рок".

Ужо ў верасні ў тэхнікуме перад самым ад'ездам на бульбу Сашка запісаў "Нірвану".

І проста не паверыў, што так можна спяваць.

Сашка ўключаў "Nevermind" адразу, як заходзіў дамоў. Канкурэнтамі "Нірваны" былі толькі "Metallica" з "Чорным альбомам" і "Грамадзянская абарона", якую ён пачуў таксама перад выпускам са школы.

Сусед знізу, які вучыўся ў медычным універсітэце, скрыгатаў зубамі ад злосці пры сустрэчы: "Саня, колькі можна цэлымі днямі: "Гаў-гаў-джы-джы-гаў-бам-бам-брынь-брынь…" Я канспекты запомніць не магу". Сашка ж вучыўся на апрацоўцы металаў рэзаннем, што было сугучна са стылем яго ўлюбёнай музыкі і хадзіў на заняткі з адным сшыткам. Суседка зверху маўчала, а Сашка і не баяўся яе, бо ўсё дзяцінства яна мучыла яго Баярскім.

Ды і не быў Сашка такім ужо злосным парушальнікам грамадскага спакою. Вось у суседнім пад'ездзе жыў былы дэсантнік Міця, які, як сапраўдны меламан, выпісваў кружэлкі па пошце і слухаў іх на такой гучнасці, што можна было сядзець на стадыёне і слухаць любімы "Акварыум", быццам ты дома. Яшчэ Міця займаўся загартоўкай і хадзіў узімку ў адных шортах з "каўказцам" на павадку. Вядома, што ніхто з суседзяў яму пра гучную музыку нічога не казаў. А за стадыёнам жыў яшчэ адзін меламан – былы афганец Ягор, які працаваў далакопам на могілках. Сашка іх і пазнаёміў. Атрымаўся сяброўскі дуэт дэсантніка і афганца. Вяртаешся дамоў, спачатку ад Ягора "Заапарк" паслухаеш, а потым і ад Міці пару хітоў "Аўкцыёна" ці "Крэматорыя".

Так і слухаў Сашка "Нірвану", нічога не ведаючы пра сам гурт, акрамя імя вакаліста Курта Кабэйна. Бо дзе ўзяць інфармацыю? Інтэрнэту яшчэ не было.

Але бяда прыходзіць нечакана.

У пагожы сонечны дзень красавіка 1994 года сядзеў Сашка ў тэхнікумаўскай курылцы на перапынку, як падышоў да яго хлопец з групоўкі "цэнтравых" хард-дрынкерсаў па мянушцы "Лімон".

Лімон ведаў усе музычныя навіны і апранаўся, як тынэйджар з вуліцаў Лос-Анджэлеса. Хадзілі чуткі, што ў яго дома на падлозе ляжыць гурба ліцэнзійных касетаў, адкуль ён выбірае патрэбную пад настрой.

Лімон павітаўся, стральнуў цыгарэту і гаворыць:

– Чуў? Курт Кабэйн з "Nirvana" застрэліўся!

У Сашкі як нешта абарвалася ўнутры…

Тыя пару хвілін айцец Аляксандр помніць да гэтага часу, як і той момант, як у жніўні 1990 года яго сябар Пашка выбег збялелы з пад'езда: "Толькі што па тэлевізары сказалі, што Цой загінуў у аўтакатастрофе…".

Праз пэўны час пачалася такая непазбежная з'ява, як "нірванаманія". Былі перавыдадзеныя ўсе альбомы і відэаканцэрты гурта. На рынках сталі гандляваць атрыбутыкай з выявамі Курта Кабэйна. Але, што самае агіднае, з'явілася цэлая субкультура "нірваністаў" – аднолькава апранутых хлопчыкаў і дзяўчынак з плюшавымі цацкамі на заплечніках. Сашка глядзеў на гэтых "нірваністаў" і ўзгадваў сябрука Лёху, які сядзеў на бардзюры пад універмагам, біў да крыві па струнах і спяваў "Нірвану" з такім болем, быццам страціў лепшага сябра дзесьці там у Сіэтле, і цяпер яму так сумна, што хоць ідзі за Куртам услед. Быў Лёха апрануты ў старую цяльняшку і рваныя ад старасці, а не купленыя ў буціку джынсы, у айчынных кедах на босую нагу, п'яны і заплаканы; такі ж бязбацькавіч, як і яго амерыканскі кумір. Было ў ім нешта, што прымушала спыніцца і прыслухацца:

– Rape me, rape me…

А яшчэ праз пару год акрамя "нірваністаў" з'явіліся "прадыжысты" (прыхільнікі "The Prodigy"), і паміж імі пачалася варажнеча з крывавымі бойкамі. Цікава, што аб гэтым сказалі б вакалісты гэтых гуртоў, цяпер абодва спачылыя, калі б даведаліся?

У 80-я падобная варажнеча была паміж аматарамі "HMR" (heavy metal rock) і TLP (Telewizyjna lista przebojów)– перадачы польскага тэлебачання, дзе ў асноўным круцілі "дыска" і "новую хвалю". "Каралямі" для "тэлпістаў" былі палякі "Lady Pank". Увесь горад быў распісаны гэтымі абрэвіятурамі, і прагрэсіўная моладзь падзялілася на два лагеры. Маладзёнам усходняй Беларусі, дзе польскага тэлебачання не мелася, гэтыя нюансы жыцця былі невядомыя.

А ў самым пачатку 90-х варагавалі “металісты” з “дэпешамі” (прыхільнікамі Depeche Mode). І Сашкава кампанія ўсё не магла падзяліць з імі адну лаўку на Савецкай плошчы.

Потым да “нірваністаў” прымяшалася хваля поп-панку кшталту аматараў гурта “Green Day”, што стала ўвогуле ганьбай. Яны напруджвалі залі рок-сэшнаў і скакалі  радасныя, як зайчыкі.

На дварэ быў Вялікі Пост, але айцец Аляксандр вырашыў дзеля памяці Кабэйна паслухаць некалькі песняў, а па дарозе на службу прачытаў артыкул пра версію магчымага забойства, а не самагубства.

“Усё як у Ясеніна з Маякоўскім, – падумаў ён, – толькі  без спецслужбаў”.

Гэта абнадзейвала, бо надта многа было самазабойцаў у музычным сусвеце. У айца Аляксандра самога быў досвед такіх паводзінаў, калі ён звольніўся з працы, кінуў універсітэт і прыцягнуў са сметніка старыя дзверы замест ложка. Да позняй ночы паліў цыгарэты і шаптаў як мантру: ”Божа, дай мне сілы дайсці да канца”, а потым ішоў на мост і доўга глядзеў на цёмную ваду Нёмана. З першымі тралейбусамі вяртаўся дамоў, клаўся на тыя дзверы і нервова засынаў на пару гадзін. Удзень нікуды не выходзіў, слухаў “System of a Down”. І так цэлы месяц халоднага лістапада. На шчасце, смеласці на глупства не хапіла.

Божа, пашлі ў сэрцы ўсіх самагубцаў нерашучасць і баязлівасць!

Айцец Аляксандр прыехаў у царкву. Служылася памінальная служба – парастас.  У алтары на ахвярніку ляжалі стосы запісак і прасфоры ў кошыках. Айцы чыталі імёны і вымалі “часціцы”.

Ён далучыўся да іх, але не ўстрымаўся і прамовіў:

– Сёння дзень смерці Курта Кабэйна.

Святары пераглянуліся:

– А хто гэта такі? – запытаўся адзін з іх, сівабароды, як Гендальф.

– Вакаліст гурта “Nirvana”, – адказаў айцец Аляксандр.– Ага, ты яшчэ папрасі дыякана, каб на екценні памаліўся за гэтага спевака, – пажартаваў нехта болей маладзейшы.

– Ты што, – занепакоіўся іншы святар, – ён жа самагубца, нельга.

Трэба сказаць, што духавенства ставілася да рок-музыкі даволі архаічна. Яшчэ ў семінарыі быў выпадак, калі яго аднагрупнікі-святары шкадавалі аб адсутнасці алкаголю для зняцця стрэса пасля экзамена, а ён хадзіў па келіі і слухаў “Master of Puppets” у  навушніках, і быў абвінавачаны ў апанаванасці дэманамі. Бо традыцыйнае п’янства лічылася болей набожнай з’явай, чым праслухоўванне “трэш -метала”.

Цяперашняя сітуацыя была нечым падобнай, але айцец Аляксандр усё роўна падышоў да дыякана.

– Сёння 25-я гадавіна смерці Курта Кабэйна.

– Ды ну, – здзівіўся той, бо таксама ў юнацтве хварэў на рок-музыку.

– Айцы здзекваюцца, што трэба на екценні памянуць – паскардзіўся айцец Аляксандр.

Дыякан пасур'ёзнеў і змоўк.

Пачалася служба. У адпаведны момант святары выйшлі на сярэдзіну храма і пачалі памінаць запіскі. Дыякан голасна прамаўляў:

– Яшчэ молімся аб упакаенні спачылых рабоў Божыіх: Надзеі, Пятра, Сімяона, Яўсевія, Ларысы, Леаніда, Уладзіміра…

І так сотні імёнаў.

Кадзільны дым клубамі вітаў між людзьмі, якія засяроджана слухалі словы малітваў. Агеньчыкі свечак у іх руках свяціліся смарагдавымі колерамі ў промнях вясновага сонца.

– Як запальнічкі на канцэртах у 90-я – падумаў айцец Аляксандр, бо цяпер моладзь на такіх імпрэзах свяціла смартфонамі.

Спісы імёнаў скончыліся, дыякан падышоў да паніхіднага століка, павесіў кадзіла, перахрысціўся і ціхім голасам, каб пачуў толькі айцец Аляксандр, прабасіў:

– Божа, памяні раба Твайго Курта.

Айцец Аляксандр страпянуўся:

– Малайчына, айцец дыякан, не пабаяўся, – і прамовіў усім сваім сэрцам: – Божа, спаглянь на душу спачылага раба Твайго, проста паглядзі, болей нічога не прашу. Можа ёсць у гэтай душы нешта вартае Тваёй увагі. Хоць адзін учынак ці слова, здольныя дапамагчы яму. Я разумею, што нельга маліцца за самагубцаў, але ж Ты – Любоў і мы служкі Любові. Хто, калі не мы, будзе маліцца за гэткіх небаракаў? Ты адзін ведаеш, што адбылося ў той дзень і як ён загінуў. Дзеля нашай маладосці і нашых юнацкіх сэрцаў даруй яму грахі…

Служба скончылася. Айцец Аляксандр падышоў да дыякана:

– Дзякуй, ойча, што Кабэйна памянуў.

Дыякан сумеўся:

– Можа хоць кроплю вады пашле Гасподзь яму ў пекла пасля нашай малітвы.

– Дай Божа, – адказаў айцец Аляксандр.

PS.

“І кажа ім: ідзіце за Мною,
і Я зраблю вас лаўцамі людзей” (Мф. IV, 19).

Праз некалькі год меламан Міця ажаніўся і перастаў выносіць калонкі на балкон. Жыхары мікрараёна зажылі спакойна.

Толькі Сашка час ад часу ўзгадваў з сябрамі, як Міця выходзіў голым узімку на вуліцу, абліваўся вадой з вядра пад які хіт піцерскага року з дынамікаў на восьмым паверсе; альбо ладзіў перформанс з распрананнем ў сцюжу на тралейбусным прыпынку; ці як сходзіў у вандроўку з сабакам уніз па Нёмане да Балтыйскага мора, сілкаваўся толькі што злоўленай рыбай і быў спынены літоўскімі памежнікамі на пераправе з падмочаным пашпартам у зубах.

А праз добры дзясятак гадоў Сашка (ужо айцец Аляксандр) раптоўна сустрэў яго, калі той выносіў стос кружэлак на сметнік, бо жонка дала пару дзён, каб пазбавіцца ад хламу і распачаць рамонт у кватэры. Выратаваную калекцыю Сашка забраў дамоў і паабяцаў перадаць у добрыя рукі.

У іх асяродку быў адзін вакаліст панк-гурта, які вызнаваў сябе атэістам, працаваў выкладчыкам філасофіі і меў жарсць да збірання “вінілаў”.

Да яго Сашка і патэлефанаваў, маўляў, ёсць некалькі рарытэтаў.

І неяк увечар той хлопец прыйшоў. Сашка завёў яго ў пакой:

– Забірай. Бясплатна. Са сметніцы выратаваў.

Хлопец пачаў са здзіўленнем разглядаць кружэлкі і паступова яго вочы засвяціліся ледзьве не агнём веры.

– Арыгінальны паварот лёсу, – пажартаваў Сашка, – ты глядзі, так у Бога паверыш.

– Ты ведаеш, – агаломшана адказаў той, – можа Нешта і ёсць…

– Канешне, – дадаў Сашка, – такое багацце і ў твае рукі.

Потым таварыш яго аднекваўся, што тыя словы пра магчымае існаванне Вышэйшай Сілы былі жартам. А айцец Аляксандр шкадаваў пра страчаную місіянерскую магчымасць…

*Павел Каспяровіч*



Юрка Буйнюк

# Баба Гандзя

„З твайго Колькі не будзе ужо нічога добрага”, – ад нейкага часу ўсё паўтаралі Гандзі яе аднавяскоўцы. Гандзі было сорамна, што яе адзіны сын зранку да вечара працуе чорнарабочым, звычайным трактарыстам у калгасе і нанач вяртаецца дахаты п'яны. Разбэсцілі яго людзі. А ён жа ад вясны да зімы, летам ды восенню араў, сеяў, а ўлетку касіў сенажаць ды лугі.

У той час мала хто меў свой трактар. Гаспадаркі былі малыя, бядняцкія – і за што купіш тую машыну? „Ды каб хоць адну на ўсю вёску”, – разважалі. Так і зрабілі. Заклалі гаспадарчы гурток і Колька працаваў у ім трактарыстам.

І каторы ўжо раз, чакаючы сына, села Гандзя пры акне ды задумалася. Колькі ж яна нацярпелася за сваё жыццё. Рана аўдавела. Калі памёр яе муж, Колька якраз у той год закончыў палітэхніку. Як жа яна ганарылася сынам, калі ён стаў інжынерам. Мала хто тады з вясковых хлопцаў ці дзяўчат меў закончаны ўніверсітэт. А тыя, што дзесьці вучыліся ў гарадах, там і заставаліся. І яна марыла, каб яе сын вывучыўся, знайшоў там працу, жаніўся ды жыў у горадзе. Гандзя прасіла Кольку:

– Сынок, няма ў нас чаго рабіць, будучыні на вёсцы няма, не знойдзеш яе. Уцякай у горад. Там жыццё лягчэйшае, гавораць усе.

Але Кольку хацелася быць на сваім, цягнула роднае. Спачатку ён уладкаваўся ва ўправу гміны. І, можа, таксама таму, каб дапамагчы самотнай матулі. Калі вучыўся ў горадзе, вельмі ж тужыў ён за сваімі. Не любіў вялікіх, шумных вуліц горада. Здавалася, што ў горадзе людзі безупынна кудысьці чагосьці спяшаюцца, мітусяцца, бягуць. І

здавалася таксама, што і час у горадзе нейкі карацейшы, чымсці ў іх, на вёсцы...

І пачалася Гандзіна бяда. Ва ўправе гміны Кольку назначылі на пасаду геадэты. Яму даручылі размерваць зямлю сялянам. А гэта былі тыя часіны, калі амаль усе справы пачыналіся ад пляшкі і ёю заканчваліся. Выпіў Коля раз, выпіў другі раз, захацелася выпіць і трэці – і пачаў прывыкаць. Тое бачыла маці. А раней жа, калі жыў бацька, Колька быў выдатнікам у пачатковай, затым сярэдняй школе ды ў час атрымаў вышэйшую адукацыю. А бяда ягоная была ў тым, што вялікая туга цягнула яго да роднай хаты, да матулі, да магілы бацькі. А бацька, Чэслаў Грынкевіч, быў палякам і, натуральна, каталікам. Маці ж, як усе ў наваколлі, ад роду праваслаўная, беларуска. Паміж імі ішла здаўна ціхая вайна бацькі за сына, за збаўленне ягонай душы...

Ён добра памятаў тую рэлігійна-нацыянальную калатнечу ў хаце. А душа Колькі, аднак, была бліжэй мацярынскай. Што і казаць, ён ад школьных гадоў любіў іхнюю сінюю старадаўнюю царкву са старымі іконамі ды пахам свечак. Таго не было ў гарадскім мураваным касцёле, у якім па-за алтаром ды лаўкамі не было таго духу малітвы, які адчуваў ён у царкве. Добра памятае, як перад праваслаўнымі Калядамі па вёсцы хадзіў бацюшка. Першы раз Гандзя прыняла бацюшку, калі яе Чэслаў, п'яны, зваліўся ў ложак ды заснуў. Бацюшка ў хаце памаліўся, Гандзя і сын пацалавалі старое Евангелле і крыж. Бацюшка, аднак, пачуў, што нехта за печкай храпе.

– А хто ж гэта, Ганна, у вас спіць? – спытаў бацюшка.

– А то ж, бацюшка, мой муж, бязбожны, палячыска, напіўся, п'яніца пракляты ды спіць. Але вы не зважайце, бацюшка...

Як толькі святар выйшаў з хаты, што пачалося... Чэсек даўно не спаў і чакаў, каб схапіцца з ложка ды адлупцаваць жонку за таго "палячыска" ды "п'яніцу праклятага " і за ўсё набалелае...

Чэслаў быў някепскім гаспадаром, але нешта ў яго характары ад нейкага часу сапсавалася. Ён усё часцей шукаў нагоды да выпіўкі. Шукаў кампанію такіх ужо, як і ён, гультаёў. А калі наступалі праваслаўныя Каляды, дык ён, бачыце, што ўздумваў – а то рубаў дровы, альбо на Вялікдзень – якраз у гэты час стараўся вазіць гной на поле.

Хлопцы з вёскі за тое не раз пераварочвалі яго воз з тым гноем. Такая была з яго халера... рабіў на злосць. А Гандзя заціскала зубы ды цярпела. Яна станавілася ад таго і скупая, і на дзіва працавітая. Не даесць, не даспіць дзеля таго, каб апошні грош аддаць свайму адзінаму сыну.

– Коля, уцякай у горад, – гаварыла няраз. – Бачыш, якое тут гора ды бяда. І з такім бацькам...

Сын нічога на гэта не адказваў маці. Бо што скажаш, калі дзень і ноч і яму балела душа і сэрца ад той крыўды лёсу?

Але гэтыя іхнія мукі нечакана закончыліся. Як часта бывала, сеў Чэслаў на свой матацыклет ды паехаў. А на мосце, добра, відаць, раней паддаўшы сабе, бултыхнуў з таго мосту ў раку і моцна пабіўся, паламаў сабе косці. Завезлі яго ў бальніцу. Там праляжаў тыдзень, ды так і не выйшаў адтуль.

І аказалася, які б з яго ні быў муж і гаспадар, усё ж гаспадарку сцярог мужчына. Няраз жа, бывала, вып'е, дасць волю сваім рукам, ударыць, пакалоціць, але, пацверазеўшы, возьмецца за работу, заарэ поле, пасее, пакосіць, пажне, звязе ўраджай. А тут і такога не стала...

Гандзі прыйшлося яшчэ горай, калі пахавала мужа. Цяпер мусіла рабіць і сваю, жаночую, і мужчынскую работу. Стала яна падзарабляць па людзях, каб пасля яны, як думала, ёй дапамагалі. Але хто ж у сярэдзіне лета кіне сваю работу, каб дапамагчы беднай удаве?

Аднак Гандзя мела зацяты характар і стала сама гаспадарыць. Уставала, калі яшчэ было цемнавата, даіла карову, затым вяла яе на луг. Вярталася дахаты, запрагала каня ды ехала ці касіць, ці араць. І ніколі перад людзьмі не наракала. Стаў часцей прыязджаць і сын дадому. Каб дапамагчы матулі.

Маці радавалася, што яе Коля закончыў вучобу, што вярнуўся да яе, у вёску. І атрымаў адразу някепскую працу. Стаў панам. Але не доўга трывала тое яе шчасце. Штораз часцей маці пачынала бачыць, што сын усё часцей вяртаецца дахаты падвыпіты, а то і п'янаваты. Вядома, ён быў геадэтам, а людзі не былі скупыя – запросяць зайсці ў хату, пакормяць, напояць. Не выліеш жа за каўнер, калі цябе частуюць. Бачыла, што Коля як бы і не заўважыў, што пасля пару месяцаў яго знялі з той першай пасады...

– І куды ты цяпер пойдзеш? Што ж ты нарабіў?! – папракала маці.

– Не бойся, мама, стану трактарыстам, – аднойчы сказаў ёй.

Гандзя не магла пагадзіцца з тым, што яе таленавіты, добра адукаваны сын, яе золата, будзе працаваць простым рабочым. Як яна гляне людзям у вочы...

– Не бойся, мама,  я і нашае поле заару. Лягчэй і табе будзе.

– Сынок, прападзеш ты – ціха сказала яна, – Я ведаю і ты ведаеш, як вёска знішчае людзей.

Гандзя даўно бачыла, што сын не толькі выглядам, але і слабасцямі характару цалкам ідзе следам свайго бацькі. У такія хвіліны яна ставала перад старою іконаю Багародзіцы і доўга малілася.

І стаў працаваць Колька трактарыстам і яшчэ больш пачаў выпіваць. Гандзя толькі глынала слёзы і вяла горкі малітоўны маналог з Богам: «Божа, за якія грахі я цярплю! Муж быў п'яніцай,  а зараз і сын...! Божа, Божа святы і міласэрны, злітуйся і памажы!». І штораз часцей малілася Гандзя і прасіла ў Бога шчасця для сына.

– Ажаніўся б ты, – уздыхала яна.

– Вясковыя дзеўкі хочуць гарадскіх хлопцаў, а не такога...

– Быў бы і ты панам, – уздыхала маці.

Аднак сын нават і слухаць не хацеў яе. І маці зноў станавілася на каленях на покуці і малілася.

– Божа, пашлі для Колі разумную жонку...

А гады ляцелі, міналі, як хмары на небе. У Польшчы адны падзеі паганялі наступныя, усё мянялася на вачах. Па тэлебачанні падавалі пра забастоўкі рабочых і нехта гаварыў, што з Польшчы пабудуе новую Японію. І гэтаму чалавеку паверылі мільёны з гарадоў ды вёсак.

І памянялася – але як каму: бедным на горшае, багатым на лепшае. У іхняй вёсцы зруйнаваўся калгас. Трактарысты з сельскагаспадарчага гуртка страцілі працу. Прыйшоў час, што і  Колька стаў беспрацоўным. І без працы апынуліся не тысячы, а мільёны. Закрываліся не толькі вялікія і малыя фабрыкі ды прадпрыемствы. Малачарні, мясакамбінаты, пякарні стаялі пустыя. Без працы засталіся тыя, што паверылі ў чароўную казку простага чалавека, які абяцаў

стварыць зямны рай над Віслай. Мільёны засталіся без хлеба. І паўсюль чулася адно і тое ж: „Спадар прэзідэнт, а нам як жыць?!”

Колька яшчэ горш распіўся. Бывала, што не вяртаўся нанач дахаты. Надарэмна чакала яго маці... “Мела б я дачку, была б пацеха, бо з сына адно гора», – думала Гандзя.

Вясною каторагась года адкрылі граніцу Польшчы з Беларуссю. Калі распаўся Саюз, шмат жыхароў новых рэспублік з-за усходняй мяжы хлынула ў Польшчу. Большасць з іх займалася прыватным гандлем. Ехалі сюды на чым папала – на старых Жыгулях, Запарожцах, Волгах, Масквічах. Прадавалі ўсё, што ўдалося перавезці праз мяжу: вопратку, механічныя інструменты, цыгарэты, гарэлку. Хітрэйшыя прадавалі спірт ды салярку. Бяднейшыя ехалі на аўтобусах ды цягнікамі ў Беласток на славуты тутэйшы базар. Непраданы тавар больш адважныя, кемлівыя і даверлівыя астаўлялі у вясковых людзей. Завязваліся знаёмствы, жыхары прыгранічных вёсак ветліва, як сваіх, сустракалі тых, хто прыязджаў і тых, хто ад'язджаў. Бо ж і яны былі такімі Сяргеямі, Міколамі, Сцяпанамі, Іванамі. Дзяліла іх толькі мяжа...

Вось так у іхняй вёсцы апынулася маладая дзяўчына. Святлане не спадабалася Польшча, якую хвалілі яе землякі з Брэста. Мала было, што не прадала ўсяго тавару, то яшчэ ўцёк ёй апошні аўтобус. Даехала да прыгранічнай мясцовасці. А што далей рабіць, не ведала. Куды пайсці?

Гандзя на вуліцы адразу прыкмеціла нетутэйшую дзяўчыну і запытала, хто яна ды адкуль. Даведаўшыся, што з Брэста, што гандлявала, што спазнілася, адразу запрасіла разгубленую дахаты...

Калі Колька ажаніўся са Святланай, ён спачатку пайшоў па розум да галавы і перастаў піць. Заняўся гаспадаркай, разбагацеў. Адным вясновым днём прыгнаў з Нарвы новенькі трактар.

– Маем свой трактар, то не згінем – з гонарам сказаў ён. Неўзабаве Святлана нарадзіла сына, Пятруся.

Як жа было ўдзячнае Богу сэрца старой жанчыны!

Святлана аказалася добрай гаспадыняй. Калі цёшча хацела нешта рабіць, то яна тут жа казала:

– Мамо, вы старыя, адпачывайце. Зробім мы.

– Дзіцятка, да працы я даўно прывыкла і цяжка мне адвучыцца.

Стаўшы перад старой іконай Казанскай Багародзіцы, яна зноў малілася Богу: «Божа ты мой, Ты выслухаў усе мае крыўды і слёзы».

А Святлана была не толькі добрай гаспадыняй.

– Баба-арол! – паўтаралі вясковыя людзі. Яны ўжо добра ведалі, што Гандзіна нявестка ўмее за сябе пастаяць.

– Пашчасціла твайму сыну, – з зайздрасцю казалі суседкі Гандзі, калі Святлана нарадзіла яшчэ і дачку, Ганначку.

– Хай расце здаровая – цешылася старая.

Але шчасце доўга не трывала...

Колю часто ставалася зусім дрэнна. І ён жа ад таго часу, калі пазнаёміўся са Святланай, гарэлкі ў рот не браў. Ды раптам у час жніва цалкам занядужаў. З поля забрала яго хуткая дапамога. І неўзабаве Гандзя даведалася, што сыну жыць засталося мала. Гандзя зноў заламала рукі.

Прамучыўшыся па бальніцах амаль паўгода, Колька і памёр, неведзь ад чаго і чаму. Перад смерцю пакаяўся ды паспавядаўся... З плачам абняла яна сваю нявестку і ўнукаў, калі апускалі труну, і ціхенька ды станоўча сказала:

– Не плачце! Такая Божая воля, мусіць. Я ж таксама выхавалася без бацькі! Не прападзем!

Яна помніла, як з сваёй матуляй Параскай доўга калісь чакалі з вайны Пятра. А ён і не вярнуўся. Старая і цяпер зацiснула зубы – і зноў не даядала, не спала, а раніцай у кожны чацвер ехала ў горад аўтобусам і вазіла на рынак яйкі, малако, гародніну, садавіну, каб неяк выжыць.

– Гандзя ў слоіках гадуе грошы – жартавалі суседзі. А і Святлана цяжка працавала і дзетак змалку прывучала да працы. Дачакалася Гандзя, што за супольна назбіраныя грошы Святлана купіла ў суседняй вёсцы навейшую хату і пераехала туды. Знайшліся добрыя людзі, што дапамаглі ёй. Уся сям'я ўладкавалася ў новую хату. Але Гандзя не захацела пераязджаць:

– Мне добра і ў старой хаце.

Потым падраслі ўнукі. Пятрусь закончыў ліцэй ды пайшоў вучыцца на інжынера, у тую ж вучэльню, дзе і ягоны бацька калісьці ву-

-чыўся.

– Ён у Кольку пайшоў – паўтаралі знаёмыя – мае галаву да матэматыкі! А Ануля – як выкапаная маці. Стройненька такая, як Святлана, не адгоніцца ад кавалераў. Як матылёк які ды тыя вялікія вочы, такія ж, як у маці.

У той час Святланай зацікавіўся Павел, саракагадовы кавалер, даўні сябрук спачылага Колі. Жыў ён адзін пры матулі. Меў залатыя рукі: сам умеў рабіць сталярку, паправіць санвузлы, электрыку, наладзіць любую машыну. Калі-нікалі нясмела наведваў маладую ўдавіцу, калі трэба было нешта ёй дапамагчы. Павел не піў. Святлана адразу адчула, што Павел чалавек някепскі. І дзеці прывыкалі да яго.

Неўзабаве згулялі вяселле Ганулі. Яна выйшла замуж і стала жыць у паблізкім горадзе. Пятрусь закончыў палітэхнікум і таксама стаў гараджанінам. Не прамінуў аднак год, як ад яго прыйшоў ніяк не чаканы ліст да маці. Ён пісаў ёй, што вырашыў вярнуцца ў вёску, гарадское жыццё, пісаў, замітуслівае і пужае яго, яму сніцца роднае. Святлана з гэтай благой весткай і паехала да свякрухі. А тут старая Гандзя, паслухаўшы яе, раптам сказала:

– А я сваё аджыла...

– Ну што Вы, мамо, гаворыце…

Праз дзень яна адышла – у сне, спакойна і ціха.

– Добрая была баба Гандзя – гаварылі людзі, хто яе ведаў. – Толькі лёсу свайго не перахітрыш, не пераіначыш.

Праз пару месяцаў вярнуўся ў вёску Пятрусь. А месяцам пазней Святлана выйшла замуж за Паўла.

*Юрка Буйнюк*



21 лютага 2020 года памёр беларускі паэт і празаік

# Дзмітры Шатыловіч

Аўтар кніг паэзіі:

*Эцюды падарожжа*, 1992
*Маё Падляшша*, 1993
*Хвалі часу*, 2000
*Асеннія промні*, 2006
*У ціхай лагуне*, 2010
*Забытая даліна*, 2011
*Вясновы гай,* 2012
*Водгукі жыцця*, 2016 і інш.

і ўспамінаў:

*Успаміны. 1955–1988*, 2013
*W labiryncie niewoli*, 2016
*Wspomnienia z mojego życia*, 2019

Беларускія пісьменнікі Польшчы
выказваюць шчырае спачуванне сям'і нябожчыка.

*Ганна Рэлікоўская*

## РОДНАЙ МОВЕ

Я словы знайшла, і я зноўку гатова
Свой верш прысвяціць табе, родная мова!
Як нізку бурштына, як зерне ў жменьку,
Збірала я словы ў душы памаленьку.
Як жэмчуг , вырошчвала ў схові́шчах водаў,
Каб мова заззяла мая між народаў.
Да кожнага слова – пашана, павага,
Заход асаблівы. Нялёгкая справа.
Сапраўдны баец куль не траціць дарэмна,
Так словы кладуцца ў радок патаемна
Адно ля другога. Ні меней, ні болей.
І кожнае – з радасцю, кожнае – з болем.
Як быццам ўзор на крыштальнай пасудзе,
Так верш нараджаецца: цуда на цудзе.
І словы тут нельга адняць ці дабавіць,
Бо зменіцца сэнс, бо забудзецца памяць.
Нясу табе, мова, свой верш на абрусе
І нізенька-нізка у дол пакланюся
За моц і пяшчоту, за мужнасць і ласку,
За вершы і песні, за мудрую казку,
За веру, што сэрцамі шчыра прывечана,
За Беларусь, што табою асвечана!

# ПАДЗЯЛІЦЕ ЎСМЕШКУ

Бывае, дні паўзуць, як чарапахі.
Здаецца, ну калі ж надыдзе ноч?
І ў галаву зноў запаўзаюць жахі,
Не ўцячы ад іх, куды ні кроч.
Але, нібыта сонейка скрозь хмары,
Прыходзіць дзень, напоўнены святлом.
Мільгаюць тыдні. Ты,  як на пажары,
Спяшыш, ляціш, каб справіцца з агнём.
І адчуваеш – сіл на ўсё хапае:
Абняць, прывеціць, абагрэць цяплом.
І жах ніводзін больш не зазірае,
І людзі плацяць за дабро дабром.
Жывіце, людзі, радасцю! Жывіце
І для другіх, не толькі для сябе.
З чужым і з родным ўсмешку падзяліце –
Больш стане шчасця на зямлі ўдвайне.

*Ганна Рэлікоўская*



# АРЫЯДНІНА НІТКА

Не спрабуй мяне з думкай зрадніць,
Што пяшчота душы не ў фармаце,
Што разлік, асалода, карысць –
Тры сланы, што сучаснасць трымаюць.

Ведаю я: прыцягальны – камфорт.
Тэмп жыцця закілзаў нашы душы
І ў шматлікіх людзей боскі код
Ад штодзённай напругі парушыў.

Пакрываецца сэрца ільдом
Ад нуды, ад душэўнай ляноты.
Ды ратуе ад іх не “садом”,
А сяброўства, каханне, пяшчота.

Ставіш прыкладам тых, хто гатоў
Неабачліва перлы кахання
Прамяняць на пуды медзякоў –
Хай жа цешацца зманлівым ззяннем...

Слепакам можаш ты выдаваць
Усур’ёз чорны колер за белы
І з халоднай усмешкай сцвярджаць,
Што любоў, як дуэль, састарэла.

*Валянціна Осіпава*



# *Радзім Гарэцкі*

## Чарговы “Жыццёвы меланж”

У адным з нядаўніх лістоў Галіны Паўлаўны Тварановіч з віншаваннямі да Новага года была фраза “Чакаем чарговы “Меланж…”, якая заўсёды не толькі нагадвала і прымушала брацца пісаць працяг “Жыццёвага меланжа”, але добрыя словы аўтараў віншавання Галіны Тварановіч і Яна Чыквіна натхнялі мяне на гэтую працу. Асабліва ўдзячны я быў сябрам БЛА “Белавежа”, якія ў часопісе “Тэрмапілы” (№ 22, 2018), звярнуліся да мяне, як да “выдатнага сына беларускай зямлі… сталага аўтара “Тэрмапілаў”, працягнуўшы: “Ад усёй душы, сардэчна віншуем з 90-годдзем… Радзіма Гарэцкага. Многія леты!” і змясцілі вялікі тэкст майго “Жыццёвага меланжа 2017 –2018 (травень 2017 – красавік 2018)”. Я пачаў пісаць “Жыццёвы меланж 2018–2019”, над якім даволі пільна працаваў да канца лютага 2019, бо нечаканая сітуацыя са здароўем і іншыя тэрміновыя справы не пакідалі вольнага часу, каб адчуць “меланжавы” настрой, але я дапрацаваў тэкст і адаслаў яго ў Беласток якраз у красавіку.

Ужо ў лютым 2019 года мае кардыёлагі (ды і я сам разам з маёй ахоўніцай Галяй) адчулі непарадак з электракардыёстымулятарам (ЭКС), які мне яшчэ ў снежні 2015 года вопытны хірург-кардыёлаг Сяргей Аляксандравіч Сівак падчас аперацыі ўклаў у левы бок грудзей ЭКС (як я тады пажартаваў: “замест сэрца – палымяны матор”). Асабліва часта прыйшлося наведваць розных урачоў Лечкамісіі і з траўня 2019 года – у першую чаргу кардыёлагаў і галоўнае С.А. Сівака і нават акадэміка А.Г. Мрочака. Пачаліся і шматлікія працэдуры: кроў з пальца і вены для розных аналізаў, электракардыяграма, УЗІ ўсякіх частак арганізма, Холтер, спецапаратура

ў Сівака і інш. Нават сур'ёзныя працэдуры трэба было прайсці ў акуліста, а пазней і хірурга-акуліста (лекі ад сардэчна-сасудзістай сістэмы паўплывалі на вочы – "адно лечаць, іншае калечаць"). Неабходна было пастаянна наведваць маіх даўніх урачоў, хаця б для таго, каб выпісаць рэцэпты на лекі: эндакрынолага – падтрымаць гармоны і супраць дыябету, а таксама інфекцыяніста – супраць гепатыта С.

Часта бывае так, што адна хвароба прыцягвае да сябе іншую. 1 чэрвеня 2019 года было горача, але я бадзёра рухаўся з працы і ўжо на ганку да нашага пад'езда здарылася нечаканая падзея. Раней я мог, калі спяшаўся, рабіць адначасова некалькі спраў. Цяпер такое стала цяжкавата, і я стараўся ўсё выконваць па парадку. Спяшаючыся хутчэй трапіць у кватэру, я на хаду даставаў з партфеля ключы, зачыняў яго і цягнуўся з ключамі да дзвярэй, і калі быў ужо на самай апошняй прыступцы, зачапіўся нагой за яе край і паляцеў на левы бок. Аб бятон ганка моцна пабіў галаву, плячо, руку, нос, што і ўстаць сам не змог, пакуль мне не дапамаглі суседка і мая Галя. На памяць аб падзеі засталася невялікая лужынка крыві. Прыйшлося хадзіць яшчэ да аднаго ўрача – вельмі ўважлівага, добрага хірурга, які правёў усе неабходныя працэдуры, выпісаў лекі і мазі, так што я паступова пазбавіўся ад гэтых новых балячак, пакінуўшы ў душы шчырую ўдзячнасць хірургу.

Шматлікія намаганні С. Сівака з дапамогай розных урачоў не далі станоўчых вынікаў, і ў канцы верасня ён усё ж вырашыў рабіць аперацыю па рамонту ЭКС. 1-га кастрычніка мяне паклалі ў тэрапеўтычнае аддзяленне, 3-га кастрычніка зрабілі аперацыю, а 11-га мяне выпісалі з бальніцы і адпусцілі дадому.

На бюлетні я быў аж да 25 лістапада, але наведваць Лечкамісію прыходзілася даволі часта. Нарэшце, 20 лістапада 2019 года С. Сівак канчаткова праверыў працу ЭКС, застаўся задаволены і ўрачыста паведаміў мне, што ЭКС годны аж на 12 гадоў 8 месяцаў, а яго трэба будзе наведаць толькі праз 6 месяцаў, у чэрвені 2020 года. Вось таму я змог зноў знайсці час працаваць над "Жыццёвым меланжам 2019–2020", самае галоўнае – нават з'явіўся "меланжавы" настрой.

***

Не толькі стан здароўя перашкаджаў нармальна жыць і працаваць, але і розныя падзеі адхілілі ад самага галоўнага ў маім жыцці – ад

навуковай працы і часткова ад літаратурнай. Апошнія разам з іншымі не давалі магчымасці канкрэтна заняцца “Жыццёвым меланжам” для “Тэрмапілаў”. Асабліва балючымі і цяжкімі былі адыходы ў іншы свет сяброў і блізкіх знаёмых, а за мінулы час 2019 года – ужо 14 чалавек: у лютым – акадэмік-гісторык М. Касцюк, дэпутат ВС 12 склікання С. Домаш і журналіст, карэспандэнт газеты “НВ” Св. Кліменценка; у сакавіку – калега па працы А. Сінічка, даследчык беларускай культуры А. Статкевіч-Чабаганаў і перакладчык, літаратар В. Стралко; у красавіку – калега па працы В. Астапенка; у траўні – калега па працы са Швецыі С. Багданава; у ліпені – калега па працы бацька Наташы Р. Рудкоўскі; у жніўні – дырэктар Інстытута прыродакарыстання акадэмік А. Карабанаў; у кастрычніку – калега па працы, сусед па дому І. Сяржынскі і калега па працы М. Ясавееў; у лістападзе – калега па працы У. Калкоўскі і калега па працы А. Шуравін.

Шмат часу займала навуковая і навукова-арганізацыйная праца, тым больш, што мы выконвалі не толькі беларускія праекты, але і з калегамі РАН, міжнародныя, а таксама агульны праект з геолагамі і геафізікамі Украіны, Польшчы і Германіі. Вялікія цяжкасці Інстытуту прыродакарыстання і асабліва нашым геолага-геафізічным лабараторыям прынесла смерць дырэктара акадэміка Аляксандра Кірылавіча Карабанава, што выклікала значныя арганізацыйныя мерапрыемствы. Ён некалі быў вучнем Г.І. Гарэцкага, з якім пачаў працаваць яшчэ студэнтам, а пазней – і маім. Таленавіты вучоны, здольны арганізатар і добры чалавек вырас да ўмелага дырэктара буйнога шматгаліновага Інстытута НАН Беларусі.

Мая праца над “Жыццёвым меланжам” выклікала жаданне больш сістэматычна напісаць пра маё даволі складанае жыццё. У гэты час мая суседка па нашаму вялікаму дому, вядомая пісьменніца Лідзія Сямёнаўна Савік пазнаёміла мяне з сур’ёзным даследчыкам беларускай літаратуры старадаўняга шляхецкага роду мільянерам Анатолем Васільевічам Статкевічам-Чабаганавым, які вырашыў у сваіх катэджах пад Менскам стварыць музей беларускай культуры. У Л. Савік, а потым і ў мяне ён прыняў для музея розныя цікавыя яму матэрыялы, якія я пазней бачыў у яго прыгожых шафах, паклаўшы пачатак будучага музея. Ён папрасіў прысылаць у музей яшчэ штонебудзь. Усё гэта падштурхнула мяне пачаць пісаць кнігу, якая цяпер стала даволі тоўстай і мае назву “Пра сябе, пра жыццё, пра

гісторыю…”. Першая частка “Сын <ворага народа> ахоплівае 1928–1952 гады. Я яе напісаў у 2016 годзе. Мая памагатая – Наталля Рудкоўская надрукавала на камп’ютары, Лідзія Савік, як рэдактар-літаратар, прачытала і ёй спадабалася. Тады мы пераслалі яе Анатолю Статкевічу-Чабаганаву, яму кніга таксама прыйшлася даспадобы – ён вырашыў укласці яе ў тую серыю беларускіх кніг, якую хацеў выдаваць у папяровым і электронным выглядзе і шырока распаўсюджваць па розных краінах свету.

6 сакавіка 2017 года я змог пераслаць яму другую частку “У Акадэміі навук СССР (Масква)”, якая прысвечана 1952–1971 гадам і падрыхтавана такім жа чынам, як і першая.

Яшчэ ў 2012 годзе ў трэцяй кнізе серыі “Летопись белорусской шляхты” Анатоль Статкевіч-Чабаганаў у манаграфіі “Я – сын Ваш” змясціў багаты матэрыял пра прадстаўніка дваранскага роду Некрашэвічаў герба “Любач” Сцяпана Міхайлавіча Некрашэвіча (1883–1937) – выдатнейшага беларускага мовазнаўца, першага старшыні Інбелкульта, акадэміка і віцэ-прэзідэнта Беларускай акадэміі навук. Аўтар кнігі змясціў партрэты Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх, а на аснове маёй кнігі “Браты Гарэцкія” распавёў пра іх сяброўства і паездку С. Некрашэвіча і Г. Гарэцкага ў Польшчу і Германію. У хатнім архіве майго бацькі я знайшоў добры фотаздымак Гаўрылы Гарэцкага і Сцяпана Некрашэвіча (Менск, 1926 г.), які таксама змешчаны ў кнізе. Іх далейшы лёс блізкі: у 1930 годзе абодва арыштаваны, сасланы, а ў 1937 годзе зноў арыштаваны, але калі Г. Гарэцкі цудам застаўся жывым, дык С. Некрашэвіч быў 20 снежня 1937 г. расстраляны.

У дзень нашага юбілею (90 і 70) Анатоль Васільевіч разам з Лідзіяй Сямёнаўнай наведалі нас у кватэры, павіншавалі, ён, апрача розных падарункаў, падараваў мне чарговую кнігу – сёмую з серыі “Летапіс беларускай шляхты” з такім надпісам: *Шаноўны Радзім Гаўрылавіч! Увесь Ваш род – волаты беларускай культуры і навукі. Здароўя Вам у Ваш юбілей. А. Статкевіч-Чабаганаў. 07.12.2018 г.* Развітваючыся, ён зноў нагадаў, што чакае ад мяне трэцюю частку і пажадаў, каб хутчэй.

Трэцяя частка “У Акадэміі навук БССР (Менск)” ахоплівае 1972–1992 гады. Я яе напісаў ужо да пачатку сакавіка 2019 года. Лідзія Савік 16 сакавіка пазваніла Анатолю Васільевічу, каб спытаць, ці

можна яму паслаць гэтую частку, але да тэлефона ніхто не падыходзіў, што спужала нас. І не дарма – 26 сакавіка 2019 года ноччу Анатоль Васільевіч Статкевіч-Чабаганаў памёр ад інсульта. Яго справу, відаць, ні жонка, ні два сыны працягваць не будуць – прынамсі, да гэтага часу нічога не чуваць.

Чацвёртую частку "У Акадэміі навук Беларусі (верасень 1991 – травень 1997) і ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (травень 1997 – сучасны момант)" таксама напісаў, ужо вядомым шляхам яе падрыхтавалі да друку. Яна самая вялікая па аб'ёму. Цяпер галоўная задача – як выдаць гэтую кнігу з чатырох частак.

## Выданне кнігі робіцца магчымым…

У верасні 2019 года я поўнасцю закончыў сваю кнігу "Пра сябе, пра жыццё, пра гісторыю…", якую Наталля Рудкоўская надрукавала ўжо як адну і якая складаецца з чатырох частак са сваімі назвамі. Я нават папрасіў Генадзя Вінярскага падлічыць магчымы кошт выдання такой даволі вялікай кнігі: пры накладзе 150 экз. Гэта каштуе прыблізна 5 тысяч даляраў, а пры накладзе 300 экз. – 7 тысяч, а хутчэй, трэба дадаць яшчэ па 1 тысячы даляраў. Пошукі спонсараў на такую суму ні ў Лідзіі Савік, ні ў мяне пакуль што не былі станоўчымі. У кастрычніку Таццяна Якубоўская размаўляла з Глебам Лабадзенкам, які згадзіўся чым-небудзь дапамагчы для выдання кнігі. Пасля розных размоў, пошукаў 12 лістапада спадар Глеб пазваніў мне і сказаў, што калі кнігу выдаць як адну і толькі з чорна-белымі фота, можа атрымаецца прыблізна 3 тысячы даляраў. Спытаў, ці можа ЗБС "Бацькаўшчына" трохі дапамагчы грашыма, і ўжо на наступны дзень даў згоду друкаваць, бо А. Макоўская абяцала трохі дапамагчы, а Лідзія Савік згадзілася напісаць прадмову. Глебу даслалі ўвесь тэкст кнігі і фота. Пазней ён папрасіў прыслаць фота для вокладкі, якую даручыў зрабіць спецыялісту ў гэтай справе. Апрача таго, як мне пазней перадалі, Глеб абвясціў пра кнігу і прасіў дапамагчы для яе выдання любым фінансаваннем. Ён чалавек вельмі энергічны і хацеў, як мага хутчэй (нават да Новага года) выдаць кнігу, але, больш уважліва пазнаёміўшыся з тэкстам, убачыў, што шмат памылак, і таму без карэктаркі не абысціся, а Ніна Шыдлоўская дапамагла знайсці добрую кандыдатуру.

***

Ужо ў першую палову студзеня вёрсткі першай і другой часткі – вельмі дасканала, а трэцяй – толькі выбарачна – былі зроблены. Пазваніў мне выдавец кнігі Ігар Віркоўскі, які пацікавіўся, як ідзе справа з праўкай вёрсткі, і адмовіўся ад прапанаванай мной аплаты іх працы. Глеб для хуткасці разам са мной прагледзеў вёрстку і мы падправілі ўсе назвы геаграфічных адзінак адпаведна так, як вызначана ў Вікіпедыі. Апошняя справа даволі значная, бо большасць назваў, якія я пісаў па-старому, як аказалася, патрабуюць змены. Карэктарка ўзяла чытаць вёрстку III і IV частак кнігі, але праз некаторы час захварэла і праца застапарылася. Даволі хутка наляцеў каранавірус і пандэмія – усё з кнігай заглухла. Нечакана ў пачатку красавіка 2020 года пазваніў Глеб і прывёз тэкст I–III частак, каб я прагледзеў усе фотаздымкі, падправіў надпісы, а ён потым забраў бы. Глеб да небяспечнай сітуацыі ў краіне ставіцца вельмі сур'ёзна, таму ходзіць у добрай масцы, на хвіліну сустракаецца на лесвіцы, каб хутчэй узяць перадачу і збегчы да сваёй машыны. У сярэдзіне красавіка ён у мяне ўзяў тры часткі, але ні Глеб, ні я не можам звязацца з карэктаркай (не адклікаецца на тэлефанаванне) і вымушаны чакаць гэтую "залатую рыбку".

## Інстытут прыродакарыстання пасля акадэміка А.К. Карабанава

Калі я яшчэ з лютага 2019 года быў вымушаны "рамантаваць" мой сапсаваўшыся электракардыёстымулятар (ЭКС) і без канца ездзіць у "Лечкамісію" на шматлікія працэдуры і да розных спецыялістаў (асабліва С. Співака), 3 жніўня раніцою мне пазваніў Р.Я. Айзберг і паведаміў, як сказала яму Галіна Васільеўна, што ноччу нечакана памёр А. Карабанаў. Усе супрацоўнікі Інстытута і асабліва лабараторыі Цэнтра навук аб Зямлі былі ў шоку ад смерці адносна яшчэ маладога (67 гадоў) дырэктара – выдатнага арганізатара і добразычлівага чалавека. Кіраўніцтва НАН Беларусі адразу прызначыла намесніка дырэктара доктара навук кліматолага Сяргея Аляксандравіча Лысенка в.а. дырэктара. Так склалася, што 4 жніўня Уладзіміру Талсташэеву споўнілася 70 гадоў (ён быў у адпачынку) – я яму пазваніў, павіншаваў і паведаміў сумную падзею.

6 жніўня ў Вялікай зале Прэзідыума НАН Беларусі адбылося

развітанне, а затым на спецыяльных аўтобусах паехалі на пахаванне на Усходніх (Маскоўскіх) могілках недалёка ад многіх сяброў, знаёмых і іншых выдатных дзеячоў Беларусі. Развітальныя словы прыйшлося гаварыць пад спецыяльным шатром, каб схавацца разам з трунай ад значнай гарачыні. Пасля на тых жа аўтобусах прыехалі ў акадэмічнае кафэ, дзе адбыліся памінкі. Мы ад імя рэдкалегіі, сяброў і калег напісалі ў раздзел “Страты навукі” ў часопіс “Літасфера” пра А. Карабанава.

Значная праблема ўзнікла ў сувязі кандыдатурай кіраўніка Цэнтра навук аб Зямлі. Нарэшце знайшлі былога супрацоўніка Інстытута геахіміі і геафізікі, які абараняў кандыдацкую дысертацыю па геатэктоніцы і геафізіцы, Роберта Эдмундавіча Гірына, які даў згоду. Мне асабіста ён падабаўся не толькі як здольны спецыяліст, але і сапраўдны беларус, які добра валодаў беларускай мовай і быў адданы сваёй Бацькаўшчыне. Р.Я.Айзберг і я звярнуліся да новага дырэктара С.А. Лысенка, які быў вельмі далёкі ад геолага-геафізічных навук, але ўважліва прыслухаўся да нас і пачаў працяглую працэдуру зацвярджэння Р. Гірына, якая закончылася станоўча.

Я пасля свайго падзення ў чэрвені 2019 года на ганку пад’езда, нягледзячы на ўдалае лячэнне, згубіў цвёрдую раўнавагу, таму Галя купіла так званыя скандынаўскія палкі, з якімі мы хадзілі на прагулку, а другі раз і па справах. Калі прыходзілася наведваць “Лечкамісію” ці Інстытут, я карыстаўся кійком, які застаўся яшчэ ад майго Таты.

Па магчымасці я ўдзельнічаў у шэрагу мерапрыемстваў: навуковых нарадах; віншаваннях з юбілеямі (у жніўні – (пасмяротна) Вадзім Мікалаеў з Масквы – 80; у верасні – Уладзімір Саўчанка – 80, Галіна Зінавенка – 85, Анатоль Кудзельскі – 85, Васіль Жуковіч – 80; у кастрычніку – Уладзімір Хрыпач – 70; у снежні – Валер Ярцаў – 80, Уладзімір Макарэвіч – 85, Станіслаў Шушкевіч – 85); сустрэчах у сувязі с падзеямі ў Курапатах; Рада “ТБМ”; рэдагаванне матэрыялаў XXVII Гарэцкіх чытанняў; Малая Рада ЗБС “Бацькаўшчына”; Беларускі фонд культуры – памяці Івана Чыгрынава ў Музеі беларускай літаратуры.

За тыя нашы кабінеты, у якіх мы працавалі ўвесь час, сучасныя гаспадары будынка былога Інстытута геахіміі і геафізікі ўзнялі вельмі вялікую суму фінансавання за арэнду і аплату ўтрымання. Апрача таго патрабавалі тэрмінова вызваліць і шэраг пакояў, дзе хавалася

наша маёмасць (абсталяванне, карты і інш). У Інстытута прыродакарыстання (ІП) грошаў на гэтую аплату няма, таму быў аддадзены загад тэрмінова вызваліць усе кабінеты, а ўсё з іх перавесці ў памяшканне ІП. Як раз у гэты час я ляжаў у “Лечкамісіі” на аперацыі, а затым яшчэ і быў на бюлетэні. У час маёй адсутнасці намеснік дырэктара па гаспадарчых справах А. Сарокін і Р. Гірын змаглі падрыхтаваць мне новы кабінет і разам з нашымі працаўнікамі (Грыбік, Люда, Наташа і інш.) і спецыяльна нанятымі рабочымі перавесці ўсю нашу маёмасць.

19 кастрычніка Роберт заехаў на сваёй машыне за намі і мы з Галяй агледзелі мой новы кабінет, які нам спадабаўся: на першым паверсе, светлы вялікі пакой, а побач з ім яшчэ – значна меншы пакойчык з ракавінай для вады. Пад наглядам Наташы ўжо паставілі мой стол для працы, каля яго вялікі стол , па сценках – шафы з кнігамі і інш. Наташа размясцілася ў малым пакоі з усімі сваімі прыладамі.

2 снежня Роберт паведаміў, што ўсё са старога кабінета перавезлі, ён зусім пусты. Праз пару дзён ён зноў прыехаў за намі, каб яшчэ раз намеціць разам з Наташай і інстытуцкім майстрам-столярам размяшчэнне пакояў і прапанаваў тут павіншаваць нас з днямі нараджэння (91 і 71 гады). Якраз у гэтыя дні мне пазваніў Міхаіл Анціпаў і паведаміў, што ён і Юрый Волаж збіраюцца прыехаць да мяне, каб канчаткова скласці праграму нашага сумеснага артыкула пра сучасныя веды пра платформы.

9 снежня 2019 года добрай камандай, чалавек каля 30 сяброў (у тым ліку з Анціпавым і Волажам), разам з дырэкцыяй ІП на чале з С. Лысенкам адзначылі наш дзень нараджэння. Як заўсёды, з цікавымі, вясёлымі і сумнымі ўспамінамі, жартаўлівымі пажаданнямі, добразычлівымі прапановамі і г.д. Я шчыра падзякаваў усіх прысутных кожнаму выказаў сваё пажаданне.

На наступны дзень я разам з масквічамі пільна працаваў у нашай кватэры, а пад вечар заехаў Андрэй Каўхута, які разам з Віктарам Канішчавым хацеў паразмаўляць з Юрыем Волажам і Міхасём Анціпавым, забраў у сваю машыну маіх гасцей і адвёз на вакзал да цягніка ў Маскву.

У новым кабінеце сустракаліся па розных навуковых і навукова-арганізацыйных справах (абмеркавалі магчымыя варыянты тэмы доктарскай дысертацыі Роберта Гірына, які хоча паступаць у дак-

тарантуру ІП; праграмы тэматыкі нашых даследаванняў на новую пяцігодку; заслухалі справаздачы нашых аспірантаў: Г.А. Аронаў – кіраўнік Р.Я. Айзберг, П.В. Шаблыка – кіраўнік Р.Г. Гарэцкі, С.Л. Сушкевіч – кіраўнік Я.Г. Грыбік, А.К. Хібіеў – кіраўнік Г.І. Каратаеў; я з Г.І. Каратаевым некалькі разоў працавалі над агульнымі артыкуламі і г.д.).

14 снежня 2019 года ў нашай кватэры сабраліся галоўным чынам удзельнікі былой паездкі па Еўропе на "Амбулансе" (Марыя Міцкевіч, Станіслаў Саковіч з жонкай Таццянай, Мікола Люцко і Наталля Адамовіч), каб адзначыць дзень нараджэння Радзіма і Галіны Гарэцкіх. Галя падрыхтавала шыкоўны закус і самыя розныя напоі і мы так слаўна, весела, з гумарам, па-сапраўднаму выдатна правялі сустрэчу. Зусім не хацелася разыходзіцца.

Родныя мужа Вольгі Гарэцкай Сашы Калесніка даўно вельмі хацелі сабрацца з якой-небудзь нагоды ў нашай кватэры, каб пабачыць, як жывуць бацькі жонкі іх дарагога Сашы. І вось 21 снежня 2019 года ў сувязі з нашым салідным па ўзросту днём нараджэння да нас прыйшлі маці Сашы Валянціна Віктараўна, яго сястра Святлана з мужам (таксама Сашам) і сынам Ільёй, і, безумоўна, наша Вольга з Сашам. Галя, як заўсёды, зрабіла выдатны стол, за якім добра пасядзелі, пагаманілі пра мінулае і сучаснае жыццё, пахадзілі і са значнай цікавасцю (асабліва Валянціна Віктараўна) пазнаёміліся з нашымі пакоямі, пра якія расказалі два гіды – гаспадары кватэры.

29 снежня 2019 года Язэп Янушкевіч і Уладзімір Някляеў запрасілі мяне і Галю на прэзентацыю кнігі Ул. Някляева "Знічы кахання", якая мела адбыцца ў $19^{\underline{00}}$ на другім паверсе Грай-кафэ ў час выдатных заняткаў Глеба Лабадзенкі і Алесі Літвіноўскай "Мова нанова". Зала – паўнюсенькая, не было вольных месц. Добра, што Язэп захаваў для нас два ў першым радзе. Някляеў трохі затрымаўся (пробкі на дарогах). Глеб, убачыўшы мяне, раптам даў слова, каб я паведаміў пра сваю кнігу "Пра сябе, пра жыццё, пра гісторыю…", што мне прыйшлося выканаць. Уладзіміра Някляева сустрэлі з вялікім уздымам, асабліва горача адгукаліся на кожны яго верш, які ён чытаў з найвыдатнейшым майстэрстам, лепш, чым прафесійны акцёр, ды і новая кніга лірыкі была прысвечана вялікаму каханню і складалася з раздзелаў: Аліва, паэма "Калі мяне не стане", Марыя, Магдалена, Нальшанская легенда "Зорка Дзіва", Знічы кахання,

Любоў. Пазней можна было набыць кнігу, адстаяць даволі значную чаргу і атрымаць аўтограф аўтара. Мы стаялі, не ведаючы, што рабіць. Раптам да нас падыйшлі нашы даўнія сябры, з якімі мы ўжо шмат гадоў не бачыліся, Таццяна Процька і яе муж. Аказалася, што яны жывуць не толькі ў сваёй беларускай сядзібе, а – больш часу ў ЗША разам са сваімі любымі нашчадкамі. Яны – спонсары гэтай прыгожа выдадзенай кнігі, а Таццяна Процька зрабіла ўкладанне, Уладзімір Вішнеўскі – ілюстрацыі, Кастусь Вашчанка – дызайн. Яны ўзялі кнігу і без чаргі аддалі яе для аўтографа Уладзіміру Някляеву, які зрабіў такой надпіс: *Дарагому спадару Радзіму і вялебнай спадарыні Галіне з усёй павагаю, замілаваннем і пяшчотаю, – Ул.Някляеў. 29.12.2019*. Тут жа да нас падыйшоў мастак Уладзімір Вішнеўскі і на гэтым жа экземпляры кнігі зрабіў аўтограф*: Шаноўным спадару Радзіму і спадарыні Галіне з нізкім паклонам. У.Вішнеўскі*. Мы былі ўсім вельмі ўдзячны, цёпла развіталіся і паціху пакрочылі да выхаду, на лесвіцы сустрэлі радасную Валю Някляеву, якая дачакалася прыезду свайго дарагога Валодзі са Швецыі і свяцілася шчасцем ад тых вершаў, якія яна пачула сёння пра каханне да яе.

## Сонныя думкі, успаміны, прадбачанні, якія прыходзяць, калі спіш

Калі спіш, мозг працягвае працаваць… Часцей усяго прыходзяць розныя думкі пра тое, над чым працуеш, што адчуваеш, бачыш, што хвалюе цяпер, прычым нярэдка думкі самыя нечаканыя, важныя, цікавыя, патрэбныя. Значна радзей наведваюць сонныя ўспаміны пра мінулае, перш-наперш пра сваіх родных, блізкіх, сяброў ці знаёмых, як прыемных, так і кепскіх для цябе. Яшчэ радзей бывае, што ў сне ўбачыш нешта пра будучае ў выглядзе прадчування таго, што можа здарыцца ў жыцці (тое-сёе такога кшталту нават ужо ўспамінаецца), а цяпер пачало з’яўляцца нешта такое, што раптам здарыцца ў будучым – зусім дзіўнае, незразумелае.

***

Калі ў пачатку снежня 2019 года наблізіліся Галін і мой “юбілей” (71 і 91 гады), я вельмі выразна ўбачыў шасцідзесяцігоддзе Аляксандра Леанідавіча Яншына, але не галоўныя падзеі яго юбілею

(яны прыведзены ў маёй кнізе “Академик Яншин – дорогой мой учитель и друг”” – Москва, Наука, 2005), а вечарынку ў рэстаране, дзе адносна невялікай колькасцю самых блізкіх сяброў (былі і некалькі яго вучняў) адзначалі слаўны юбілей выдатнейшага акадэміка-вучонага шырокага профілю.

Тады я ад імя яго вучняў выканаў віншаванне ў выглядзе песні на матыў і па аналогіі з вядомым цыклам “Прекрасная мельничиха” аўстрыйскага кампазітара, аднаго з заснавальнікаў рамантызму ў музыцы Франца Шуберта “В движении мельник жизнь ведёт, в движении”. Мне хацелася, каб мы не толькі павіншавалі Яншына з юбілеем, але і выказалі нашы пажаданні, адзначаючы сутнасць яго характара і моцную любоў да працы.

Амаль праз 50 гадоў я, 91-гадовы чалавек, салодка заснуў і раптам выразна чую свой малады чысты голас, які спявае:

*Поздравить рады мы его, поздравить,*
*Поздравить рады мы его, поздравить,*
*О, Яншин наш Вы дорогой.*
*Ведите нас Вы за собой*
*Всё выше, всё дольше,*
*Всё выше, всё дольше.*
*В движении Яншин жизнь ведёт, в движении,*
*В движении Яншин жизнь ведёт, в движении,*
*О, Яншин наш Вы дорогой.*
*Возьмите нас и Вы с собой*
*Всё дальше, всё дальше,*
*Всё дальше, всё дальше.*
*Во град Москву приехал он, уехал,*
*В Новосибирск приехал он, уехал*
*О, где поймаем мы его*
*Руководителя своего*
*О где же,*
*О где же.*
*Толпится всё народ к нему, толпится,*
*Толпится всё народ к нему, толпится.*
*Пришёл совет, ушёл совет,*
*Начался новыё комитет*

*Всё больше, всё больше,*
*Всё больше, всё больше.*
*Кружится вихрем жизнь его, кружится,*
*Кружится вихрем жизнь его, кружится.*
*Но не оставим мы его –*
*Учителя и своего –*
*Мы с Вами, мы с Вами*
*Мы с Вами, мы с Вами.*

Праз некаторы час прачнуўся, з задавальненнем успомніў такі добры сонны момант, прайшоўся і зноў заснуў. Ужо пад ранне патроху пачынаю прачынацца і зноў чую спевы маладога хлопца, прыслухоўваюся, і пазнаю сябе, і дзіўлюся, што можна так доўга спяваць… Як добра, што сонныя ўспаміны ў значна цяжэйшы час могуць нечакана прынесці асалоду ад прыемных мінулых момантаў жыцця.

### Помнік Хведару Нюньку – найвыдатнейшаму дзеячу беларускага адраджэння

6 красавіка 2018 года Хведару Нюньку споўнілася 90 гадоў, у гэты дзень я з Галяй разам са шматлікімі прысутнымі цёпла і шчыра віншавалі нашага дарагога сябра. Нечакана з вялікім сумам пачуў жудаснае паведамленне – 15 жніўня 2018 года Хведар Нюнька памёр. Пахавалі яго на праваслаўных могілках у раёне Ліпаўка побач з яго любай жоначкай Нінай. Вырашылі, каб абавязкова праз год у 2019 годзе быў усталяваны помнік. Але патрабавалася сур'ёзная рэканструкцыя, што вымушала да значнага фінансавага ўкладання. Асноўны цяжар гэтай справы лёг на слаўную сям'ю Хведара. ЗБС "Бацькаўшчына" таксама абвясціла збор сродкаў. Помнікі Хведару і Ніне, аб'яднаныя агульным надмагіллем, усталяваны, добра зроблены. На магіле Хведара Нюнькі (1928–2018) на прыгожай цёмнай пліце надпісы: ***"Як жыць – дык жыць для Беларусі, а без яе – зусім не жыць!" (Ларыса Геніюш). Грамадскаму і палітычнаму дзеячу, асветніку, славутаму патрыёту Беларусі. Пражыў жыццё таленавіта і цікава. У прыклад нашчадкам зведаў славу. Сышоў шчаслівы.***

## Унікальны паэтычны тэатр

Калі 20 лістапада 2019 года я з Галяй былі ў Лечкамісіі, сустрэлі Галіну Аляксееўну Дзягілеву, з якой ужо даволі даўно бачыліся, абняліся, расцалаваліся. Яна запрасіла нас на яе канцэрт у Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зніч" пры Беларускай дзяржаўнай філа-рмоніі. 27 лістапада 2019 года а 19 гадзіне ў малой зале імя Р. Шырмы адбыўся монаспектакль "Пяюць начлежнікі" паводле Змітрака Бядулі (аўтар інсцэніроўкі і выканаўца Галіна Дзягілева). Аказалася, што адзначаўся юбілей тэатра, які 30 гадоў таму заснавала Галіна Дзягілева і стала нязменным мастацкім кіраўніком тэатра. Тэатр вылучаецца тым, што ён поўнасцю шчыра адданы беларускасці: гучыць чыстая, цудоўная выразная беларуская мова, ставяцца захапляючыя спектаклі па творах выдатных беларускіх пісьменнікаў і дзеячоў; атрымліваеш сапраўдную асалоду, якая доўга радуе сэрца і душу. Адзіны мінус у гэтай зале – кепскаватая акустыка.

Зала да пачатку спектакля поўнасцю запоўнілася галоўным чынам моладдзю. У першым радзе недалёка ад нас сядзей Дзягілеў з дачкой, побач з ім сын Бядулі і шмат знаёмых, якія былі не толькі слухачамі, але і афіцыйнымі прадстаўнікамі розных беларускіх арганізацый. Галіна Дзягілева, як і трыццаць гадоў таму, молада, тэмпераментна, з пачуццём сапраўднага творцы выканала ўвесь, трохі больш за аднагадзінны спектакль, атрымаўшы гучныя воплескі.

Пасля пачаліся ўрачыстыя выступленні: дырэктара філармоніі, намесніка міністра культуры, ад БФК – Тадэуша Стружэцкага, ад тэ-леканала культура – Навума Гальпяровіча і інш. Усе ўручалі ганаро-выя граматы, падарункі, букеты з кветкамі. Слова атрымаў і сын Бядулі, які больш гаварыў на рускай мове і зрэдку па-беларуску. Апошнім выступіў я, павіншаваў і сказаў шэраг добрых слоў, узгадаў пра сяброўства Змітрака Бядулі і братоў Гарэцкіх і ўручыў кветкі, якія раней набыла Галя.

Усе, і выканаўца, і слухачы, засталіся задаволеныя гэтай важнай падзеяй беларускай культуры.

## Небяспечная гульня

З красавіка 2019 года да пачатку 2020 года паміж Беларуссю і Расіяй, а больш правільна паміж аўтарытарнымі кіраўнікамі А. Лукашэнкам і У. Пуціным працягвалася небяспечная гульня. Пуцін імкнецца да аб’яднання з Беларуссю ў Саюзную дзяржаву. Калі Беларусь адмовіцца, дык, зразумела, што яна не атрымае расійскіх субсідый. Таму Лукашэнка стварыў рабочую групу па распрацоўцы паглы-бленай інтэграцыі. Была нават створана так званая “31 дорожная карта”, па якой прапанавалася зрабіць наднацыянальныя органы кіравання. Але супярэчнасць паміж Беларуссю  і Расіяй павялічылася – узнікла “нафтавая вайна”. Адчуваючы небяспеку незалежнасці Беларусі, у канцы 2019 – пачатку 2020 гадоў у Менску прайшлі акцыі пратэсту супраць інтэграцыі з Расіяй, у якіх прынялі ўдзел сотні чалавек на чале з вядомымі палітычнымі і грамадскімі апазіцыйнымі дзеячамі. Спачатку Лукашэнка нават быў задаволены акцыямі, бо хацеў, каб Пуцін убачыў, што вялікая колькасць насельніцтва Беларусі супраць агульнай Саюзнай дзяржавы, але хутка пачаўся “судебный конвеер” над апазіцыяй. Прайшло больш 40 працэсаў “за нарушение порядка организации” или “проведения массовых организаций”, шматлікія ўдзельнікі атрымалі штрафы (да 50 базавых велічын) ці адміністрацыйныя арышты (да 15 сутак). Такія адносіны да сапраўдных патрыётаў Беларусі і змагароў за незалежнасць сваёй дзяржавы – поўны абсурд. Лукашэнка сам увесь час у сваіх выступах гаворыць пра суверэнітэт і незалежнасць і таму хоча казыраць гэтым, як першы прэзідэнт – будаўнік такой новай дзяржавы, тым больш, што з боку Расіі існуе небяспека яе згубы. Ён манапалізіраваў гэтую пазіцыю. Для яго Расія – меншая пагроза (яна пагражае толькі беларускай дзяржаўнасці), чым апазіцыя, якая можа забраць у яго ўладу. Адсюль такі шалёны напад на апазіцыю, што асабліва важна перад хуткімі выбарамі.

## “Беларускі кнігазбор” – нацыянальны скарб

Старшыня рэдакцыйнай рады, акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі Аляксандр Каваленя прыслаў мне запрашэнне на прэзентацыю кніжнага праекта “Бела-

рускі кнігазбор” у сувязі з выпускам 100-га тома, што мусіла адбыцца 13 снежня 2019 года ў Малым зале Прэзідыума НАН Беларусі.

Зала была поўная, шмат сяброў, знаёмых. Настрой святочны – вялікі набытак беларускай культуры, літаратуры, навукі. Пра велічэзную працу шматлікіх дзеячоў над “Беларускім кнігазборам” – унікальным фундаментальным праектам распавялі многія яе актыўныя ўдзельнікі, у тым ліку А. Каваленя, С. Нічыпаровіч, Г. Кісялёў, К. Цвірка, І. Саверчанка, Г. Вінярскі і інш. Выступоўцы шчыра віншавалі з такой адметнай падзеяй, успаміналі пра свой удзел у стварэнні асобных тамоў, прадстаўнікі міністэрстваў уручылі граматы і г.д. Пра стварэнне апошняга (сотага) юбілейнага тома “Беларускага кнігазбору” “Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Выбраныя творы” паведаміў Язэп Янушкевіч, які зрабіў укладанне, прадмову і каментар. Працэс прэзентацыі суправаджаўся перыядычнымі спевамі беларускіх песень (“Мой родны кут” і інш.) хорам і аркестрам НАН Беларусі, прычым артысты былі апрануты ў беларускія строі.

Як вядома, аўтарам ідэі і галоўным рэдактарам “Беларускага кнігазбору” з’яўляецца беларускі пісьменнік, фалькларыст, перакладчык і літаратуразнаўца Кастусь Цвірка. Ён успомніў, як у 1995 годзе стваралі Міжнародны фонд “Беларускі кнігазбор” (прэзідэнтам якога тады стаў Кастусь Цвірка), пра ўдзел у складанні праграмы многіх беларускіх дзеячоў і ўстаноў асабліва АН Беларусі. У адрозненне ад іншых аптымістычных выступленняў, К. Цвірка нагадаў і пра некаторыя цяжкасці, з якімі сутыкнуўся ў той складаны час.

“Беларускі кнігазбор” уключае тры серыі: “Мастацкая літаратура”, “Гісторыка-літаратурныя помнікі” і “Пераклады замежнай класікі”. Дзякуючы далучэнню ў 2008 годзе да сумеснага выдання “Беларускай навукі” ўбачылі свет амаль 35 кніг, прычым у найбольш значнай серыі “Мастацкая літаратура” ў 2019 годзе налічвалася ўжо 77 тамоў. У серыі „Пераклады замежнай класікі” пакуль што выдадзена толькі два тамы: Ёгана Вольфганга Гётэ і Фёдара Дастаеўскага.

А. Каваленя ўручыў многім удзельнікам і складальнікам розныя ўзнагароды: нагрудны знак імя У. Ігнатоўскага атрымалі Кастусь Цвірка і Станіслаў Нічыпаровіч. Ганаровую грамату НАН Беларусі – Георгій Кісялёў. Многія атрымалі падзяку НАН Беларусі (у тым ліку Генадзь Вінярскі, Лідзія Савік, Ганна Запартыка). Па двух тэлевізарах паказвалі шэраг ужо выдадзеных тамоў серый “Мастацкая літаратура”

і “Гісторыка-літаратурныя помнікі”, прычым пад прозвішчамі аўтараў тома адзначалі складальнікаў, аўтара прадмовы. Убачыў том “Максім Гарэцкі. Выбраныя творы” (2009) (укладанне Тэрэзы Голуб і Радзіма Гарэцкага, прадмова, каментарый Тэрэзы Голуб) і том “Гаўрыла Гарэцкі. Выбранае” (укладанне і каментар Радзіма Гарэцкага, прадмова Міхася Мушынскага).

Усе былі ўзрушаны гэтай слаўнай падзеяй, нягледзячы на афіцыйнае заканчэнне прэзентацыі, працягвалі абмяркоўваць розныя пытанні, звязаныя з “Беларускім кнігазборам”, і не спяшаліся разыходзіцца.

***

Пазней я ўспомніў той час, калі ствараўся “Беларускі кнігазбор”. Перабудова камандна-адміністрацыйнай эканомікі і савецкага грамадства ў 1985 годзе, пачатая апошнім прэзідэнтам СССР М.С. Гарбачовым, выклікала ўздым нацыянальнай самасвядомасці народаў СССР, у тым ліку і беларускага. Узніклі нефармальныя аб’яднанні моладзі, “Мартыралог Беларусі”, Беларускі фонд культуры на чале з Іванам Чыгрынавым, БНФ на чале з Зянонам Пазняком, Таварыства беларускай мовы (ТБМ) пад кіраўніцтвам Ніла Гілевіча. Вярхоўны Савет БССР прыняў закон “Аб мовах БССР” (беларуская мова стала дзяржаўнай) і Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, прыпыніў дзейнасць КПБ-КПСС на тэрыторыі Беларусі, а пазней новым старшынёй ВС БССР замест Мікалая Дземянцея абралі Станіслава Шушкевіча, дзяржава атрымала новую назву – Рэспубліка Беларусь (РБ), а дзяржаўнымі нацыянальнымі сімваламі былі абвешчаны бел-чырвона-белы сцяг і герб “Пагоня”. 8 снежня 1991 года кіраўнікі Беларусі, Расіі і Украіны ў Белавежскай пушчы падпісалі пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД). Беларусь стала парламенцкай рэспублікай.

Узнік шэраг новых партый, створана Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” (прэзідэнт Васіль Быкаў), якое разам з урадавымі арганізацыямі ў ліпені 1993 года правяло вельмі важны для аб’яднання беларусаў свету і незалежнасці Беларусі Першы з’езд беларусаў свету.

У 1992 годзе прайшлі выбары кіраўніцтва АН Беларусі, прычым першыя і апошнія (без усякага ўдзелу дзяржаўных органаў) поўнасцю

вольныя і дэмакратычныя. Прэзідэнтам АН Беларусі абралі Леаніда Сушчэню, віцэ-прэзідэнтамі Радзіма Гарэцкага і Міхаіла Высоцкага, галоўным вучоным сакратарам Андрэя Ганчарэнка. Нашаму кіраўніцтву АН Беларусі давялося працаваць у двух перыядах жыцця краіны: прыблізна 2,5 гады (04.1992–07.1994) у парламенцкай дзяржаве і амаль 3 гады (07.1994–05.1997) у прэзідэнцкай на чале з Аляксандрам Лукашэнка і пад пільным наглядам кіраўніцтва дзяржавы. Кароткі (але значны) перыяд нацыянальнага адраджэння пайшоў на рэзкі спад.

Ужо ў траўні 1995 года адбыўся рэферэндум, па выніках якога Лукашэнка правёў свае прапановы: прыдаць рускай мове роўны дзяржаўны статус з беларускай, вярнуць трохі зменены сцяг і герб БССР, правесці эканамічную інтэграцыю з Расіяй, зацвердзіць права прэзідэнта распускаць Вярхоўны Савет, і Прэзідэнт стварыў паслухмяную яму чыноўнічую вертыкаль. У кіраўніцтве з'явілася шмат людзей, якія мала разумелі ў навуцы, культуры, літаратуры, такія як намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта РБ палкоўнік У. Замяталін ці віцэ-прэм'ер РБ В. Даўгалёў. Яны асабліва строга кантралявалі прэсу, а я, як віцэ-прэзідэнт АН Беларусі, курыраваў гэты напрамак нашай дзейнасці. Неяк кантралёры на чале з Даўгалёвым правяралі дзейнасць выдавецтва "Навука і тэхніка". Самая галоўная крамола – выданне па-за планам многіх беларускамоўных кніг. Яны патрабавалі зняць з працы віцэ-прэзідэнта АН Беларусі Р. Гарэцкага і дырэктара выдавецтва Ф. Савіцкага. Даўгалёў на імя Л. Сушчэні напісаў адпаведны загад. Той у адказ напісаў, што віцэ-прэзідэнт можа быць выбраны толькі агульным сходам акадэміі, як і зняты з пасады. Шмат сіл вымушаны былі мы прыкласці, каб кіраўнік справамі Адміністрацыі Прэзідэнта Ціцянкоў не забраў у АН Беларусі маёмасць, у тым ліку тыпаграфію і выдавецтва "Навука і тэхніка".

Вось у такіх складаных умовах прыйшлося змагацца за стварэнне грамадскага аб'яднання – Міжнароднага фонду "Беларускі кнігазбор", прэзідэнтам якога стаў Кастусь Цвірка, а выканаўчым дырэктарам Генадзь Вінярскі. К. Цвірка пісаў: *Думка пра гэтае выданне выспела ў мяне, калі я вывучаў шматмоўную літаратуру XVIII–XIX стагоддзя… За шматвяковую гісторыю свайго існавання беларускі народ стварыў вялікую і самабытную літаратуру, адну з самых багатых у свеце*. З дапамогай многіх беларускіх дзеячоў К. Цвірка склаў план-каталог

“Шматтомнае выданне беларускай літаратуры і літаратуры пра Беларусь ад старажытнасці да нашых дзён”, над якім пачаў працаваць яшчэ ў 1993 годзе, але першы поўны варыянт прадставіў у 1995 годзе. Грамадства і асабліва ўладныя структуры (у тым ліку і адпаведныя міністэрствы) сустрэлі гэты праект па-рознаму: большасць зычліва, але некаторыя (у першую чаргу ўладныя) адмоўна. Усімі магчымымі сродкамі пачаліся нялёгкія намаганні афіцыйна зацвердзіць Міжнародны фонд “Беларускі кнігазбор”.

Кастусь Цвірка за падтрымкай звярнуўся да мяне, як віцэ-прэзідэнта, і прынёс план-каталог, які зрабіў на мяне вялікае станоўчае ўражанне. Значна раней я чытаў кнігу Максіма Гарэцкага “Гісторыя беларускай літаратуры” (выданне чацвёртае перарobленае) – Менск, 1926 г. Гэтую кнігу М. Гарэцкі падпісаў: *Гаўрыле Гарэцкаму – брат, 1926. 17.XI. Менск*. Я тады быў уражаны багаццем беларускай літаратуры і культуры. Трэцяе выданне накладам 10 000 экз., выпушчанае ў пачатку 1925, разышлося ўсё за адзін год. Кнігу складаюць раздзелы: “Вусная народная паэзія”, “Старая літаратура” (тут пра пачатак пісьменнасці, першых пісьменнікаў, літаратурную мову ў ВКЛ, беларускую літаратуру ў XIII–XIV стагоддзі і інш.), “Новая літаратура” (новая беларуская літаратура да паўстання 1831 г.), нацыянальна-адраджэнская літаратура 90-х і пачатку 900-х гг., пасля рэвалюцыі 1905 г., сучасная літаратура за межамі БССР, беларускія крытыкі і гісторыкі літаратуры, слоўнічак літаратурных паняццяў).

Міжнародны фонд “Беларускі кнігазбор” 17 сакавіка 1995 года нарэшце быў зацверджаны. Такім чынам, “Беларускаму кнігазбору” – 25 гадоў. У 1996 годзе выйшла першая кніга “Ян Чачот. Выбраныя творы” серыі “Мастацкая літаратура”, якая канчаткова была распрацавана ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі. З прыемнасцю атрымаў ад Кастуся Цвіркі гэтую кнігу з такім аўтографам: *Шаноўны Радзім Гаўрылавіч! З Вашай дапамогай мы распачалі гэтай кнігай вяртанне народу нашай вялікай літаратурнай спадчыны, вяртанне яго гістарычнай памяці. Шчыра Вам дзякуй! 9 верасня 1996 г. К.Цвірка*.

***

У адрозненне ад выдатнай прэзентацыі 100-га тома “Беларускага кнігазбору” успамінаю пра зусім іншую прэзентацыю 50-га тома –

“Максім Гарэцкі. Выбраныя творы” (2009)”.

17 сакавіка 2010 года ў Палацы мастацтваў выраШылі правесці сустрэчу “Збіраўся скарб: 50 тамоў “Беларускага кнігазбору”. Сабралася вялікая колькасць прыхільнікаў беларускай літаратуры, але іх сустрэла абвестка на ўваходных дзвярах, што Зала зачынена “по техническим причинам”. У вестыбюлі палаца і лесвіцы ў залу цяснілася шмат людзей. Раптам Уладзімір Някляеў рашуча павіншаваў усіх з выдатнай падзеяй у нацыянальным жыцці Беларусі і пачаў святочную імпрэзу. Кастусь Цвірка сказаў, што наша справа – выдаць залатую класіку. Анатоль Вярцінскі прачытаў верш у сувязі з томам “Расстрэляная літаратура”. Я высока ацаніў працу “Беларускага кнігазбора”. Віктар Скарабагатаў выканаў песню Станіслава Манюшкі на верш Яна Чачота. Усе ўзнёсла праспявалі нацыянальны гімн “Магутны Божа”. Такім чынам, нягледзячы на дзікія стаpанні ўладных структур сарваць вечарыну, свята адбылося і ўсе разы-ходзіліся з узнятым настроем.

**95-годдзе Цэнтральнай навуковай бібліятэкі (ЦНБ)**
**імя Якуба Коласа НАН Беларусі**

У Беларусі значная культурная падзея – 16 лютага 2020 года споўнілася 95 гадоў з часу заснавання ў Менску пры Інбелкульце Цэнтральнай навуковай бібліятэкі, якая ў 1929 годзе ўвайшла ў склад Беларускай акадэміі навук (БАН), а пазней (II.1936) – у АН БССР. У вайну бібліятэка была разрабавана і часткова вывезена ў Нямеччыну, у 1944 годзе адноўлена, а з 1956 года да 1981 года звалася “Фундаментальная бібліятэка імя Якуба Коласа АН БССР”, а пазней – “ЦНБ імя Якуба Коласа АН БССР”.

Мне патэлефанаваў загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Аляксандр Стэфановіч і паведаміў, што 18.II.2020 г. ў Вялікай зале Прэзідыума НАН Беларусі будуць адзначаць гэтую падзею і запрасіў мяне прысутнічаць, прычым дадаў, што мне прышлюць запрашэнне. Я гэтае запрашэнне вельмі чакаў, бо думаў, што там можа быць адзначана месца ў поўным зале. Яго я так і не дачакаўся, але вырашыў усё ж паехаць на святкаванне. Мне было незразумела, чаму ўсе СМІ (перш-наперш тэлебачанне) нічога не паведамляюць пра 95-годдзе ЦНБ. Разам з Галяй я прыехаў на таксі ў згаданую гадзіну і мы

прайшлі ў Вялікую залу, у якой занята была толькі палова месц. Я быў не толькі здзіўлены, а проста абураны, што такую выдатную падзею адзначаюць у выглядзе пашыранага пасяджэння Вучонага Савета ЦНБ (кіраўнік – дырэктар, доктар гістарычных навук Аляксандр Іванавіч Груша). Прысутнічалі галоўным чынам супрацоўнікі бібліятэкі і музеяў, прычым нават прадстаўнікі Летувы і Расіі. Галоўных кіраўнікоў Міністэрстваў культуры, інфармацыі, адукацыі, НАН Беларусі не было. Прысутнічалі толькі іх прадстаўнікі, якія сядзелі ў зале. Таму ніякага Прэзідыума сходу не было. Спачатку доўгі час каля трыбуны для выступленняў стаяў А. Груша, а на тым жа ўзроўні на левым канцы з мікрафонамі знаходзіліся вядучыя – супрацоўніца і супрацоўнік ЦНБ. Далей усё пайшло па стандартнай схеме: найбольш значны прадстаўнік віншаваў сам ці зачытваў віншавальны адрас, уручаў граматы, падзякі, рэдка – падарункі – кіраўніку ЦНБ, а затым – асобным супрацоўнікам бібліятэкі. Чамусьці ўсё вялося галоўным чынам на рускай мове і рэдка – на беларускай, найчасцей яна гучала, калі віншавалі кіраўнікі Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі. Многія віншаванні былі цёплыя і шчырыя. З кіраўнікоў чыноўнічай вертыкалі Прэзідыума НАН Беларусі віншаваў новы малады галоўны вучоны сакратар (былы кіраўнік Савета маладых вучоных) Андрэй Іванец.

Пасля даволі працяглай працэдуры афіцыйных віншаванняў і ўзнагарод запрасілі выступіць мяне. Я звярнуў увагу на супадзенне: менавіта 18 лютага, калі мы адзначалі 95-годдзе стварэння бібліятэкі, нарадзіўся Максім Гарэцкі і быў забіты яго сын Лёня. Ніхто з прысутных не ўспомніў гэта, а дарма, бо М. Гарэцкі як член Інбелкульта, а пазней – супрацоўнік Беларускай акадэміі навук, прымаў удзел у арганізацыі і развіцці Навуковай бібліятэкі. Затым я выказаў сваё абурэнне такім мізэрным святкаваннем выдатнай падзеі 95-годдзя ЦНБ імя Якуба Коласа і пажадаў, каб 100-годдзе шырока адзначылі як вялікае свята ўсяго народа Беларусі з актыўным удзелам самых высокіх кіраўнікоў краіны. На сваім прыкладзе я пастараўся паказаць значэнне бібліятэкі, бо ўсё маё жыццё праходзіла з шчырым сяброўствам і ўдзячнасцю да яе, пачынаючы з раённай бібліятэкі семікласнікам ў ваенны час эвакуацыі (Удмурція), а пазней студэнтам і навукоўцам у Маскве (Нафтавы інстытут і Геалагічны інстытут АН СССР) – і шэрагам розных (у тым ліку і знакамітых) бібліятэк.

Пасля майго вяртання ў Менск (1972 год) найбольш блізкай мне стала ЦНБ імя Якуба Коласа і асабліва Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў, дзе трохі раней быў створаны асобны фонд Максіма Гарэцкага, які передала яго дачка Галіна Максімаўна. У далейшым я прыняў удзел у шматлікіх мерапрыемствах (у стварэнні асобнага фонда Гаўрылы Гарэцкага; юбілейных Максіма і Гаўрылы  Гарэцкага, а таксама працы ў сувязі з выхадам у свет іх твораў; сустрэчах у памяць ці юбілеях многіх выдатных дзеячоў беларускай культуры і навукі, а таксама вядомых дзеячоў татарскага паходжання і г.д.). У свой ужо "салідны" (91 год) узрост я не мог не прыйсці на святкаванне 95-годдзя ЦНБ.

***

11 сакавіка 2020 года да мяне прыйшлі прадстаўнікі ЦНБ, каб узяць у мяне інтэрв'ю. Аляксандр Паршанкоў – малады супрацоўнік, яшчэ студэнт гістарычнага факультэта БДУ, (кіраўнік А. Груша), які быў вядучым на святкаванні, і кінамайстар Алеся. Сярод шэрагу пытанняў найбольш хвалюючай была праблема зусім малой колькасці чытачоў, што магло прывесці з часам нават да ліквідацыі бібліятэкі. Я параіў, апрача тых, вельмі важных прац і некаторых новых праектаў, якія праводзяцца ЦНБ, больш рашуча рэфармаваць дзейнасць у напрамку новых электронных метадаў, што дазволіць павялічыць банк розных даных, пашырыць сувязь з многімі бібліятэкамі замежжа, правесці цікавыя сумесныя канферэнцыі і чытанні і г.д. Тады чытач будзе зацікаўлены наведаць бібліятэку, бо зможа там атрымаць значна больш самых разнастайных ведаў, у тым ліку і пра рэдкія выданні і рукапісы непасрэдна з іншых шматлікіх бібліятэк і г.д.

## 102-годдзе абвяшчэння БНР

Не толькі ўлады Беларусі не падтрымліваюць святкаванне ўтварэння БНР – найвялікшай падзеі ў гісторыі беларускага народа (Дзень Волі), але і каранавірус, які таксама накінуўся і на нашу дзяржаву ў выглядзе пандэміі. Таму мы выступілі з наступным зваротам.

*Шаноўныя грамадзяне Беларусі! Дарагія нашы суайчыннікі ў шырокім сьвеце! У гэтыя сьвяточныя дні, як традыцыйна, сёлета, мы сустрэцца і адзначыць 25 сакавіка ня можам. Мы нагадалі ўла-*

*дам пра тое, што яны ня выканалі свае абяцанні: ні ў 2018, ні ў 2019-м годзе, яны не ўсталявалі мемарыяльную дошку на доме БНР. І сёння ўлады адказалі, што ўсталяванне дошкі "не мэтазгодна."(!!!) ... Мы ад шчырага сэрца віньшуем вас з найвялікшым сьвятам 25 сакавіка, з Днём абвяшчэння Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі! У сьнежні 2020 г. мы будзем сьвяткаваць 100-годдзе Слуцкага Збройнага Чыну. Вось тады мы сустрэнемся і адсьвяткуем усе нашы сьвяты 2020 года. Каб толькі Бог гэта даў нам усім. Са сьвятам вас усіх! І будзьце ўсе здаровыя! Беражыце сябе і сваіх родных! Вы ўсе патрэбныя для нашай любай Айчыны! Радзім Гарэцкі – акадэмік НАН Беларусі, Мікола Купава – чалец Беларускага саюза мастакоў, Аляксандар Жучкоў – грамадскі дзеяч, Леванід Акаловіч – святар, краязнаўца, Марыя Міцкевіч – старшыня фонду "Сакавік," Лявон Баршчэўскі – філолаг, выкладчык, Рыгор Кастусёў – палітык, Алесь Лагвінец – палітолаг, Валер Герасімаў – бібліёграф.*

*24 сакавіка 2020 г. Менск Літоўскі.*

Трохі раней мы ў тым жа складзе даслалі заяву наступнага зместу.

*Кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта*
*Рэспублікі Беларусь сп. Сергіенку І.П.*
*Старшыні Мінгарвыканкама сп. Сіваку А.А.*

*ЗАЯВА*

*Спаўняецца два гады з часу важнай ініцыятывы Грамадскага Нацыянальнага Аргкамітэту па святкаванні 100-гадовага юбілею ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Аргкамітэтам была прапанаваная значная і аб'ёмная праграма святкавання вялікага юбілею. І трэба сказаць, што многае было зроблена: Напрыклад, быў усталяваны і ўрачыста адкрыты мемарыяльны знак у гонар ідэолагаў Беларускага Адраджэння Івана і Антона Луцкевічаў блізка ад таго месца, дзе стаяў дом Луцкевічаў у парку Янкі Купалы. Аргкамітэт арганізаваў і правёў нацыянальнае свята ў гонар юбілею БНР на пляцоўцы каля опернага тэатра, чаму паспрыяў, бясспрэчна, Мінгарвыканкам і асабіста яго былы старшыня сп. А. Шорац. За што яму Аргкамітэт выказвае асабісты вялікі дзякуй ад імя ўсіх удзельнікаў святкавання!*

*Аднак трэба сказаць і пра негатыў, які азмрочвае гэтую падзею.*

*Памятны камень братам Луцкевічам усталявалі ў прыкрай блізкасці ад грамадскага туалета, а гэта павінны былі бачыць як скульптар, так і архітэктар помніка, а таксама гарвыканкам – заказчык. Гэтую праблему трэба вырашаць тэрмінова.*

*Найважнейшая ініцыятыва Аргкамітэту – усталяванне мемарыяльнай дошкі ў гонар абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі і прыняцця III Устаўной граматы. Балазе дом гэты захаваўся, і яго можна мемарыялізаваць.*

*Актывісты грамадзянскай супольнасці за адзін дзень сабралі неабходную суму грошай на выраб з бронзы мемарыяльнай пліты, якая і была адлітая. Але, насуперак афіцыйным абяцанням, усталяванне дошкі так і не адбылося ні ў 2018 годзе, ні ў 2019-м. Адказы з Мінгарвыканкама і Адміністрацыі прэзідэнта былі проста адпіскамі з мэтай зацягнуць час. Таксама мы прапанавалі надаць вуліцы Валадарскага, на якой стаіць славуты дом БНР, імя братоў Луцкевічаў, вядомых прадстаўнікоў беларускага Адраджэння, дзякуючы якім і была абвешчана незалежнасць БНР.*

*З-за праволочак Мінгарвыканкама, ужо іншых чальцоў гэтай службы па сённяшні дзень не ўсталявана мемарыяльная дошка ў гонар абвяшчэнення незалежнасці нашай краіны, і вуліца, на якой стаіць дом БНР, носіць імя адыёзнай асобы, якая не мела ніякага дачынення ні да Мінска, ні да Беларусі.*

*Напярэдадні 102-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі мы патрабуем ад Мінгарвыканкама ўсталяваць на доме №9 (Дом БНР) на вул. Валадарскага мемарыяльную дошку ў гонар абвяшчэння БНР 25 сакавіка 2020 года. Вуліцы Валадарскага пры гэтым надаць імя братоў Луцкевічаў.*

*Мы таксама заклікаем усе вуліцы, плошчы і завулкі ў Менску, а таксама ў іншых гарадах і мястэчках Рэспублікі Беларусь, названыя імёнамі бальшавіцкіх правадыроў, перайменаваць і вярнуць ім гістарычныя назвы, якія ўзніклі ў эпоху ВКЛ.*

*На гэта мы маем канстытуцыйнае права, волю прадстаўнікоў народа і памяць перад героямі Адраджэння, перад слаўнымі сынамі нашай краіны.*

## Каранавірус упэўнена крочыць па Свеце

У апошнія месяцы 2019 года ўсе сачылі за весткамі з Уханя (Кітай), дзе яшчэ зусім малавядомы каранавірус ахапіў вялікую колькасць жыхароў з даволі значным смяротным вынікам.

Ужо ў студзені і лютым 2020 года эпідэмія каранавіруса перакінулася на іншыя краіны Азіі і асабліва Еўропы, а затым – Амерыкі і Афрыкі, прычым пашырэнне, колькасць захварэўшых і памерлых павялічвалася вельмі хутка.

12 сакавіка 2020 года ВОЗ прызнала глабальную пандэмію каранавіруса, бо хвароба ахапіла 124 краіны. Амаль усе дзяржавы закрылі мяжу.

16 сакавіка  пандэмія вядома ўжо ў 140 краінах. У Італіі памерла каля 2 тысяч чалавек.

21 сакавіка – каранавірус наступае: за суткі памерла ў Італіі 793 чалавекі, у Іспаніі – 347, у ЗША – 307.

27 сакавіка – у свеце заражана больш 540 тысяч чалавек, памерла больш 24 тысяч.

29 сакавіка – усіх заражаных 650 тысяч чалавек, памерла больш за 30 тысяч. У Італіі і Іспаніі за суткі памерла па 900 чалавек.

2 красавіка – у свеце заражана каля 1 мільёна чалавек, памерла каля 50 тысяч. У ЗША за суткі памерла 1400 чалавек.

7 красавіка – усіх заражаных – 1 мільён 363 тысячы чалавек, памерла – 76 тысяч.

13 красавіка за ўвесь час: у ЗША – памерла больш 22 тысяч чалавек, заражаных – 560 тысяч, за суткі памерла 1,5 тысячы чалавек; у Італіі – памерла больш 20 тысяч чалавек, заражаных – 156 тысяч, за суткі памерла 430 чалавек;

14 красавіка – усіх заражаных у свеце больш 1 мільёна 800 тысяч чалавек, памерла больш 115 тысяч.

15 красавіка – у свеце ўсіх заражаных стала больш 2 мільёнаў, а памерлых больш 150 тысяч чалавек.

30 красавіка – заражаных больш 3 мільёнаў, памерла 228 280 чалавек.

***

Беларусь – адзіная краіна ў Еўропе, якая не закрыла мяжу, але,

дзякуючы суседнім дзяржавам, аказалася ў ізаляцыі. ВОЗ 12 сакавіка 2020 года абвясціў сусветную пандэмію. Нягледзячы на тое, што першыя весткі пра магчымых хворых у Беларусі з’явіліся яшчэ ў самым канцы лютага – пачатку сакавіка 2020 года – у сувязі з прыездам людзей (у тым ліку і студэнтаў) з замежжа – у Менску, Гродна, Віцебску, а ВОЗ абвясціў пра пандэмію, А. Лукашэнка выказаў свой погляд на гэтую падзею: ён назваў каранавірус “психопатией”, “психозом”, “глупостью абсолютной и несусветной”, “от этого никогда не откажусь”; “Я абсолютно убеждён, что мы можем больше пострадать от паники, нежели от самого вируса”.

Урад Расіі, у якой уведзены строгі каранцін і іншыя меры засцярогі, патлумачыў, што закрыццё мяжы з Беларуссю выклікана тым, што яна не выконвае нічога па барацьбе з вірусам. І праўда, у нашай дзяржаве афіцыйна жыццё працягвалася па-ранейшаму: заняткі ў сістэме адукацыі, спартыўныя (футбол, хакей і інш.) масавыя мерапрыемствы не адмяняліся; інтэнсіўна рыхтаваўся парад, запланаваны на 9 траўня і г.д. Але жудасныя падзеі ў свеце з пандэміяй у суседніх краінах і асабліва ў больш далёкіх уплываюць на жыхароў Беларусі, ды адначасова і ў нас таксама прымаліся меры па захаванні здароўя. 27 сакавіка я атрымаў СМС-ку на мабільнік з “Лечкамісіі”: ... *в условиях сложившейся эпидемиологической обстановки просим Вас воздержаться от посещения лечебного учреждения без острой необходимости. Рецепты можно заказать по телефону. Будьте внимательны, избегайте контактов с другими людьми; соблюдайте гигиену рук, при повышении температуры, появлении кашля и затруднении дыхания как можно быстрее обращайтесь за медицинской помощью. Будьте здоровы! Берегите себя и своих близких*. Інфармацыя па захварэўшых давалася своеасабліва: не іх колькасць, а колькі вылечылася і г.д. Як адзначыў В. Карбалевіч (“Своб. новости плюс”, 24.III.2020): *Всё это очень напоминает первые дни после Чернобыльской аварии.* Ужо 27 сакавіка А. Лукашэнка сваю пазіцыю ў адносінах да пандэміі каранавіруса тлумачыў эканамічнай неабходнасцю. Прыгадаем, што былы пасол Беларусі ў Кітаі Кірыл Рудый, калі казаў пра вопыт Кітая ў барацьбе з каранавірусам, адзначыў: *И мысли не было спасать экономику, спасали людей.*

2 красавіка 2020 года А. Лукашэнка меў размову з тэлеканалам “Мір”, у якой павіншаваў расіян і беларусаў з 25-годдзем яднання

Расіі і Беларусі і падкрэсліў, што патрэбна ўмацоўваць Саюз, але на раўных умовах. Выказаў свае абурэнне, што Расія ў сувязі з каранавірусам адрэзала нашу краіну, якая цяпер у ізаляцыі, але ўсё роўна адкрытая. Ён лічыць, што пандэмія – гэта спроба багатых дзяржаў падзяліць свет без вайны. Мы выконваем усе парады ВОЗ, але змагаемся з усімі хваробамі, не вылучаючы каранавірус. У нас у стацыянарах 245 чалавек хворых, памерла толькі 4 чалавекі. У гэты ж дзень У. Пуцін звярнуўся да насельніцтва Расіі, прычым прысвяціў свой зварот толькі каранавірусу і эканоміцы, а пра Саюз – ні слова.

5 красавіка 2020 года адзначаўся Дзень геолага – я атрымаў больш 20 віншаванняў, у тым ліку і ад калектыва ЦНБ імя Якуба Коласа, якая мне паведаміла, што ў іх, як і ва ўсіх бібліятэках, абвешчаны каранцін. Ужо 6 красавіка паведамілі, што ў Беларусі 700 заражаных, а памерла 13 чалавек. Крывая росту заражаных каранавірусам даволі хутка ідзе ўгару. Так, 12 красавіка колькасць інфіцыраваных склала 2578 чалавек, а памерлых 26 чалавек. Кожныя суткі інфіцыраваных адзначаецца ад 200 да 500 чалавек. А. Лукашэнка, а за ім і дзяржаўныя СМІ пераконваюць, што ў Беларусі адна з лепшых у свеце сістэма аховы здароўя, і таму мы можам спыніць пандэмію без каранціна. Але іх пазіцыя супярэчлівая. Лукашэнка Мінздраву забараніў уводзіць каранцін і зноў нагадаў, што пандэмія гэта псіхоз, паніка. З другога боку, урад прыняў меры па абмежаванні масавых мерапрыемстваў, пашырылі выпуск масак і іншых індывідуальных сродкаў абароны і інш. Спасылаючыся на місію ВОЗ, абвясцілі, што ў Беларусі прымаюцца вельмі добрыя меры па барацьбе з каранавірусам. На самай справе прадстаўнік ВОЗ Батыр Бардыклычаў сказаў, што неабходна прыняць больш жорсткія меры сацыяльнага дыстанцавання і ўвесці каранцін. Кіраўнік місіі Патрык О'Конар прапанаваў адмовіцца ад усіх масавых мерапрыемстваў, у тым ліку і спартыўных, перайсці на аддаленае навучанне і панізіць неабавязковы рух людзей. Як быццам спецыяльна А. Лукашэнка ў гэты дзень правёў з камандай прэзідэнта Беларусі чарговы матч у хакей пры поўных трыбунах. Міністр аховы здароўя У. Каранік паведаміў, што з 2 тысяч заражаных каранавірусам 301 медычныя супрацоўнікі. Відаць, у іх былі неякасныя сродкі індывідуальнай абароны ці проста іх недахоп.

13 красавіка А. Лукашэнка правёў сустрэчу з шэрагам вядомых

кіраўнікоў структур Беларусі. Яго выказванні былі поўнасцю надрукаваны ў “Народнай Волі” № 30 ад 14 красавіка 2020 года. Некаторыя з іх хачу прывесці: ... *этот психоз, особенно короновирусный, довёл до того, что люди уже опустили руки. И в больницах перестали бороться за свою жизнь»*. (…) *у нас в стране не умер ни один человек от короновируса. Ни один! Они умерли от букета хронических болезней, которые у них были*. (...) *Никто от короновируса в нашей стране не умрёт. Я публично об этом заявляю*. (...) *Мы уже нашли комбинацию лекарств, чтобы спасать людей. Поэтому мы за каждого человека будем не бороться, а сражаться*. (...) *Я доволен тем, что мы практически свели к минимуму ОРВИ. Они у нас уже пошли на спад. ... на спаде ОРВИ дают хвост пневмоний.* (…) *в Витебской области прирост количества новых пневмоний существенно сократился. […] То же самое по Минску*. (...) *У нас нет лавинообразного нарастания болезней. И это благодаря врачам и людям*. (...) *Ничего не запрещаем, никаких карантинов…(...) И не надо их загонять в квартиры, запирать их там. Человек своей жизнью распоряжается сам.* (…) *у нас нет никакой самоизоляции. Это фактически амбулаторное лечение. Мы ведь на эту самоизоляцию направляем людей решением врача. […] врач ему прописывает 3, 5, 7 дней на эту самоизоляцию. […] Милиция контролирует… […] если 14 дней, то его уже лучше в стационаре держать*. (...) *Кто хочет, тот помолится, сходит в храм. Я буду в церкви. Это же традиция. Я редко бываю, но в Рождество и Пасху я всегда в церкви…* (...) *Росиянам хотя бы сказать – этим, которые “плявузгають”: не трогайте нас! Мы ведь ничего не просим. Мы спасаемся, защищаемся сами […] Но зачем же вы нас в России делаете дураками?*” (…) *они (ВОЗ) сказали – претензий к беларусам нет*. (...) *Публично сказали, что ни Минздрав, ни власти здесь не врали. Мы открыты – приходите и смотрите. Мы делаем это для своих людей. Но россияне нам не чужие. Мы готовы с ними общаться, советоваться*. (...) *Если хотите помочь, сделайте нам мировую цену по природному газу […]. Вот хотите нам помочь, помогите. Ни денег, ничего не просим. Зачем с нас шкуру драть?* (...) *Давайте будем спокойно жить, заниматься своим делом, растить детей и думать о будущем. А мы сделаем всё для того, чтобы каждый человек сохранил свою жизнь. Особенно сейчас, чтобы доказать, что мы*

*можем бороться за человека и победить эту заразу. Как я сказал, красиво побеждать*.

Але афіцыйная Беларусь значна адрозніваецца ад рэальнай. Так, 17 красавіка па інфармацыі Міністэрства аховы здароўя за суткі зафіксавана 575 – рэкордная колькасць новых заражаных каранавірусам, а перад гэтым каранавірусам заразіліся 419 медыкаў. У Беларусі загад А. Лукашэнка – закон для чыноўнікаў, і таму Мінздраў вымушаны ўсякія лічбы набліжаць да думкі Прэзідэнта.

17 красавіка ў Докшыцкім раёне было зарэгістравана 72 выпадкі каранавіруса, аб чым паведаміў начальнік упраўлення аховы здароўя Віцебскага аблвыканкама. Пазней Міністр аховы здароўя У. Каранік зніжае гэтую лічбу да 20. Намеснік галоўурача Баранавіцкага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Вольга Аніскевіч растлумачыла, што трэба ведаць людзям: *Все знают, что пациенты с подтверждённым короновирусом в городе есть, а как меняется их численность – не столь интересно.*

19 красавіка А. Лукашэнка разам з Колем сустрэў Вялікдзень у храме Малых Лядоў Смалявіцкага раёна. Ён, як працяг свайго погляду (*Мы дорогу к храму никому не закрываем. Это моё жёсткое требование. Мы никому ничего не запрещаем.*), тут выказаў: *Я не приветствую тех, кто закрыл людям дорогу к храму. Я не приветствую такой политики*. Адчувалася, што ён вельмі незадаволены выказваннямі мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсея Беларусі, якія той агучыў пасля Пасхальнага паслання: “Мы заклікаем вернікаў устрымацца ад наведвання храма. А калі вы прыходзіце, то, калі ласка, захоўвайце дыстанцыю адзін ад аднаго. Храмы зачыняцца не будуць, там здзейснены набажэнствы. Але мы просім устрымацца, заставайцеся дома! Паверце, ад гэтага будзе больш карысці і вам, і вашым блізкім. Кулічы і пасхі будуць асвячацца на вуліцы, за межамі храмаў. Мы заклікаем усіх у гэтыя дні маліцца дома. Тым больш, што набажэнствы будуць трансліравацца на тэлеканалах”. Ён таксама парэкамендаваў устрымацца ад наведвання могілак на Раданіцу. А. Лукашэнка павіншаваў усіх беларусаў са святам. Паведаміў, што дзяржава старанна рыхтуецца да парада, выбараў Прэзідэнта (будзе ўсё справядліва). Шэрагу “свядомых”, якія прапануюць узяць прыклад з Расіі, дзе ў сувязі з пандэміяй адкладваюць тэрміны парада, адказаў, што нам гэта рабіць не трэба. 25 кра-

савіка будзем праводзіць усенародны суботнік. Пасля Пасхі мы ўзнавім заняткі ва ўсіх ВУЗах, а таксама ў школах. Майму Колю надакучыла сядзець дома. На жаль, эпідэмія каранавіруса яшчэ не пайшла на спад, а расце. Так, Міністэрства аховы здароўя РБ на 30 красавіка прывяло такія лічбы: заражаных 14 027 чалавек, а памерла – 89 чалавек. Нягледзячы на каранцін, у РФ заражаных 106 498 чалавек, а памерлых 1 073 чалавекі.

**Юбілеі сяброў, блізкіх знаёмых**

2020 год вельмі багаты на юбілеі. Нават падчас заканчэння тэрміну сучаснага "Жыццёвага меланжу" (красавік) адбылося больш 10 юбілеяў. Па розных прычынах, але галоўнай з іх – эпідэмія каранавіруса, павіншаваць большасць юбіляраў прыйшлося па электроннай сувязі.

19 лютага 2020 года Уладзіміру Енокавічу Агабекаву споўнілася 80 гадоў.

15 лютага з 85-годдзем павіншаваў Розу Адамаўну Зінаву

25 лютага Генадзю Міхайлавічу Лычу – 85 гадоў. Напярэдадні ён у газеце "Народная Воля" (у двух № 14 і 15) надрукаваў вялікае інтэрв'ю, у якім праўдзіва выказаў свой крытычны погляд на стан НАН Беларусі пад назвай "Аракчэеўшчына". У дзень нараджэння я павіншаваў Генадзя Міхайлавіча і шчыра пахваліў і падзякаваў за інтэрв'ю. Ён з усмешкай адказаў: *Гэта я сам сабе да 85-годдзя зрабіў падарунак.*

30 сакавіка Аляксей Марачкін сустрэў свае 80 гадоў у Чарнагорыі.

13 красавіка, як заўсёды бадзёрай і ў працы над новым артыкулам ці цікавай кнігай, адзначыла свае 95-годдзе Таццяна Аляксандраўна Раманава.

23 красавіка ў мабільнік пачуў прыемны голас Віктара Казько, паразмаўлялі, успомнілі нашы сустрэчы, я быў вельмі рады, што ён поўны творчых задум і на пытанне Міхася Скоблы, інтэрв'ю якога апублікавана ў "Народнай Волі", пісьменнік адказаў, што ў свае 80 *пра сыход мне рана думаць. Яшчэ пажывём!*

22 студзеня 2020 года Аляфціна Цімафееўна Міцкевіч вырашыла адзначыць сваё 90-годдзе ў акадэмічным кафэ і абавязкова

запрасіла прыйсці Галю і мяне. Прысутнічала каля 20 чалавек, сярод якіх нам асабліва было прыемна пабачыць Марыю і Веру Міцкевіч, Наталлю Адамовіч. Сярод іншых гасцей большасць былі малазнаёмыя нам сяброўкі Аляфціны, а таксама Леў Мітрафанавіч Тамільчык, даўні сябар юбіляркі і мой добры знаёмы геолаг Жэня Балашоў. Розныя тосты і прамовы выдатна суправаджаў здольны музыка. Сустрэча прайшла спакойна, але вельмі цёпла і ўсе (галоўнае, што і сама Аляфціна) засталіся задаволенымі.

8 сакавіка 2020 года я патэлефанаваў Уладзіміру Фёдаравічу Логінаву, павіншаваў яго з 80-годдзем, а таксама яго жонку з жаночым днём. Ён выказаў удзячнасць і як бы ў адказ запрасіў мяне і маю Галю на Вучоны Савет нашага Інстытута 10 сакавіка. Яшчэ раней ён напісаў цікавую кнігу "Космические факторы климатических изменений", якую вельмі спяшаўся выдаць да свайго юбілею, што яму і ўдалося. У. Логінаў падараваў яе мне з такім аўтографам: "Дорогому Радиму Гавриловичу от автора. Неформатные представления о причинах изменения климата. 25.02.2020. В. Логинов".

Юбілей на Вучоным Савеце Інстытута адзначалі прыблізна так, як маё 90-годдзе: усе ўрачыстасці правялі ў Вялікай зале, а фуршэт – у Малой. З вялікай прыемнасцю абняліся з даўнім сябрам юбіляра – дырэктарам Інстытута геаграфіі НАН Украіны акадэмікам Рудэнка, які прыехаў разам са сваім намеснікам. Доўга чакалі першага намесніка старшыні Прэзідыума НАН Беларусі С.А. Чыжыка і новага галоўнага вучонага сакратара А.І. Іванца. Дырэктар Інстытута С.А. Лысенка не вытрымаў і сам каротка паведаміў пра жыццё і дзейнасць У. Логінава, шэраг эпізодаў з якіх усе маглі бачыць на двух экранах.

Уладзімір Логінаў нарадзіўся ў вёсцы Зеляноўка Гарадокскага раёна Віцебскай вобласці. З гэтых жа краёў паходзіць яшчэ адзін найвыдатнейшы дзеяч Жарэс Алфёраў. Па шматграннасці сваіх прыхільнасцей, навуковай і навукова-арганізацыйнай дзейнасці У. Логінаў – унікальны чалавек. Ён закончыў арктычны факультэт Ленінградскага вышэйшага інжынернага марскога вучылішча імя С.О. Макарава, дзе пасябраваў на ўсё жыццё з вядомым дзеячом Чэленгаравым. У далейшым ён працаваў у розных арганізацыях: у Сібірскім аддзяленні АН СССР, Усесаюзным НДІ гідраметэаралагічнай інфармацыі, Галоўнай геафізічнай абсерваторыі імя А.І. Ваейкава (на-

меснікам дырэктара, загадчыкам лабараторыі). Некалькі гадоў быў навуковым супрацоўнікам Усясветнай метэаралагічнай арганізацыі ААН у Жэневе. У 1990 годзе У. Логінаў вярнуўся на сваю Радзіму, дзе яго актыўная праца шырока вядома ў Акадэміі навук, Беларускім дзяржаўным універсітэце і інш. Ён аўтар шматлікіх манаграфій (больш 40), брашур, даведнікаў, дапаможнікаў, артыкулаў (у тым ліку шмат навукова-папулярных), вядомы прапагандыст навуковых ведаў у газетах, па тэлебачанні і інш.

Прыемна і радасна было слухаць цёплыя і сардэчныя віншаванні юбіляру ад супрацоўнікаў не толькі нашага Інстытута, але ад многіх прадстаўнікоў іншых інстытутаў Аддзялення хіміі і навук аб Зямлі, Аддзялення біялагічных навук і інш. Група геолагаў і геафізікаў асабліва шчыра ўспомнілі і выказалі ўдзячнасць Уладзіміру Фёдаравічу за тое, што ён, як дырэктар Інстытута прыродакарыстання, падтрымаў нас, калі геолагаў і геафізікаў хацелі зусім перадаць у Мінпрыроду. Воплескамі сустрэлі С.А.Чыжыка, калі ён урачыста ўручыў У. Логінаву залаты медаль НАН Беларусі.

**Некаторыя моманты з жыцця Гаўрылы Гарэцкага**

(у сувязі з 120-годдзем з дня нараджэння – 10 красавіка 1900 года)

Гаўрыла Гарэцкі ў сваім жыцці прайшоў тры кругабегі: 1) беларускі (вучоба і праца эканамістам у Беларусі – 30 гадоў); 2) пераходны (у "архіпелагу ГУЛАГу", праца геолагам у розных мясцінах Савецкага Саюза – 38 гадоў); 3) менскі, беларускі (праца геолагам у Беларусі – 20 гадоў). Трэці (менскі, беларускі кругабег жыцця – 1968–1988) і часткова другі (пераходны – 1930-1968) беларускаму чытачу ўжо даволі вядомы, а вось першы (беларускі – 1900-1930) знаёмы значна менш. Таму я прывяду некалькі момантаў з жыцця Гаўрылы Гарэцкага галоўным чынам з першага перыяду і часткова – з другога.

- Шчаслівае дзяцінства ў Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх звязана з іх ласкавай маці Ефрасінняй Міхайлаўнай Паповай-Гарэцкай – народнай спявачкай, дзякуючы якой яны палюбілі родную мову, народныя песні і фальклор, прыроду, Бацькаўшчыну, а таксама бедных сялян, але такіх працавітых, добразычлівых, цярплівых, з дзіўным гумарам, а таксама прыгожых, вясёлых, пявучых дзяўчат.

- Гаўрыла, маладзейшы за Максіма трохі больш за 7 гадоў, быў пад вялікім уплывам шматграннага таленту дарагога Максіма, якога лічыў сваім духоўным настаўнікам. Гурык (так у сям'і звалі Гаўрылу) у 11 гадоў вучыўся ў двухкласным вучылішчы ў Старым Сяле (12 км ад хаты); настаўнік Пётр Паўлоўскі сабраў усіх вучняў і сказаў: *За добрае старанне ў вучобе я дарую ад сябе кніжку І. Тургенева "Записки охотника" нашаму лепшаму вучню Гаўрыле Гарэцкаму, а вам, дурням, – нічога.*
- У 1914 годзе Максім перад тым, як ісці на ваенную службу, звярнуўся да рэпетытара Крэера, каб той дапамог Гаўрылу здаць экзамены ў Горы-Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча, але той адмовіўся (мала часу засталося, хлопец нейкі малы); Гурык пачаў рыхтавацца самастойна і ў выніку: са 140 чалавек ён быў другім, а Крэер вельмі здзівіўся і шкадаваў, што тады адмовіў хлопцу.
- У Горках Гаўрыла стварыў Беларускую секцыю вучняў Горацкіх сельскагаспадарчых школ, якая пазней атрымала назву "Беларуская секцыя студэнтаў Горацкага сельскагаспадарчага інстытута" і існавала да 1924 года. У секцыі дзейнічалі аддзелы: гісторыка-эканамічны, літаратурны, тэатральны, музычны, чыстага мастацтва. Гаўрыла асабліва актыўна ўдзельнічаў у працы тэатральнага аддзела, артысты-аматары якога інсцэніравалі паэму "Тарас на Парнасе", ставілі п'есы Ф. Аляхновіча, У. Галубка, В. Дуніна-Марцінкевіча і інш. На паказах прысутнічала больш за 500 чалавек. У. Галубку спадабалася пастаноўка яго п'есы, і ён на памяць падараваў Гаўрыле два сваіх фотаздымкі з надпісам: "Г. Гарэцкаму на памяць – У. Галубок". У той час Гаўрылу настолькі захапіў тэатр, што ён пачаў нават схіляцца да таго, каб стаць акцёрам.
- Лютаўскую рэвалюцыю 1917 года Гаўрыла сустрэў у Горках, у сувязі з якой заняткі адмянілі, а тут пачалася эпідэмія тыфуса. Гаўрыла выпісаў "Курс стэнаграфіі" па сістэме Ф.К. Кабельсбергера і даволі хутка засвоіў яго. Ужо ў студзені 1918 года, калі вучылішча ў Горках закрылі, Гаўрыла паехаў у Смаленск да Максіма, дзе ўжо змог працаваць сакратаром стэнаграфістам у Савеце народнай гаспадаркі выканкама. Пазней Г. Гарэцкі часта карыстаўся стэнаграфіяй увесь час свайго жыцця.
- У Смаленску Максім і Гаўрыла Гарэцкія вельмі пільна працавалі над стварэннем "Руска-беларускага слоўніка", які ўжо ў канцы

1918 года выйшаў з друку і які Гаўрыла тады вазіў у Менск, каб здаць Алесю Гаруну – загадчыку кнігарні. У 1920 годзе ў Вільні выйшла другое выданне слоўніка пад назвай “Маскоўска-беларускі слоўнік”. Гэта быў першы ў беларускай літаратуры і культуры слоўнік такога кшталту. Тады Гаўрыла авалодаў эсперанта, а пасля заканчэння вучылішча, працуючы ва Уфімскім губземаддзеле, дапамагаў гурткам па яго вывучэнні.

- У верасні 1920 года Гаўрыла Гарэцкі стаў студэнтам эканамічнага факультэта Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі і стварыў Беларускую культурна-навуковую асацыяцыю студэнтаў Пятроўскай акадэміі, галоўная мэта якой – адраджэнне Беларусі. Шматгранная актыўная дзейнасць асацыяцыі выклікала вялікую цікавасць і падтрымку кіраўнікоў БССР (А. Чарвякоў і інш.) Пад уплывам беларускай асацыяцыі, якая ўжо аб’ядноўвала больш за 200 студэнтаў, узніклі блізкія арганізацыі ў многіх ВНУ. Былі створаны беларускі студэнцкі клуб, кааператыўнае выдавецкае таварыства “Маладая Беларусь”, якое выдала навукова-літаратурны зборнік, які пачынаўся артыкулам Г. Гарэцкага “На новы шлях”. У тыя часы ён быў сапраўдным таленавітым публіцыстам-адраджэнцам (артыкулы “Младость в пепельных сумерках”, “Регрессивность и прогрессивность национального возрождения”, “Изучение Белоруссии как фактор её возрождения”, “З Масквы ў Беларускі Ерузалем (падарожжа)”, “Дзе быць Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі?”, “Што нам павінен даць Беларускі тэатр?”, “Усебеларускі студэнцкі з’езд” і інш.).
- 1922 год – такі творчы для Г. Гарэцкага – нечакана абарваўся і стаў трагічным. Аказалася, што яшчэ з вясны 1922 года Ленін задумаў шырокамаштабную акцыю: выслаць за мяжу ўсіх прадстаўнікоў вальнадумнай інтэлігенцыі. У іх лік трапіў і Г. Гарэцкі – 31 жніўня позна ўвечары пад’ехаў “чорны воран”, забраў Гаўрылу і яшчэ двух студэнтаў – Жыгалава і Артабалеўскага, завезлі іх на Лубянку. 15 верасня сястра Гаўрылы Ганна, якая выдатна здала экзамены і стала студэнткай Заатэхнічнага інстытута, панесла свайму брату перадачу ў турму і трапіла пад трамвай. Гаўрыла, якога ўжо хутка хацелі выслаць у Нямеччыну, звярнуўся з просьбай адкласці высылку на 10 дзён, каб наведаць у бальніцы сястру. Пасля жудасных мучэнняў 19 верасня яна памерла, а 21 верасня студэнты-землякі пахавалі Ганульку, маладую, выдатную натуру на могілках у Галовінскім манастыры.

Гаўрыла плакаў і адчуваў сябе вінаватым у яе смерці. Для братоў Гарэцкіх гэты дзень на ўсё жыццё застаўся самым цяжкім, самым самотным. Амаль праз два дзесяцігоддзі ў час вайны Гаўрыла напісаў у запісной кніжцы: "Ах, Ганулька, Ганулька, кветка растаптаная. Дарагая мая мучаніца. Што ж нарабіў я?" Пасля допыту, які правёў сам В.Р. Мянжынскі (адзін з кіраўнікоў Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення НКУС РСФСР) і які параіў займацца толькі навукай, 12 кастрычніка 1922 года Г. Гарэцкі быў вызвалены.

- Шчырае спачуванне і вялікую падтрымку Гаўрыла Гарэцкі атрымаў ад Ларысы Парфяновіч (студэнтка агранамічнага факультэта, родам з Беластоку), якая актыўна ўдзельнічала ў працы Беларускай асацыяцыі студэнтаў у якасці загадчыка беларускай бібліятэкі і салісткі папулярнага хора беларускіх студэнтаў. У 1923 годзе адкрылася Першая сельскагаспадарчая і саматужна-прамысловая выстаўка СССР, у арганізацыі і справах якой удзельнічалі Гаўрыла і Ларыса, што яшчэ больш іх зблізіла і ўзнікла вялікае каханне. 8 ліпеня 1923 года Гурык зайшоў да Лары ў інтэрнат, узяў яе чамаданчык, рукзак, раскладушку, і пайшлі яны разам у драўляны дом гаспадыні Гімры, дзе папярэдне быў зняты невялічкі пакойчык. Да новай хаты праводзіў іх сябар студэнт Іван Рытус, пажадаў шчасця. Вось і ўсё вяселле! 5 ліпеня 1924 года ў Гарэцкіх нарадзіўся сын, якога назвалі Усяславам. Малы спаў у вялікім жоўтым чамадане, бо ложак для яго паставіць не было куды. Удзень чамадан ставілі на ложак маладых бацькоў, а на ноч – ці ў крэсла, ці на стол.
- У час працы ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі сельскай гаспадаркі (1925–1927 гг., г. Горкі, дацэнт, загадчык кафедры сельскагаспадарчай эканоміі і эканамічнай геаграфіі, член Праўлення) Гаўрыла Гарэцкі працягваў пільна займацца навуковай дзейнасцю і ў 1926 г. выдаў манаграфію "Народны прыбытак Беларусі (нацыянальны даход Беларусі)", артыкулы – "Сельская гаспадарка Гомельскай губерні", "Население Гомельской губернии", "Сельское хозяйство Гомельской губернии". У гэтых артыкулах Г. Гарэцкі вельмі пераканаўча даказаў, што Гомельшчына і па насельніцтву, і па характару сельскай гаспадаркі найбольш блізкая менавіта Беларусі, а не Расіі і Украіне. Яго аргументы былі ўзяты за аснову пры вельмі гарачых спрэчках аб аднясенні Гомельшчыны і вырашэнні мэтазгоднасці ўключэння яе ў склад БССР.

- Улетку 1925 года Г. Гарэцкі кіраваў экспедыцыяй, якая праводзіла эканамічны профіль па лініі Пятроўска-Разумоўскае – Дурыкіна. Па выніках экспедыцыі ў Маскве ў 1927 годзе выйшла кніга – Г.І. Гарецкі, С.М. Малышаў, А.А. Рыбнікаў “Экономическое влияние Москвы на организацию сельского хозяйства области”, у якой быў вялікі раздзел Гарэцкага “Экономический профиль Петровско-Разумовское – Дурыкино”. У прадмове да кнігі прафесар А.В. Чаянаў напісаў: *Экспедиция Горецкого ... благодаря новизне метода, как-то по-новому осветила давно изученное нами подмосковное пространство… Этот метод должен явиться одним из наиболее дешёвых и наиболее быстрых методов обследования ещё неизученных пространств.*
- У студзені 1927 года Г.І. Гарэцкага прызначылі дырэктарам-арганізатарам “Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі імя У. Леніна” пры СНК БССР. Ён склаў структуру новага інстытута, яго статут, напрамкі дзейнасці, праграму даследаванняў і план працы, прычым усё гэта падначаліў таму тыпу народнай гаспадаркі, які быў выяўлены пры вывучэнні нацыянальнага прыбытку Беларусі. Гарэцкі вельмі энергічна ўзяўся за справу і ўжо ў хуткім часе ўсе навуковыя напрамкі сельскай і лясной гаспадаркі былі сканцэнтраваны ў Інстытуце, падабраны лепшыя навуковыя кадры вядомых вучоных, закуплены навейшыя прыборы, пачалі выдаваць на беларускай мове штомесячны часопіс “Сельская і лясная гаспадарка Беларусі”, які шырока распаўсюджваўся не толькі ў БССР, але і далёка за яе межы і г.д. Інстытут стаў адным з лепшых Інстытутаў рэспублікі. Некалькі разоў прыязджаў у Інстытут М.І. Вавілаў, якому спадабаліся даследчыя ўстановы і навуковыя напрамкі, а таксама і кіраўнік Інстытута. Тады вырашылі, што па ўзору БелНДІ сельскай і лясной гаспадаркі будзе рэкамендавана стварыць Інстытуты аналагічнага напрамку дзейнасці на тэрыторыі РСФСР, а таксама шэрагу рэспублік Савецкага Саюза.
- Паміж БНДІ сельскай і лясной гаспадаркі і Інбелкультам была заключана дамова “У мэтах канцэнтрацыі, планавага развіцця і ўзаемнай сувязі навуковых доследаў прыроды, гаспадаркі і культуры Беларусі” – Інстытут замяніў шэраг падраздзяленняў Інбелкульта (сельскагаспадарчыя і інш.), а Г. Гарэцкага ўвялі ў склад Прэзідыума Інбелкульта і Навуковай Рады як правадзейнага члена з правам

рашаючага голаса. Пытанне аб пераўтварэнні Інбелкульта ў Акадэмію навук было пастаўлена яшчэ ў 1924 годзе, але дазвол Масква дала толькі ў 1928 годзе. Г. Гарэцкі напісаў спецыяльную дакладную запіску “Арганізацыйныя прынцыпы будаўніцтва Акадэміі навук”, у якой у тым ліку прапанаваў, каб у структуры Акадэміі былі не толькі кафедры, але і Інстытуты, як комплекснага, так і спецыяльнага тыпу; уключыць дысцыпліны не толькі ў галіне культуры і прыроды, але і ў галіне тэхнікі і гаспадаркі. У канцы снежня 1928 года Г. Гарэцкага ЦК КП(б)Б вырашыў уключыць у лік кандыдатаў акадэмікаў-арганізатараў Беларускай акадэміі навук (БАН), 26 снежня шэраг буйнейшых вучоных БССР, галоўным чынам з ліку членаў Інбелкульта, спачатку абраныя спецыяльна створанай камісіяй, а затым ужо пастановай СНК БССР былі зацверджаныя ў званні акадэмікаў БАН. 9 членаў было абрана з АН СССР і Усеукраінскай АН. 1 студзеня 1929 года, у дзень 10-годдзя БССР і Кампартыі рэспублікі, у будынку Дома культуры (раней сінагогі, цяпер Рускага драматычнага тэатра імя А.М. Горкага) адбылося ўрачыстае пасяджэнне – устаноўчы сход Беларускай Акадэміі навук. Яго распачаў сакратар ЦВК А.І. Хацкевіч. Ён абвясціў прозвішчы першых акадэмікаў БАН. Гаўрыла Гарэцкі сядзеў паміж Янкам Купалам і Якубам Коласам. З дакладам выступіў першы прэзідэнт БАН У.М. Ігнатоўскі. У газеце “Савецкая Беларусь” ад 3 студзеня была надрукавана Пастанова СНК БССР пра зацвярджэнне складу правадзейных членаў і Прэзідыума БАН. Шматлікія сябры і знаёмыя Гаўрылы Гарэцкага шчыра віншавалі, а некаторыя з іх і жартавалі, што які ён таленавіты і шчаслівы: у пачатку снежня 1928 года нарадзіў малодшага сына Радзіма, а ў канцы снежня і Беларускую акадэмію навук.

- У жніўні-верасні 1926 года Г. Гарэцкі разам з С. Некрашэвічам былі ў камандзіроўцы ў Польшчы і Нямеччыне, а ў верасні 1927 года Г. Гарэцкі быў у двухмесячнай камандзіроўцы ў Польшчы, Нямеччыне і Даніі. Г. Гарэцкі ў Польшчы быў у Кракаве, дзе адшукаў забытую магілу Алеся Гаруна, агледзеў прыгожыя краявіды Карпат, а самае галоўнае, у выніку камандзіровак сабраў вялікі матэрыял па вывучэнні эканомікі і вядзенні сельскай гаспадаркі гэтых краін, а таксама па дэмаграфіі Заходняй Беларусі ў Польшчы. Ён напісаў грунтоўную манаграфію “Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы (нацыянальны склад насельніцтва Заходняй Беларусі)”, якая была

выдадзена ў Менску (1928 г.) на беларускай мове з вялікім англійскім рэзюме. У манаграфіі аўтар вызначыў сапраўдныя этнічныя межы Беларусі і асабліва дасканала заходнюю. Праца зацікавіла грамадскасць і яе аўтар быў запрошаны прачытаць лекцыю ў Кембрыдж. Значна пазней у час вайны, калі ўжо ў 1943 годзе тэрыторыя СССР была вызвалена ад нямецкіх войск, вядомы грамадскі дзеяч, эканаміст, акадэмік, прафесар С.М. Каляснёў, сябра Гаўрылы з юнацтва, напісаў ліст сакратару ЦК КП(б)Б П.К. Панамарэнку аб неабходнасці стварыць групу вучоных для вызначэння заходняй мяжы СССР, у якую прапанаваў Г.І. Гарэцкага. Тады быў пасланы ліст начальніку Гідрапраекта Галоўпрамбуду НКУС СССР генерал-маёру С.Я. Жуку з просьбай камандзіраваць Г.І. Гарэцкага для ўдзелу ў сесіі АН БССР, але прыйшоў адмоўны адказ. Пасля заканчэння вайны вырашалася пытанне пра мяжу паміж Польшчай і БССР. С.Г. Каляснёў так змог адаслаць кнігу Г.І. Гарэцкага “Мяжа Заходняй Беларусі ў Польшчы”, што яна трапіла на Палітбюро ЦК КПСС з удзелам І. Сталіна пры разглядзе гэтай праблемы. Як стала вядома, матэрыялы кнігі часткова паўплывалі на канчатковае вырашэнне пытання, але тады з чыста палітычных прычын палічылі пайсці на згоду з пазіцыяй Польшчы, у прыватнасці адносна падзелу Бела-сточчыны.

- Гаўрыла Гарэцкі ў 1927 годзе быў абраны кандыдатам у члены Цэнтральнага Выканаўчага камітэта БССР, а ў 1929 – членам ЦВК БССР. Ён працаваў у эканамічнай секцыі Навуковага таварыства пры БДУ, Камісіі перспектыўнага планавання Дзяржплана БССР, актыўна ўдзельнічаў у пасяджэннях СНК БССР, выступаў з дакладамі і рабіў прапановы пра неабходнасць стварэння Беларускага Цэнтральнапрамысловага раёна з цэнтрам у Менску, геаграфічнага рацыянальнага размяшчэння прамысловасці і г.д. Дзейнасць Гарэцкага як эканаміста высока ацаніў не толькі ўрад БССР, але і шэраг калег. Вядомы вучоны, палітычны і грамадскі дзеяч Аркадзь Смоліч пісаў: *…он опережал всех известных мне экономистов БССР. Для практической работы он нередко выставлял положения, которые только впоследствии стали насущнейшими плановыми установками.* Акадэмік П.Г. Нікіценка и В.Н. Бусько ў кнізе “Они были первыми академиками-экономистами Беларуси” (2001) так ацанілі дзейнасць Г.І. Гарэцкага: *Гавриил Иванович Горецкий занимался экономическими вопросами не более как пять лет. Однако он оставил яркий след*

*в истории нашей экономической науки. Многие высказанные им положения сохраняют актуальность и сегодня. Например, необходимость развития рыночных отношений как важнейший фактор экономического роста, важность для экономики Беларуси внешнего рынка, творческое использование мирового опыта хозяйствования с учётом особенностей республик, при разработке стратегии – опора на направления эволюционного развития страны, выяснение конкретных приоритетов в экономической политике и другие*.

Як я даведаўся ўжо ў 90-х гадах мінулага стагоддзя з кнігі Куцэнка А.Н., Смірноў Н.Д. "Ордена Советских республик" (Донецк, 1996, с. 267.), у 1930 Г.І. Гарэцкі быў узнагароджаны ўрадам БССР ордэнам Працоўнага Штандарту БССР, аб чым ён сам так ніколі і не даведаўся. Тады ордэн замянілі на ордэр – і ўзнагароджаны выдатны акадэмік адразу стаў зняволеным "нацдэмам" – "ворагам народа".

- У траўні 1931 года Пастановай Калегіі АДПУ старшыня сельскагаспадарчай секцыі Дзяржплана Бонч-Асмалоўскі Р.А., дырэктар НДІ сельскай і лясной гаспадаркі Гарэцкі Г.І. і вучоны сакратар Земплана НКЗ Хоцкі П.А., якія ўзначальвалі Беларускі філіял контррэвалюцыйнай арганізацыі ПСП (на самай справе не існуючай Працоўнай сялянскай партыі – ПСП, узначаленай выдатнымі эканамістамі М.Д. Кондратьевым, А.В. Чаяновым и др.), былі асуджаны да вышэйшай меры пакарання (расстрэлу) з заменай гэтага пакарання заключэннем у канцлагер тэрмінам на 10 гадоў. Следчы Майсей Юдашкін па сакрэце сказаў Гарэцкаму, што ў той час многія спісы на расстрэл падпісваў сам Сталін. Калі Чарвякоў і Галадзед прывезлі прысуды па розных справах, у тым ліку і па ПСП, яны папрасілі зменшыць меру пакарання Гарэцкаму. Сталін спытаўся: "Так сколько ему лет?" – "Тридцать", – адказалі яны. Ён тады сказаў: "Ещё молодой – пусть немного поживёт", – і выкрасліў прозвішча са спіску. Таксама зменшылі меру пакарання Бонч-Асмалоўскаму і Хоцкаму. Да гэтага часу невядома – ці гэта праўда, ці міф.
- Гаўрыла Гарэцкі трапіў у сумна вядомыя "Салаўкі" – СЛОН (Соловецкие лагеря особого назначения), у іх сталіцу Кемь на беразе Белага мора Нечакана дапамагла вышэйшая адукацыя – такія зняволеныя спатрэбіліся на Беламорска-Балтыйскім камбінаце (ББК), які знаходзіўся ў пасёлку Мядзведжая Гара. Недалёка ад барака, дзе жылі зняволеныя, знаходзілася Геалагічная база. Гарэцкі з вялікай надзеяй

атрымаць тут працу сустрэўся з галоўным геолагам Аляксандрам Мітрафанавічам Гурэевым, які ўзяў яго з выпрабавальным тэрмінам памочнікам малодшага тэхніка Варвары Гулінай і пажартаваў: "Будзеце – помВар". Гэты дзень, 19 верасня 1931 года, стаў днём пералому ў жыцці. Гаўрыла Гарэцкі так заўзята пачаў вывучаць геалогію, што ўжо ў лютым 1932 года займаў пасаду старшага інжынера-геолага Бюро вышуканняў Беламорбуда. Малады акадэмік-эканаміст зрабіўся юным геолагам. Канал ББК – калыска геалагічных ведаў Гаўрылы Гарэцкага. У 1933 годзе Гарэцкі напісаў першыя тры самастойныя сур'ёзныя справаздачы, а таксама ў часопісе "За ка-чество" надрукаваў артыкул "Геологическая характеристика Водораздельного канала".

- У 1933 годзе ў Мядзведжай Гары Г. Гарэцкі пазнаёміўся з Пятром Мікалаевічам Чырвінскім, выдатным геолагам-энцыклапедыстам, выпускніком Кіеўскага ўніверсітэта, прафесарам Данскога політэхнічнага інстытута, сынам вядомага вучонага-заатэхніка, прафесара сельскагаспадарчага факультэта Кіеўскага політэхнічнага інстытута. Дарэчы, яго брат Уладзімір Мікалаевіч стаў вядомым украінскім геолагам, а пляменніца Марына Уладзіміраўна – выдатным украінскім геафізікам, Героем Сацыялістычнай працы. Пётр Мікалаевіч таксама быў высланы і працаваў на Хібінагорскім камбінаце. Ён зрабіў вялікі ўплыў на станаўленне Г. Гарэцкага як геолага. Яны шчыра пасябравалі і зноў сустрэліся пасля Другой сусветнай вайны ў Пермі, дзе Чырвінскі працаваў прафесарам універсітэта. Але ўвесь час рэгулярна перапісваліся, абмяркоўвалі розныя геалагічныя праблемы, раіліся. Нездарма сваю трэцюю манаграфію аб прарэках "Аллювиальная летопись великого ПраДнепра" (1970) Г. Гарэцкі прысвяціў яму: "Светлой памяти выдающегося советского ученого-энциклопедиста Петра Николаевича Чирвинского – наставника, друга и вдохновителя – посвящаю". У 1967 годзе Гарэцкі напісаў артыкул "Воспоминания о П.Н. Чирвинском", які быў надрукаваны ўжо пасля яго смерці ў беларускім часопісе "Літасфера" (2003).
- У кастрычніку 1934 года Г. Гарэцкі быў вызвалены – за добрую працу тэрмін заключэння быў значна скарочаны. Але катэгарычна прапанавалі застацца працаваць у ББК. Ад Парфіра прыйшла жудасная вестка, што 4 сакавіка 1935 года ў 2 гадзіны дня пасля аперацыі грыжы (падняла цяжкі кошык з бульбай і надарвалася) памерла Маці.

Хаця Гаўрыла быў ужо вызвалены, а Максім яшчэ быў ссыльны ў Вятцы, ні аднаго з іх не адпусцілі на пахаванне Маці. Гэты дзень для братоў Гарэцкіх на ўсё жыццё быў самы горкі і самотны.

- Настаў 1937 год – пік сталінскіх рэпрэсій, калі дабіралі застаўшыхся жывымі "ворагаў народа". У кастрычніку 1937 года ў Мядзведжай Гары Гаўрылу Гарэцкага арыштавалі, а ў снежні нечакана вызвалілі. Ужо ў траўні 1938 года яго зноў арыштавалі, прысудзілі да расстрэлу і вызвалілі толькі ў чэрвені 1939 года – гэта былі самыя цяжкія і жудасныя 14 месяцаў турмы, якія цудам удалося перажыць. Толькі 8 лістапада 1939 года ўжо ў Салікамску Гаўрыла Гарэцкі даведаўся пра смерць Максіма – паводле даведкі, што атрымала Леаніла Чарняўская ад НКУС, ён памёр 20 сакавіка 1939 года ў пасёлку Вожаель (Комі АССР). Так і застаўся Гаўрыла Гарэцкі з гэтай хлуснёй пра смерць любага брата, не пачуўшы праўду пра смерць Максіма, які быў расстраляны 10 лютага 1938 года ў Вязьме, аб чым Радзім Гарэцкі змог надрукаваць толькі ў кастрычніку 1992 года ў газеце "ЛіМ".

Перанесці многія цяжкасці і пакуты Гаўрылу Гарэцкаму дапамаглі не толькі жыццяздольнасць, аптымізм і спрыяльныя моманты ў справах НКУС (перыядычная змена кіраўніцтва), але і вялікае каханне да жонкі. Яно было крыніцай нязломнасці духоўнай сілы і веры ў непераможнасць жыцця. Асабліва ўражваюць лісты Гаўрылы з турмы на волю – яны напісаны 8–12.VII.1938 года дробнымі-дробнымі літарамі на маленечкіх тонкіх паперках для самакрутак з махоркі. Гэта адбылося ўжо тады, калі здзекі і катаванні, карцэры і голад давялі Гаўрылу да такога жудаснага стану (няголены, на апухлых нагах – падраныя тапачкі, прывязаныя шпагатам), што ён папрасіў Лару перадаць лязо, бо сілаў больш не засталося, ды і наперадзе чакаў толькі расстрэл… Лара ў каўнеры сарочкі перадала лязо, хаця сэрца яе разрывалася ад болю і жалю. Галоўнае – вызваліць любага ад бясконцых пакут. Вось вытрымка з ліста 8.VII: *Мая любая, любая! Мая самая дарагая, самая харошая, мая чыстая, сьветлая Ларута! Вітаю Цябе з нашым радасным днём, з пятнадццацігодзьдзем нашага сумеснага шчасьця; шчаьце, якое не праходзіць, а ўсё паглыбляецца і павялічваецца.[…] Сёньня Ты для мяне – само сонца, само шчасьце, уся радасьць, лятуценьне, імклівасьць. […] Сёньня абяцаю Табе, мая Ларута, што ў часіну самае лютае нядолі,*

*калі трэба б было перастаць жыць, я ніколі не скончу самагубствам, я буду жыць для Цябе, для дзяцей, для радасьці хоць праз вузенькую шчэлінку бачыць Вас, ведаць, што Вы ёсьць на сьвеце, які ўжо праз адно гэта шчасьлівы для мяне, які не варта самахоць пакідаць ніколі.* Вялікае каханне, якое мае бацькі пранеслі праз усё жыццё і якое дапамагло ім перажыць усе ліхалецці, можна добра адчуць па іх паштоваму ліставанню, бо пісалі лісты адзін аднаму амаль кожны дзень. Часткова я хацеў распавесці пра гэта ў кнізе "Лісты жыцця і кахання" (2013).

- Лёс жыцця і дзейнасць Гаўрылы Гарэцкага склаўся так, што інжынерна-геалагічныя вышуканні пад Ніжне-Туломскую ГЭС, Кольскі канал і Верхне-Туломскую ГЭС давялося праводзіць з 1934 года да пачатку 1937 года на працягу трохі менш трох гадоў. За гэты час ён вельмі многа працаваў над геалагічнымі праблемамі рэгіёна, а таксама і археалагічнымі. Ён напісаў шэраг рукапісных навуковых прац пра геалагічныя ўмовы, міжледніковыя адклады, тэрасы ў даліне Туломы, неалітычныя стаянкі і інш. Наступныя жудасныя два гады ў сувязі з арыштамі былі згублены для навуковай працы. Са жніўня 1939 года на працягу 1,5 гадоў Г. Гарэцкі меў цікавую працу па вывучэнні геалагічных умоў для будаўніцтва Салікамскага гідравузла. Пачалася вайна – Г. Гарэцкага мабілізавалі на абарончыя работы. У 1944 годзе ён быў прызначаны намеснікам галоўнага геолага Бюро інжынернай геалогіі Гідрапраекта і пераехаў у пас. Чкалаўск-на-Волзе. К гэтаму часу Г. Гарэцкі апублікаваў шэраг сур'ёзных навуковых прац па матэрыялах ранейшых інжынерна-геалагічных вышуканняў. Многія яго калегі з АН СССР раілі абараняць дысертацыю.

16 лютага 1945 года у Інстытуце геалагічных навук АН СССР адбылася абарона дысертацыі Гарэцкага па тэме: "О роли местных географических условий в четвертичной истории на примере изучения Кольской и Туломской долин на Кольском полуострове". Праца дысертанта была так высока ацэнена апанентамі і членамі Вучонага Савета, што яны не толькі аднагалосна прагаласавалі за прысваенне навуковай ступені кандыдата навук, але, прызначыўшы яшчэ трэцяга апанента, працягнулі абарону на атрыманне вучонай ступені доктара навук – галасаванне было станоўчым з лікам 15 – "за", 2 – "устрымаліся". На жаль, ВАК зацвердзіў толькі першую пастанову Вучонага

Савета.

13 траўня 1946 года Г. Гарэцкі прапанаваў Вучонаму савету Інстытута геалагічных навук АН СССР новую працу “Неогеновые и четвертичные отложения района Средней Камы между устьем Вишеры и городом Боровском” на суісканне вучонай ступені доктара геолага-мінералагічных навук, за якую ўсе 34 члена Вучонага Савета прагаласавалі станоўча.

- Узімку 1945 года ў пасёлку Чкалаўск Радзім захварэў на моцны грып, а потым дадалося запаленне абалонак спіннога мозгу (такі дыягназ паставілі значна пазней, бо вызначыць хваробу доўга не маглі). Паклалі яго ў бальніцу. Дзікі боль у паясніцы не дазваляў нават паварушыцца, тэмпература дасягала 39–40°, ён мізарнеў усё больш і больш. Каб неяк змагацца з болем, суцішыць яго, Радзім ўяўляў сябе то Паўкам Карчагіным, якога б’юць па спіне, то Лазо, якога кідаюць у печ паравоза. А яшчэ, каб хоць на нейкую хвіліну ўнікнуць бясконцага жудаснага болю, ён прыдумаў спяваць песні, але гэта выклікала ў дактароў, медычных сясцёр, ды іншым разам і ў маіх родных нейкае адваротнае ўспрыманне: ім здавалася, што хлопец вар’яцее... Ніякія метады лячэння не дапамагалі. Два разы рабілі пункцыю, каб узяць на аналіз рэчыва са спіннога мозгу. Гаўрыла Гарэцкі нават дамогся таго, што выклікалі дактароў з самога Горкага. Сабралі кансіліум і пастанавілі: лячэнне выбрана правільнае, а там як павядзе арганізм – ёсць спадзяванне, што справіцца. А хвораму ўсё горш і горш... Прыйшоў Гаўрыла, узяў сына за руку, гладзіць яе, а ў яго вачах такі сум, такі страх. Прыйшоўшы дахаты, ён выказаў сумненне наконт выздараўлення сына – трэба, мусіць, рыхтавацца да самага горшага, і заплакаў... Радзім ніколі не бачыў, каб бацька плакаў. Гэтае наведанне, змрочны і жалобны позірк бацькі прымусілі Радзіма яшчэ больш упарта змагацца за жыццё, ён сказаў сабе, што не будзе бацька сумаваць і плакаць па сыне. Радзім зноў, яшчэ гучней заспяваў... Праляжаўшы некалькі месяцаў, ён нарэшце паздаравеў.

- Калі Гаўрыла Гарэцкі ў 1946 годзе рыхтаваў доктарскую дысертацыю, адначасова пачаў збіраць матэрыялы пра стаўленне Максіма Горкага да беларускай літаратуры, распачалося яго сапраўднае сяброўства з А.Я. Багдановічам – бацькам Максіма Багдановіча, якога Максім Горкі вельмі любіў, захапляўся яго талентам, прынамсі хваліў вялікі дослед пра паходжанне моваў. Праз свайго

сябра Максім Горкі палюбіў беларускі фальклор, асабліва беларускія ўяўленні пра чарцей. Г. Гарэцкі ў Горкім вывучаў архіў музея Максіма Горкага, а ў Маскве наведаў К.П. Пешкаву, якая гасцінна сустрэла яго, абяцала дапамагчы адшукаць беларускія кніжкі, на якіх ёсць адзнакі М. Горкага. Тады ж Гаўрыла Гарэцкі быў у новаадчыненым музеі Максіма Горкага, які вельмі багаты рознымі экспанатамі. Хадзіў туды чытаць цікавыя лісты М. Горкага да А. Багдановіча. У выніку сур’ёзнай працы па гэтым пытанні Г.І. Гарэцкі напісаў вялікі артыкул “Горкі і беларускі фальклор”, які надрукаваў толькі ў 1966 годзе ў часопісе “Полымя” № 5 і які выклікаў значную цікавасць і атрымаў высокую ацэнку. Як гэты артыкул, так і багатая эпісталярная спадчына Г.І. Гарэцкага, сведчыць пра значны талент аўтара ў мастацкім слове. Як адзначыў М.В. Мушынскі: *эпісталярый Г.І. Гарэцкага – гэта літаратура заўтрашняга дня. [...] адно з першых месцаў побач з лістамі класікаў айчыннай літаратуры зай-муць і лісты Г.І. Гарэцкага. [...] Каэфіцыент іх чытэльнасці, іх чытацкая запатрабавальнасць вельмі высокая*. Як ужо адзначалі калегі і вучні Г. Гарэцкага, яго геалагічныя навуковыя працы маюць вельмі высокія мастацкія якасці.

- У час бясконцых камандзіровак, вандровак, палявых прац у геалагічных экспедыцыях адбываліся розныя прыгоды, часам вельмі небяспечныя. Вось і ў паездку, якая адбылася ўлетку 1958 года, на досыць вялікім схіле дарогі Масква–Харкаў, недалёка ад Чугуева (радзімы мастака Рэпіна), сапсаваўся тормаз аўтамабіля ГАЗ-69, ён страшэнна разагнаўся, з’ехаў з дарогі. Прычэп перакуліўся і пацягнуў за сабой машыну, якая таксама перакулілася. Тата сядзеў на пярэднім сядзенні побач з шафёрам, галавой разбіў шкло, вылецеў наперад, а машына прыдавіла яго грудзі – былі паламаны мноства рэбраў справа, некалькі злева, грудзіна, дыягназавалі страсенне мозгу, шок. Пазванілі ў Геалагічны інстытут, дзе працаваў малодшы сын Радзім, і сказалі пра аварыю. Увечары таго ж дня сын ужо быў у бальніцы. Стан параненага быў вельмі цяжкі. Добра, што галоўны ўрач Андрэй Аляксандравіч Бурцаў (заслужаны дзеяч медыцыны УССР) аказаўся цудоўным хірургам: ён без аперацыі змог правільна скласці ўсе паламаныя косці і выратаваць хворага. Але ў такіх выпадках вельмі многа значыць і маральны стан пацярпелага. Пра гэта яскрава сведчыць надпіс, які зрабіў хірург на сваім фотаздымку, падараваным

Гаўрыле Гарэцкаму на памяць: “Ваше мужество, воля, выдержка и исключительная скромность явились залогом в Вашем выздоровлении”. Лета 1959 года пачалося з новых камандзіровак, паездак, вандровак – галоўным чынам па поўдні Расіі і па Украіне, хаця былі паездкі і ў Ташкент, Ленінабад. Наступны год – скрозь у вандраванні. Асабліва быў рады, што пачаў дасканала вывучаць геалагічную гісторыю даліны Дняпра і нават Прыпяці.

- У канцы 1965 года – страшэнная вестка: у Парфіра інсульт. Гаўрыла кідае ўсё – і ў Магілёў. Наладзілі кругласутачнае дзяжурства каля ложка хворага: яго жонка Ніся і дочкі Лёля і Мая – галоўным чынам удзень, а Тата ўзяў на сябе самы цяжкі начны час (ды і жанчынам быць ноччу сярод 7 хворых у палаце меней зручна). Так прайшло два месяцы. Змаганне за жыццё дарагога чалавека, якога дактары ўжо лічылі безнадзейным, добры дагляд, аптымістычны настрой Парфіра, правільнае лячэнне зрабілі сваю справу: на Новы год ён вярнуўся дахаты, хаця і саслабелы, з кійком, але з лепшым самаадчуваннем. Гаўрыла з палёгкай у сэрцы вярнуўся ў Дзедаўск.
- З 1956 года Г.І. Гарэцкага прызначылі намеснікам Аддзела геалагічных вышуканняў і галоўным геолагам Паўднёвых аб’ектаў Гідрапраекта, і ён пераехаў у горад Дзедаўск Маскоўскай вобласці. Ён шмат часу працаваў ва Украіне. Пра свае паездкі Гаўрыла, як заўсёды, пісаў сваёй любай Ларуце. У лістах 1957 года можна прачытаць: *Зусім асобнае пачуццё ахапіла мяне тут, на Украіне, – пачуццё замілавання да ўкраінскае прыроды, да народу, да працы на яго карысць. Нейкая захаваная радасць загарэлася… Як мне падабаецца працаваць і жыць на Украіне. Зьбіраю кавалачкі ведаў пра геалогію Дняпра і тым быццам бы набліжаюся да Беларусі. Я чую часта-часта ўкраінскія песні, музыку, музычную мову, у якія я проста закаханы – столькі ў іх хараства, магутнасці, арыгінальнасці, няўмiручасці.* У 1961 годзе Гаўрыла Гарэцкі ў лісце з Канева паведаміў: *...былі ў музеі Шаўчэнкі…[…] Вельмі добры музей… з багацейшымі мастацкімі творамі, асабліва скульптурай і малюнкамі. Дзесяць вялікіх залаў. […] Магіла і музей Шаўчэнкі – сапраўдная святыня ўкраінскага народу. Недалёка пахаваны Іван Ядлоўскі, які на працягу 50 год (1883–1933) вартаваў магілу Шаўчэнкі – вось гэта адданасць!*

Г. Гарэцкі ўсё больш супрацоўнічаў з многімі ўкраінскімі геолагамі, географамі, геамарфолагамі, археолагамі, яго часта запра-

шалі на розныя канферэнцыі, нарады, пасяджэнні вучоных саветаў, у тым ліку і ў якасці апанета па абароне дысертацыі.

У Дакладах АН СССР (1961, № 6) з друку выйшаў артыкул Г.І. Гарэцкага “Шевченковская гляцио-аллювиальная свита на Среднем Днепре”, у якім аўтар пісаў: *Переуглубленная часть днепровской долины в полосе гляциодислокаций выполнена оригинальным комплексом осадков, который назван мною шевченковской гляцио-аллювиальной свитой по имени местности “Могила Шевченко”, у которой эта свита наилучше развита* (с. 1422).

У першую палову 1960-х гадоў Г. Гарэцкі пачаў пільна працаваць над серыяй манаграфій пра алювій антрапагенавых прарэк. У 1970 годзе была надрукавана трэцяя манаграфія “Аллювиальная летопись великого Пра-Днепра”, якая ў значнай частцы з’яўляецца вынікам працы аўтара пры інжынерна-вышукальных даследаваннях Кіеўскай, Канейскай ГЭС, многіх каналаў і іншых аб’ектаў на тэрыторыі Украіны. Манаграфію вельмі многія высока ацанілі, у тым ліку і ўкраінскія вучоныя: ...*стала классической работой по истории формирования крупных речных долин* (А.М. Марыніч), *чудесная и полезная книга* (П.К. Заморый), *капитальная работа, она войдёт в золотой фонд палеогеографии плейстоцена* (К.І. Геренчук), *книга капитальна, производит большое впечатление* (М.М. Жукаў) і г.д. У Інстытуце геалагічных навук НАН Украіны я заўсёды з вялікім гонарам і шчырай удзячнасцю гляджу на партрэт акадэміка Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага сярод самых выдатных даследчыкаў геалогіі Украіны.

г. Менск, лістапад 2019 – красавік 2020

*Радзім Гарэцкі*



***Дарагі і шаноўны Ян Арцёмавіч!***

***Гарэцкія сардэчна віншуюць Вас – найвыдатнейшага дзеяча Беласточчыны са слаўным 80-годдзем! Шчыра жадаем здароўя, шчасця і каб усе наступныя юбілеі (а іх павінна быць не менш чатырох) Вы сустрэлі з каханай жанчынай, а таксама з яшчэ больш багатым багажом Вашых дасягненняў у шматгранных напрамках: цудоўнай паэзіі (асабліва лірычнай) і прозе, якая у Вас таксама напоўнена лірыкай; літаратуразнаўстве – у даследаванні беларускай і рускай паэзіі, літаратуры беларускай эміграцыі і інш.; навуцы і настаўніцтве ў якасці прафесара Варшаўскага і Беластоцкага ўніверсітэтаў; перакладаў з беларускай і польскай моў; старшыні Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежжа", рэдактара яго выдавецкай серыі "Бібліятэка аб'яднання" і рэдактара літаратурна-мастацкага і беларусазнаўчага часопіса "Тэрмапілы"; самае галоўнае – сучаснага змагара за нацыянальнае Адраджэнне.***

***З любоўю і ўдзячнасцю***

***Галіна і Радзім Гарэцкія***

***18.05.2020 г.*** ***г. Менск***



*Ала Клемянок*

# На пляцы бялюткім ліста

## КОЛАВАРОТ ВАДЫ Ў ПРЫРОДЗЕ

І вернецца ў студні вада,
артэрыі рэчак парвуцца,
азёры ў мора зліюцца;
знясе, не пакіне сляда
сусветны патоп на планеце,
дзе ўсе мы – няўдзячныя дзеці
матулі пад назвай Зямля,
агульнай бядой захлынемся
і ў новым Сусвеце прачнемся,
дзе спіць залатое цяля...
Ізноў распачнецца адлік
гадзін
        да чарговых патопаў,
народзяцца сотні Эзопаў,
напішуцца тысячы кніг,
а той, хто чытаць іх не будзе,
пра новы патоп забудзе.

## МАЛІТВА АБ СНЕЗЕ

Мне ізноў не хапае жыцця:
дзень кароткі і ночка малая.
Адгарэлі Раства і Куцця,
бы ў гатычным экстазе Аглая,
што сышла на карціну Далі
паўпразрыстай багіняй лёсу.

Я прашу ў музы: “Пашлі
для натхнення снегу з нябёсаў!”
Як фатальнасць ці як праклён –
шэры дзень і чорная ночка…
І такі салодкі палон
абяцанага снегам радочка.

## ЛОШЫЦКІ МАТЫЎ

Вашы вочы мяне шукалі
у паўзмрочнай пад дахам залі,
дзе з палотнаў глядзела лета,
дзе была ваша песенька спета.
Там блукалі нечыя музы
і, саромячыся ад канфузу,
я хавалася за калону,
быццам паж закаханы ў мадонну,
ад якой не пабачыць ён ласкі,
толькі погляд імгненны з-пад маскі
на бясконцым жыцця маскарадзе,
дзе пачуцці даўно ў заняпадзе.
Нашы душы – фрагмент капліцы,
у якой немагчыма маліцца.
Жалудамі з дубоў старажытных
рэшткі сыплюцца мар амбітных
і, раструшчаныя абцасам,
зарастаюць травою з часам…
Але ўспомню не раз сярод ночы,
як шукалі мяне вашы вочы.

***

Місія мая на гэтым свеце –
звязам быць у ланцужку жыцця.
І служу я не высокай мэце,
я – вышыняў сціплае дзіця.
Я – зямное пераўвасабленне
мар, памылак і надзей Тварца.
Ёсць інтрыга ў маім з’яўленні,
у маіх пакутах без канца,
у настойлівым супрацьстаянні
сквапнасці і хціваcці зямной.

Божа, дай мне сіл на пакаянне,
задаволь любовію Сваёй.

## Я ВОЛЬНАЯ

Я вольная толькі на пляцы бялюткім ліста,
тут межаў няма маім думкам, фантазіям, марам,
і хай сабе верш мой не варты рубля ці граша –
багацце без шчасця і волі – гары яно гарам!
Мой аркуш чысцюткі, ты – поле змагання з сабой,
з наіўнаю верай і хісткасцю перакананняў,
сцвярджэнне надзеі, што кліча паходнай трубой,
і вечнай любові над светам бязмежным гучанне.
Дазвольце застацца маім неразгаданым снам
няпэўнымі вобразамі на часовым прыпынку
абрыўка паперы. Навошта наведываць вам
маіх таямніц і аблудаў рыпучыя скрынкі?
Дазвольце застацца мне вольнай на белым лісце,
які ўсё стрывае і ўсё захавае да скону...
Чарговы радок па паперы як вязень брыдзе,
каб думкі луналі за дротам адчужанай зоны.

## ПАВОДЛЕ КНІГІ
## “КУЛАЦКІ ЭШАЛОН” Я. ЧАПЛІ

Душэўны боль
дванаццаці кален
тутэйшых беларусаў
рве мне сэрца...
Ад слёзаў соль
на фоне перамен даказвае –
ад крыўд нідзе не дзецца.
Яны крыжамі новымі ўстаюць
на высілках пад назвай Курапаты,
яны мне ганарыцца не даюць
заможным бляскам беларускай хаты.
Бо падсвядома бачыцца за ім
рабаўнікоў драпежных злая хцівасць,
і нават гэта слова “рабаўнік”
ад слова “раб”.  Улада гэту міласць
яму дала, каб ён разбагацеў,
забраўшы ў заможнага суседа

усё , чаго ніколі сам не меў,
і каб уладзе дзякаваў за гэта.
А той бядак, дальбог, ён не кулак,
але яго – на высілкі, на поўнач,
бо хіба здолее там працаваць лайдак?
А гаспадар, ён, праглынуўшы горыч,
пачне наноў на новае зямлі
пад новым небам, дзікім і халодным,
згадаўшы свае родныя Камлі,
і лес валіць, і сеяць хлеб галодным.
Пры крымінальным ладзе столькі год
пра дбайнасць тую ўлады не згадалі,
пра тое, як пакутаваў народ,
які правадыры закатавалі,
пра тое, як сялянскім мазалём
дзяржава дабрабыт стварала спрытна,
ламала лёсы, і мараль – на злом,
замоўчвала ахвяраў колькасць скрытна.
Пад Котласам, Макарыхай, паўсюль
Паўночна-Дзвінскі край ад костак белы,
тых, хто быў знішчаны як клас без куль,
і немаўлятка, і дзядок ссівелы...

Што справядлівасці няма – лухта!
Бязвінных слёзы праядаюць днішча,
а праз прабоіны прасочыцца вада,
і справядліва лад бяздарны знішчыць.

## МУЗЫКА ЗІМЫ

Ёсць музыка зімы:
Вівальдзі Фа-мінор,
“Мяцеліца” Свірыдава,
Чайкоўскага “На тройцы”.
Не чуеш ты яе, бо на душы дакор,
таму што не рыпяць спрунжыніны на койцы.

Ёсць музыка зімы.
Не чуеш ты яе.
Жаданні пахаваў
пад коўдраю астыўшай.

Ты марыў пра яе. Яе ты не кахаў.
Вівальдзі Фа-мінор ёй напявае іншы.

***

Душа саспела.
Голасам нясмелым
псалмы спявае,
а не танчыць з дуру,
калі чарговы сакавік у цела
упырсквае любоўную мікстуру.
Няма спакусы больш на сцэну лезці
і генія перад натоўпам корчыць,
не дурацъ галаў блазаны і чэрці,
не слепяць зоркі славы вочы.
Усё часцей з усмешкай іранічнай
за валтузнёй мышынай назіраеш,
і нечы позірк халадна-цынічны
без крыўды і без злосці абмінаеш.
Вяргіні даспадобы больш, чым ружы,
умееш па надвор'і апранацца.
А самае галоўнае, мой дружа:
ты болей не баішся памыляцца.
Сэнс існавання ведаеш дакладна:
жыццё адной прыродзе падуладна...

*Ала Клемянок*



**У 2020 годзе споўнілася:**

Аднаму з заснавальнікаў Беларускага літаратурнага аб'днання ў Польшчы, паэту, празаіку, перакладчыку

**Віктару ШВЕДУ – 95 гадоў**

Вядомаму беларускаму паэту, празаіку, перакладчыку, літаратуразнаўцу, доктару філалагічных навук, прафесару, шматгадоваму старшыні Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", шматгадоваму старшыні БГКТ у Польшчы,

**Алесю БАРСКАМУ – 90 гадоў**



*"Белавежцы" шчыра віншуюць Юбіляраў*
*і зычаць ім далейшага жыццёвага*
*і творчага даўгалецця.*

*Зміцер Захарэвіч*

# САД НАВАЛЬНІЦАЎ

## СВЕЧКА ЕЎФРАСІННІ

*памяці Яўгена Куліка*

Яшчэ наўсцяж ноч непраглядная ляжыць
Зацемненых часоў Сярэднявечча,
Аднак скрозь змрок зацепленая свечка
Прадвесцем золку недалёкага гарыць.

Друкарскай фарбай
шчэ не пахнуць псалтыры,
На Гру́нвальд не імчыць Пагоня горда,
Хрыстос начлег не ладзіць пад Гародняй,
А свечка бліскаўкай у будучынь гарыць.

Яшчэ ладдзёю толькі суджана адплыць
У неўміручасць велічнай Сафіі,
А ў ёй стыгмат чарніцы Еўфрасінні,
Нібыта свечка малітоўная, гарыць.

І праз нягоды, войны ды стагоддзі
Святло нязгаснае на нас зыходзіць.

## ЛЮДЗІ І ГНЁЗДЫ

*«Птицы, летающие по возъдуху,*
*ведають гнёзда своя…»*
*Ф.Скарына*

Пабраўся з сонцам красавік
І крыламі зашамацелі
Чароды птушак пра сваіх,
Што з выраю не прыляцелі.

Адсутныя не самахоць
Абралі месца для спачыну –
Жыццё змушала іх штогод
Вырушваць з дому на чужыну.

Аблокі паглынуць сляды
І спевы больш не залунаюць
Тых, хто застаўся назаўжды
Па-за мяжою небакраю.

Дый нам не ўсім спрыяе лёс,
З бацькоўскіх выбраўшымся гнёздаў,
Здарожаным прыйсці здалёк
Да родных котлішчаў і вёснаў.

## ШМАТГАЛОССЕ

Нязмоўчны з кожнага двара
Сабачы брэх скрозь раздаецца.
Дарма што сэнсу ў ім няма,
Але залівісты – ад сэрца.

Наседкі квохчуць, коні ржуць,
Бляяюць бараны й авечкі,
І ў гэтым вэрхале не ўчуць
Трывожны покліч чалавечы.

Адкрый хто рот – гадзючы сык
Прамоўцу назаве злачынцам;
Параяць прыкусіць язык
Альбо да хору далучыцца.

Каб не аглух у самаце,
Бо ўсцяж выццё, рыканне, скогат,
А шматгалосы рэй вядзе,
Як маршалак, нялюдскі рогат.

* * *

Сівая раніца, зацішша.
І паўстае перад вачмі,
Што з хаты на падворак выйшаў
Паслухаць, як гудуць чмялі,
Убачыць, як буяе лета,
І як хлеў перакрыць ямчэй
На прызьбе кемяць бацька з дзедам
Жывыя,
Блізкія яшчэ...

## СТРАХ

Усім – і хворым, і здаровым – адспрадвек
Наканавана ўрэшце рэшт не ўнікнуць смерці,
Таму сляды пакінуць – дом, твор, сына, дрэўца –
Нібы ў жыцці сябе, імкнецца чалавек.

Навыдумляў без ліку казак пра багоў,
Пра іншасвет, пра неадменнае ўскрасенне,
Ягнём бляяе пра якойсць «душы» збавенне,
Бо страх штодня ёсць спадарожнікам яго.

Страх кроў атручвае, лье воцат у віно,
Пабраны шлюбам з непазбыўнаю нязгодай
Ператварыцца ў тло, але закон прыроды
Не перайначыш, як ні пніся, ўсё адно.

Не спадзявайся, не маліся, не прасі –
Нам, прышлым з неадкуль, у невараць сысці.

## У ЧАЎНЕ НАСУПРАЦЬ НОЧЫ

Гусцее па-над хвалямі
Сутонне.

Начныя птушкі
Выпраўляюцца ў палёт.

Плыву ў чаўне на ўсход
Між двух прадонняў –

Ракі і неба задрамалых
Пасярод.

Схапіць стараюся
Гарлачык поўні.

Штораз скрозь пальцы
Выцякае белы квет.

Зглынаюць змрок
І плыні часу роўнядзь

На тле сузорыстым
Мой ледзь прыкметны след.

## ПАВОДЛЕ ЯНА

Калі грыміць мажорны бас
Ды хмель вядзе рэй у галовах,
Хто Адкрыццё згадае з нас
Паводле Яна Багаслова?

Але ахвярнае Ягнё
Зламае Кнігі кніг пячаткі
І воды займуцца агнём,
Скон закальцуецца з пачаткам.

А неба трубна загудзе,
Супыніцца Зямля ў тым гудзе,
Ні часу болей, ні людзей,
Ні свету звыклага ня будзе.

Бо вернецца вяршыць суд Ён
І змеляць кары вышняй жорны
У пыл пыхлівы Вавілон,
А разам з ім наш бас мажорны.

## САД НАВАЛЬНІЦАЎ

У спелым садзе навальніцаў –
Там, дзе маланкі і грамы –
Сасмяглы прагну ўсмак напіцца
З далоняў дажджавой вады,

Жыццё вярнуць счарсцвелым вуснам,
Абмыць сшарэлае чало...
І кроплі з шатаў сыплюць густа,
Ажно дыханне заняло

Ад срэбранае прахалоды,
Ды на ўвесь голас свой усё ж
Я слаўлю грому спеў свабодны,
Вітаю вольны спорны дождж

І, што б мне ні вярзлі зласліўцы,
Дабраслаўляю навальніцы.

*Зміцер Захарэвіч*



Сяргей Кавалёў

# ТАЯМНІЦА СТАРОЙ РАТУШЫ

Гарадское фэнтэзі ў 2-х дзеях

## Асобы:

**Войт Гервасі**, першы сябра Майстра
**Лаўнік Хама**, сябра Майстра
**Магдалена**, залаташвейка, прыёмная дачка Гервасія
**Юрасік**, сын лаўніка Хамы
**Пётра**, вучань Майстра
**Эстэрка**, карчмарка
**Серафіма**, гарадская вар'ятка
**Кацярынка**, гарадскі кат
**Жалезны Вартаўнік**
**Усходні Жаніх**
**Заходні Жаніх**
**Гараджане**
**Пачвары** – прывіды

Дзеянне адбываецца ў адным з беларускіх гарадоў за даўнім часам.

*Предивно бысть чюдо ... в месте: бываше в ночи тупот, станяше по улици, яко человеци рищюще беси... Аще кто вялезяше ис хоромины, хотя видети, у той час уязвен будяше невидимо од бесов язвою, и с того умираху, и не смяху излазити ис хором. По семь же начаша в дне являтися на коних, и не бе их видети самех, но конь их видети копыта; и тако уязвляху люди...*

**З усходнеславянскіх летапісаў**

# ПРАЛОГ

Ноччу ў гарадской Ратушы. Пакой паседжанняў магістрата. Пасярод пакою вялізны стол. У адным з кутоў пакою запальваецца свечка, асвятляе постаць чалавека ў плашчы з капюшонам. Потым запальваецца свечка ў другім куце, у трэцім, чацвёртым, да стала падыходзяць чатыры постаці ў плашчах, ставяць свечкі на стол і сядаюць за яго, не здымаючы з галоў капюшоны.

П е р ш ы ч а л а в е к у п л а ш ч ы *(урачыста)*. Сябры, мы сабраліся тут, у зале магістрату, каб заснаваць нашае таемнае Брацтва Ратушы. Каб служыць роднаму Гораду і заўсёды дапамагаць адзін аднаму. Куды б ні закінуў нас лёс, мы будзем памятаць пра нашае Брацтва і ў цяжкую гадзіну прыдзем сябру на паратунак. Клянемся!

Д р у г і ч а л а в е к у п л а ш ч ы. Я, Юрасік, клянуся.

Т р э ц і ч а л а в е к у п л а ш ч ы. Я, Магдалена, клянуся.

Ч а ц в ё р т ы ч а л а в е к у п л а ш ч ы. Я, Эстэрка, клянуся.

П е р ш ы ч а л а в е к у п л а ш ч ы. І я, Пётра, клянуся.

Раптам чуваць злавеснае карканне вароны, і пранізлівы віскат пацука. Рэха паўтарае зусім іншыя імёны: “Я, Гервасі, клянуся... Я, Гелена, клянуся... Я, Хама, клянуся... І я, Францішак, клянуся... ”. Невядома адкуль налятае моцны парыў ветра, усе свечкі разам гаснуць. Чуваць цяжкія крокі па сходах.

Д з я в о ч ы г о л а с у ц е м р ы. Што гэта было? Я баюся!

Х л а п е ч ы  г о л ас у ц е м р ы. Сюды ідзе Жалезны Вартаўнік! Уцякайма!

У цемры адбываецца нейкі рух, потым западае ціша. Адчыняюцца цяжкія дзверы і ў пакой зазірае Ж а л е з н ы В а р т а ў н і к з ліхтаром у руках. Аглядае пусты пакой і, не заўважыўшы нічога падазронага, зачыняе дзверы і сыходзіць.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### З'ява першая

Раніца. На гарадскім пляцы перад Ратушай. Вар'ятка С е р а–ф і м а старанна падмятае і без таго чысты пляц.

С е р а ф і м а *(мырмыча).* Бруд вымятаю. Нячыстыя думкі і ўчынкі. Грахі і правіны чалавечыя.

На пляц выходзіць П ё т р а, разглядаецца навакол.

П ё т р а (*узнёсла*). Вітаю цябе, родны горад! Як даўно не блукаў я па тваіх вузкіх вулках, як даўно не чуў гаманы жыхароў на пляцы!

С е р а ф і м а. Юрлівасць, сквапнасць, хлусню!

П ё т р а *(прыглядаецца да занятку Серафімы).* Дзень добры, кабета. Навошта ты мяцеш чысты пляц?

С е р а ф і м а. Зайздрасць вымятаю, здраду, пыху! *(Яшчэ больш старанна мяце пляц).*

П ё т р а *(зразумеўшы, што бачыць перад сабой вар'ятку).* Бачу, у цябе вялікія планы. *(Вымае з кішэні манетку і падае Серафіме).* Вазьмі манетку, божае стварэнне. Ты заслужыла за сваю працу.

С е р а ф і м а *(імкліва выхоплівае манетку).* Медны грошык, медны пярсцёнак, жалезны меч!

П ё т р а *(здзіўлена).* Адкуль ты ведаеш пра пярсцёнак? *(Міжволі правярае ці пярсцёнак па-ранейшаму ў яго на пальцы).*

С е р а ф і м а. Ты лепш даведайся пра чароўны меч!

П ё т р а. Які меч?

С е р а ф і м а. Медны грошык, медны пярсцёнак, жалезны меч! *(Працягвае сваю працу, не звяртаючы больш увагі на Пётру).* Бруд вымятаю. Грахі і правіны чалавечыя!

П ё т р а. Цяжка з табой паразумецца. Што ж, пайду сваёй дарогай. А ты, як скончыш працу, прыходзь у карчму Самуіла Якубовіча. Там цябе і за медны грошык пакормяць.

Пётра знікае ў адной з вулак. Серафіма працягвае сваю працу. Неўзабаве з Ратушы выходзіць цэлая працэсія: войт Г е р в а с і, лаўнік Х а м а, пісар Ю р а с і к, У с х о д н і і З а х о д н і Ж а н і х і. Апошнімі выходзяць Ж а л е з н ы В а р т а ў н і к і кат К а ц я р ы н к а, якія займаюць месцы паабапал ўвахода ў Ратушу.

Г е р в а с і *(звяртаецца да жаніхоў).* Яшчэ раз вітаю вас у нашым цудоўным горадзе, шаноўныя госці. *(У адказ на яго словы жаніхі кланяюцца).* З сябрамі магістрату вы ўжо знаёмыя: лаўнік Хама і ягоны сын Юрасік, галоўны пісар. *(Хама і Юрасік кланяюцца).* Вельмі здольны малады чалавек, робіць бліскучую кар’еру. Дарэчы, ён ваш канкурэнт – таксама прэтэндэнтуе на руку маёй дачкі Магдалены. *(Пры войтавых словах твар Юрасіка змрачнее).*

З а х о д н і Ж а н і х *(недабразычліва зірнуўшы на Юрасіка).* Але, спадзяюся, пане Войт, мясцовыя кандыдаты не будуць у прывеліяваным становішчы перад замежнымі?

Г е р в а с і *(лагодна ўсміхаецца).* Ну што вы, мы старанна выконваем запаветы Майстра Францішка, які збудаваў наш горад. А пільнуе парадку ў горадзе Жалезны Вартаўнік. Яго таксама стварыў Майстра.

Жаніхі з павагай разглядаюць вялізнага Жалезнага Вартаўніка. У гэты час паміж Лаўнікам і Юрасікам завязваецца паўшэптам зацятая спрэчка.

Г е р в а с і. Таму ў нашым горадзе амаль няма злачынцаў. *(Кінуўшы незадаволены погляд на Лаўніка з Юрасікам).* Калі ж нехта асмельваецца парушыць закон – трапляе ў рукі ката, нашай мілай Кацярынкі.

Кат Кацярынка прыязна ўсміхаецца жаніхам.

У с х о д н і Ж а н і х *(недаверліва).* Жанчына – кат?

Г е р в а с і. У нас суворыя законы, але гуманныя адносіны да

асуджаных. Прыняць смерць з рук жанчыны не так страшна.

Усходні Жаніх. І як яна спраўляецца са сваімі абавязкамі?

Гервасі. Цудоўна. Дарэчы, меч у Кацярынкі незвычайны. Таксама вынаходніцтва Майстра. Ён загадзя пазнае чалавека, якому наканавана скончыць жыццё на пласе і чырванее пры яго набліжэнні. Хочаце паспрабаваць?

Кацярынка бярэцца за рукаяць мяча.

Заходні Жаніх *(паспешліва).* Дзякуй, іншым разам.

Гервасі. Наш горад славіцца многімі магічнымі рэчамі: цудоўным Звонам на Ратушы, які прадвяшчае наступленне ворага, самстрэльнай Харматай на гарадскіх сценах, якая адна можа выйграць бітву з цэлым войскам, чароўным Барометрам, які не толькі прадказвае надвор’е, але і дазваляе змяняць яго... І ўсе гэтыя рэчы прыдумаў адзін чалавек, які ўзвёў і сам горад – Майстра Францішак. *(Уздыхае, вымае з кішэні хустачку і змахвае са шчакі слязу).* Мой лепшы сябар, які трагічна загінуў у пажары, што здарыўся ў Ратушы некалькі гадоў таму. Разам з ім загінула ягоная каханая, мастачка Гелена.

Усходні Жаніх *(спачувальна).* Мы чулі пра Майстра і пра яго трагічную смерць.

Хама *(да Юрасіка, злосна).* Я яму пра абразы, а ён мне пра гарбузы!!!

Гервасі *(кідае позірк на Лаўніка).* Францішак быў таксама сябрам лаўніка Хамы...

Хама *(спыняе спрэчку з Юрасікам і пацвярджае).* Так, ён быў маім сябрам.

Гервасі. І цяпер мы разам працягваем справу Майстра і служым, як можам, гораду, які ён стварыў.

Заходні Жаніх *(нецярпліва).* Спачуваем вашай страце, але мы хацелі б хутчэй пабачыць нявесту, чароўную залаташвейку Магдалену.

Хама *(недабразычліва).* Цікаўнай Амілі хвост прышчамілі!

Заходні Жаніх Што?

Хама Ды не, нічога. Гета я сам-насам.

Гервасі *(з дакорам паглядзеўшы на Хаму, лагодным голасам).* Разумею вашую нецярплівасць. Сярод усіх цудаў нашага горада самы незвычайны – залаташвейка Магдалена. Габелены, якія

яна робіць, славяцца па ўсім свеце і каштуюць маёнтак.

У гэты час вар'ятка Серафіма зноў набліжаецца да цэнтра пляца і зацята мяце брук проста пад нагамі войта.

С е р а ф і м а. Бруд, смецце, пыл!

Г е р в а с і *(незадаволена).* Забярыце адсюль гэтую дзівачку.

Х а м а *(шыпіць на Серафіму).* Апсік!

Г е р в а с і *(тлумачыць жаніхам).* Наша гарадская вар'ятка Серафіма. Бяскрыўднае стварэнне, але часам надакучлівае.

Кацярынка падыходзіць да Серафімы і, далікатна абняўшы яе, адводзіць у бок Ратушы. Убачыўшы ля ўваходу ў Ратушу Жалезнага Вартаўніка, Серафіма кідае мятлу, вымае анучку і пачынае старанна праціраць латы Жалезнага Вартаўніка. Той цярпліва зносіць працэдуру.

З а х о д н і Ж а н і х. А гэта праўда, што ўзоры на габеленах Магдалены з цягам часу змяняюцца?

Г е р в а с і. Праўда.

У с х о д н і Ж а н і х. І што такі габелен прадказвае будучыню чалавека, якому належыць?

В о й т. Так. Магдалена – дачка майстра Францішка і мастачкі Гелены, цудоўныя фрэскі якой упрыгожваюць наш галоўны храм. Не дзіўна, што ў таленавітых бацькоў нарадзілася такая здольная дачка і яе творы маюць чароўныя ўласцівасці.

У с х о д н і Ж а н і х. Нам не церпіцца пазнаёміцца з Магдаленай!

З а х о д н і Ж а н і х. І пабачыць яе чароўныя габелены!

Г е р в а с і. Як апякун Магдалены і войт, я павінен сачыць, каб усе жаніхі мелі роўныя шанцы. Да заўтрашняга выпрабавання вы можаце пабачыць Магдалену толькі ў акне.

Х а м а. Каб не здарылася якога ашуканства!

У с х о д н і Ж а н і х *(разважліва).* Гэта справядліва.

З а х о д н і Ж а н і х. Хоць і не гасцінна.

Войт падводзіць гасцей да багатага дома побач з ратушай.

Г е р в а с і. Магдалена!

Акно на другім паверсе расчыняецца і паказваецца постаць М а г д а л е н ы.

М а г д а л е н а. Вы клікалі мяне, пане?

Г е р в а с і. Прывітайся з нашымі гасцямі! *(Паказвае на жаніхоў).*

Жаніхі галантна кланяюцца Магдалене, тая ветліва, але стрымана адказвае кіўком галавы. Акно зачыняецца, постаць Магдалены знікае.

Г е р в а с і *(да жаніхоў).* Ну што скажаце, шаноўныя кандыдаты?

У с х о д н і Ж а н і х. Я ў захапленні!

З а х о д н і Ж а н і х. Ваша прыёмная дачка не толькі таленавітая, але і незвычайна прыгожая!

Г е р в а с і. Цяпер вы разумееце, чаму вымаганні да жаніхоў такія суворыя. Зрэшты, каб не бяда, якая напаткала наш горад, я не спяшаўся б выдаваць Магдалену замуж.

З а х о д н і Ж а н і х *(з'едліва ўбок).* Вядома, продаж чароўных габеленаў прыносіць гораду фартуну.

У с х о д н і Ж а н і х. Пра якую бяду кажа пан войт і якое выпрабаванне нас чакае?

Г е р в а с і *(заклапочана).* Неўзабаве пасля смерці Майстра ў нашым горадзе па начах пачалі з'яўляцца жахлівыя пачвары і хапаць людзей. Цяпер, калі сцямнее на вуліцу адважваецца выходзіць толькі Жалезны Вартаўнік. Але як на бяду ён пачвар-прывідаў чамусьці не бачыць, і тыя таксама яго абыходзяць. Той, хто вызваліць наш горад ад пачвар, атрымае ва ўзнагароду руку Магдалены.

У с х о д н і Ж а н і х. Я перамагу пачвар-прывідаў!

З а х о д н і Ж а н і х. Гэта мы яшчэ пабачым, хто іх пераможа.

Г е р в а с і. Выпрабаванне адбудзецца ў сваім часе, а пакуль што пісар Юрасік праводзіць вас у карчму і пачастуе мясцовымі стравамі.

Жаніхі ў суправаджэнні Юрасіка сыходзяць. Войт робіць знак Кацярынцы і Жалезнаму Вартаўніку, тыя знікаюць у Ратушы. Серафіма зноў бярэцца за мятлу.

Г е р в а с і *(да Хамы).* Што скажаш, Хама? Які жаніх табе больш даспадобы?

Х а м а *(пацiскае плячыма).* Чэрцi адной шэрсцi. Абы выратавалi нас з бяды.

Г е р в а с i. Так, але перамагчы павiнен мясцовы кандыдат – твой сын. Мы не аддамо Магдалену чужынцу.

Х а м а *(чухае патылiцу).* З мясцовым кандыдатам няпростая справа, Гервасi...

Г е р в а с i *(гнеўна).* Што такое?

Нечакана вяртаецца Юрасiк. Падбягае да войта з лаўнiкам, выпальвае тое, што хацеў сказаць, i, спалоханы сваёй смеласцю, уцякае.

Ю р а с i к. Я не буду сватацца да Магдалены! Я кахаю iншую дзяўчыну! *(Знiкае).*

Х а м а. Ну вось!

Г е р в а с i *(да Хамы).* Якую iншую дзяўчыну? Што ён вярзе?

Х а м а. Карчмарку Эстэрку. Дачку Самуiла Якубовiча. *(Разводзiць рукi).* Не ведаю, што i рабiць.

Г е р в а с i *(пасля доўгай паўзы).* Павiнен перамагчы мясцовы кандыдат. Курыцу, якая нясе залатыя яйкi, не аддаюць у чужыя рукi. А з карчмаркай мы сабе парадзiм.

Х а м а. Твае словы – ды богу ў вушы, Гервасi.

С е р а ф i м а *(наблiзiўшыся да размоўцаў, распавядае сама сабе).* Даў Бог тым людзям найпрыгажэйшы край на зямлi: зялёныя лясы, сiнiя рэкi i азёры, блакiтнае неба над галавой. А каб не адчувалi сябе як у раi, даў iм Бог найгоршае ў свеце начальства. *(Цiха смяецца ).*

Х а м а *(да Гервасiя).* Ты чуеш, што яна вярзе?

Г е р в а с i *(назiрае, як Серафiма мяце пляц).* Чую, Хама.

Х а м а. Можа, яна толькi ўдае вар'ятку? Мо трэба яе... *(Праводзiць рабром далонi па шыi).*

Г е р в а с i. Грэх пакрыўдзiць бажавольную. У нас ёсць больш пiльныя справы. Як ты казаў завуць тую карчмарку?

Х а м а. Эстэрка. *(Змрочна).* Чортава насенне! Як зачаравала хлопца.

Г е р в а с i. Здаецца, я ведаю, як ад яе пазбыцца. Хадзем, дружа. *(Сыходзяць).*

## З’ява другая

У карчме Э с т э р к і. Прыгажуня-гаспадыня завіхаецца ля печы. За сталамі пакуль нікога няма. Уваходзіць П ё т р а, акідвае карчму ўважлівым позіркам.

П ё т р а *(жартаўліва).* Што за абскурная гаспода! Напэўна, найгоршая карчма ў месце!

Э с т э р к а (*абражаная).* Ой-вэй! Які поц такое сказаў? Не падабаецца – ідзі сабе ў іншую!

П ё т р а *(весела).* А я думаў, мне тут заўсёды радыя.

Э с т э р к а (*пазнаўшы, усплёсквае рукамі*). Пётра! Ах ты, валацуга!

П ё т р а. Ён самы! Вітаю цябе, Эстэрка!

Эстэрка кідаецца да Пётры, яны радасна абдымаюцца.

П ё т р а *(азіраецца).* А дзе твой бацька, стары хітрун Самуіл?

Э с т э р к а. Бацька памёр, цяпер я тут гаспадыня. Але, не ведаю, як надоўга. Магістрат хоча адабраць у мяне карчму.

П ё т р а. За што?

Э с т э р к а. Любяць людзі лічыць чужыя грошы... Пасля гібелі Майстра Францішка у горадзе адбываюцца нядобрыя рэчы. Удзень рэдка пачуеш смех на гарадскім пляцы. Ноччу па вуліцах гойсаюць жахлівыя пачвары. Уладу ў магістраце захапілі... *(Заціскае сабе рот і спалохана азіраецца).*

У карчму ўваходзіць кат К а ц я р ы н к а.

К а ц я р ы н к а (да Э с т э р к і). Прывітанне, сяброўка!

Э с т э р к а. Добра дзень, Кацярынка! Табе як заўсёды?

К а ц я р ы н к а. Як заўсёды.

Кацярынка сядае за вольны столік. Эстэрка ставіць перад бутэльку і кубак, налівае пітво. Кацярынка засяроджана п’е.

П ё т р а. Відаць таму вы і паклікалі мяне на дапамогу.

Э с т э р к а *(здзіўлена).* Паклікалі на дапамагу?

П ё т р а *(заўважыўшы разгубленасць на твары Эстэркі).* Значыць, гэта не ты? Можа, Юрасік? Ці... Магдалена?

Э с т э р к а. Нам усім цябе бракавала, але мы не ведалі, дзе цябе шукаць.

П ё т р а. Як не ведалі? А чароўныя пярсцёнкі? *(Паказвае медны пярсцёнак на пальцы левай рукі).* А наша Брацтва Ратушы?

Э с т э р к а. Я думала, гэта толькі дзіцячыя гульні. А мы ўжо выраслі і неўзабаве адна з нас надзене на палец залаты пярсцёнак. Шлюбны.

П ё т р а. Ты? Віншую, Эстэрка! *(Жартаўліва).* А жаніх, напэўна, Юрасік?

Э с т э р к а. Каб жа так. *(Спачувальна паглядзеўшы на Пётру).* Магдалена рыхтуецца да шлюбу.

П ё т р а. Магдалена выходзіць замуж? *(Пасля доўга паўзы).* А хто жаніх?

Э с т э р к а. Пакуль невядома. Але адзін з кандыдатаў – Юрасік.

П ё т р а *(гнеўна).* Юрасік!

У карчму ўваходзяць Ж а н і х і ў суправаджэнні Ю р а с і к а. Убачыўшы Юрасіка, Пётра адварочваецца, каб яго не пазналі.

Ю р а с і к. Эстэрка, прымай шаноўных гасцей!

Э с т э р к а. Хто такія?

Ю р а с і к. Жаніхі Магдалены!

Э с т э р к а. Ты сябе маеш на ўвазе?

Ю р а с і к *(падыходзіць бліжэй да Эстэркі).* А ты раўнуеш, любая?

П ё т р а *(разварочваецца да Юрасіка і хапае яго загрудкі).* Ах ты, гад! Душу з цябе вытрасу!

Ю р а с і к *(здзіўлена).* Пётра?!

Э с т э р к а. Думаю, вам ёсць пра што пагаварыць. *(Ідзе да гасцей).*

У с х о д н і Ж а н і х. Пане Юрасік, нейкія праблемы?

З а х о д н і Ж а н і х *(ваяўніча).* Можам дапамагчы.

Э с т э р к а. Не звяртайце на іх увагі: сустрэліся двое сяброў. Чаго жадаеце, шаноўныя госцейкі?

У с х о д н і Ж а н і х. Найлепшую ежу і пітво!

Э с т э р к а. Прапаную фірмовыя стравы: “Вэнджаны селядзец на грамаду” і “Смажаная курыцы сам-насам”.

У с х о д н і  Ж а н і х *(здзіўлена).* Чаму такія дзіўныя назвы?

Э с т э р к а. Бо аднаго селядца можна падзяліць і на дзесяцёх едакоў, а курыцу лепш есці удвох: ты і курыца.

З а х о д н і Ж а н і х *(рагоча).* Выдатна! *(Прыглядаецца да Эстэркі).* Я бачу, у вашым горадзе не толькі залаташвейкі прыгожыя, але і карчмаркі не горшыя.

Э с т э р к а *(гулліва, каб адцягнуць увагу жаніхоў ад Пётры і Юрасіка).* А я бачу, пана цікавяць не стравы, а іншыя прысмакі?

З а х о д н і Ж а н і х. Але спачатку – ежа і пітво, а потым – мілосныя забавы!

Э с т э р к а. У кожнага кавалера свае манеры!

У с х о д н і  Ж а н і х *(важна).* Я стаўлю жаночую прыгажосць вышэй за кулінарыю.

З а х о д н і  Ж а н і х *(з усмешкай).* Прыгажосць мінае, а мастацтва кулінарыі – вечнае!

Э с т э р к а *(завіхаецца ля гасцей).* Ой-вэй! Як з вамі цікава, панове!

У с х о д н і  Ж а н і х *(з’едліва).* А, можа, калега пасватаецца да карчмаркі і саступіць мне залаташвейку?

У с х о д н і  Ж а н і х. Навошта адразу сватацца? Я аматар чыстага кахання, якое вышэй за шлюб. *(Пры гэтых словах спрабуе абняць Эстэрку, але тая спрытна вызваляецца з яго абдымкаў).*

Пакуль Эстэрка завіхаецца ля гасцей, Юрасік з Пётрам высвятляюць адносіны.

Ю р а с і к. Пусці, чарцяка, задушыш!

П ё т р а. Ты сватаешся да Магдалены?

Ю р а с і к. Навошта, калі яна па табе сохне?

П ё т р а *(адпускае Юрасіка).* Па мне?

Ю р а с і к. А нібы ты не ведаў? Вось толькі ці даруе яна табе? Ты дзе бадзяўся, Пётра?

П ё т р а *(няўцямна).* Ну, разумееш... Хацелася пабачыць свет, нечаму навучыцца. І зразумець, што дома усёроўна лепш.

Ю р а с і к. Як я рады, што ты вярнўся! Жыве Брацтва Ратушы!

П ё т р а. Жыве!

Ю р а с і к. Пачакай, пайду ўрэжу таму хлысту, што ўвіваецца ля маёй Эстэркі.

П ё т р а *(спыняе сябра).* Эстэрка не з пужлівых і без цябе справіцца. Раскажы, што адбываецца ў горадзе.

Ю р а с і к. Дрэнныя рэчы адбываюцца, Пётра. Пасля смерці Майстра войтам стаў Гервасі, дапамагае яму мой бацька Хама, а дакладней ва ўсім яго слухаецца. Адчуваю, што менавіта Гервасі прыдумаў ажаніць мяне з Магдаленай...

П ё т р а *(гнеўна).* Дык ты ўсё-ткі жэнішся з Магдаленай? *(Зноў хапае Юрасіка загрудкі).* А ну, растлумач!

У карчме нечакана з'яўляецца М а г д а л е н а, бачыць Пётру і Юрасіка і накіроўваецца проста да іх.

Ю р а с і к *(убачыўшы Магдалену).* А няхай яна сама табе ўсё растлумачыць. *(Вызваляецца, весела).* Мы пра цыганку, а яна на ганку!

П ё т р а *(уражаны).* Магдалена!

Магдалена падыходзіць да Пётры і дае яму гулкую аплявуху.

Ю р а с і к *(паправіўшы кашулю, ускудлачаную Пётрам).* Заслужыў. Я думаю, вам ёсць пра што пагаварыць. *(Адыходзіць да Эстэркі, шэпчацца з ёй, пашчыпвае дзяўчыну за бок).*

П ё т р а *(пакорліва).* За што?

М а г д а л е н а. Бо ты знік. *(Нечакана горача цалуе Пётру).*

П ё т р а *(уражаны).* А пацалунак?

М а г д а л е н а. Бо ты вярнуўся.

Заходні Жаніх з расчараваннем глядзіць як Эстэрка мілуецца з Юрасікам. Усходні Жаніх тым часам назірае сцэнку паміж Пётрам і Магдаленай.

У с х о д н і Ж а н і х (д а З а х о д н я г а). Куды пан утаропіўся?

З а х о д н і Ж а н і х. З жалем канстатую, што сэрцам прыгожай карчмаркі ужо завалодаў пан Юрасік.

У с х о д н і Ж а н і х. Раю ўважліва паглядзець у іншы бок.

З а х о д н і Ж а н і х *(убачыўшы Магдалену).* Дык гэта ж наша пенкная залаташвейка!

У с х о д н і Ж а н і х. Нам, жаніхам, яе паказваюць у вакне. А для мясцовых яна цалкам даступная.

З а х о д н і Ж а н і х *(абурана).* А войт казаў пра роўныя ўмовы для ўсіх кандыдатаў!

Тым часам Пётра з Магдаленай працягваюць размову.

Магдалена *(да Пётры).* Як я рада бачыць цябе...

Пётра. Ты паклікала мяне, і я вярнуўся.

Магдалена. Вярнуўся таму, што мы належым да дзіцячага Брацтва Ратушы і носім медныя пярсцёнкі?

Пётра. Вярнуўся таму, што я кахаю цябе, Магдалена.

Магдалена. Але чаму тады ты раптоўна з’ехаў?

Пётра. Па той самай прычыне. Зразумеў, што мы ўжо не дзеці і...

Магдалена. І?

Пётра. І спалохаўся свайго пачуцця. Ведаеш, у дзяцінстве не важна было, якой мы веры, хто нашыя бацькі, хто з нас бедны, хто заможны. А ў дарослым свеце...

Магдалена. Для мяне і ў дарослым свеце гэта неважна.

Пётра. І ўсё ж. Ты – дачка Майстра Францішка, з дзяцінства тчэш чароўныя габелены, а хто такі я, што я ўмею? Просты вучань славутага майстра.

Магдалена. Любімы вучань! І мой каханы! (Зноў цалуе Пётру).

Заходні Жаніх *(не вытрымаўшы, узнімаецца з-за стала).* Гэй, нахабнік! А ну, адыдзі ад нашай нявесты!

Усходні Жаніх *(таксама ўзнімаецца на ногі).* Пані Магдалена паводзіць сябе непрыстойна.

Пётра. Забяры свае словы назад, прыхадзень! *(Набліжаецца да жаніхоў з пагрозлівым выглядам).*

Юрасік *(далучаецца да сябра).* Што, панове: ласыя на чужыя кілбасы? Мы прымусім вас шанаваць мясцовых дзяўчат!

Усходні Жаніх. Трэба даць навучку гэтым тыбульцам! *(Да Заходняга Жаніха).* Як Вы лічыце, калега?

Заходні Жаніх. Цалкам з вамі згодны, васпане! Зладзім гэтым гарластым пеўням Вальпургіеву ноч!

Пётра. Тут вам не Парыж!

Юрасік. У сваім гародзе певень роўны ваяводзе!

Магдалена *(спрабуе ўсіх супакоіць).* Пётра, Юрасік, не трэба!

Эстэрка *(з жахам).* Толькі не ў маёй карчме! За такі кіпеш у мяне адбяруць ліцэнзію!

Нечакана ў дзвярах карчмы з'яўляюцца лаўнік Х а м а і Ж а л е з н ы В а р т а ў н і к.

Х а м а *(загадным голасам).* Усім стаяць! Слухайце загад магістрата: карчма зачыняецца!

Э с т э р к а. А не казала я? *(З горыччу).* П'яніца памёр, а гора ў карчмара.

Ю р а с і к. За што?

Х а м а. Карчмарка Эстэрка Якубовіч абвінавачваецца ў чараўніцтве і у тым, што наслала на горад начных пачвар-прывідаў! У вязніцу яе!

М а г д а л е н а *(не верыць сваім вушам).* Вы што: блёкату аб'еліся?

Ю р а с і к. *(зразумеўшы, адкуль дзьме вецер).* Гэта не блёкат, яны сур'ёзна. Уцякай, Эстэрка!

П ё т р а. Бяжы, мы іх затрымаем!

Эстэрка спрабуе ўцякаць, але кат Кацярынка спрытна ўсхопліваецца з-за стала і хапае яе.

К а ц я р ы н к а. Хадзем у вязніцу, сяброўка. Як у нас кажуць: паступіў на службу, забывай пра дружбу.

Юрасік і Пётра кідаюцца да Кацярынкі, але дарогу ім заступае Жалезны Вартаўнік.

М а г д а л е н а. Пусціце яе, нягоднікі!

Ю р а с і к *(да Хамы).* Бацька, яна не вінаватая, клянуся!

Х а м а. Разбярэмся.

Ю р а с і к. Гэта ўсё вашыя інтрыгі! Я ведаю, адкуль ногі растуць у гэтай справы!

Х а м а. Пагавары мне, смаркач!

У карчму ўваходзіць войт Гервасі, уважліва аглядае прысутных.

Г е р в а с і *(да жаніхоў).* Смачна есці, дарагія госцейкі!

У с х о д н і Ж а н і х. Пане войт, мы абураныя! Вашая дачка швэндаецца па корчмах і мілуецца з рознымі абарванцамі!

Г е р в а с і *(разводзіць рукамі).* Недахопы школьнага выхавання.

З а х о д н і Ж а н і х. А меліся быць роўныя ўмовы для ўсіх кандыдатаў!

Г е р в а с і. Меліся і будуць. *(Да Пётры).* Вітаю, Пётра! Я рады, што лепшы вучань Майстра вярнуўся ў родны горад. *(Да Магдалены).* А ты ідзі дадому, дачка.

М а г д а л е н а. Я нікуды не пайду, пакуль не вызваляць Эстэрку!

П ё т р а. Адпусціце яе, яна не чараўніца!

Ю р а с і к. Гэта паклёп і інтрыгі!

Г е р в а с і. А ну, ціха!!! Слухайце загад магістрата! Той, хто вызваліць наш горад ад начных пачвар-прывідаў атрымае ва ўзнагароду руку маёй прыёмнай дачкі, залаташвейкі Магдалены! Выпрабаванне адбудзецца сёння ноччу. Што датычыцца Эстэркі, яна будзе чакаць у вязніцы справядлівага суда.

**З’ява трэцяя**

У вязніцы на вежы Ратушы. Сумная Э с т э р к а сядзіць на грудзе саломы, што прыкрывае каменную падлогу. Над ёй схілілася К а ц я р ы н к а з місай поліўкі ў руках.

К а ц я р ы н ка. З'еш, сяброўка. Стравы ў вязніцы не такія смачныя, як у тваёй карчме, але чым багатыя, тым і радыя.

Э с т э р к а. Дзякуй за гасціннасць. Што са мной будзе?

К а ц я р ы н к а. Паводле даўняй традыцыі табе звяжуць рукі-ногі і кінуць у раку. Калі патонеш – значыць, невінаватая. Калі выплывеш – значыць, чараўніца, і цябе спаляць на вогнішчы.

Э с т э р к а. Ты гэта сур'ёзна?

К а ц я р ы н к а. Але я рада, што мне не давядзецца сячы табе галаву.

Э с т э р к а. Слушна казаў мой бацька: куды б камень ні падаў, а патрапіць у іудзея.

К а ц я р ы н к а *(вінавата).* Ты не крыўдуй на мяне, такая ў мяне служба. Думаеш, я хацела быць катам? Але ж ты ведаеш як у нашым горадзе цяжка з працай. Муж мой памёр, сыны яшчэ малыя. Не аддаваць жа прыбытковае месца ў чужыя рукі?

Э с т э р к а. Я таксама не хацела аддаваць бацькаву карчму ў чужыя рукі. Але нехта з магістрату паквапіўся на ласы кавалак.

К а ц я р ы н к а. Эх, сяброўка, ты не пра карчму думай, а як

выратаваць жыццё... *(Нешта ўспомніўшы).* А хочаш, раскажу табе прафесійны анекдот? Вяртаецца кат дадому і прыносіць з сабой вялізны мех. Там нехта шавеліцца, енчыць. Дзеці ката падбягаюць да меха, пытаюцца: татачка, што там? А кат адказвае: гэта я падпрацоўку дадому ўзяў. *(Смяецца).*

Э с т э р к а. Зусім не смешна.

К а ц я р ы н к а *(яшчэ больш вінавата).* Ну, прабач.

У дзверы вязніцы нехта настойліва грукае.

К а ц я р ы н к а *(здзіўлена).* Каго яшчэ чорт прынёс?

Кацярынка выходзіць з вязніцы, а праз нейкі час вяртаецца ў суправаджэнні Ю р а с і к а.

К а ц я р ы н к а. Кавалер да цябе, карчмарка. З паперай ад пана лаўніка!

Э с т э р к а *(радасна).* Юрасік!

Ю р а с і к. Эстэрка! *(Да Кацярынкі).* Што стаіш, ідзі адсюль!

К а ц я р ы н к а. Фу, які грубіян! Увесь у бацьку. *(Сыходзіць).*

Ю р а с і к *(дапамагае Эстэрцы ўзняцца на ногі).* Я прыйшоў цябе вызваліць, Эстэрка!

Э с т э р к а. Дзякуй, любы! Але якім цудам?

Ю р а с і к. Я пайшоў да бацькі, да войта і яны абяцалі дараваць табе жыццё, калі я... *(Замаўкае).*

Э с т э р к а *(устрывожана).* Калі ты што?

Ю р а с і к *(апусціўшы галаву).* Калі я ажанюся з Магдаленай.

Э с т э р к а *(гнеўна).* І ты пагадзіўся?

Ю р а с і к *(змрочна).* Я гатовы на ўсё, каб выратаваць цябе ад смерці.

Э с т э р к а. А я лепш памру, чым здраджу свайму каханню. Ідзі прэч, здраднік. *(Сядае на салому).*

Ю р а с і к. Эстэрка!

Дзверы вязніцы з грукатам адчыняюцца, Юрасік паспявае схавацца за дзверы. На парозе паказваецца Кацярынка ў суправаджэнні М а г д а л е н ы. Кацярынка трымае ў руках пляшку віна.

К а ц я р ы н к а. Яшчэ адзін наведвальнік да цябе. І не з нейкай там паперкай, а з пляшкай мальвазіі для Кацярынкі! *(Паказвае*

*пляшку).* Толькі нядоўга, дзяўчаты, не хачу з-за вас страціць працу. *(Знікае за дзвярыма).*

М а г д а л е н а. Эстэрка, я прыйшла цябе вызваліць!

Э с т э р к а *(недабразычліва).* І што ты паабяцала за гэта зрабіць?

М а г д а л е н а. Не разумею.

Э с т э р к а *(з крыўдай у голасе).* Не чакала ад вас з Юрасікам такой падставы.

М а г д а л е н а. Ды пра што ты?! *(Сярдзіта тупае нагой).* Хуценька скідай сваё адзенне і бяры маё. *(Пачынае распранацца).* Кацярынка, выпіўшы мальвазіі, не заўважыць падмены. Ты выйдзеш на волю, а мне яны нічога не зробяць.

Э с т э р к а *(ускоквае на ногі).* Прабач, Магдалена, я было падумала... Пачакай, не распранайся, мы тут не адны!

Магдалена азіраецца, Юрасік выходзіць з ценю.

М а г д а л е н а. Ой! *(Закрываецца адзеннем).*

Ю р а с і к (*да Эстэркі*). Спадзяюся, варыянт Магдалены для цябе прымальны?

Э с т э р к а. Але куды я пайду?

М а г д а л е н а. Табе трэба ўцякаць з горада, Эстэрка.

Э с т э р к а. І аддаць ім карчму? Не!

Ю р а с і к. Цябе чакае смерць, дурніца!

Э с т э р к а. Аддаць ім цябе? Ніколі!

Ю р а с і к. Я пакіну горад разам з табой, Эстэрка.

Э с т э р к а *(рашуча).* Мае продкі спакон вякоў аднекуль уцякалі. А я не буду!

Ю р а с і к. Ага, сядзі ў будзе і чакай, што будзе!

Э с т э р к а *(рашуча).* Буду чакаць суда. Няхай мяне апраўдаюць альбо заб’юць.

У гэты час дзверы вязніцы адчыняюцца і паказваецца галава П ё т р ы.

П ё т р а *(не заўважыўшы Магдалены і Юрасіка, шэптам).* Эстэрка, я прыйшоў цябе вызваліць!

Эстэрка, Магдалена і Юрасік міжволі выбухаюць смехам.

П ё т р а *(убачыўшы сяброў).* Ну так, я прыйшоў апошні. *(Усміхаецца).* Думаю як мне трапіць у вязніцу: ці падмануць Кацярынку ці падкупіць? А яна сабе спіць з пляшкай віна ў руках.

Ю р а с і к. Так, Магдалена парупілася.

П ё т р а. Значыць, усё Брацтва Ратушы ў зборы.

Э с т э р к а. Дзякуй вам, сябры!

Ю р а с і к. Мы прапануем Эстэрцы выратаванне, а яна адмаўляецца.

М а г д а л е н а. Пётра, скажы ёй, можа цябе яна паслухае!

П ё т р а. Што такое, Эстэрка?

Э с т э р к а. Я не хачу ўцякаць як злачынца з роднага горада, не хачу пакідаць каханага чалавека.

Ю р а с і к. Каханы чалавек гатовы ўцякаць разам з табой, хаця таксама любіць свой горад. Карчму сваю яна не хоча пакідаць.

Э с т э р к а. Няхай сабе так. Але чаму мы павінны саступаць нейкім мярзотнікам? Як жа нашае Брацтва, нашая клятва? Для чаго мы кляліся, што будем прыходзіць на дапамогу адзін аднаму, калі нехта з нас трапіць у бяду.

Ю р а с і к *(не вытрымлівае).* Цьфу ты! Якая дзеўка, такая ў яе і прыпеўка!

П ё т р а. А ты што скажаш, Магдалена?

М а г д а л е н а *(задумліва).* Я баюся за Эстэрку. Але я згодная з ёй: супраць няпраўды трэба змагацца.

П ё т р а. Я рады, што нашыя думкі супадаюць. Я вырашыў...

Нечакана дзверы вязніцы адчыняюцца і на парозе паказваецца сонная, незадаволеная Кацярынка.

К а ц я р ы н к а. Што за гармідар? *(Са здзіўленнем бачыць чатырох чалавек у вязніцы).* А Божачкі, колькі ж вас тут?

Пётра з Юрасікам як па камандзе хапаюць Кацярынку за рукі і ўцягваюць у вязніцу. Магдалена выхоплівае з ножнаў на пасе ў Кацярынкі меч. Эстэрка спрытна здымае з сябе пас і падае хлопцам, тыя звязваюць пасам Кацярынцы рукі.

П ё т р а *(да Кацярынкі).* Будзеш сядзець ціха -- нічога кепскага не здарыцца.

К а ц я р ы н к а *(жаласліва).* Я страчу працу!

Ю р а с і к *(да Кацярынкі).* Затое твае дзеці не страцяць маці.

*(Да Пётры).* Дык што ты вырашыў, Пётра?

П ё т р а. Я іду змагацца з начнымі пачварамі, каб атрымаць руку Магдалены. Калі я выратую горад ад прывідаў, я запатрабую вызваліць Эстэрку. Ты, Магдалена, вяртайся дадому і сачы за войтам. Ты, Юрасік, – за лаўнікам. А ты, Эстэрка...

Э с т э р к а. А я застануся ў вязніцы сачыць за Кацярынкай. Буду распавядаць ёй прафесійныя анекдоты -- пра карчмароў. *(Да Кацярынкі, з усмешкай).* Ты згодная, сяброўка?

К а ц я р ы н к а. А што застаецца рабіць?

П ё т р а *(да Эстэркі).* Але табе, Эстэрка, лепш пакуль схавацца. Можа, у тваіх суродзічаў?

Э с т э р к а. Пакуль я тут, вы будзеце больш адважныя і рашучыя.

П ё т р а. Гэта праўда.

М а г д а л е н а *(увесь гэты час разглядае меч, які адабрала ў Кацярынкі).* Паслухайце, гэты меч зрабіў мой бацька. Не ўсе яго магічныя ўласцівасці вядомыя. Але я думаю, Пётра, ён дапаможа табе перамагчы пачвараў. *(Аддае меч Пётру).*

П ё т р а *(успомніўшы).* Гарадская вар'ятка нешта казала пра чароўны меч. *(Разглядае меч).*

М а г д а л е н а. Калі мы будзем разам -- мы абавязкова пераможам!

Ю р а с і к. Каб так сталася!

Сябры Брацтва Ратушы становяцца ў кола і працягваюць адзін аднаму рукі ў знак згоды.

К а ц я р ы н к а. Ох, нядобрае вы надумалі! Тут не толькі працу можна страціць, але і галаву!

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### З'ява чацвёртая

Познім вечарам на гарадскім пляцы перад Ратушай. На пляцы пуста, усе жыхары пахаваліся ў сваіх дамах перад з'яўленнем начных пачвараў. Толькі вар'ятка С е р а ф і м а стаіць пасярод пляца і махае над галавой галінкай, да якой прымацавана папяровая птушка.

С е р а ф і м а *(глядзіць угору).* Ляці, птушка, ляці! Хутка і я палячу ўслед за табой! Узнімуся на неба, пабачу светлых анёлаў і самога Госпада Бога. Раскажу яму пра нашыя крыўды, падзялюся няспраўджанымі марамі. Тут, на зямлі, няма Бога, пануе Д'ябал і ягоныя служкі ў абліччы людзей. Ніколі не будзе на гэтай зямлі шчасця, пакуль яны ўладараць над добрымі людзьмі і нявіннымі жывёламі... *(Шэпча замову).* Ліха наша, ліха, ідзі за сіне мора! Верабей пташка, як бы ні было табе цяжка, нясі наша ліха за сіне мора, за белыя хвалі, за далёкія далі!

З'яўляецца Ж а л е з н ы В а р т а ў н і к, бярэ Серафіму за руку і спрабуе весці за сабой.

С е р а ф і м а *(упіраецца).* Пусці мяне, жалезная рука! Я цябе не люблю, ты жорсткі і бяздушны! Я палячу на неба да светлых анёлаў і добрага Госпада Бога!

Жалезны Вартаўнік цярпліва выслухоўвае Серафіму, а потым цягне за руку прэч з пляца. Калі яны знікаюць у адной з вулак, на пляцы з'яўляюцца У с х о д н і і З а х о д н і Ж а н і х і, П ё т р а, лаўнік Х а м а і войт Г е р в а с і.

Г е р в а с і *(урачыста).* Ну вось, шаноўнае спадарства, усе ў зборы. На бітву з пачварамі запісаліся чатыры дабраахвотнікі.

П ё т р а *(здзіўлена).* Чатыры?

Г е р в а с і. Так. Наш Заходні госць, Усходні, шкаляр Пётра і лаўнік Хама.

П ё т р а. Хама – жаніх Магдалены? *(Рагоча, а ўслед за ім пачынаюць рагатаць Усходні і Заходні Жаніхі).*

Х а м а *(пакрыўджана).* А што? Маю поўнае права. Я – ўдавец, заможны гаспадар.

Г е р в а с і. Усё справядліва. Два замежныя і два мясцовыя кандыдаты. *(Азіраецца).* Цямнее, панове, неўзабаве з'явяцца пачвары і той з вас, хто іх пераможа, атрымае руку Магдалены.

З а х о д н і Ж а н і х. І яе цудоўныя габелены.

У с х о д н і Ж а н і х. Які пан меркантыльны!

З а х о д н і Ж а н і х. Можна падумаць, пан рызыкуе жыццём выключна дзеля прыгажосці нявесты!

П ё т р а. Магу я першы выйсці на бойку?

Г е р в а с і. Не. Кандыдаты выходзяць на бітву з прывідамі па

чарзе, адпаведна запісу ў магістрацкай кнізе. *(Зазірае ў кніжачку).* Першы – наш Заходні госць, потым – Усходні, за ім – Пётра і ўрэшце – Хама.

Усходні Жаніх *(разважліва).* Ці не лепей было б выйсці на бітву з прывідамі ўсім разам?

Заходні Жаніх. А потым усім разам ажаніцца з залаташвейкай? *(Рагоча).*

Пётра *(да Заходняга Жаніха).* Панскі жарцік мне не падабаецца.

Усходні Жаніх. Заўсёды да тваіх паслугаў, хлопча. Калі, вядома, нехта з нас ацалее пасля сённяшняй ночы.

Гервасі. Увага, прашу ўсіх пакінуць пляц! Застаецца толькі першы кандыдат.

Усе пакідаюць пляц, перад Ратушай застаецца толькі Заходні Жаніх. Ён мае пры сабе мушкет. Напяваючы вясёлую жаўнерскую песенку, стаўляе мушкет на ножку і чакае пачвараў-прывідаў.

Заходні Жаніх *(пагардліва).* Уяўляю, якія тут здані, калі тутэйшыя жыхары нават варон баяцца. Супраць французскага мушкету і гішпанскай рапіры сам чорт бяссільны.

І прывіды-пачвары неўзабаве з’яўляюцца, а менавіта адзін з прывідаў: вялізны чатарохрукі асілак, узброены чатырма мячамі. Заходні Жаніх робіць залп з мушкета, але прывіда пулі не бяруць. Заходні Жаніх выхоплівае шпагу і даволі хвацка фехтуе з чатырохрукім супраціўнікам. Але тут на пляцы з’яўляецца яшчэ адзін прывід: аграмадная двухгаловая кабета, узброеная віламі. Яна амаль паддзела віламі Заходняга Жаніха. Пабачыўшы, што сілы няроўныя, Заходні Жаніх з крыкам “Матка Боска!” панічна ўцякае з пляца.

Праз нейкі час на пляцы з’яўляецца Усходні Жаніх, узброены ў самурайскі меч і прылады ніндзя.

Усходні Жаніх *(пераканана).* Не сталёвай шпагай, а сталёвай воляй трэба перамагаць ворага! Там, дзе падвяла заходняя зброя, дапаможа ўсходняе майстэрства бою!

І, сапраўды, з дапамогай усходняга майстэрства бою Ўсходняму жаніху ўдаецца паспяхова супрацьстаяць вялізным, але даволі няўклюдным пачварам. Але тут на пляцы з’яўляецца яшчэ адзін

прывід – усходні цмок з палаючымі вачыма. Убачыўшы цмока, Усходні Жаніх упадае ў містычную паніку і ўцякае з пляца.

Пачвары ўжо было святкуюць перамогу, але тут на пляц няўпэўненым крокам выходзіць Пётра. У ягоных руках невялікі меч Кацярынкі, які зусім не выглядае як грозная зброя. Здзіўленыя смеласцю і нахабствам Пётры, прывіды на нейкі час аж нерухомеюць.

П ё т р а. Божа, што за страхалюды! І як мне з імі справіцца? Адна надзея на меч. Калі ён сапраўды зроблены Майстрам, у яго мусіць быць нейкая таямніца. *(Махае кароткім мячом перад сабой, выклікаючы здзіўленне прывідаў).* У каго адвага, у таго й перавага! *(Адважна рушыць на пачвараў).* Калі Бог не дасць смерці, дык не возьмуць і чэрці!

Ачуняўшы ад здзіўлення, пачвары насоўваюццца на Пётру, абкружаюць яго з усіх бакоў. Далейшая бойка выглядае так, што Пётра проста ратуецца ад udaраў мячоў Чатырохрукага, вілаў Двухгаловай і хваста Цмока.

П ё т р а *(у адчаі).* Сонцам асвячуся, а месяцам абаранюся, злых ворагаў не баюся! Меч, дапамагай! Іменем Магдалены, якую я кахаю! Іменем Майстра, які стварыў гэты горад! Іменем Бога, які стварыў гэты свет!

Нечакана меч у руках Пётры загараецца і ператвараецца ў вогненны прамень накшталт мяча джэдая. Вогненным мячом Пётра хутка перамагае пачвар-прывідаў, адсякае ім рукі, галовы, хвасты, рассыпае на кавалкі тулавы. Забітыя пачвары падаюць на брукаваны пляц, а Пётр з павагай разглядае свой чароўны меч.

П ё т р а. Дзякуй табе, Майстра Францішак. *(Хавае меч у ножны).*

З бакавой вулачкі на пляц выходзіць лаўнік Хама, насцярожана азіраючыся набліжаецца да Пётры, разглядае пераможаных пачвар-прывідаў.

Х а м а. Ты добра папрацаваў, хлопча. Пасля цябе мне тут няма чаго рабіць.

П ё т р а. І, сапраўды. Адпачывай, дзядзька, на печы, а не

сватайся да маладых дзевак.

Х а м а. Зірні, а цмок яшчэ шаволіцца!

П ё т р а. Не можа быць! *(Імкліва паварочваецца ў бок цмока).*

Лаўнік Хама выхоплівае схаваны ў рукаве нож і б’е ім Пётру ў бок. Пётра са стогнам падае на брук.

Х а м а. Не табе са мной цягацца, шчанюк. *(Выцершы нож аб крысо, хавае нож і нетаропка пакідае пляц).*

Мінае нейкі час. На пляц выходзіць Жалезны Вартаўнік, набліжаецца да Пётры, нахіляецца, бярэ яго на рукі і выносіць з пляца.

**З’ява пятая**

На пляцы перад Ратушай. Пасярод пляца ўзвышаецца ганебны слуп і стос дроў для вогнішча, на якім будзе спалена чараўніца Эстэрка. Войт Г е р в а с і ў суправаджэнні лаўніка Х а м ы аглядае месца пакарання. Крыху воддаль стаяць кат К а ц я р ы н к а і Ж а л е з н ы В а р т а ў н і к.

Х а м а. Усё падрыхтавана да пакарання вядзьмаркі.

Г е р в а с і. Дровы сухія?

Х а м а. Угу. Я асабіста прасачыў.

Г е р в а с і. Гэта добра. Бо калі дровы сырыя, вядзьмарка задыхнецца ад дыму раней, чым да яе дабярэцца агонь.

Х а м а. А калі адбудзецца мой шлюб з Магдаленай?

Г е р в а с і. Спачатку спалім чараўніцу, якая наводзіла на горад прывідаў, адпяем герояў, што загінулі ў бітве з імі, а потым ужо справім вяселле пераможцы з пенкнай Магдаленай. *(Занепакоена).* Цела Пётры так і не знайшлі?

Х а м а. Знікла беззваротна. Як і целы прывідаў-пачвар.

Г е р в а с і. Знікненне прывідаў мяне не трывожыць. На тое яны і прывіды. А вось Пётра... *(Ціха).* Ты ўпэўнены, што ён загінуў?

Х а м а *(змрочна).* Я асабіста за гэтым прасачыў.

Г е р в а с і. Я спадзяюся, Хама. *(Няшчыра ўсміхаецца).* Шчасце мець такога спрытнага зяця.

Х а м а. Шчасце мець такога разумнага цесця. Як цяпер будзем дзяліць прыбытак ад продажу габеленаў, Гервасі?

Г е р в а с і *(пазмрачнеўшы).* Не хвалюйся, у накладзе не

застанешся.

На пляцы з’яўляецца М а г д а л е н а. Бачыць ганебны слуп і падрыхтаваныя дровы, імкліва абарочваецца да войта і лаўніка.

М а г д а л е н а. Ля гэтага ганебнага слупа павінны стаяць вы, а не бедная Эстэрка! Апошні раз прашу: адпусціце яе, яна невінаватая.

Г е р в а с і. Супакойся, дачушка. Адбыўся суд, яе віна даказаная.

М а г д а л е н а. Ведаю я вашыя суды! У вас безьязыкі гучна лаецца, і бязрукі ў далоні пляскае.

Х а м а. Ёсць сведка яе чараўніцтва: кат Кацярынка. *(Робіць знак Кацярынцы).*

К а ц я р ы н к а. Так, карчмарка Эстэрка зачаравала мяне, адабрала мой меч і адчыніла дзверы вязніцы.

М а г д а л е н а. Але чаму яна не выйшла з вязніцы?!

К а ц я р ы н к а. Гэтага я не разумею.

Х а м а. Напэўна, здарыўся Божы цуд.

М а г д а л е н а. Я лепей накладу на сябе рукі, чым выйду замуж за гэтага тоўстага каплуна! Не веру я, што гэта ён перамог пачвар. І што Пётра загінуў!

Х а м а. Ёсць сведкі. *(Кліча).* Кацярынка!

К а ц я р ы н к а *(з гатоўнасцю).* Я не бачыла, але пацвярджаю.

Х а м а *(раз’юшана).* Дурная! Чаму ты кажаш: не бачыла? Хто так сведчыць?

К а ц я р ы н к а *(спалохана).* Выбачайце, васпане, агаварылася.

М а г д а л е н а. Якія самі, такія і вашыя сведкі!

Х а м а. Змоўч, смаркачка! *(Ціха).* Нічога, хутка я навучу цябе розуму.

Г е р в а с і. Магдалена, не варта спрачацца. Усё адбываецца паводле гарадскога права і ты павінна падпарадкавацца. *(Да Жалезнага Вартаўніка).* Вартаўнік, пільнуй яе. Не адпускай ад сябе ні на крок. Нас з лаўнікам чакаюць пільныя справы ў магістраце.

Гервасі і Хама адыходзяць з пляцу і знікаюць у дзвярах Ратушы. За імі спяшаецца Кацярынка. Жалезны Вартаўнік падыходзіць да Магдалены і бярэ яе за руку.

М а г д а л е н а *(злосна).* Пусці мяне, жалезнае пудзіла! Я нікуды адсюль не пайду! І навошта толькі мой бацька цябе змайстраваў!

Жалезны Вартаўнік працягвае руку і кладзе ў далоню Магдалены медны пярсцёнак.

М а г д а л е н а *(разгледзіўшы пярсцёнак).* Ягоны пярсцёнак! Адкуль ён у цябе? *(У адчаі калоціць Жалезнага Вартаўніка кулачкамі).* Што з ім, ты ведаеш?

Жалезны Вартаўнік вялікімі крокамі накіроўваецца ў адну з бакавых вулачак. Магдалена як прывязаная бяжыпь услед.

**З'ява шостая**

У хатцы вар'яткі Серафімы на ўскраіне горада. Пётра ляжыць на засланым ласкутнай коўдрай ложку. Над ім варожыць Серафіма: апрацоўвае рану нейкай маззю з зёлак, накладае павязку і шэпча замову.

С е р а ф і м а. Першым разам, гасподнім часам. Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мамцы пакланюся і ўсім святым апосталам. Станьце Пятру на помач.

П ё т р а *(ачуняўшы).* Дзе я?

С е р а ф і м а. На полі стаяў дуб, на ім сядзелі тры дзявіцы — ні ткахі, ні прахі, толькі вышывахі. Чорным шоўкам вышывалі, кроў гаручую ўместа злівалі і з Пятра боль убіралі.

П ё т р а *(пазнаўшы вар'ятку).* Серафіма? Як я тут апынуўся?

С е р а ф і м а. З касцей, з машчэй, з рацівага сэрца, з буйной галавы, з гаручай крыві, па касцях не хадзі, жыл не тамі, сэрца не знабі. Ідзі, уся боль, на сінія моры, сухія пяскі. Там табе жыцьпажываць, а ў Пятра не бываць.

П ё т р а. Не разумею, што ты лапочаш, але дзякуй табе за дапамогу.

С е р а ф і м а. Не я знаю — Гасподзь знае і мне памагае. Я з духам, Бог з помаччу. Амінь.

П ё т р а. Амінь, але мне трэба ісці. *(Спрабуе ўстаць з ложка, але пакуль сілаў бракуе і Пётра толькі сядае).* Я мушу ратаваць Эстэрку. Папярэдзіць Юрасіка. Убачыцца з Магдаленай.

У хатку ўваходзяць Ж а л е з н ы В а р т а ў н і к і М а г д а л е н а. Убачыўшы Магдалену, Серафіма ніякавее, нібыта хоча нешта прыпомніць, а не можа.

М а г д а л е н а. Пётра!

П ё т р а. Магдалена!

С е р а ф і м а *(дакранаецца рукой да твару Магдалены).* Якая ты прыгожая! На зямлі такіх не бывае. Ты анёлак?

Жалезны Вартаўнік асцярожна бярэ Серафіму пад рукі, усаджвае на лаву і дае ў рукі скрыначку з дзіцячымі забаўкамі.

М а г д а л е н а. Ты жывы! Лаўнік Хама сказаў, што ты загінуў у бітве з пачварамі.

П ё т р а *(хапаецца за паранены бок).* Чорт бы яго пабраў!

М а г д а л е н а. Нібыта гэта ён, Хама, перамог прывідаў і цяпер я мушу выйсці за яго замуж. Эстэрку чакае вогнішча, Юрасік знік, я проста не ведала, што рабіць. Я не верыла, што ты загінуў!

П ё т р а *(ціха).* Магдалена, гэта я перамог пачвараў. З дапамогаю цудоўнага мяча. А Хама па-здрадніцку спрабаваў мяне забіць.

М а г д а л е н а. Што ты кажаш! Няўжо ён здольны на *забойства*?!

Ж а л е з н ы   В а р т а ў н і к *(нечакана ўступае ў размову).* Здольны. Яны абодва здольныя да забойства. І Хама, і Гервасі.

М а г д а л е н а *(спалохана).* Ой!

П ё т р а *(да Жалезнага Вартаўніка).* Ты ўмееш размаўляць?

Ж а л е з н ы В а р т а ў н і к. Умею, але лепей пра гэта нікому не ведаць. Асабліва лаўніку і войту. Менавіта яны забілі мяне. Зачынілі ў верхнім пакоі Ратушы і падпалілі яго. А Гелена, даведаўшыся пра гэта, звар'яцела. У нас таксама было Брацтва, мы давалі клятву, а потым яны здрадзілі. Хама з-за грошай, а Гервасі з-за ўлады.

П ё т р а *(нерашуча).* Майстра Францішак, гэта вы?

М а г д а л е н а. Тата?!

Ж а л е з н ы В а р т а ў н і к. Майстра Францішак загінуў. Але перад смерцю здолеў удыхнуць сваю душу ў Жалезнага Вартаўніка, якога некалі змайстраваў. Не ведаю цяпер, хто я такі.

М а г д а л е н а. А вар'ятка Серафіма?

Ж а л е з н ы В а р т а ў н і к. Яна -- твая маці, мастачка Гелена. Яна страціла розум і нічога не памятае. Таму гэтыя нягоднікі і даравалі ёй жыццё.

М а г д а л е н а. Маці! *(Працягвае рукі да Серафімы).*

Ж а л е з н ы   В а р т а ў н і к. Толькі не трывож яе дарэмна, дзіця.

П ё т р а *(гнеўна).* Яны заплоцяць за свае злачынствы. І за мінулыя і за цяперашнія!

Ж а л е з н ы  В а р т а ў н і к. На жаль, я не змагу дапамагчы вам пакараць злачынцаў. Майстра наўмысна стварыў Жалезнага Вартаўніка такім, што ён нікога не можа пакрыўдзіць. Ні чалавека, ні пачвару, ні пачвару ў вобразе чалавека.

П ё т р а. Мы ўправімся самі. У мяне ёсць магічны меч. На шчасце, Хама не здагадаўся яго забраць. *(Узнімаецца на ногі, але хапаецца за бок).*

Ж а л е з н ы  В а р т а ў н і к. Ты зможаш ісці?

М а г д а л е н а. Я дапамагу яму!

Ж а л е з н ы  В а р т а ў н і к. Зёлкі і замовы Серафімы чыняць цуды, але прыдалося б табе яшчэ некалькі дзён адпачынку.

П ё т р а. Мы не можам чакаць.

М а г д а л е н а. Інакш Эстэрку спаляць на вогнішчы!

Ж а л е з н ы  В а р т а ў н і к. Тады спяшайцеся. Мы з Серафімай таксама прыдзем да Ратушы. Крыху пазней.

Пётра прымацоўвае на пас меч і з дапамогай Магдалены выходзіць з хаткі.

Ж а л е з н ы  В а р т а ў н і к *(глядзіць услед).* Як доўга я чакаў, пакуль вы вырасцеце, дзеці.

**З’ява сёмая**

Пляц перад Ратушай. Ля ганебнага слупа сабраліся гараджане на чале з лаўнікам і войтам. Да слупа прывязаная Э с т э р к а, побач стаіць кат К а ц я р ы н к а з палаючай паходняй у руках.

Г е р в а с і. Шаноўныя жыхары нашага горада! Сёння мы караем чараўніцу Эстэрку, якая наводзіла на наш горад начных прывідаў-пачвараў. Віна яе цалкам даказана і суд прыгаварыў чараўніцу да смерці: спаленні на вогнішчы. Няхай гэтае вогнішча будзе таксама данінай памяці героям, якія загінулі ў бітве з пачварамі: Усходняга і Заходняга Асілкаў, а таксама ўраджэнца нашага горада, шкаляра Пётры. І няхай яно ўзносіцца ў імя пераможцы, які вызваліў наш горад ад пошасці – лаўніка Хамы. *(Да Кацярынкі).* Выканаць прысуд!

Э с т э р к а. Бог пакарае вас за  вашу хлусню!

Г е р в а с і *(усміхаецца).* Гэта ўсё, што ты можаш сказаць перад смерцю, вядзьмарка?

Э с т э р к а. Не. Яшчэ я магу пажадаць вам: каб вы так разбагацелі, што маладым мужам вашых удоў жылося ў раскошы! Каб вашыя ворагі стапталі сабе ногі, танцуючы на вашых магілах!

Х а м а. Заткніце ёй глотку!

Чуваць голас “Чакайце!” З першага шэрагу месцічаў выходзіць Ю р а с і к  і набліжаецца да ганебнага слупа.

Ю р а с і к. Чакайце! Пакаранне адмяняецца! Паводле гарадскога Статута злачынцу даруецца жыццё, калі нехта захоча ўзяць з ім шлюб. Я, Юрасік, сын Хамы, хачу ўзяць ў жонкі Эстэрку, дачку Самуіла.

Х а м а. Апамятайся, сыне! Не ганьбі наш род! Яна – іншай веры ды яшчэ чараўніца.

Ю р а с і к. Мы кахаем адзін аднаго. А чараўніцай вы яе зрабілі, каб прыбраць у свае рукі лепшую ў горадзе карчму. Ты сам, бацька, неаднаразова прызнаваўся мне ў гэтым намеры.

Х а м а. Ах ты, Іуда!

Э с т э р к а. Дзякуй, каханы! Я ганаруся табой!

Г е р в а с і *(з усмешкай).* Мы ў захапленні ад твайго шляхетнага ўчынку, хлопча, але пакаранне не можы быць адменена.

Ю р а с і к. Гэта яшчэ чаму?

Г е р в а с і. Ты няўважліва чытаў гарадскі Статут. Шлюб ратуе ад смерці шараговага злачынцу, але не чараўніцу і вядзьмарку.

Х а м а. Вось табе, сынок. *(Паказвае Юрасіку дулю).*

Чуваць голас: “А на здраднікаў і забойцаў Статут распаўсюджваецца?”

Г е р в а с і. Што такое?

З першага шэрагу месцічаў выходзіць  П ё т р а, побач з ім ідзе М а г д а л е н а.

П ё т р а. Прысуд не можа быць выканы, бо вынесены людзьмі, якія самі заслугоўваюць смерці за здраду і забойства!

Г е р в а с і *(да Хамы, ціха).* Хто мне казаў, што ён загінуў?

Х а м а *(да Пётры).* Як ты смееш нас абвінавачваць, шчанюк! За краты яго! *(Да Кацярынкі).* А ты чаго чакаеш, дурніца? Падпальвай вогнішча!

Кацярынка ўзнімае паходню, але падумаўшы, адкідае яе ўбок, не жадаючы выканаваць загад. Юрасік спрытна ўзбіраецца на стос і вызваляе Эстэрку.

Г е р в а с і. Гэта бунт! Дзе Жалезны Вартаўнік? *(Азіраецца).*

П ё т р а *(набліжаецца да лаўніка і войта, якія адступаюць перад ім).* Ты, Хама, спрабаваў па-здрадніцку забіць мяне і падманам забраць у мяне Магдалену. Але не ў гэтым я цябе абвінавачваю. Я абвінавачваю вас, лаўнік Хама і войт Гервасі, у смерці Майстра Францішка, заснавальніка нашага горада.

М а г д а л е н а *(становіцца побач з Пётрам).* У смерці майго бацькі і няшчасным лёсе маёй маці. У хлусні і ашуканстве жыхароў горада ўсе гэтыя гады.

Х а м а. Гэта няпраўда! У вас няма сведкаў!

Г е р в а с і *(разгублена азіраецца).* Жалезны Вартаўнік! За краты іх!

І Жалезны Вартаўнік з'яўляецца. Але паперадзе яго ідзе Серафіма, прычасаная, памытая, у прыгожай доўгай сукенцы. Гэтым разам яна выглядае не як жабрачка-вар'ятка, а як блажэнная, як нябесны дух, што спусціўся на зямлю.

С е р а ф і м а. Вось і вогнішча раскладзена, і душы грэшнікаў мітусяцца ад жаху напярэдадні пакарання... А душы нявінна забітых праведнікаў глядзяць на іх з нябёсаў... *(Падыходзіць да Гервасія, спыняецца ля яго).* Баваюць анёлы сапраўдныя, ад Бога. І тыя, якія толькі ўдаюць анёлаў, а самі служаць Д'яблу. Пад белымі шатамі ў іх схаваныя чорныя сэрцы і чорныя думкі. З такімі не даляціш да неба, о не!

Г е р в а с і *(спалохана).* Гелена? Не!

Х а м а *(да Гервасія).* Дарэмна мы пакінулі ёй жыццё.

Ж а л е з н ы В а р т а ў н і к. Я, душа няшчаснага Майстра Францішка, абвінавачваю лаўніка Хаму і войта Гервасія ў здрадзе, клятваадступніцтве, і забойстве чалавека, які быў іх шчырым сябрам.

Г е р в а с і *(зусім зляканы).* Францішак!

Х а м а *(ціха).* Цяпер я разумею, навошта ён змайстраваў гэтую

металічную скрыню...

П ё т р а. Вы хацелі сведкаў – маеце.

Ю р а с і к *(да Хамы).* Эх бацька-бацька...

М а г д а л е н а *(да Гервасія).* Мне прыкра, што я лічылася вашай прыёмнай дачкой. *(Ідзе да Серафімы, каб абняць яе).*

С е р а ф і м а *(узрадавана).* Мой Анёлак!

Х а м а *(нечакана падае на калені перад Пётрам).* Людцы добрыя, гэта ўсё ён, Гервасі! Ён прыдумаў забіць Францішка і хацеў забраць сабе Гелену, ён намовіў мяне сватацца да Магдалены і прыбраць з дарогі Пётру! Я толькі выконваў ягоныя загады.

Гервасі з пагардай плюе ўбок Хамы і адварочваецца.

Ю р а с і к. Устань, бацька, не ганьбі гонар роду.

К а ц я р ы н к а. І, сапраўды, што ты нюні распусціў, мілок? Суд разбярэцца. *(Дапамагае лаўніку ўстаць і тут жа закладае яму наручнік на левую руку. Потым закладае другі наручнік на правую руку Гервасію. Да Пётры).* Дык што з імі рабіць? *(Не атрымаўшы адказу, пераводзіць погляд на Юрасіка).* Выбачайце, хто цяпер кіруе горадам?

П ё т р а *(да Жалезнага Вартаўніка).* Майстра Францішак...

Ж а л е з н ы В а р т а ў н і к. Майстра Францішак загінуў. Я – Жалезны Вартаўнік. Я буду і далей служыць гораду. Але кіраваць ім, дбаць пра закон і жыхароў цяпер мусіце вы.

Юрасік падыходзіць да Гервасія, здымае з яго шыі стужку з адзнакай войта і вешае на шыю Пётры.

П ё т р а *(разгублена).* Юрасік, ты лічыш...

Ю р а с і к. А што ты думаў, даражэнькі? Хопіць бадзяцца па свеце, час папрацаваць для роднага горада. Як кажуць, рабі пільна і тут будзе Вільня!

П ё т р а *(аддае загад Кацярынцы).* Адвядзі іх у вязніцу і няхай чакаюць справядлівага суда.

К а ц я р ы н к а. Хадземце, шаноўныя. *(Вядзе за сабой лаўніка і войта ў Ратушу).* Меч мне ўжо не вернуць, але прынамсі не звольнілі з працы.

Эстэрка падыходзіць да Юрасіка і кратае яго за рукаў.

Э с т э р к а. Юрасік, ты не перадумаў на мне жаніцца? Ці гэта была толькі гульня на публіку? Маўляў: зраблю прапанову, яе ж усё роўна спаляць на вогнішчы!

Ю р а с і к. Эстэрка, я цябе зараз паб'ю за такія словы! *(Горача абдымае Эстэрку).*

М а г д а л е н а *(пачуўшы).* Я таксама хачу замуж! За пераможцу начных пачвараў!

П ё т р а *(шчасліва ўсміхаецца).* Пераможца з радасцю атрымае сваю ўзнагароду. *(Сумеўшыся, да Жалезнага Вартаўніка).* Можна?

Ж а л е з н ы В а р т а ў н і к. Я ўсяго толькі Вартаўнік.

М а г д а л е н а *(да Серафімы).* Можна?

С е р а ф і м а *(не разумее, але шчасліва ўсміхаецца).* Анёлак!

М а г д а л е н а. Можна! *(Рашуча цалуе Пётру).*

Ж а л е з н ы В а р т а ў н і к *(ці то да Серафімы, ці то да гледачоў).* Можа, яны будуць лепшыя за нас?

З а с л о н а

*Сяргей Кавалёў*

З нагоды маёй круглай жыццёвай даты
я атрымаў ад Вас, дарагія сябры, знаёмыя
і Калегі па аднаму і другому цэху,
шмат сардэчных віншаванняў.

**ВЕТЛІВА дзякую**
за памяць і добрыя словы:

Пасольству Рэспублікі Беларусь у Польшчы
Цэнтру культуры Беларусі пры Пасольстве РБ (Ілоне Юрэвіч)
Дзяржаўнаму Музею гісторыі беларускай літаратуры (Міхалу Рыбакову)
Беларускаму дзяржаўнаму архіў-музею літаратуры і мастацтва (Наталлі Гардзіенка)
Навуковай Бібліятэцы Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы (Мікалаю Грынько)
Радыё “Свабода”, Прага (Яну Максімюку)
Польскаму Радыё ў Беластоку (Зміцеру Косціну)
Беларускаму Радыё “Рацыя” (Міхалу Андрасюку, Міры Лукшы)
Саюзу беларускіх пісьменнікаў (Прэс-службе, Мінск);

таксама ветліва дзякую
усім беларускім падзвіжнікам –
паэтам, пісьменнікам, вучоным, рэдактарам:

акадэміку Радзіму Гарэцкаму і Галіне Гарэцкай (Мінск)
Гаяне Джыхарганян (ЗША, Лос-Анджэлас)
Дануце і Берндту Шпрынгманам (Нямеччына, Дрэздэн)
Славаміру Адамовічу (Мінск), Анне Альштынюк (Беласток), Юрыю Баене (Бельск), Але Брадзіхінай (Гомель), Анатолю Брусэвічу (Гродна), Іаанне Васілюк (Беласток), Яўгену Гараднікаму (Мінск), Аксане Данільчык (Мінск), Іаанне Дзедзіц (Беласток), Тэрэсе Занеўскай (Варшава), Яраславу Іванюку (Беласток), Святлане Калядка (Мінск), Хрысціне Лялько (Мінск), Лідзіі Маліноўскай (Бельск), Жэні Мартынюк (Бельск), Анжэле Мельнікавай (Гомель), Галіне Нікіцінай (Мінск), Ірыне Саматой (Віцебск), Беаце Сівэк (Люблін), Галіне Тычко (Мінск), Вользе Шынкарэнка (Гомель) і маёй дарагой Галіне Твarановіч, якая дзеліць са мною мой лёс.

*Ян Чыквін*

*Анхела Эспіноса Руіс*

# АПРАНУТАЯ Ў ПРАЎДУ

***

Сустрэць бы цябе між марозлівых кветак,
І ўстаць на калені б у стомленых ног.
Стварыць бы цябе, быццам прозу паэта,
Каб сталі табою і Д'ябал, і Бог.

Прачнуцца б паветрам чужога дыхання,
Уздыхам між вуснаў тваіх — і ўцячы:
Ляцець бы на зломаных крылах кахання,
Заснуць матыльком бы ў цябе на плячы,

І голай пайсці б за табою Венерай,
Каб зноў нарадзіцца ў адвечным агні,
Адчуць тваю праўду б халоднаю верай,
Пашыць з тваіх слоў бы сукенку хлусні.

***

Над галавою попельнае неба,
Над голым целам коўдра й цішыня.
Ужо не пойдзеш ты за мною слепа,
І мне не йсці. Астатняе — хлусня.

Сыходзіць восень. Снег макулатурай
Ляціць у шэрым ветры за акном,
Хачу напіцца зноў тваёю скурай,
І водарам тваім сагрэць наш дом,

І вырвацца з абдымкаў чорнай здрады,
Між вуснаў пакарыць і страх, і смерць,
Адкрыць з тваіх далоняў далягляды,
Заплюшчыць вочы... Зноўку паляцець

***

Я нашу сваю песню ў кішэні
І асколак Палярнае зоркі,
А то раптам цябе я сустрэну
Пад дрыготным святлом адвячорка.

Я нашу ў сваёй сумцы каштаны
Разам з ружай мінулай вясны,
І заўжды пад рукою туманы
І парэшткі граху ды віны.

Я нашу ў кашальку сіні вецер,
Я нашу сваё неба з сабой,
Я манеты нашу ліхалецця
І ўспамінаў сярэбраны рой.

Ты таксама трымай у кішэні
Сваю песню, свой лёс, сваю зорку,
Хай ніколі мяне й не сустрэнеш
У глухой цішыні адвячорка.

***

Над акіянам кволае святло,
Плывуць сем мораў з неба на далоні.
У карабля зламанае крыло,
У хвалях небасхілаў сэрца тоне.

Над акіянам вецер і туман,
Працягваць падарожжа сэнсу мала.
Па навальніцы ціша — ўсё падман:
Палярнай зоркай роспач нам заззяла.

Над акіянам цемра й забыццё,
А карабель не даплыве ніколі,

А на далоні ўсё ж цячэ жыццё,
А ў валасах драбок няўмольнай солі.

Плысці далей няварта, капітан,
Бо час забраў сваю даніну ўчора.
І белай пенай піша графаман
Пра памяць і пра смерць, пра неба й мора.

***

Калісь ты называў сябе паэтам:
Давай вып'ем з табой віна за гэта
Між сцюжай тваіх рук
І калючай каметай.
Калісьці па вясне бывала лета,

Па выбуху сузор'яў — пацалункі.
Чужымі будуць заўтра твае думкі,
Чужым твой след і вузкаю дарога
З-пад коўдры да трывогі.
Цябе ў маім ўлонні ўжо не многа...

А меркавала я ў сваім бяскрыллі,
Што зноў пасею ў снах насенне часу,
І зацвіце любоў апошняй хвіляй,
Ці заспявае злосць зямным Пегасам,
Ці музыка нас згасіць,

Або загіне свет,
Калі яго напіша мой паэт.

***

Твой няпэўны радок,
Напісаны ad hoc,
Пра любоў,
Пра жыццё,
Пра мяне,
Твой калючы радок,
Як абрыдлы ўжо ўрок
Без канцоўкі
Ляжыць

На стале.
Быццам даўні намёк,
Недачуты знарок,
Прапусцілі
З табою.
Але
Твой кароткі радок
У жыццёвы вянок
Нада мною
Гучыць...
Не міне!

***

Зняла цяжкое паліто адчаю,
Каб стаць хутчэй з каленаў лёгкім крокам,
Зняла пустых надзеяў акуляры,
Каб лепей бачыць, што мяне чакае.

Зняла я з рук пальчаткі разважанняў,
Бо не баюся абпаліць любоўю.
Яшчэ ж і боты мудрасці зняла,
Каб адчуваць дарогу басаnож.

Зняла сукенку малазначных слоў,
І на грудзях лаўлю я сонца й неба,
І капялюш дарослацці зняла,
Каб птушкі вілі гнёзды ў валасах.

Зняла без страху і маўчання шалік,
Каб голас, быццам звон, паўсюль раздаўся,
Калі скажу, што да цябе іду,
Калі скажу, рыхтуй свае абдымкі.

Зняла я крыўду, мары і ўспаміны:
Хаджу цяпер апранутая ў праўду,
А гэта значыць, вельмі часта — голай,
Бяскрылай, чыстай, вернай і магутнай.

*Анхела Эспіноса Руіс*

*Галіна Тварановіч*

# НІБЫ МАЛОДШАЯ СЯСТРА

* * *

Так, несумненна, я была ў сваім часе,
ды ён, раптам усамастойнены,
загаспадарыў мною, а мусіў жа
залежыць ад майго памкнення.
Спяшаўся кудысьці і не тлумачыў.
Сягаў, на шчасце, даляглядам знаёмым:
ад сонцаўзыходу над рухлівымі вербамі,
асвечанай у Храме Міхайлаўскім вернаю
стражаю нашых садка, агароду й хаты –
да палымянага захаду за візантыйскім абрысам
кроны мядзянай юнай Царквы Пакроўскай...

Мой час, самастойны ад мяне, чамусьці
адсоўваў справы, у якіх належыла
мне быць, затрымацца, застацца...

19.03.2019–5.08.2020

* * *

Кроў і Цела Хрыстовы –
Сам Бог у Чашы залатой
даверыўся рукам святарскім.
Стыхія, огнь сушішаны,
Сваёй жа волі упакораны.
Над ціхаю чаргою ў збаўленне
узнесена Таемнае Таемных.
Глыток Крыві і Цела –
вечнае гаючае жыццё.
Дух Святы ў Храме.

* * *

Цела –
            раб духу,
мусіць  сілу сваю
усе сокі жыватворныя
перадаць яму
на карыстанне далейшае,
                                        вечнае,
каб споўніцца чалавечае існасці
у абяцаным аднойчы –
на парозе тутэйшасці.

* * *

Адзінокая чорная птушка
ляцела й ляцела на захад.
Чырвона заходзіла сонца.
Пахла грыбамі і лісцем апалым.
З прыроды вырастала
                  і ёю ж адпрэчвалася
геаметрыя Казіміра Малевіча.

* * *

Яшчэ ў сваёй дарозе
пражытыя табой гады
прымерваю, абтупваю.

Стаяць маўкліва,
а сабралася парадкам.
Ужо нібы малодшая сястра
кранаю, лашчу і цалую
зяленкаваты лабрадор.

* * *

*Манечцы*

Сусвет таямнічы –
і маме, і тату.
Шляху пачатак.
Упісаны ж далі якія
ў нясмелыя крокі дачушкі?..
Першая восень
лісцем кляновым
хінецца да ручкі.
Час золатам і барвай
адкрыцца спяшае нанова.

Здзіўленне і шчасце.

25.10.2018

*Галіна Тварановіч*



*Аксана Данільчык*

# Каранаваная вясна

### I

Дзівосная
ласкавая
блакітна-зялёная
вясна, распырсканая па беразе ракі,
пакінутая ў знерваваным горадзе,
самаізаляваная ў даступных межах,
пайшла да вады, дзе квітнеюць сады,
але замест водару яблыняў дыхае
водарам падпаленых шашлыкоў,
слухае, як дзесьці грукаюцца ў браму зямлі
шэрагі адзіна правільных носьбітаў
прыўласненай памяці.

Ці сапраўды адрозніваецца тое,
што чуюць яны, і тое, што чуеш ты?

Дзівосная
млосная
блакітна-зялёная
вясна, каранаваная
адмененымі рэйсамі.
Можа быць, варта
зафутболіць сонца за хмары,
каб з неба паліўся дождж-дызенфекцыя?

Надзея памірае апошняй,
але ўсё ж такі памірае.
І дзякуй Богу, што памірае.
Можа быць, нарэшце вызваліцца месца
ўпэўненасці, новаму веданню, новай волі?

Ты дакладна не пойдзеш туды,
дзе шыбуе на парад
піянерскі іх атрад.

Ты даўно на каранціне.

Галоўнае, каб не пажыццёва.

**II**

З суседам нешта здарылася,
штосьці здарылася,
глянь на яго сіні  “Лексус” –
на цёмнай машыне відаць
кожная кропля дажджу ці слязы.
Машыны – як сабакі –
калі іх кідаюць,
пачынаюць скугуліць і плакаць.
Іх сумны нямыты выгляд, іх вочы,
зацярушаныя рознай вясновай трасцай,
што сыпецца з дуба ля пад’езда,
птушыныя пазнакі,
спушчаныя колы
распавядаюць пра іх сіроцтва:
калі за імі ніхто не прыходзіць,
не гладзіць, не дае каманду “наперад”,
яны страчваюць волю.

З суседам нешта здарылася,
штосьці здарылася,
мінае тыдзень, два, тры...
Раніцай я чую за сцяной смех яго сына,
які вучыцца хадзіць.
Можа быць, гэтае нез’яўленне –
нічога дзіўнага ў ліхую часіну
закрытых межаў?..
Але дарма.

Мяжа закрылася,
і ён не зможа вярнуцца.
Ніколі болей не зможа вярнуцца –
гэтая мяжа не адкрыецца.

І толькі цяпер я даведваюся яго імя...

*Аксана Данільчык*

*Кацярына Янчэўская*

# МАСКА

## ПРЫСУТНАСЦЬ

Рызыкую
знайсці свой голас
сярод сартраўскай выпадковасці.
Збягаю ў нішто,
каб пазычыць знакі
ўласнай прысутнасці
ў людскім натоўпе.
Свет адказвае пылам
на павеках недастатковасці.
Ноч без голасу.
...Збіраю сябе –
неабходную форму цішыні.

***

Ліпень. Звычайны дзень.
Хвіліны. Вольныя ад смутку.
Турботы – павуціння цень –
хавае лес у сваю кашулю.
Палон адчаю
адцвітае
на посцілках твайго жыцця.
Куды ты будзеш зноў сасланы,
звычайны дзень?
Пасля?
Пасля.

## ЛІЧБЫ

Час постлічбавай рэальнасці:
новая свабода
вымяраецца
анлайн дыханнем і адсутнасцю абдымкаў.

Экран-маска.
Ізаляцыя жыцця ў даляглядах
цела.
Лічбы хвароб пішуць свае гісторыі
на нашай скуры.

Маска-пячора
гуляе ў хованкі з намі.
Чыстае паветра стала
пасткай
або размовай на мяжы святла і цемры?

## ГЕАМЕТРЫЯ

Туман закрэслівае адлегласць,
туман перакрэслівае асобу.
Неабходныя плямы шэрага,
плынь бязважкага на скронях
Жывога.

Заняпад геаметрый дакладнасці.
Рэчаіснасць. Адлегласць туману.
Скрозь цяперашняе асаблівае –
шэрае на бязважкім сэрцы...
Незваротнае на скронях
Жывога.

## КРАСАВІК

На шматкі фотаздымкаў
квітнеючы сад разарваны.
Пад аблокамі – блокі адчужанай зоны.
Красавік. Дваццаць шостага.

Адзінота безабароннасці
на знямоглым белым халаце:
за галінкі
трымаюцца слёзы.

Выпраменьванне.
Медыцынскія блокі
з квітнеючых дрэў.
Няма паўраспаду
сэрца
той,
схаванай ад воч,
вясны.

*Кацярына Янчэўская*



# СПАДЧЫНА

## ВЯРТАННЕ Ў ЛІТАРАТУРНЫ КАНТЭКСТ

На сённяшні дзень асноўная літаратурная спадчына Францішка Аляхновіча вернута з забыцця. Доўгія гады замоўчвання, абумоўленага ідэалагемамі савецкага часу, скончыліся. Асаблівы рост увагі да фігуры пісьменніка назіраўся ў 1990-я.

Большасць яго твораў была ў свой час надрукавана пры жыцці аўтара. Спектаклі па іх паспяхова ішлі на розных сцэнах. Як ні дзіўна, творчы лёс п'ес Ф. Аляхновіча аказаўся шчаслівейшым, чым, скажам, не менш яркага драматурга тагачасся У. Галубка. Куфэрак з рукапісамі апошняга бясследна (?) знік падчас арышту аўтара[1]. Праўда, здзейсніць знаёмства з асобнымі п'есамі Ф. Аляхновіча і зараз не заўсёды проста, бо прадстаўлены яны ў нашых бібліятэках не самым лепшым чынам. Гэтыя словы датычацца і п'есы "Базылішак".

Напісана яна па матывах народнай казкі, а калі быць больш дакладным – віленскай легенды[2]. Твор друкаваўся некалькі разоў. Спачатку ў газеце "Гоман" (1918, 26 лют., 1, 5, 13 сак.). Неўзабаве пасля гэтага вядомы кнігавыдавец Марцін Кухта выдаў яе асобнай кніжачкай (Вільня, 1918)[3]. П'еса тады друкавалася і лацінскай графікай, і кірыліцай: "Гоман" выходзіў у двух графічных афармленнях. Існуе таксама яшчэ адзін кірылічны варыянт "Базылішка", аднак зыходных дадзеных тое выданне[4] не мае. Ды і надрукавана яно, па ўсім відаць, на простай машынцы, а не на друкарскіх варштатах. Паколькі ж правапіс таго тэксту дарэформенны, можна смела меркаваць, што набіраўся ён да жніўня 1933 годзе. Больш выданняў "Базылішка" не выяўлена, а апісаныя даступны не такому ўжо шырокаму колу чытачоў, асабліва не сталічных.

П'еса мае традыцыйны сюжэт народнай казкі. Цікавая гісторыя яе ўзнікнення. "Базылішак – гэта міфічная істота, з якою быццам сустракаўся ў час сваіх паходаў Аляксандр Македонскі. Праз кнігу вусна-паэтычных паданняў аб ім – "Гісторыя Аляксандра Вялікага" – апавяданне аб базылішку распаўсюдзілася па краінах свету і лакалізавалася на мясцовай глебе ў самыя розныя легенды. З віленскага варыянта легенды Аляхновіч скарыстаў галоўны матыў – матыў барацьбы чалавека са змеем (такі выгляд прыняў базылішак пад пяром драматурга). Усе астатнія перыпетыі створаны фантазіяй самога аўтара"[5].

"Дурны Янка", закаханы ў князёўну, хітрасцю ці, лепей сказаць, дасціпнасцю розуму перамагае гада, які знішчаў людзей. Ад багацця герой адмаўляецца, просячы аб магчымасці кожны дзень бачыць сваю каханую. Князь па згодзе аддае яе за Янку і садзіць яго на трон.

Драматургічнае ўвасабленне казкі трэба прызнаць удалым, нягледзячы на

некаторыя хібы. Напрыклад, апісанню мізансцэны пагібелі гада яўна не хапае экспрэсіўнасці, усю напружанасць двубою лягчэй перадаць на сцэне, чым у драматургічным тэксце, у якім яна з'яўляецца імпліцытнай. Па-мастацку закончана выведзены характары герояў, сярод якіх асаблівае месца займае постаць Янкі. Аўтар змог, карыстаючыся толькі драматургічнымі сродкамі, стварыць яркі вобраз народнага ("сярмяжнага") героя. Дапамагае раскрыць унутраны свет персанажаў іх сакавітая мова.

Разглядаючы "Базылішак" у кантэксце развіцця нацыянальнай літаратуры, трэба адзначыць, што яго з'яўленне было дыялектычна дэтэрмінавана:

1) фальклорна-этнаграфічны матэрыял у той час стаўся адной з папулярнейшых крыніц мастацкай літаратуры, асабліва драматургіі;

2) аўтар, добра адчуваючы вектары літаратурнага развіцця, стварыў п'есу, якая знаходзіцца ля вытокаў рамантычнай тэндэнцыі, што праявілася неўзабаве ў 20 – 30 гг.[6]

Гэта таксама адзін з чыннікаў сённяшняга перадрукавання твора як з'явы нерадавой для беларускай культуры таго перыяду. Больш таго – з'явы, якая апярэдзіла творцаў, што прыйшлі на глебу этнаграфізму трохі пазней.

Граматыка аўтэнтыка мае некаторыя асаблівасці. На той час беларуская літаратурная мова не была ў дастатковай ступені сфарміравана. Часцей за ўсё моўнай асновай твораў станавіліся гаворкі малой радзімы. У п'есе Ф. Аляхновіча "Базылішак" назіраецца ўплыў не толькі дыялектаў, але і суседскіх літоўскай, польскай, украінскай, рускай моў.

Пры дадзенай публікацыі арфаграфія набліжана да сучасных афіцыйных нормаў, што, аднак, не павінна сапсаваць каларыт стылю. Вольнае абыходжанне з тэкстам арыгіналу з'явілася б не толькі скажэннем прынцыпу гістарызму, але і элементарнай непавагай да мэтра.

У канцы публікацыі змешчаны міні-слоўнік, дзе тлумачыцца некаторая, магчыма, не зусім зразумелая лексіка, якая сёння выкарыстоўваецца нават не ўсімі філолагамі, не кажучы пра паспалітых чытачоў.

*Анатоль Трафімчык*

---

[1] Гл. падрабязней: *Беззапаветнае служэнне народу: да 130-годдзя з дня нараджэння першага народнага артыста Беларусі Уладзіслава Галубка: матэрыялы рэсп. Навукова-практ. канф.* (Мінск, 15 мая 2012 г.), Нац. Акад. Навук Беларусі; Цэнтр даслед. Беларус. Культуры, мовы і літ.; навук. Рэд. А. Лакотка і інш. , Мінск, Беларус. Навука, 2014.

[2] Гл. падрабязней: Ковель У. А., *"Фальклорныя" п'есы Францішка Аляхновіча*. Мінск: прылажэнне да часопіса "Права і эканоміка", 1998, с. 4-9.

[3] Ёсць у аддзеле рэдкай кнігі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

[4] Захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

[5] *Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя:* У 4 т, т. 1, Мінск: Беларуская навука, 1999, с. 348.

[6] Гл.: Пятрова Л. І. *Рамантыкі пранікнёнае святло: Беларуская драматургія 20 – 30-х гг.* Мінск: Навука і тэхніка, 1987.

Францішак Аляхновіч

# БАЗЫЛІШАК

*Казка ў трох актах*

Асобы:

**Янка**
**Князь**
**Князёўна**
**Базылішак**
**Карчмар**
**Пасланец**
**Вартаўнік**
**Воі**
**Баяры**
**Народ**

## АКТ I

Карчма. Пасярэдзіне дзверы; з абодвух бакоў дзвярэй вокны. На сцэне бочкі, сталы, лаўкі, зэдлі. Сядзяць воі, мяшчане і інш. і п'юць.

### З'ява 1

К а р ч м а р *(да першага мешчаніна)*. Аб чым задумаўся так сумна, ваша?.. А мо' наліць яшчэ збаночак мёду?

1 - ш ы м е ш ч а н і н . Як не тужыць, калі здарылася такая бяда!.. Ні з Вільні выехаць, ані дамоў вярнуцца, бо Базылішак пільнуе брам мясцовых!

К а р ч м а р *(засумаваўшыся)*. Эх, лепш і не ўспамінай ужо, ваша!

1 - ш ы м е ш ч а н і н . Сягоння вось: паслаў я свайго сына з таварамі ў Полацак. Нет ведама, ці жыў мой малец ці гад яго дзе з'еў!

К а р ч м а р . Што тут казаць! Бяда бядочная – ды толькі!

2 - г і м е ш ч а н і н *(падходзіць да іх)*. А ўчора прыехаў сюды мой брат… Нічога, шчасліва дабраўся: Базылішка не спаткаў… А што ён расказваў, дык проста страх! За мурамі, кажа, там і сям гніюць трупы людзей, што гэны гад забіў… А там, дзе прайшоў, дзе дыхнуў – трава там высахшы зусім!

1 - ш ы м е ш ч а н і н . Кажуць, што як падкруціцца яму дзе чалавек, дык цэлага той гад адразу і з'ядае!

2 - г і м е ш ч а н і н . Ды не! Не так, вашэці, расказалі… Паганы гад такую сілу мае ў вачох, што як толькі на чалавека гляне – ужо чалавек самлеў! Тады ён перагрызае шыю і высмоктвае з чалавека ўсеньку кроў – чалавек ужо мярцвяк!

К а р ч м а р . Авохці мне! А што на гэта князь? Ці ж спосабу ніякага німа?

В о й . Што князь! Ён войска пасылаў. Паклікаўшы ўсіх дужэйшых ды смялейшых, загадаў гада забіць. Выйшлі яны за муры, ідуць, шукаюць… А той як вылез з нары, як глянуў на ўсіх, дык не вытрывалі бляску яго страшных вачэй і самлелі… Ён высмактаў з усіх кроў… Цяпер трупы за мурамі гніюць…

К а р ч м а р . Дык як жа жыць, калі ён з места ходу не дае?! Ці ж раданькі ніякай тут німа?

В о й . Князь клікаў ваякаў, пытаўся, хто яшчэ адвагу мае ісці на барацьбу? Ахвочы былі… ды ніхто не вярнуўся – усе загінулі!

1 - ш ы  м е ш ч а н і н . Цяпер, я чуў, вялікую награду абяцае князь таму, хто места нашае ад гада асвабодзіць.

В о й . Не ведаю, ці знойдзецца ахвочы!..

2 - г і  м е ш ч а н і н . Бо ведама, у вояў душа цяпер не ў сэрцы, а ў пятах…

В о й *(ускаквае)*. Ты так наважыўся казаць тут гэткі сказ! Эй, глядзі, ваша, каб за язык твой уся галава не звалілася з плеч!

К а р ч м а р (*між імі)*. Ваша, а, ваша! Не сварыцеся! І без таго бяды ёсць шмат!

В о й *(да 2-га мешчаніна)*. Добра вашэці так казаць, а папрабуй сам ісці на Базылішка! Пастаў проці мяне хоць сто людзей такіх, як я, і смела выйду проці ўсіх; але ісці на барацьбу з гадам – о, не!.. Ён, мусіць, вылез з пекла!

1 - ш ы  м е ш ч а н і н . Былі калісь такія, што і чорту з дарогі не ўступалі!

В о й . З чортам змагацца – не рыцарская справа!

2 - г і  м е ш ч а н і н . Чорта хітрасцю зваюеш…

3 - ц і  м е ш ч а н і н . Або ахвяру мусіш даць…

У с е . Ахвяру?!

К а р ч м а р . О, гора нам! Ніскуль німа ратунку!..

3 - ц і  м е ш ч а н і н . Ратунак – ёсць!

У с е *(зацікавіўшыся)*. Які?

Вой *(да 3-га мешчаніна)*. З вачэй я вашых бачу, быц-цам вы ведаеце нешта…

3 - ц і  м е ш ч а н і н . Шмат людзей ужо ведае аб гэтым.

К а р ч м а р . Ды што? Кажы! Здаецца, што радасную навіну ваша маеш.

1 - ш ы  м е ш ч а н і н . Калі нам маеш нешта сказаць, кажы хутчэй, не муць так без патрэбы!

В о й . Тут справа важная, не трэ' рабіць сакрэтаў!

3 - ц і  м е ш ч а н і н . Аб сакрэце хутка ўсе даведаюцца жыхары.

В о й . Цярплівасці не хватае!

1 - ш ы  м е ш ч а н і н . Кажы! Не муч!

2 - г і  м е ш ч а н і н . Кажы, ваша, хутчэй.

3 - ц і  м е ш ч а н і н . Ёсць тут, у нашым месце адзін стары чалавек. Ён многа ведае такога, чаго іншым людзём ніколі не спазнаць. Яму і птушак, і звяроў, і нават мова траў знаёма. Здаецца,

скрытасці прад ім нідзе, ні ў чым німа… Вось людзі да яго пайшлі пытацца, што рабіць! Ён раду даў…

1-шы мешчанін. Кажыце ж нам, якую?

2-гі мешчанін. Кажы, кажы, ваша, хутчэй!

Вой. Якую раду?

3-ці мешчанін. Трэба ахвяру даць.

Усе. Якую?

3-ці мешчанін. Базылішак датуль нас будзе мучыць, пакуль мы не дамо яму таго, чаго жадае.

Усе. Чаго ж ён хоча?

3-ці мешчанін. Князёўну!

Усе *(здзіваваўшыся і спужаўшыся)*. А-а-а!

3-ці мешчанін. Той чалавек казаў: трэба князёўну узяць, вывесці за муры і прывязаць да дрэва непадалёк ад нары, у каторай гад жыве. Там Базылішак з тае ўсю высмакча кроў і пойдзе, скуль прыйшоў – за трыццаць гор, за трыццаць рэк!

*Паўза*

Вой. Князёўны князь не дасць!

1-шы мешчанін. Ого! Не дасць! Дык самі возь-мем!

2-гі мешчанін. Дык што рабіць? Прыйдзецца згінуць усім!

3-ці мешчанін. Так… Ратаваць трэба сябе і ўсіх!

За сцэнай чуваць гоман.

1-шы мешчанін. Як жа яе ўзяць? Яна ў харомах князевых, а варта добра там пільнуе брам, дзвярэй…

3-ці мешчанін *(паказваючы рукой на акно)*. Чуеце? Там гаманіць народ. Хутка ўсе пойдуць на замак! Ніякая старожа народнай хвалі не стрымае!

2-гі мешчанін. Чаго ж тады і нам сядзець, злажыўшы рукі? Куды ўсе, туды і мы! Дык пойдзем, ваша!

Усе. Пойдзем! Ідзем!

За сцэнай трубяць у рог.

1-шы мешчанін *(здзіваваўшыся)*. Трубяць у рог?!

Вой. Што гэта значыць?

Усе бягуць да вакон і дзвярэй. Праз адчыненыя дзверы відаць князевых людзей, акружаных хмарамі народу.

Вой. Пасланцы князевы!

1-шы мешчанін. З якой жа яны навіной?

Пасланец *(чытае за сцэнай паперу)*. …Таму з мужоў нашага места, якога-будзь стану, каторы адважыцца выйсці за

мястовы мур на барацьбу са злым гадам Базылішкам, прычыніўшым нам гэтулькі няшчасця, і ў гэнай барацьбе ўб'ець яго на смерць, – удзячным нашым кня-зевым сэрцам дамо вялікую награду: дваццаць тысяч коп грошай, сто кажухоў саболіх, сто аседланых каней, сто вопратак чырвоных, тысячу нявольнікаў і дажывотнае ўладарства на адным з нашых замкаў!

Народ за сцэнай гаманіць, смяецца.

1-шы мешчанін. Хэ-хэ! Спазніліся! Ніхто не пойдзе!

Вой. Німа дурных, каторыя бы ішлі на пэўную загубу!

2-гі мешчанін. Годзі ўжо за мястовым мурам валяецца непахаваных касцей!.. Ніхто не пойдзе!

3-ці мешчанін. Дык чаго ж мы чакаем? Меліся ўсе ісці разам з народам – у князевы харомы! *(Паказваючы на вакно.)* Бачыце, народ ізноў кіпіць, плыве на замак…

2-гі мешчанін. Але. Добра, ваша, кажаш. Вось толькі заплачу за мёд… *(Дае карчмару грошы.)*

Карчмар забірае грошы. Усе яму плацяць.

Карчмар. Куды ўсе, туды і я! Зачыню сваю гасподу і пайду з вамі браць князёўну!..

За сцэнай чуваць спеў:

Чаго мая душа,
чаго сумуе?
Не знаю я,
чаму душа,
чаму душа сумуе!

Усе глядзяць на вуліцу.

1-шы мешчанін. Хто гэта пяяў?

2-гі мешчанін. Ці ж, ваша, не ведаеш? Гэта ж дурны Янка!

1-шы мешчанін. Першы раз чую.

Вой. А скуль жа ваша, што не ведаеш?.. Жыве ў нашым месце нейкі малец, клічуць яго: дурны Янка. Нічога ён не робіць, вось толькі ходзіць, задзёршы галаву ўверх, быццам зоркі на небе лічыць, ды пяе або на дудзе іграе. Ніколі ён разумнага не скажа слова, заўсёды нейкае глуп-ства, аж смех бярэ, бо ведама – дурны. Вось і цяпер: народ сабраўся рабіць дзела, а ён – пяе!.. О, чуеце – ізноў!..

За сцэнай ізноў спеў:

Чаму з вока майго
сляза скацілась?
Не знаю я,

чаму сляза
з вачэй скацілась.
Хто дасць адказ, ах, хто,
чаго сумуе
душа мая?
Не знаю я,
чаго душа
сумуе.

За сцэнай народ смяецца.

1-шы мешчанін. А далібог, дурны!

2-гі мешчанін. Смяюцца ўсе, даюць дарогу… Надта ўжо ён смешны!

Вой. Гляньце, ідзе сюды!

Карчмар. Я часам чару мёду з ласкі яму даю… Шкада, бо хоць дурны, дык жа і ён стварэнне Божае…

**З’ява 2**

Янка *(ўходзіць)*.

Карчмар. Ну, выбачай, Янка, але сягоння ідзі сабе далей… Гасподу зачыняю. *(Бярэ ключы.)* Ідзем усе на замак.

Янка. На замак? Дзеля чаго?

Карчмар. Эх ты, дурны! Князёўну ўзяць! І ты хадзі, усё ж будзе людзей болей!

Янка *(спалохаўшыся)*. Князёўну? Куды? На што?!

1-шы мешчанін *(да іншых)*. Ды кіньма дзяньгугіць!.. На замак!.. У палац!..

Усе, апрача карчмара і Янкі, выходзяць.

Карчмар. Нічога, дурненькі, не ведаеш… Каб Базылішку яе аддаць! Тады ізноў шчаслівы ўсе будзем! Тады гад пойдзе прочкі!.. Ну выхадзі хутчэй, бо трэба зачыняць гасподу!

Янка *(з крыкам)*. Што кажаце!? Гэтага не можа быць!

Карчмар. Чаго ж спужаўся? Дык не цябе ж кідаюць Базылішку, а князёўну!

За сцэнай гоман:

“Давайце князёўну! Пойдзем у палац” і г. д.

Янка. Што я чуў! О гора мне!.. *(Раптам.)* Трэ’ ратаваць князёўну! *(Бяжыць да дзвярэй.)*

Карчмар *(хапае яго за палу)*. Куды? Чакай! Зара пойдзем разам! Куды спяшыш?

Янка. Я гада іду забіць! *(Вырываецца і выбягае.)*

Карчмар *(шчыра смяецца, гледзячы за ім)*. Ха-ха-ха! Ой, які ж дурны. Ха-ха-ха!..

За сцэнай гоман робіцца вялікшы.

*Куртына*

# АКТ II

Зала ў князеўскім палацы. У задняй кулісе вокны. З левай стараны, напроціў трону – дзверы. Князь сядзіць на троне. Баяры і воі стаяць, сумна апусціўшы галовы.

**З’ява 1**

Князь *(глядзіць па чародзе на ўсіх)*. Значыць, ніхто не пойдзе? *(Паўза.)* Ніхто!!! О сорам!.. Гдзе ж мае адважныя воі?! Німа! Тут заячыя ўсюды бачу сэрцы, а сам я, значыць, заячы князь! О сорам! О сорам, сорам вам! О сорам мне. *(Закрывае вочы рукамі. Паўза.)* Ці пайшлі ўжо ў рог трубіць і клікаць жыхароў ісці на Базылішка?

1-шы баярын. Пайшлі, княжа!

Князь. Няўжо ж ніводнага не знайду ў гэтым мес-це? Я ж такую вялікую абяцаў нагараду! *(Паўза.)* Ну, што ж вы тут маўчыцё, моў анямеўшы! Кажыце нешта! Як вам здаецца, ці знойдзецца такі герой, што пойдзе проціў гада?

Стары баярын. Здаецца мне, што не, не знойдзецца такога. Ужо надта многа людзей загубілі сваё жыццё, шмат ужо касцей ляжыць пад голым небам за мястовым мурам! Людзей узяў страшэнны ляк!.. Не!.. Мусіць ужо ніхто не пойдзе на гэтае цяжкое дзела!.. Ты, княжа, цяпер закід кінуў, што заячыя сэрцы б’юць у нашых грудзях… Княжа! Наш род ахвяру сваёй крыві ўжо даў! Я аднаго меў сына… Ён захацеў пайсці… я не забараняў… я сам сказаў: ідзі! Цяперака на маіх руках двое маленькіх унукаў і маладая свякроўка, не знаючая шчасця, радасці… і дзень, і ноч у слязах!.. Княжа! Несправядліва не кажы!

Малады баярын. Мой брат таксама. Пайшоў – не вярнуўся!.. Ён больш, чым братам – другам ён быў мне! Калі прыйшла патрэба, я сказаў: ідзі, браток, аддай за бацькаўшчыну кроў!.. Цяпер рука яго мяча ўжо болей не падыме, мо’ груганы ўжо выдзеўблі яго ясныя вочы, а ад маладога цела асталася адна гніль!.. Князь! Несправядлівых захадаў не рабі!

Князь *(быццам да сябе)*. Так…так!.. Я ведаю цяпер, што трэба мне зрабіць.

За вокнамі чуваць гоман.

Князь. Што гэта?

Усе бягуць да вакон.

Князь. Чаго яны крычаць? Чаго народу трэба?!

1-шы баярын. Каля замка хмары народу. Ламаюць браму!.. Варта страляець з лукаў…

**З'ява 2**

Вартаўнік *(убягае)*. Князь! Страшэннае няшчасце!.. Ратуй-цеся!..

Князь. Што такое? Кажы спакойна.

Вартаўнік. Князь! Народу шмат… усе жыхары места абступілі замак!..

Князь. Чаго ж хочуць?

Вартаўнік *(пасля кароткай паўзы)*. Князёўну!

Князь. Што!

Вартаўнік. Крычаць, што калі ніхто не пойдзе забіць Базылішка, дык трэба яму даць ахвяру; што гад тады тыкеля пойдзе прочкі, як вывядуць за мур князёўну і там прывяжуць да дуба, каб ён высмактаў з яе кроў.

Князь *(устае)*. Так… *(Да сябе.)* Значыць мой чарод…

1-шы баярын. Князь! Што хочаце рабіць?

2-гі баярын. Князь! Уцікай з князёўнай праз падземны ход!

Князь. Не! Я места майго і трону не пакіну! Я ведаю, што трэ' рабіць… Дайце мне меч!

1-шы баярын *(дае яму меч)*.

**З'ява 3**

Князёўна *(убягае і кідаецца да князя)*. Тата! Што тут робіцца? Што гэта значыць? Народ сабраўся, крычыць… Я глянула праз вакно маей святліцы, аж раптам, як пабачыў мяне народ, пачаў крычаць: "Вось яна, вунь! князёўну давайце нам!" *(З плачам.)* Чаго яны хочуць хочуць ад мяне? Татачка! Я зла нікому не зрабіла!

Князь *(кладзе руку на яе галаву)*. Ох, дзетанька мая! Бывае так, што той, хто робіць зло, пашану ў народзе мае, а чалавек з душою белаю, як снег, ідзе на мукі… Ды супакойся, дзетанька мая, пакуль я жыў, не ўпадзе з галованькі тваей ніводзін валасок.

К н я з ё ў н а . Чаго народ крычыць? Чым нездаволены?

1 - ш ы  б а я р ы н *(гледзячы праз вакно)*. Браму выламалі!.. Уварваліся!.. Бягуць сюды!

К н я з ё ў н а . Тата! Чаго яны?

2 - г і  б а я р ы н . Князь! Я – верны твой слуга. *(Выцягівае меч.)* Вось мой меч! Я стану ля парога і, калі хто захоча тут увайсці, дык увойдзе толькі праз мой труп!

3 - ц і  б а я р ы н . І я з ахвотай галаву сваю аддам за князя!

І н ш ы я . І я… і я…

К н я з ь . Пачакайце!.. Схаваць свае мячы! Кроў ваша мяне не абароніць, там – народ! Я ведаю, што трэ' рабіць. Скажыце варце, каб не бараніла… Хай пусціць народ сюды!

1 - ш ы  б а я р ы н *(ідзе да дзвярэй)*.

**З'ява 4**

Народны гоман робіцца бліжэйшы, галаснейшы. Раптам дзверы адчыняюцца і на сцэну ўбягаець грамада народу з крыкамі.

І. Князь! Давай дачку!..

І І . Давай князёўну!..

І І І . Вось яна!.. Бярэм!.. *(І г. д.)*

К н я з ь *(грозна)*. Стойце! Скажыце мне спакойна, чаго вам трэба?

1- ш ы з н а р о д у. Князь! Ужо часу шмат, як за мястовым мурам у логу Базылішак жыве. Сам добра ведаеш, колькі з таго бядыняшчасця. Сам ведаеш, колькі людзей марна загінула… І рады ніякай німа, бо гада гэтага ніхто забіць не можа! Але вось людзі мудрыя сказалі: як аддамо князёўну Базылішку, ён здаволіцца і пойдзе ад нас, скуль прыйшоў – за трыццаць гор, за трыццаць рэк.

К н я з ё ў н а . Ах! *(Са страхам туліцца да князя.)*

1 - ш ы  з  н а р о д у . Ніхто ўжо не хоча ісці на няроўны бой. І справядліва. Німа што гінуць дарма, – смерцю сваёй ніхто з нас справы не паправіць. Чакалі мы: можа, аднача знойдзецца смелы, што шчасця спрабаваць яшчэ захоча. Німа. Дык давай, княжа, князёўну.

І н ш ы я  з  н а р о д у . Давай князёўну!..

К н я з ь . Чакайце! Яшчэ рана. Яшчэ адзін чалавек пойдзе за места глянуць у Базылішкавы вочы.

У с е . Хто? Хто?..

К н я з ь *(устае)*. Я!

У с е *(парушаныя)*:

І. А-а!

II. Князь?!

III. Ён сам пойдзе?!

IV. Жывым не вернецца! *(I г. д.)*

К н я з ё ў н а. Бацька, князь! Не! Не! Ты не пойдзеш! Ты стары!..

К н я з ь. Хаця стары, рука мая шчэ дужа трымае гэты меч.

К н я з ё ў н а. Бацька! Не, не! Не пойдзеш! Ты згінеш там!

К н я з ь. Калі прыдзецца згінуць – згіну! Калі ніводная рука не хапаецца за меч, я сам павінен там ісці, каб бараніці места.

К н я з ё ў н а. Не, не пойдзеш, не! Тут твой трон, твая павіннасць – тутка быць і мудра княствам упраўляць!.. *(Да вояў.)* Гляньце вы! Ці ж вам не сорам? Вось стары князь дрыжачаю рукою бярэ свой меч і сам – адзін – на ворага ідзе! А вы стаіцё тут, не кратаючыся, як пні! Глядзіцё ўніз, бо не смееце падняць вачэй сваіх. О, сорам вам! Што! Шкода вам сваёй крыві! О, не шкадуйце, не! Бо ў жылах у вас не кроў цячэ, а цёплая вада!

К н я з ь. Пусці, дачка!

К н я з ё ў н а. Не пойдзеш, князь! Дык слухайце ж! Калі дагэтуль яшчэ не пачырванелі вашы твары, калі дагэтуль яшчэ вы не выдзерлі сабе бясстыдных вачэй сваіх, каб не глядзець на ўласны стыд, дык мо' цяпер ад сораму кроў вочы вам залье! Казалі вы, што Базылішку трэба даць ахвяру, казалі вы, што калі мяне аддасцё яму, ён пойдзе сабе прочкі, – дык слухайце: таго не будзе, каб меліся мяне звязаную як нявольніцу, цягнуць за браму, о не!.. Сама сябе сваёй ахвотай на ахвяру аддаю, каб родны край мой ратаваць і вас, бацька князь! Бывай здароў! *(Абыймае князя.)*

К н я з ь. Дачка! Апамятайся! Што робіш? *(Затрымлівае яе.)*

К н я з ё ў н а. Бацька, пусці! Іду! Такая доля ўжо мая. (*Вырвалася з рук князя і ідзе.)*

К н я з ь. Дачка! Чакай! Не ідзі!

Усе з апушчанымі галавамі ціха прад ёй раступіліся. Яна ідзе да дзвярэй. За дзвярамі чуваць гоман. Убягае пасланец.

**З'ява 5**

П а с л а н е ц *(замарыўшыся)*. Князь!.. Знайшоўся!.. Ёсць адзін!.. Хоча ісці на Базылішка!

**З'ява 6**

Я н к а *(ўходзіць)*.

У с е:

I. Хто такі?

II. Хто ён?

III. Скуль узяўся?

IV. Вось адвага!

V. Дык гэта ж дурны Янка!.. *(І г. д.)*

*Паўза*

Князь *(да Янкі)*. Хочаш ісці?

Янка. Але.

Князь. Ідзеш вялікае зрабіці дзела… Калі ўсіх узяў ляк, ты ў такі момант сваей ахвотай на Базылішка ісці хочаш! Твая адвага варта вялікай награды, чымсі тая, якую я абяцаў. Калі гада заб'еш і будзеш жыў, у награду атрымаеш…

Янка. Не трэба мне, князь, тваей награды!..

Усе *(здзіваваўшыся)*:

I. Не трэба награды?

II. Награды не хоча?

III. Ашалеў, ці што?

IV. Абразіў князя! *(І г. д.)*

Князь. Што гэта?! Ці ж не шчодрая награда? Ці ж табе мала?

Янка. Таго, што хочаш даць, даеш ты вельмі многа, а таго б, што я хацеў бы, ты не дасі.

Князь. Чаго ж ты хочаш?

Янка. Не будзем мы цяпер казаць аб гэтым.

Князь. Дзіўная твая гутарка!.. Якое ж аружжа даць табе, бо бачу, што стаіш тут з голымі рукамі?

1-шы вой. Вось востры меч – ён з самай лепшай сталі!

2-гі вой. А мо' рагатыну? Вось маеш! *(Дае.)*

3-ці вой. А ад мяне вазьмі тарчу гэту…

Янка. Не трэба так многа!.. Вазьму тыкеля рагатыну адну. Ды апрача таго мне яшчэ трэба аднэй рэчы…

Князь. Кажы!

Янка. Таго, што мне патрэба, не ведаю, ці знайду тут у вас, бо гэта не мужчынская рэч, а дзявочая. І прыдзецца мне хіба звярнуцца да князёўны…

Князь. Чаго табе? Кажы!

Янка. Люстэрка!

Усе *(дзівуюцца)*. Люстэрка?!

Князь. Прынесці люстэрка князёўны!

Янка. Князёўна! Выбачай, што забіраю рэч, патрэбную табе, нямую сведку тваей красы… Ды яшчэ не ўсё: дай хустачку з галавы

сваей, каб меў я закрыць чым твар, калі Базылішак захоча глянуць у вочы мне.

К н я з ё ў н а *(дае хустачку)*. Вось маеш.

**З'ява 7**

С л у г а *(несучы люстэрка)*. Вось люстэрка! *(Дае князю.)*

К н я з ь *(аддае люстэрка Янку)*. Вось маеш люстэрка!

Я н к а . Цяпер я ўжо гатоў!

К н я з ь . Чакай! *(Дае яму рог.)* Вось дамо табе яшчэ гэты рог тура. Калі будзеш шчаслівейшы за іншых і ўдасца табе ворага забіць, трубі ў рог. Хай мы і ўсе жыхары места даведаюцца аб тваей пабедзе!.. Тры дні будзем чакаць. Калі ў цячэнні гэтых дзён мы рога не пачуем, дык гэта будзе знак, што ты згінуў і, значыць, настаў тады ўжо мой чарод!.. Тады, дачка, не стрымлівай мяне! Я пайду туды, куды кліча мяне мая павіннасць і пайду смела выпаўняць яе. Калі ж, як і ўсе, згіну і я, тагды, дачка, заплач над маладым жыццём сваім…

1 - ш ы  в о й . Не, князь! Туды не ты пойдзеш! Хачу я даць доказ, што ў маіх грудзях не заячае сэрца б'ецца… Хай той малец ідзе – ён выклікнуўся першы… Калі ж бы згінуў ён, пайду – я!

2 - г і  в о й . І я!

3 - ц і  в о й . І я!

І н ш ы я . І я! І я!

Я н к а . Цяпер і смерць шчасцем будзе для мяне, бо прыклад мой дадаў адвагі іншым. Ужо цяпер цябе, князёўна, народ не павядзе на мукі – ты выратавана! *(Да князя.)* Князь! Ты абяцаў награду таму, хто заб'ець Базылішка, а нічога не казаў аб тым, хто згінець. Ці ж яму не варта даць награду?

К н я з ь *(здзіваваўшыся)*. Нябожчыку награду?

У с е . Што ён кажа?!

Я н к а . Вось мая просьба. Як згіну я, ды знойдзеце мой труп, то закапайце яго ў зямлю з гэтай хустачкай на грудзях… Насыпце нада мной курган… А ты, князёўна, калі на цябе надойдзе сум – такі, што аж слёзы пасыплюцца з вачэй, схадзі на той курган – і, можа, хоць адна слязінка прыпадкам капнець на пясок, прасочыцца скрозь зямлю і ўпадзе на мае грудзі… Прыцісну хустачку – памятку тваю – мацней да сэрца і буду цешыцца ў дамавіне, што гэта ціхая слязінка з вачэй тваіх сарвалася мо' з жалю па мне… І вось уся награда для мяне!.. *(Да князя.)* Іду! Князь! Благаславі!

К н я з ь . Ідзі і шчасліва вяртайся!

Я н к а *(выбягае)*.

Народ і некалькі вояў ідуць за ім. Іншыя глядзяць праз вокны.

К н я з ё ў н а *(стаіць пры адным з вокан)*.

К н я з ь *(сядзіць, задумаўшыся на троне)*.

1 - ш ы  в о й *(пры вакне)*. Ідзе. Народ яго праводзіць!..

2 - г і  в о й *(таксама)*. Ужо ён блізка брамы!

3 - ц і  в о й *(таксама)*. Кабеты плачуць…

4 - т ы  в о й *(таксама)*. Нехта горсць кветак кінуў!..

1 - ш ы  в о й . Ён затрымаўся каля брамы… Глядзіць сюды на замак…

3 - ц і  в о й . Цяпер нейкі знак рукой дае…

4 - т ы  в о й . Ужо пайшоў!

К н я з ё ў н а *(крычыць праз вакно)*. Вяртайся жыў!..

*Куртына*

# АКТ III

Поле за мурам. Углыбі сцэны ляжыць труп рыцара.

## З’ява 1

Я н к а *(ўходзіць)*. А вось яшчэ адзін! *(Прыглядаецца.)* Гэты, мусіць, ужо шмат дзён: зброю пакрыла імжа, твару не распазнаць, вочы выдзеўблі груганы!.. Пайшоў ты верачы ў пабеду, пайшоў ты з песняй жыцця на вуснах, пайшоў з гарачым сэрцам у грудзях!.. Цяпер недзе маці твая гаруе, слёзы пралівае, ды ўздыхае дзяўчына красная твая… Такі канец. Мо’ і мяне такі канец чакае? Груганы чорнай хмарай залапочуць заўтра над свежым трупам, – ды толькі з тугі па мне не ўпадзе з нічыіх вачэй сляза, з нічыіх грудзей не вырвецца ўздох па мне, бо я адзін на свеце, я – дурны Янка! Э, годзі сумаваць! Што мае быць, хай будзе! Калі ж прыдзецца нават згінуць, ніхай і так!.. Бо для яе я ахвяраваў жыццё!.. Князёўна! Люблю цябе!.. Князь суліць вялікую нагороду… А для мяне найвялікшай было бы нагорадай слугою тваім быць праз усё жыццё!.. Дагэтуль я штодзённа хадзіў каля замковага плоту. Глядзеў уверх, там, дзе на рагу пад вежай бліщчала ваконца яе святліцы. Вось, раніцай вакно князёна адчыняе… Пабачыўшы яе, я праз увесь дзень быў шчаслівы, бег у лес, пяяў, расказваў аб сваей радасці соснам, птушкам… А ў вечар ізноў вяртаўся пад князевы плот на сваё месца і – зноў бачыў яе. Сонца хавалася за небасхіл, а яна глядзела на яго чырвоны круг, развітваючыся з днём. Тады я пачынаў граць на дудзе або пяяў аб тузе душы маей. І там пад плотам засынаў. Варта не раз, пабачыўшы мяне

ўначы, хацела вон прагнаць, ды пасля далі супакой, смяяліся толькі: дурны Янка! А я сніў пекны сон а славе і каханні!.. Казалі людзі, што я на свеце лішні, што пажытку з мяне ніякага німа, няздатны да работы, бо дурны, аднак песні маей слухалі прагавіта і давалі з літасці: хто кусок хлеба, а хто сала, а іншы мёду збан, – і жыў я, як матыль, без патрэбы, дзеля радасці людской тыкеля… Што гэта? *(Слухае.)* Чую, нехта бяжыць… Мо' гэта Базылішак? Трэба быць гаовым… *(Развязвае з хустачкі люстэрка і затрымліваецца пры кулісе.)*

**З'ява 2**

Убягаюць двое людзей.

1-шы *(падае замарыўшыся)*. Ох, не магу!.. Сіл ужо не маю! Тут згіну!..

2-гі *(тузаючы 1-га)*. Уставай, збяры апошкі сіл, паспеем: адсюль відаць ужо места!.. Ну, хутчэй!

1-шы *(слабым голасам)*. Усё роўна… Сіл не маю болей…

Янка *(падыходзіць да іх)*.

2-гі *(да Янкі)*. А, малец!.. Хадзі памажы мне яго падняць – і ўцякайма, бо гоніцца за намі Базылішак!..

Янка. Базылішак? Дык я ж яго чакаў!..

2-гі. Здурэў!.. *(Да першага.)* Уставай, браток, уставай – і ўцякайма! Той малец шалёны! (*Абодва выбягаюць са сцэны.)*

Янка. Я ашалеў? Быць можа… Не ведаю…

Чуваць здалёк выццё Базылішка.

Янка. Ніхай развяжацца лёс мой і бацькаўшчыны маей! *(Выбягае.)*

**З'ява 3**

На сцэну ўходзіць Базылішак. Ён шыпіць, храпіць, агнём дышыць. Вочы блішчаць зялёным бляскам. Разглядаецца па сцэне.

**З'ява 4**

Янка *(убягае на сцэну з завязанымі хустачкай князёўны вачыма; у аднэй руцэ трымае люстэрка перад Базылішкам)*.

Базылішак *(пасля паўзы валіцца на зямлю)*.

Янка *(колець яго рагатынай, апірае адну нагу яму на бруха і, схваціўшы свой рог, вісеўшы на шыі на шнурочку, пачынае трубіць)*.

**З'ява 5**

Убягае вой.

В о й *(да Янкі)*. Забіў яго? Герой! Ты ашчаслівіў нас!..

**З’ява 6**

За воем зара уходзяць: князь, князёўна, воі, народ.

Я н к а *(да князя)*. Споўнен, княжа, твой загад!..

К н я з ь *(да ўсіх)*. Вось наш герой! Калі ўжо не было ніякага ратунку, ён пайшоў і выратаваў нас з бяды… Кажы, як цябе клічуць, бо дагэтуль нават імя твайго не ведаем.

Я н к а . Янка. Іншыя кажуць: дурны Янка!

К н я з ь . Адгэтуль ніхто цябе назваць так не пасмее. Цяпер ты багач, герой – шчаслівы Янка!

Я н к а . Княжа! Пазволь прасіць.

К н я з ь . Прасі!

Я н к а . Шчодрая твая награда… Ды гэта ўсё не тое, чаго мне для шчасця трэба…

У с е *(дзівуюцца гэтай гутарцы)*.

К н я з ь . Чаго ж табе?

Я н к а . У награду – вазьмі мяне ў свой палац, ніхай буду парабкам, слугою, каб толькі… мог я кожны дзень бачыць дачку тваю – князёўну! Каб хоць раз у дзень я мог глянуць у яе вочы ясныя, чуць шурх яе сукеначкі, паца-лаваць той след, кудой ступіла яе ножка!.. *(Становіцца на калені перад князем.)* Калі маё жаданне надта смелае, прыкажы ўзяць мяне на мукі, і хай кожны дзень да канца жыцця майго мучаць мяне кату, – толькі споўні маю просьбу, князь!

К н я з ь . Устань, Янка. *(Да слуг.)* Дайце поўную мне чарку!

С л у г а *(дае чару)*.

К н я з ь *(п’е)*. З аднэй з табою чары п’ю… Маеш, пі да дна! Ты не слуга, не раб, каторага бяруць на мукі, ты раўня ўсім! *(Да князёўны.)* Князёўна! Што ты на гэта скажаш?

К н я з ё ў н а *(не гледзячы)*. Я маўчу. Чакаю тваей волі, князь!

К н я з ь . Глянь у вочы мне… вось так. З вачэй тваіх чытаю, што жаданні твае згодны з маей воляй. Я хачу споўніць яго просьбу – і болей таго… *(Да Янкі.)* Бяры маю дачку за жонку! Дачка, ты згодна?

К н я з ё ў н а *(глядзіць яснымі вачыма на Янку)*. Але. Згаджаюся.

К н я з ь *(да Янкі)*. Я стары ўжо… Ты сядзеш на маім троне і будзеш княжыць. *(Да слуг.)* Трубіце ў рог! Клічце народ! Аб’яўце яму маю волю.

Трубяць у рог. Гоман.

К н я з ь *(абнімае аднэй рукой Янку, другой князёўну і падыходзіць з імі на фронт сцэны).* Вось Базылішак забіт і ўжо ён не ўваскрэсне,

Нарэшці скончыўся сцяг доўгі нашых мук,
Ніхто крыві людской смактаць не будзе болей, –
Мы шчаслівы ізноў, зноў вольны, як раней!
*(Паказваючы на Янку.)*
Вось гэта наш герой! У шэрай ён сярмязе,
І шэрае дасюль было яго жыццё.
Ды выпаўніўшы доўг прад бацькаўшчынай мілай,
Цяпер раўня князём, вышэй за іх – герой!

К н я з ё ў н а.

Вось гэта мой герой! У шэрай ён сярмязе,
І шэрае дасюль было яго жыццё.
Ды выпаўніўшы доўг прад бацькаўшчынай мілай,
Цяпер раўня князём, вышэй за іх – герой!

Я н к а *(да князёўны).*

Я для тваей красы гатоўісці на мукі,
Дзеля любві маей гатоў на ўсё, на ўсё!
Калі табе жыцця майго патрэба будзе, –
Бяры маё жыццё, яго не трэба мне!

К н я з ё ў н а *(да Янкі).*

Душа твая гарыць, як полымя ў дзень ясны,
У жылах тваіх кіпіць рака младой крыві,
Цябе яшчэ ў жыцці чакае многа дзела, –
Гары агнём, кіпі, сярмяжны наш герой!

Трубяць у рог.

*Куртына*

**Канец**

*Францішак Аляхновіч*

## СЛОЎНІК

**Адначэ** – аднак.
**Апошкі** – рэшткі.
**Ваша –** ветлівы зварот.
**Гаспода** – тут: карчма.
**Дажывотнае –** пажыццёвае.
**Дзяньгугіць** – малоць языком.
**Капа** – тут: грашовая адзінка 60 грошаў.
**Куртына** – заслона.
**Ляк** – спалох, перапуд.
**Места** – тут: горад.
**Мешчанін** – тут: гараджанін.
**Прыпадкам** – выпадкова.
**Рагатына –** паляўнічая зброя ў выглядзе вострага з абодвух бакоў нажа на доўгім дрэўку.
**Свякроўка** – жонка сына.
**Тарча** – шчыт (пра даспехі).
**Тыкеля –** толькі.



Мікола Бушчык, *Восеньскі дзень*, 2015 г.

# ПЕРАКЛАДЫ

**Сусанна Гінцбург** (1917, Кіев –1944) – выдатная польская паэтэса міжваеннага перыяду, яўрэйскага паходжання.

Бацькі яе з парумесячнай дачкою на руках уцякаюць перад усё часцейшымі пагромамі яўрэйскага насельніцтва ў сталіцы Украіны і затрымліваюцца ў Роўна на Валыні (Крэсы тадышняй Польшчы). Там жыла, трымаючы багатую аптэку, яе бабуля па маці Клара Сандберг, якая ў перыяд школьных гадоў Саны, Санечкі (як называла па рускай традыцыі ўнучку Клара Уладзіміраўна). У час яе сталення, ранніх пошукаў свайго месца ў шалёным свеце сталася адзіным для яе блізкім чалавекам... Пасля разводу бацькоў і раптоўнага іх знікнення: бацька падаўся ў Амерыку, маці выскачыла замуж у Іспанію. У такіх сямейных “разваліналах” Сана паглыбляецца ў свой унутраны свет, у кніжкі і, з дому рускамоўная – паступае ў польскую гімназію. І тут жа, амаль на парозе гімназіі, адбываецца яе “пераскок” з рускамоўнай Айчыны ў пальшчызну. Польскае Слова, Паэзія і Культура стаюцца для яе новай Радзімай. У 1931 г., у свае чатырнаццаць гадоў, на польскай мове Сана і дэбютуе. З гэтага часу яе вершы – падпісаныя спольшчаным імем Zuzanna Ginczanka – друкуюць усе віднейшыя тагачасныя польскія літаратурныя часопісы. З асаблівай увагай і пашанай да незвычайнага паэтычнага голасу Санечкі ставіліся паэты, мастакі, рэдактары, увесь бамонд багемнай варшаўскай літаратурнай суполкі “Скамандр” на чале з Юліянам Тувімам. У 1936 г. у свет выходзіць яе першы паэтычны зборнік *O centaurach* (Варшава).

У вялікую польскую літаратуру, як сёння бачыцца з перспектывы часу, Сусанна ішла мэтанакіравана, з незрэалізаванай ад вякоў праграмай ўсіх феміністак свету – разарваць ланцуг іерархічнага дуалізму жаночай красы, прыгажосці дзявочага цела і мужчынскай сілы ды інтэлекту; вярнуць жаночаму целу суб’ектыўнасць і высакароднасць, адстаяць урэшце дзявоча-жаночую самасвядомасць і незалежнасць.

Сусанна ведала, дзеля чаго ёй пішуцца менавіта такія вершы – транснязвышэмацыянальнай інтанацыі, экспрэсіўнай вобразнасці і шаленчага ўяўлення (ад чаго яе вершы ў многіх выпадках не паддаюцца перастварэнню на іншы культурны моўны код). Да таго ж Сана была надзелена незвычайнай арыентальнай прыгажосцю семіткі. У ёй бачылі ажыццёўлены вобраз легендарнай Суламіткі з біблейскай *Песні песняў Саламона.* Быццам сабраная з усіх яўрэйскіх дзяўчат яе Краса і Ненагляднасць сталіся для яе ў той апакаліптычны час драмай – і катасрофай (гл. верш *Non omnis moriar* ).

Паўсюль забівалі яўрэяў. З пачаткам вайны яна мяняе месца жыхарства, спрабуе схавацца, знікнуць, уцячы, збегчы ад праследавацеляў-антысемітаў, аднак паўсюль за ёю цікавалі вочы ненавіснікаў і зайздросных жанчын. Схопленая ў Кракаве гестапаўцамі, праз пару месяцаў Сусанна была расстраляна ў недалёкім канцлагеры Плашаў (*Я. Ч.*).

[Апошнім часам з'явіліся кнігі вершаў Сусанны Гінцбург і даследаванні пра паэтэсу: Zuzanna Ginczanka, *Mądrość jak rozkosz. Wiersze wybrane*. Wybór i posłowie Agata Araszkiewicz, Warszawa 2017; Zuzanna Ginczanka, *Poezje zebrane (1931—1944)*, Wstęp i opracowanie Izolda Kiec, Warszawa 2019; Izolda Kiec, *Ginczanka, Nie upilnuje mnie nikt*, Warszawa 2020]

# СУСАННА ГІНЦБУРГ

## БУНТ ПАДЛЕТКАЎ

Ізноў росквіт кудлатых сасанак
у золак, да ўсходу, ўсвітанак,
калі сонца спачыне на дрэвах,
ім як сэрца поўніцца чэрава;

А дзея плыве натуральна і проста,
як складаныя месяцы вёснаў,
калі шчэ да ўсходу золак, світанак
цвіце фіялетам кудлатых сасанак –

Ужо не цешаць нас доўгія ногі,
не засмучае касцістасць лапатак.
Ноччу ў скронь б'е кроў-пераможца,
калі месяц вакном уваходзіць ў хату –
быццам нехта здалёку явіцца ноччу
і зазірае тварам сінім праз шыбы –
срэбныя шафы згвалціць нас хочуць
(Божа, ратуй! – але калі б... калі б бы...)
Вочы закрыць – схавацца па вушы,
пад падушкі дрыжачую душу
і ў страху гарачынь сухіх вуснаў
падстаўляць пацалункам падушак.

Як цяжка вясенняй раніцай
супакоіць сэрца прыліў – салодкі груз,
калі ўгаворваюць нас клапатлівыя маці,
што змест сэрца – гэта толькі чырвовы туз.

А ці ведаць можна – а ці вывучыць можна,
як выглядае завязь распухлых сасанак –
а ці можна ўведаць – ці даведацца можна,
якой балеснай бывае зеленаватай вясны пачатак?
На купінах вясенніх індыга
балесна ляжаць без дыху
самлелыя, ліловыя сасанкі,
у вясеннім подзьмуху свежым
праплыў жаль бязмежны
на сэрцавіну палянкі.

Мы канстытуцыі хочам, свайго хочам права,
што можна нам без ганьбы ўслых зрабіць заяву
аб праўдзівасці крывяных віхур,
што можна нам ўслых казаць аб пожадзі чулай,
што можна ведаць нам, што маем цёплыя грудзі,
апрача этэрычных дур –
мы канстытуцыі хочам і праў для нас дакладна-пэўных,
што нам разумець ужо можна: мужчына – гэта ж не еўнух
і славіць мускулаў гарт,
што маем права ўжо разумець, што людзей каханне вяжа,
што можна нам не захінаць стужкамі-пражай
біялагічных – праўд!

Ізноў росквіт кудлатых сасанак
у золак, да ўсходу, ўсвітанак,
калі сонца спачыне на дрэвах,
ім як сэрца поўніцца чэрава;
А дзея плыве натуральна і проста,
як складаныя месяцы вёснаў,
калі шчэ да ўсходу золак, світанак
цвіце фіялетам кудлатых сасанак –

1933 г.

## ПРЫЙШЛО

(Прыйшло ка мне сёння дзяцінства ў недасягальнасць сваю
пабадзяцца)
Раней былі шуфляды поўныя ключоў бабулі –
паржавелых, блішчачых,
тоўстых і тонкіх –
можна было на іх высвістваць размаітыя песні-рагулі.
Адны мелі басістасць чмялёў грузных,
іншыя спеўнасць глотак сірэніх,
але найбольш было плаксівых,
што пішчалі цянюююткa, ляцюююткa
ў цішы,
як мышы.
І грукацелі коратка, звонка, сталёва адзін аб другога
ключы ад дзвярэй неіснуючых, страчаных, нічыіх, нікога.
Былі рыжа-іржавыя,
ад плесені пазелянелыя, ліпуча-млявыя.
(Прыйшло ка мне сёння дзяцінства ў немагчымасць
сябе здзейсніць)

А пазней я знайшла дзверы да ключоў згубленых,
бо кожная гадзіна жыцця мела свой замок трывожны.
І кожны дзень меў сваю недамкнёную складанасць –
згубіліся недзе звязкі
ключоў зачараваных,
на якіх свісцела меская,
кароткія, кранальныя песенкі –
(Прыйшло ка мне сёння дзяцінства ў недасягальнасць сваю
пабадзяцца,
прыйшло ка мне сёння дзяцінства ў немагчымасць
сябе здзейсніць).

2 сакавіка 1933 г.

## ЗДРАДА

Не ўпільнуе мяне ніхто.
Грэх кажановы, як з замшы,
павіс у схове страху мышынай галоўкаю ўніз.
Прыцемкам вышмыгну з вежы, збягу ад узброенай стражы
праз засекі куслівых дратоў
праз варты пацучыных пыс.

З руінаў падымуцца запаведзяў цяжка стромкія скалы
ведычнага пекла дваццаць кругоў,
полымя,
скавытанне,
свіст камянёў,
фанатычная зваліцца ноч, зорак зняменне.
Ртуццю выслізгнусь з пальцаў.
Не ўсцеражэ ніхто мяне.

Ты станеш ваўком, я – плішкай,
ты – арлом, я – вірлівым дзівам...
Непраніклёнай задумай буду наперад кожнай тваёй пагоні.
І свет не ўпільнуе мяне,
любы мой – дарагі – і мілы,
калі не захачу
сама
салодкай майскай
адданае няволі.

(1936 – 1939)

## ВЯРТАННЕ

І ўжо аціхлі вадапады. Спакойная плынь падплывае
шырокаю хваляй суцішань. Воблакі гінуць ў дасвецце.
Невідочныя коцяцца кеглі далёкіх планетаў,
пчолы з кветак збіраюць цёплы, вадкі нектарый.
Адкуль такое празрэнне? Адтуль. Лес малады пахне ахвоча,
белага бляску струмень плыве шалахліва,

вядзьмаркі-шаснаццацігодкі ў імклівых высокіх скоках
шукаюць ў траве птушанят, што з гнёзд выпалі гэтаю ночай.

У лес уваходзіць Мінерва, багіня мудрай развагі,
патронка вопыту, мастацтва, красы і лагоды.
Вокам спагадным глядзіць на ціхамірныя воды,
букецік фіялкаў з Алімпа рукой на грудзях сваіх папраўляе
і кажа:

“Заслону з карункаў накінь на таемныя рэчы,
ў якіх немагчыма прыкмеціць абрысы ўтоеных сэнсаў.
Змірыся з прывідам. Злучыся са светам ушчыльна
не разуменнем стамлівым, а жыватворным каханнем.
Паскор сваё вяртанне святое да праўды адвечнай
пры гуках труб, фуркату стужак на ветры,
пішчалках, сурмах і флейтах. Досыць бяду назваць злом
і ведаць ўжо будзеш, ад чаго ўхіліцца, і пачуеш аркестра акорды.
Вярнісь да сардэчных абдымкаў, сямейнай шчырай любові,
да доўгіх сціскаў далоні, прыгожай, трывалай сяброўны,
да думак пабожных і сціплых і бесклапотных пацехаў,
да працы няспыннай, што годна творам назвацца.
Урэшце ад гэтага часу пачуццяў вялікіх і не шукай для мужа:
прыкмет відавочных няма дзеля іх апазнання.
Знайдзі сабе энергічнага хлопца і чулліва складзі яму абяцанне
і тут жа агеньчык з вуснаў запальных уміг пераскочыць у сэрца”.

Лагода пейзажаў, разлітых быццам азёры,
адпушчаны са сну, зраўнялі стромы й прадоны.
Плыву па іх. Вяртаюся са сцягам пахіленых долу
за рэчамі, якія абмінула ці ўбачыла не ў часе –

І вось узброена перасцярогамі згледзела і бачу ўкола
рэчы гармоніі поўныя, святла, найпрыгожых форм
і меры высакароднай. Не, не набліжаецца ніякі шторм,
і хвалі анідзе. Вада нібыта шкло. Не трэсне. Вось спакой.

1938 г.

***

Non omnis moriar – мае дзявочыя ўладанні,
Лугі маіх абрусаў, недаступных шафаў цытадэлі,
Шырокія прасціны, каштоўныя пасцелі,
Сукенкі, светлыя сукенкі пасля мяне будуць з вамі.
Ніякаму нашчадку тут нічога я не пакідаю.
Няхай жыдоўскі скарб твая далонь перабірае,
Ты, львоўская Хаміна, жонка кемлівага шпега,
Сама ўвішная даносчыца, маці фольксдайчэра,
Табе, тваім хай служаць рэчы, бо чужым – навошта.
Радня мая – не лютня, для мяне яны пустое слова.
Я помню вас, бо вы, калі ішлі шупоўцы*,
Таксама ўспомнілі мяне, прыгадалі сабе проста.
Хай зыдуцца яны сябрынай за сталом пры чарцы
Запіць і смерць маю і нарабаванае багацце:
Кілімы і макаткі, міскі, кандэлябры –
А потым ноч няхай прап'юць, каб досвіткам ізноў старацца:
Хай кінуцца шукаць і золата й каштоўнае каменне
Ў канапах, тапчанах, коўдрах і матрацах.
О, як будзе ім ў руках кіпець такая праца –
Клубы конскай поўсці і заморскага сена,
Хмары раздзёртых падушак і замець з пярынаў
Да рук прыклеяцца і крыламі стануць рукі тыя.
То кроў мая склеіць тое пакулле з пухам гусіным,
Але так акрылёных ніякая сіла ўвысь не падыме.

1942 г. (першадрук: „Odrodzenie” 1946, nr 12)

---

*шупоўцы – ад Szupo, нем. Schupo,
Schutzpolizei, Policja Prewencyjna.

Пераклад *Яна Чыквіна*

## ФЁДАР ЦЮТЧАЎ

***

О, гэты поўдзень, гэта Ніцца!
О, мне іх бляск страшней трывогі!
Жыццё, як птах, што рынуў ніцма
З нябеснай сонечнай дарогі.

І ні палёту, ні размаху,
Зламаныя зацíхлі крылы…
І ён адно дрыжыць ад страху,
Не мае ні красы, ні сілы.

***

*Напярэдадні гадавіны 4 жніўня 1864 г.*

Вось іду я ўскрай дарогі,
Дзень святлом пацíху праміне…
Мне так цяжка, заміраюць ногі…
Любая, ці бачыш ты мяне?

Ўсё цямней і змрочней над зямлёю –
Дзень апошнім водбліскам кране…
Вось той свет, дзе мы жылі з табою,
Ангел мой, ці бачыш ты мяне?

Заўтра дзень малітвай прывячалі,
Памяць той журбы не абміне…
Ангел мой, дзе б душы ні віталі,
Ангел мой, ці бачыш ты мяне?

Пераклад *Алы Нікіфорскай*

Аксана Данільчык
*Мінск*

## Паэма «Сялянская доля» Паўліны Мядзёлкі: літаратурны і гістарычны кантэкст

Асэнсаванне літаратурнай спадчыны міжваеннага перыяду застаецца актуальнай праблемай сучаснага беларускага літаратуразнаўства. Яе вырашэнню спрыяе паступовае ўвядзенне ў шырокі ўжытак малавядомых твораў, якія тым не менш з'яўляюцца красамоўным сведчаннем свайго часу і маюць высокія мастацкія якасці. Да такіх твораў адносяцца і тэксты, напісаныя Паўлінай Мядзёлкай.

Паўліна Мядзёлка[1] (1893 – 1974) належыць да рознабакова адораных асобаў, якія, тым не менш, доўгі час заставаліся ў ценю або былі вядомыя толькі дзякуючы аднаму віду дзейнасці. Не будзе перабольшваннем сказаць

[1] Жыццёвы і творчы шлях П. Мядзёлкі ў цэлым вядомыя даволі добра: нарадзілася ў мястэчку Будслаў, пасля сям'я пераехала ў Глыбокае. Закончыла прыватную жаночую гімназію ў Вільні (1912), Вышэйшыя камерцыйныя курсы ў Пецярбургу (1914). Удзельнічала ў рабоце Беларускага музычна-драматычнага гуртка ў Вільні, працавала ў Беларускім камітэце дапамогі ахвярам вайны ў Петраградзе, выкладала ў беларускіх школах, у тым ліку ў Мінску, удзельнічала ў пастаноўках Першага таварыства беларускай драмы і камедыі. З вясны 1919 г. займалася асветніцкай дзейнасцю ў Гродне і ў Мінску, дзе была арыштавана польскімі акупацыйнымі ўладамі. Пасля вызвалення з турмы ў Польшчы ў лютым 1921 г. нелегальна выехала ў Літву. У Каўнасе ўдзельнічала ў выданні агітацыйнай літаратуры супраць польскіх акупантаў у Заходняй Беларусі, а з канца 1921 г. па прапанове Ц. Гартнага працавала ў выдавецкім аддзеле пры савецкім пасольстве ў Берліне. З 1922 г. выкладала ў беларускай гімназіі ў Дзвінску ў Латвіі, дзе разам з іншымі выкладчыкамі была арыштавана за "падрыўную дзейнасць". Пасля апраўдання пераехала ў БССР, працавала ў сектары мастацтва Інбелкульта, у 1927–1930 гг. выкладала ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, але была беспадстаўна арыштавана і выслана за межы Беларусі. З 1932 г. выкладала ў маскоўскай школе. У 1947 г. вярнулася ў Будслаў, дзе працавала настаўніцай. Уганаравана званнем заслужанага дзеяча культуры Беларусі (1966).

пра тое, што літаратурная творчасць Паўліны Мядзёлкі да нядаўняга часу заставалася па-за ўвагай даследчыкаў літаратуры, як, дарэчы, і творчасць Зоські Верас. Думаецца, што гэтая няўважлівасць звязана не столькі з нязначнасцю творчых здабыткаў паэткі, колькі з-за недаацэненасці ролі яе асобы (гэта датычыцца дзейнасці многіх жанчын таго перыяду). Паўліну Мядзёлку згадвалі ў сувязі з Янкам Купалам (яна адна з першых выканала ролю Паўлінкі ў яго аднайменнай п'есе ў Пецярбургу ў 1913 г.), але хацелася б найперш згадаць імя П. Мядзёлкі ў шэрагу іншых асветніц, якія адзначыліся сваёй дзейнасцю ў галіне сацыяльнай сферы і адукацыі: Зоська Верас, Палута Бадунова, Вера Маслоўская, Алена Сакалова, Леаніла Чарняўская і іншыя (амаль усе яны пісалі). А таксама сказаць аб высокай мастацкай якасці яе літаратурных твораў, у першую чаргу, паэтычных.

Творы П. Мядзёлкі публікаваліся ў 1921–1923 гг., хоць маюцца звесткі і пра публікацыю яе вершаў у 1918 г. у гарадзенскай газеце «Родны край», якая выдавалася беларускімі эсэрамі, рэдактарам якой быў Тамаш Грыб. Сярод даступных нам сёння тэкстаў – паэма «Сялянская доля», падпісаная «Паўлінка» ("Сялянская доля", 1921, № 1), два вершы: «Песня змагання» ("Сялянская доля", 1921, № 3) і «У выгнанні» ("Наша будучына", 1922, 8 снеж., Вільня) і сцэнічны твор «За волю бацькаўшчыны» ("Сялянская доля", 1921, № 2), прынамсі, першы яго акт пад назвай «Растуць сілы». Ну і, безумоўна, варта згадаць кнігу ўспамінаў «Сцежкамі жыцця», перавыданне якой у поўнай версіі адбылося ў 2018 г. пад рэдакцыяй Г. В. Запартыкі.

Наколькі заканамерным быў зварот П. Мядзёлкі да паэтычнай творчасці менавіта ў пачатку 20-х гадоў і чаму яна не мела працягу?

Аўтары "Гісторыі культуры Беларусі" у дачыненні да Першай сусветнай вайны заўважаюць: «Як самае станоўчае трэба адзначыць, што ні вайна, ні ўслед за ёю нямецкая інтэрвенцыя аказаліся не ў стане перапыніць літаратурнага працэсу… Пісаць пачынаў і нямала хто з тых, што раней не займаліся падобным відам творчасці, бо вельмі хацелася праз мастацкае слова выказаць свае бязрадасныя думкі народу…»[2]. Думаецца, што паэтычнай творчасці П. Мядзёлкі паспрыялі дзве акалічнасці: грамадская, якую дакладна абазначыў Л. Лыч, і, магчыма, асабістая – стасункі з Тамашом Грыбам, рэдактарам выдання, які быў яе мужам.

Увогуле, ковенскаму перыяду ва ўспамінах П. Мядзёлкі адводзіцца даволі мала месца:

> У Каўнасе хутка знайшлася праца для мяне. Тамаш ужо завязаў зносіны з сацыял-дэмакратычнымі коламі літоўскіх дзеячаў. Пры матэрыяльнай дапамозе,

[2] Лыч Л., Навіцкі У., *Гісторыя культуры Беларусі*, Мінск 1997, с. 367.

арганізаванай праф. Жэмайцісам, мы з Тамашом заняліся выданнем агітацыйна-прапагандысцкай літаратуры, накіраванай супраць польска-панскіх акупантаў у Заходняй Беларусі. Друкаваліся невялікія брашуры з самымі бязвіннымі загалоўкамі, якія зусім не адпавядалі зместу гэтых брашур. А каб яшчэ больш замыліць вока польскіх жандараў, на адваротным баку вокладкі друкавалі на польскай мове: «Za pozwoleniem wojskowej cenzury» (З дазволу ваеннай цэнзуры. — *П. М.*)[3].

Аднак пра газету «Сялянская доля» ў кнізе ўспамінаў «Сцежкі жыцця» Мядзёлка ўвогуле не згадвае.

Згодна з агульнадаступнай інфармацыяй, “Сялянская доля” была “неперыядычным” выданнем арганізацыі «Беларускае працоўнае сялянства» і выходзіла з чэрвеня 1921 па красавік 1922 года ў Коўне пад рэдакцыяй Тамаша Грыба. Усяго выйшла сем нумароў, першыя чатыры нумары мелі па трыццаць дзве старонкі, астатнія тры – па 16.

У першым нумары рэдакцыя абвяшчала: «Мы будзем усьведамляць беларускае працоўнае сялянства аб яго правох на родную мову і на развіццё роднай культуры. Мы будзем заклікаць усіх лепшых сыноў Беларусі, усю свядомую інтэлігенцыю, дапамагчы працоўнаму селяніну ў яго змаганні за лепшую долю»[4]. Аўтары ўступнага слова падкрэсліваюць, што, паколькі сяляне складаюць 90 % усіх жыхароў Беларусі, то «воля сялянства павінна быць воляй большасці ўсёй люднасці Беларусі»[5]. Менавіта ў гэтым нумары “часопісі” («Сялянская доля», № 1, чэрвень 1921 г.) быў апублікаваны і самы значны паэтычны твор П. Мядзёлкі – паэма “Сялянская доля”.

Твор складаецца з невялікіх частак, усяго іх дваццаць. У паэме можна выдзеліць два ключавыя моманты. Першы момант – гістарычны:

Сёмы год, як церпіць
Беларусь няшчасце:

Абвілі яе дротам калючым,
на грудзёх зямлі – маткі нашай –
долы-ямы капалі,
акопамі акружалі
і білі ў грудзь яе…
З цяжкіх гармат білі,
раны кулямі тварылі,
пякучыя, балючыя раны…

---

[3] Мядзёлка П., *Сцежкамі жыцця*, Мінск 2018, с. 311.
[4] Уступны артыкул, «Сялянская доля» 1921, № 1, с. 2.
[5] Тамсама.

Сколькі ж людцаў лягло,
сколькі трупаў згніло
па тых ямах-акопах,
у магілах зямелькі сырой.
Напілася зямля
крыві досыта,
кроў ракою ўсюды лілася…[6]

Гэта вельмі важны канцэптуальны момант, паколькі такім чынам П. Мядзёлка пачынае адлік навейшай гісторыі Беларусі з 1914 года. Праблема перыядызацыі беларускай гісторыі застаецца актуальнай і да сёння. Першая сусветная альбо "Вялікая" вайна да нядаўняга часу заставалася мала даследаваным перыядам беларускай гісторыі, аднак увага да яго расце і робяцца ўсё больш вядомымі яе катастрафічныя наступствы, звязаныя ў першую чаргу з бежанствам:

А ў дабавак таго,
ўсіх людзей гналі вон
з роднай хатанькі, з роднай вёсачкі
і пад градам куль, і пад дымам хат
прымушалі ісці ў старонку чужую,
на бяздолле і здзек
ды на холад і спек
у далёку вандроўку цяжкую[7].

Другі момант закранае цэласнасць і незалежнасць Беларусі. І хоць асноўная ўвага ў ім надаецца польскім акупантам, у канцы паэмы ўсё ж такі падкрэсліваецца роўнасць пагрозы з абодвух бакоў:

У нас было б зусім ціха,
каб не тыя госці,
што з усходу і заходу
пруцца к нам чагосьці.
Як прагонім ўсіх чужынцаў
з Беларусі роднай,
зажывём тагды шчасліва
ў старонцы свабоднай[8].

---

[6] Мядзёлка П., *Сялянская доля*, «Сялянская доля» 1921, № 1, с. 13.
[7] Мядзёлка П. *Сялянская доля*…, с. 14.
[8] Тамсама, с. 18.

Калі мы звернемся да гістарычнага кантэксту публікацыі паэмы, то ён выглядае наступным чынам: асноўная падзея, на якую скіравана ўвага выдаўцоў газеты "Сялянская доля" – Рыжскі мір. Такім чынам, паэма выдатна ўпісвалася ў кантэкст новага выдання, стала мастацкім увасабленнем яго канцэпцыі, адлюстроўвала палітычную пазіцыю яго рэдактара. В. Лебедзева адначае: "…раннія артыкулы Тамаша Грыба 1919-1921 гг. адметныя сваёй палітычнай абвостранасцю і з'яўляюцца непасрэднай рэакцыяй на лёсавызначальныя для Беларусі актуаліі… Ва ўспрыманні гэтых падзей аўтар выступае найперш як носьбіт тагачаснай эсэраўскай ідэалогіі і тактыкі… Тэзіс "ніякіх кампрамісаў з акупантамі" – адкрыты заклік да гвалтоўнага адпору польскім уладам у Заходняй Беларусі – цалкам адпавядаў тактыцы БПСР і яе спадзяванням на парытэт з бальшавікамі-беларусамі ў "адбудове Беларускага дому"[9]. Вось і ў паэме П. Мядзёлкі, хоць і ідзе гаворка пра гасцей і з захаду, і з усходу, але асноўную частку займаюць праблемы Заходняй Беларусі і польская акупацыя:

Польскі пан…
Гэта вораг наш злы,
Беларусі ён вораг адвечны…[10]

Больш за тое, адзін з герояў паэмы – пан Пілсудскі, які на словах бароніць волю і выбар беларуса, а на справе адбываецца ўсё наадварот:

Пан Пілсудскі, ці ты шчыра казаў
аб свабодзе?
Мусіць, не, бо праслыў ты тут катам
ў народзе.

Салаўём ты спяваў
да народу, лізун,
за плячыма ж трымаў
цяжкі путы й бізун…[11]

Паэма Паўліны Мядзёлкі выдатна ўпісвалася і ў тагачасны літаратурны кантэкст, паколькі закранала самыя актуальныя праблемы будаўніцтва беларускай нацыі. Мы абмежавалі наш літаратурны агляд трыма

[9] Лебедзева В., *Аб рыцары беларускай свабоды,* [у:] Запісы БІНІМ, № 39, Нью-Йорк – Мінск 2017, с. 518.
[10] Мядзёлка П. *Сялянская доля*…, с. 15.
[11] Тамсама, с. 16.

аўтарамі: Якуб Колас, Янка Купала, Зоська Верас, але, ду-маецца, гэтага дастаткова, каб акрэсліць асноўныя рысы творчасці П. Мядзёлкі.

У гэты час рыхтуюцца і крыху пазней у Савецкай Беларусі выходзяць знакавыя кнігі Янкі Купалы «Спадчына» (1922) і Якуба Коласа «Водгулле» (1922). Гэтыя кнігі ўключаюць як вершы апошніх гадоў, так і тыя, што пісаліся значна раней, аднак не страцілі актуальнасці і былі сугучныя тэксту Паўліны Мядзёлкі. М. Тычына заўважае: "Адчуваючы сябе на гістарычным раскрыжаванні паміж Захадам і Усходам, Купала і Колас, у самым пачатку не толькі інтуітыўна, але і цалкам свядома, абапіраючыся на глыбокае народнае адчуванне ісціны, абралі суверэнітэт"[12].

Асаблівую цікавасць выклікаюць творы, прысвечаныя Першай сусветнай вайне і пошукам свайго шляху, такія як вершы Якуба Коласа "Хто нам скажа, хто згадае" (1915), "Ворагам" (1916), "Люд стогне, гаруе пад цяжарам меча…" (1917), "Неўспагаднасць" (1916), "Родныя малюнкі" (1921), "Звон шыбаў" (1921) і іншыя. У вершы "Беларускаму люду" (1921), які завяршае кнігу "Водгулле", Якуб Колас адгукаецца на сучасную сітуацыю падзеленай Беларусі:

Нас падзялілі — хто? Чужаніцы,
Цёмных дарог махляры.
К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!..
Нашы тут гоні, бары!
Будзем мы самі гаспадарамі,
Будзем свой скарб ратаваць!
Годзі тэй крыўды! У ногу з братамі
Пойдзем наш край вызваляць[13].

Даследчык літаратуры Яўген Ляцкі, які ў 20-я гады выкладаў у Пражскім універсітэце, у актыкуле пра Якуба Коласа, напісаным для італьянскага часопіса "Rivista di letterature slave", пра верш "Беларускаму люду" пісаў наступнае: "Гэты верш датуецца 1921 годам. Вельмі цікавая дата: яна сведчыць, што паэт даволі хутка ацаніў уяўныя і сапраўдныя даброты, якія вайна і рэвалюцыя прынеслі Беларусі. Яго пранікнёная

[12] Тычына М. А., *Купалаўска-коласаўская праграма сацыякультурнай адбудовы Беларусі і яе рэалізацыя ў сучасных умовах,* [у:] *Янка Купала і Якуб Колас у сістэме дзржаўна-культурных і духоўна-эстэтычных прыярытэтаў XXI стагоддзя.* Матэрыялы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 26-27 верасня 2007 г.) / Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, Мінск 2007, с. 27.
[13] Колас Я., *Водгулле*, Менск 1922, с. 107.

крытычная думка не аслеплена пышнымі гучнымі словамі аб свабодзе і шчасці беларускай зямлі”[14].

Сугучнасць паэмы П. Мядзёлкі можна заўважыць і з вершамі Янкі Купалы, што, безумоўна, невыпадкова. Янка Купала, напрыклад, яшчэ ў вершы “Годзе” (1912) падкрэсліваў памежнае становішча беларусаў:

Годзе заходняй ці ўсходняй культуры!
Для беларуса цана ім адна.
Ўсе вы, панове, аднакай натуры:
З сэрца чужога кроў ссалі б да дна.

Вашу карысць нам і вашы заслугі
Добра ўжо скеміў таптаны народ:
Добра вядомы і путы і пугі,
Песціў якімі ваш Захад і Ўсход[15].

Дарэчы, многія вершы Янкі Купалы са зборніка “Спадчына” у савецкі час больш не перадрукоўваліся. Асаблівым трагічным накалам вызначаецца верш “Паязджане” (1918):

Як у моры, ў белым снегу,
Без днявання, без начлегу,
Ў бездарожжа, ў беспрыстанне
Едуць, едуць паязджане[16].

У. Гніламёдаў падкрэслівае: “Верш навеяны падзеямі першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, аднак у ім прысутнічае даўняя тэма пошукаў беларускім народам свайго гістарычнага лёсу. Больш таго, у купалаўскіх “Паязджанах” можна пачуць таксама і прадчуванне будучых блуканняў Беларусі па горкіх шляхах гістарычнага бездарожжа. “Паязджане” перадаюць адуванне катастрафічнасці эпохі”[17]. Трагізмам пошукаў уласнага дома і хрысціянскай сімволікай на-поўнена і паэма П. Мядзёлкі:

І пайшоў наш народ
са слязой уваччу,

[14] Ляцкі Я., *Паэт Беларусі, якая адраджаецца: Якуб Колас* (Пераклад з італьянскай А. Данільчык) [у:] *Запісы БІНІМ*, № 39, Нью-Йорк – Мінск 2017, с. 234.
[15] Купала Я., *Спадчына,* Менск 1922, с. 16.
[16] Купала Я., *Спадчына*…, с. 69.
[17] Гніламёдаў У. В., *Янка Купала: Новы погляд*, Мінск 1995, с. 107.

з страшнай боллю ў грудзёх,
з дзікім крыкам ў вушох…
Смерць за ім – смерць прад ім…
І усеяў магілай ўсю дарожаньку,
ўсю дарожаньку цярністую,
як празвалі цяпер – ту крыжовую[18].

Побач з вершаванымі тэкстамі стаіць і публіцыстыка Янкі Купалы, асабліва добра вядомае эсэ “Незалежнасць”, напісанае ў 1919 г.:

Край наш сам па сабе багаты, толькі чужыя гаспадары яго знішчылі. Зямлі маем шмат, лесу яшчэ болей; маем вялікія рэкі, азёры, чыгункі, багатыя месты, а ў іх фабрыкі, заводы ды і шмат іншага дабра. К таму ж, на лік мы народ вялікі ─ каля 12 мільёнаў. Гэта не тое што якая-небудзь там Швейцарыя, Данія ці Грэцыя! Дык чаму ж нам, браты беларусы, не дамагацца сваёй дзяржаўнай незалежнасці? Мы павінны яе дамагацца і мірна, і з аружжам у руках, бо жыццё не чакае і ворагі нашы не дрэмлюць[19].

Таму невыпадкова другі нумар газеты “Сялянская доля” (1921, № 2) адкрываўся вершам Янкі Купалы “На сход” 1918 года:

На сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход
Ідзі, аграблены, закованы народ.

Як роўны йдзі жыхар, між роўных жыхароў,
Аддай на суд свае ўсе крыўды, сьлёзы, кроў…[20]

За вершам Я. Купалы ідзе артыкул “На каго спадзявацца?” Паддубіча, дзе падкрэсліваецца роля народа ў вырашэнні лёсу Беларусі: “Мы спадзяёмся і апіраемся выключна на арганізаваныя сілы працоўнага народу. Працоўны народ сам, а ні хто іншы прагоніць з роднага краю чужацкіх наезнікаў і установіць лад новага жыцця ў вольнай і незалежнай Беларусі”[21].

Немагчыма абысці ўвагай і кантэкст уласнай творчасці Паўліны Мядзёлкі. Быццам у падтрымку тэзіса аб вызначальнай ролі народа ў гэтым жа нумары “Сялянскай долі” (1921, № 2)  яна друкуе сцэнічны твор «За волю бацькаўшчыны». Галоўныя персанажы твора – каапературар Янка

[18] Мядзёлка П., *Сялянская доля*…, с. 14.
[19] Купала Я. *Незалежнасць* [рэсурсы інтэрнэта https://be.wikisource.org/wiki/ Незалежнасць_(Купала), дата доступа 15.03.2020]
[20] Купала Я., *На сход*, «Сялянская доля» 1921, № 2, с. 1.
[21] Паддубіч, *На каго спадзявацца?,* «Сялянская доля» 1921, № 2, с. 4.

Гарэльчык 26 гадоў і яго жонка, вучыцелька беларускай школы, Зося 22 гадоў. У п’есе акрамя таго ёсць такія персанажы, як вучні беларускай і польскай школаў. Вучні беларускай школы рыхтуюцца да 25 сакавіка, свята абвяшчэння незалежнасці, і выяўляюць сябе свядомымі беларусамі. Да іх імкнецца далучыцца сын шляхцянкі Антонёвай Стасюк, якога маці адправіла вучыцца ў польскую школу. Пры гэтым шляхцянка Антонёва с вялікім скепсісам ставіцца да існавання беларусаў, а Зосі пакуль не ўдаецца яе пе-раканаць. Заканчваецца твор своеасаблівым вершам у прозе – зваротам Зосі да Духу Бацькаўшчыны. І калі ў цэлым дыялогі сцэнічнага твора напісаны даволі простай мовай, то Зосіна прамова і адказ на яе хутчэй нагадваюць ўзнёслы паэтычны твор:

*Духу Бацькаўшчыны! У грудзёх маіх не месціцца тое вялікае, магутнае пачуццё радасці і шчасця…*

*Грэх чуць сябе шчаслівай, пакуль народ скуты ў ланцугі няволі пад ярмом чужацкім стогне.*

*Грэх быць шчаслівай, калі праўду святую ганьбяць прадажныя людзі… Калі цемра ночы пануе…*

*Грэх…*

*Чым я заслужыла на ласку Тваю, Духу Бацькаўшчыны?*

*Чым заслужыла, што ты выбраў мяне нясці светач у цёмны куток нашай вёскі беднай? Сеяць праўды зерняты у сэрцы людзкія, кідаць іскру кахання да краю свайго, будзіць духа змагання за волю яго?...*[22]

Містычны Дух Бацькаўшчыны (невідочны голас) кажа Зосі: “Быць шчаслівай – то не грэх”[23], аднак заклікае яе быць гатовай да выпрабаванняў, на што ў сваю чаргу Зося з пакорна схіленай галавой адказвае: “Няхай будзе Твая воля, вялікі Духу Бацькаўшчыны…”[24].

Адзначым і такі цікавы момант, як гендэрны падыход да хатніх справаў, што характарызуе аўтарку як асобу прагрэсіўных фемі-ністычных поглядаў. Так, Янка заяўляе Зосі: “Мы з табой аднолькава працуем, аднолькава ямо, – чаму ж ня можам і аднолькава абед прыгатаваць... Давай нож!”[25]

Творы, напісаныя на мяжы паэзіі і прозы, маюць пэўную сугу-чнасць і з творчасцю Зоські Верас, асабліва з яе вершамі-абразкамі «Прыйдзі да нас, Хрысце» (“Наш шлях”, 1922, № 2-3) і больш познім «Псальм» (1925), якія кампазіцыйна нагадваюць творы П. Мядзёлкі. Галасы дзвюх паэтак гучаць

---

[22] Мядзёлка П., *За волю бацькаўшчыны*, «Сялянская доля», 1921, № 3, с. 22.
[23] Тамсама.
[24] Тамсама.
[25] Мядзёлка П., *За волю бацькаўшчыны...* , с. 19.

амаль ва ўнісон. Агульным можна лічыць і зварот аўтарак да хрысціянскіх каштоўнасцяў, якія ў смутныя часы робяцца адзінай апорай зняверанаму чалавеку, а таксама непасрэдна да Бога-Хрыста, як у творы Зоські Верас «Прыйдзі да нас, Хрысце»:

*Не жыла нянавісць, не жыў грэх, не жыла пагарда, усё роўным было, святым…*
*– Гэта было даўно…*
*– Гдзе Ты, Хрысце, цяпер?*
*– Чаму пакінуў Ты стварэнне Тваё, кінуўшы на здзек духам зла?*
*– Паглянь: зямля стогне пад болем страшным…*
*– Дрыжыць пад хвалямі чалавечай крыві…*
*Няма красак, няма свежай зелені, згарэла, спапялела ўсё ў агні злосці і крыўды…*[26]

Паўліна Мядзёлка ў вершы-абразку "У выгнанні", напісаным у Берліне, таксама падкрэслівае трагічнае становішча роднай зямлі, у агульнай бядзе зліваюцца асабістае і народнае:

*О, уладар сусветам, часы і абшары!*
*Чаго ж хочаш ад нас?! Якой яшчэ патрабуеш ахвяры?! Няўжо мала табе яшчэ мук, паняверы, крыві, слёз?*
*Грахі продкаў сваіх, што наш край запрадалі, мы слязамі даўно ўжо змылі! Слёз не стала – мы крывёй абмывалі… Даўно адпакутавалі. Годзе.*
*Чаго хочаш яшчэ!*
*Пачуй стогн душы маёй.*
*Гвалт… Гвалт… Гвалт…*[27]

Побач з вершам Мядзёлкі ў газеце "Наша будучына" надрукаваны верш Якуба Коласа "У палёх Беларусі" са зборніка "Водгулле" (што і пазначана пад вершам). Верш завяршаецца акцэнтам на пакутніцкім лёсе беларускай зямлі: "Куды не гляне маё вока, – / Ўсё поўна згоды, дабраты… / Ты маеш выгляды прарока, / Наш край пакуты, край святы!"[28] Такім чынам, творчасць П. Мядзёлкі гучала ва ўнісон з лепшымі творамі тагачаснай беларускай паэзіі, пры гэтым не саступала ім у мастацкай якасці.

[26] Верас З., *Прыйдзі да нас, Хрысце…*, [у:] Верас З., *Выбраныя творы*, Мінск 2015, с. 39.
[27] Мядзёлка П., *У выгнанні*, "Наша будучына" 1922, № 1 (8 снежня), с. 3.
[28] Колас Я., *У палёх Беларусі*, "Наша будучына" 1922, № 1 (8 снежня), с. 3.

На жаль, у сваіх успамінах Паўліна Мядзёлка амаль не закранае пытанні літаратурнай творчасці, аднак прысвячае некалькі абзацаў “Песні змагання”: «Аднаго разу па дарозе з Домбе ў вагоне пачала ў мяне складацца песня на матыў адной рускай рэвалюцыйнай песні. Вярнуўшыся ў Лодзь, я зараз жа яе запісала”[29]. Як мы ўжо згадалі, “Песня змагання” была таксама ўпершыню апублікавана ў газеце “Сялянская доля” пад псеўданімам *Паўлінка*, пазней выходзіла асобнай улёткай разам з нотамі. Як адзначае Г. Запартыка ў прадмове да публікацыі лістоў П. Мядзёлкі з Берліна (дзе, дарэчы, звяртае ўвагу і на яе сяброўства ў партыі эсэраў): “2 студзеня 1922 г. П. Мядзёлка перасылае чарговую сяброўскую складку і просіць дазволу Камітэта загранічнай групы БПС-Р выдаць за яе асабісты кошт паштоўку песні з нотамі “Пад гоман вясёлы” і лозунгам: “Змагайся, як мага, зможаш!”. Паштоўка была выдадзеная. Без лозунгу, але з прысвячэннем Тамашу Грыбу. Пройдуць гады, і прысвячэнне будзе ўласнаручна заштрыхавана, а паштоўка ўсё ж захаваецца ў яе асабістым архіве[30]. Асобнік улёткі з закрэсленым прысвячэннем цяпер захоўваецца ў БДАМЛіМ (ф. 403, адз. зах. 1, арк. 1). “Песня”, напісаная класічнай чатырохрадковай страфой, у 1920-я гады была вельмі вядомай, лічылася неафіцыйным гімнам беларускіх эсэраў. Аб яе папулярнасці сведчыць урывак з рамана Віктара Вальтэра “Роджаныя пад Сатурнам”, дзе распавядаецца пра беларускае асяроддзе ў Празе:

*Ужо ўсе гутарылі за сталом, усе прымалі ўдзел у дыскусіі з прыгоды толькі што сказанай прамовы. Нарэшце, прыгожым тэнарам Тамашэвіч пачаў:*

*Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай,*
*Пры зборы усіх на бяседзе такой, —*

*і хор дружна і моцна падхапіў:*

*Успомнім мы, брацці, аб долі няроўнай,*
*Пра ўсіх тых, хто церпіць за край родны свой.*

*Песьня палілася прыгожымі хвалямі, падымаючыся ўсё вышэй і вышэй у столь, выходзячы праз адчыненыя дзверы вузкага пакою ў калідор, і панеслася далей у чужое ёй чэшскае паветра. Чулася, што разам з песьняй падымаліся думы спевакоў і няслісля на далёкую Бацькаўшчыну, у далёкае мінулае…*

---

[29] Мядзёлка П., *Сцежкі жыцця…*, с. 304.
[30] Запартыка Г., *Прадмова* да: Мядзёлка П., *Лісты з Берліна*, «Спадчына» 1996, № 3, с. 96.

*Адных ужо крыюць курганы-магілы,*
*Другія сасланы за краты, у турму… —*
*пакрываў усіх моцны голас Тамашэвіча…*[31].

Ці магла П. Мядзёлка стаць сапраўднай ці, інакш кажучы, "прафесійнай" паэткай? Улічваючы яе разнастайную асветніцкую дзейнасць, малаверагодна, што яна магла б абмежавацца выключна напісаннем тэкстаў. Пры гэтым, думаецца, сваю літаратурную дзейнасць Паўліна Мядзёлка, як і многія іншыя жанчыны таго часу, не лічыла прыярытэтнай. Аднак нешматлікія творы, напісаныя П. Мядзёлкай, – сапраўды таленавітыя, а яе паэма "Сялянская доля" выдатна ўпісвалася ў тагачасны літаратурны і культурніцкі кантэкст, адлюстроўваючы актуальныя палітычныя і сацыяльныя пытанні, якія датычыліся будавання беларускай нацыі.

[31] Вальтар В., *Роджаныя пад Сатурнам*, [online], http://dziejaslou.by/old/www.dziejaslou.by/inter/dzeja/dzeja.nsf/htmlpage/valt1702ec.html?OpenDocument, [доступ 18.03.2020].

Вольга Нікіфарава
*Гродна*

# ШЛЯХАМ ДА СВЯТЛА
## (хрысціянская дамінанта ў творчасці Алы Нікіпорчык)

Ала Нікіпорчык не спяшалася з публікацыяй паэтычных зборнікаў. Верагодна, паўплывала высокая патрабавальнасць да сябе, а таксама сумненне, ці варта адкрываць людзям, няхай і добразычліва зацікаўленым, тое, што толькі тваё. Можа, такія меркаванні ўяўляюцца неактуальнымі ў наш імклівы ды прагматычны час, калі бязмежная камунікацыя ў сацыяльных сетках насамрэч нярэдка выкрывае таннае самалюбаванне пры абыякавасці (калі не горш) да асобы бліжняга. Аднак А. Нікіпорчык належыць да іншага пакалення, стасункі з цяперашнім светам у яе няпростыя, канфліктныя:

не пасляваю
і не спяваю
не спяваю ні голасам ні душою
прагну цішыні
але спатыкаюся аб гучныя словы
хачу свежага паветра
але з адчыненай форткі
цягне цыгарэтным дымам
мару пра святло
але жыву як пры зацменні сонца
падаю
разбіваюся ад болю
і да болю
але чыясьці нябачная рука
падымае і вядзе
                                        адмаўляюся
амаль як дзіця ледзь не тупаю нагамі
– не хачу!
але дзень змяняе дзень
як у сюіце адна музычная частка другую
але год змяняе год
і прадаўжаецца шлях
да Святла
                        24.04.2000 [1, с. 3]

Адразу ж звяртае на сябе ўвагу тое, як супалі тут асабістыя перажыванні аўтаркі і трывога, нервовае напружанне эпохі мяжы тысячагоддзяў. Незадаволенасць – перш за ўсё сабою, – боль ад сутыкнення з вострымі вугламі навакольнай рэчаіснасці (заўважым, што боль – наогул адзін з выразных лейтматываў паэзіі А. Нікіпорчык) і раптам – адчуванне Боскай прысутнасці ў сваім жыцці. Першая, прызвычаеная, рэакцыя – адчайны пратэст. **Але**… Тут варта падкрэсліць, што ў цытаваным вышэй вершы гэтае слова нясе асаблівую семантычную і рытмічную адказнасць. Дык вось **але** "нябачная рука" дае накірунак "шляху да Святла", і гэта ўзнімае ў душы такую хвалю пачуццяў і думак, што іх ужо нельга не падзяліць з тымі, хто таксама "марыць пра святло". Такім чынам, тое, што менавіта гэты верш адкрывае першы зборнік Алы Нікіпорчык "Сляза і малітва" (2006 г.), не з'яўляецца выпадковасцю, як і рашэнне паэткі выдаць кніжку, змест якое цалкам сканцэнтраваны вакол духоўнага, рэлігійнага досведу асобы, а значыць, так ці інакш закранае кожнага.

Хрысціянскія матывы ўсталёўваліся ў паэзіі А. Нікіпорчык паступова. У савецкія часы, калі яна пачынала свой творчы шлях, адзіную магчымасць пачуць і сур'ёзна падумаць пра Бога для выхаванай у атэістычным духу моладзі адкрывала сфера высокага мастацтва. Яго аматарам паэтка была заўсёды. І вось, напрыклад, яе ўражанне ад карціны Я. Цінтарэта "Хрыстос і грэшніца":

Я – грешная, а вы-то кто – святые? –
что так боитесь камень и ладонь разъять?
Глаза безвольные, пустые.
Где вам любить! Где вам страдать!
1.05.1982 [2, с. 44]

Пакуль што ў цэнтры ўвагі маладой аўтаркі не Хрыстос. Сім-патыі і прыярытэты цалкам на баку жанчыны. Паэтка імкнецца пра-чытаць яе думкі і ўяўляе іх сугучнымі свайму ўласнаму максімалізму пачуццяў з ноткамі пратэсту, выкліку ("Где вам любить! Где вам страдать!"). Аднак – парадаксальна – яны набліжаюцца таксама да Хрыстовай прапановы, каб першым у грэшніцу кінуў камень той, хто без граху. У самаацэнках Ала Нікіпорчык не ведае паблажлівасці:

Даже эта капля дождя
более ценна,
чем моя жизнь.
Да и что может стоить жизнь,
не освещённая слезой и словом?!. –

пакутліва разважае яна ў вершы ад 7.10.1988 г. А потым нечаканы ў дадзеным жанры post scriptum не зніжае (каб можна было неяк жыць далей), а наадварот – узводзіць крытэрый ацэнкі да найвышэйшага ўзроўню святасці:

P. S. Не освящённая?
Слезой и Словом…
[2, с. 226]

І ён наўздзіў не прыгнятае веліччу, а падтрымлівае веру ў выратавальную моц ідэалу Слова Божыя, Іісуса Хрыста, і шчырага па-каяння перад ім. Душа атрымлівае не палёгку, але надзею:

кого Я люблю
тех обличаю и наказываю
– читаю в Откровении
и говорю вслух
неужто и меня любишь Господи?!
30.03.1997 [3, с. 174]

Бясспрэчна, шлях да Святла ляжыць праз паглыбленне ў Свяш-чэннае пісанне. Гэты складнік духоўнай дзейнасці адлюстраваны ў паэзіі Алы Нікіпорчык па-рознаму. Напрыклад, праз цытаванне – як у прыведзеным вышэй вершы ці ў якасці эпіграфа. У іншых выпадках – праз евангельскія рэмінісцэнцыі. Зусім празрыстыя, як у адным з вершаў *напярэдадні Вялікага посту*:

Ойча
чым далей жывеш
тым усё больш не спасцігаеш
дык як жа гэта так
каб – за мяне
адзінага ды – Сына?..
расступяцца усе
адступяцца усе
а потым міра прынясе
Марыя-Магдаліна
26.02.1998 [1, с. 7-8]

Альбо прыхаваныя, як у вершы, з якога той самы цыкл пачынаецца:

прыходзіць час малення і слязы
прыходзіць час пакуты і надзеі
галінкаю Тваe лазы
Зазелянею
[26.02.1998 [1, с. 7]

Для паўнаты ўспрымання тут не лішне будзе звярнуцца да тлумачэння самой паэткі, якая спасылаецца на пятнаццаты раздзел Святога Дабравесця паводле Іаана: “Я – вінаградная Лаза, вы – галіны; хто знаходзіцца ўва Мне, а Я ў ім, той прыносіць многа плоду, бо без мяне не можаце

рабіць нічога” [4, с. 268]. Спрабуе яна таксама вольны пераклад фрагментаў, якія асабліва яе хвалююць, – напрыклад, з інвектывы прарока Ісайі:

о нафарбаваныя вусны!
о закратаваныя душы!
якою гарою ахінецеся
ад жаху жыцця свайго? <…>
9.12.1999 [1, с. 22]

Адзіная магчымасць выйсці з-пад улады гэтага жаху – адкрыць сваю душу Збаўцы. І лірычная гераіня Алы Нікіпорчык узнімае маленні за сябе і не толькі: “Божа / адпусці мяне з грахоў маіх / як вязня з клеткі” (1998) [1, с. 7]; “злітуйся, Божа, над намі / калі мы ёсць яшчэ…” (1999) [1, с. 13].

Цяжка, але неабходна пераадольваць усведамленне ўласнай недасканаласці:

адступаю ад Цябе Госпадзі
і сто
і тысячы разоў
а потым
усё роўна хінуся да Цябе <…>
17.03.2005 [1, с. 48]

4 снежня 1999 г. пасля ўсяночнай лірычная гераіня светла марыць: “Госпадзі / я заўтра прыйду да Цябе з пакаяннем” [1, с. 20]. Але праз чатыры дні яна ўжо не так упэўнена: “можа я і ніколі не дайду да Цябе – Госпадзі / можа толькі слязою / дацяку” [1, с. 21]. Аднак яе падтрымлівае найвышэйшы прыклад цярплівасці і пакоры:

яслі і крыж
як пачатак і канец
зямной
Божай
дарогі
наіўная і балючая – да бяскраю
якога разумення
і якой спагады
я хачу знайсці тут
калі іх не было нават
у самога Госпада <…>
2.11.2002 [1, с. 38],

калі нават Яму быў наканаваны “шлях да Іерусаліму / на якім ніхто не пашкадуе”? [1, с. 33]

Наўрад ці выпадкова цэнтральнае месца ў зборніку “Сляза і малітва” аддадзена трыпціху “Гасподні шлях” (7.04.2001), а ў ім гучыць пранікнёнае

прызнанне:

амаль што як Пётр
Дазволь мне Госпадзі прыйсці да Цябе па вадзе
амаль услед за ім
– Дазволь мне Госпадзі ісці за Табою
і нават можаш не працягваць мне руку
калі пахіснуся на вадзе ці па дарозе
7.04.2001 [1, с. 33]

Паэтка вырашыла быць моцнай – вартай Боскага даверу. І ўсё ж на абраным шляху яна шчаслівая мець за спадарожнікаў такіх волатаў святасці, як Іаан Кранштадтскі [1, с. 27–28] ці Мікалай Сербскі [1, с. 60]. З іх твораў яна выбірае найбліжэйшае сабе для перакладаў-перастварэнняў на роднай мове і адчувае, як прыбываюць сілы, каб рухацца наперад. Калі ж сустракаецца небяспека, абараняюць свя-тыні:

<…>
…выратавалася іконкаю
купіла іконку Госпада Ісуса Хрыста
можа яшчэ рана пісаць
– выратавалася –
у мінулым часе
але хіба што – выратуюся
… прадчуванне засланіла час
19.06.1999 [1, с. 13]

Знешняя празаічнасць сітуацыі не прыніжае шчырых высокіх памкненняў, як тут, у “Імпрэсіі аднаго дня”, так і ў вершы да Божай Маці “Спатолі мае журботы” у дзень яе іконы – 7 лютага:

<…> сабяры па кавалачках лёс
і рэшта жыцця
няхай стане пачаткам
святла
і свята
і святасці
7.02.2005 [1, с.47]

Паэтка старанна падтрымлівае ў сабе ўзнёслы настрой царкоўнага свята. Яна замілавана сочыць за голубам перад манастыром, бо “сёння Благавешча” [1, с. 49], прыслухоўваецца да царкоўнага звону:

<…> і толькі званы
звіняць маім болем
і таму – забіраюць мой боль

і іду я далей – светлая лёгкая
як гэты дождж з Успенскіх нябёсаў
у нябёсы
28.08.2004 [1, с. 46]

На шляху да Святла перад ёю паўстаюць святыні беларускай зямлі. То як прыгожы ўспамін на мяжы явы і трызнення (“Полацкія сны” 17-19.02.2000) [1, с. 23–25], то як журботны ўздых:

на месцы царквы – крыж
як на месцы нашых пустых душаў
мёртвымі вуснамі
прыпадаем да Твае жывой ракі

даруй нам ойча Іаане
(“Успамін аб Карме”)
1.04.2001) [1, с. 31]

Але зруйнаванае павінна адрадзіцца. “Бачу нябёсы / бачу дарогу / выратавальны / – наканавальны – / Крыж”, – звяртаецца А. Нікіпорчык “да Крыжа Найпрападобнай Еўфрасінні Полацкай **на месцы будучай царквы** «Сабор Усіх Беларускіх Святых»” 8 ліпеня 1999 [1, с. 16]. А ўжо 17 красавіка 2004 яна ідзе “**па дарозе ў царкву** «Сабор Усіх Беларускіх Святых»”. І ў гэтым вершы таксама дамінуе матыў дарогі – у Неба: “Вось яна – сіняя / светлая / у аблоках / бяздонная / бясконцая / – твая” [1, с. 45].

З “крылом – у Неба” [1, с. 10] параўнаны найстарэйшы гродзенскі храм. “**Мая** Каложа”, – кажа Ала Нікіпорчык і просіць заступніцтва ў святых Барыса і Глеба (“Трыпціх да Каложы”, 21.06.2000) [1, с. 29]. А потым сцвярджае: “нават калі / абрынецца ўсё ў сусвеце / на апошняй пясчынцы / затрымаецца / **наша** / Каложа” (27.01.2001) [1, с. 30] <падкрэслена – *В.Н.*>.

Таямніча-шчаслівае набліжэнне да Існага паэтка неаднойчы перажывала ў Жыровіцкім манастыры:

Жыровічы – нябёсы святла
і – на душы маёй
слядочак
Маці Божай
20.08.2006 [1, с. 59]

Вобраз Яе, – бадай, самы надзейны арыенцір на шляху Алы Нікіпорчык і яе лірычнай гераіні. Нездарма ў чатырохрадкоўі ад 7.01.2003 зварот да Маці Божай асацыятыўна звязаны з вобразам пуцяводнай зоркі:

о Найсвятая мая Багародзіца
можа скончыцца й наша расстанне
Віфлеемская зорка народзіцца
і на небе душы маёй стане
7.01.2003 [1, с. 43]

У вершы “Да Божай Маці – Каложскай” (26.03.2001) “Благаславёную і апетую праз усе стагоддзі” [1, с. 61] суправаджаюць згадкі пра багародзічныя паданні, распаўсюджаныя таксама і ў Беларусі. Прачыстая выступае ў іх нястомнай руплівіцай, апякункай людзей і зямной прыгажосці:

Ты прыплываеш па моры,
Ты з’яўляешся па рэках і ручаінах,
Ты свеціш з ляснога дрэва,
Ты пакідаеш Твае сляды на камені,
Ты выводзіш з-пад зямлі гаючыя крыніцы,
Ты даруеш, як найвышэйшую міласць,
бачыць нам – грэшным –
Тваё нябеснае святло ў яве…
Але што можа параўнацца з тым следам,
Што пакідаеш ты на душах чалавечых! <…>
[1, с. 61]

Пра сябе ж паэтка гаворыць:

Я нічога ў Цябе не прашу – ні радасці, ні болю.
Бо я ведаю, што і боль Твой – высокі і светлы,
і можа пераўзыходзіць радасць…

<…>
Я нічога ў Цябе не прашу – апроч аднаго:
вазьмі мяне за руку і вадзі…
Як водзіць маці сваё немаўля.
Праз усю дарогу, што мне яшчэ – засталася…
[1, с. 61-62]

Калісьці лірычная гераіня Алы Нікіпорчык і пратэставала, і сумнявалася, і прасіла, і скардзілася:

Бог милует всех
кроме – поэтов
17.06.1990 [3, с. 69]

О Господи!
до чего же одиноко
у Тебя
на земле…
28.06.1999 [3, с. 185]

І трэба было гэта перажыць, каб здабыць мудрасць:

калі пакінуць і сілы і людзі
недзе на самым парозе памірання
я Крыжам Тваім засланюся
і прыйдзе спакой і ціша
і прыйдзе яшчэ надзея
што Ты не пакінуў мяне
і дзве скупыя слязіны
скацяцца ў цемрыва ночы
як знак майго здзіўлення
самай яўнай і блізкай
Тваёй прысутнасці
ад усіх
хто ёсць на зямлі
21.03.2005 [5, с. 60]

Паэтка адчувае, што ў яе жыцці "ўсё менш і менш людзей / усё больш і больш Бога" (24.10.2003) [1, с. 43], і гэта не праява нейкай адчужанасці, а дасягненне на шляху духоўнай эвалюцыі: адбылася карэкцыя прыярытэтаў. У дзённіку "З восеньскага – мамінага" (2016-2017) Ала Нікіпорчык параўнае сваё жыццё з манастырскім па-слушаннем. Яшчэ больш дакладным магло б быць паняцце "служэнне", хоць яна ім не карыстаецца (занадта гучнае слова).

На працягу свядомага жыцця Ала Нікіпорчык сціпла і аддана служыць роднаму слову, прыгожаму пісьменству. У якасці то настаўніцы (пасля філфака БДУ), то супрацоўніцы Гродзенскага музея М. Багдановіча ці абласной бібліятэкі імя Я. Карскага, то ў згуртаванні пісьменнікаў Гродна. Адказнай справаю яна лічыць сустрэчы з чытачамі, у тым ліку са студэнтамі Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы і з членамі Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа". Вельмі сур'ёзна ставіцца таксама да размоваў з паэтамі-пачаткоўцамі і да літаратурна-крытычных выступленняў у друку. У кантэксце нашых назіранняў асабліва хацелася б адзначыць змястоўны артыкул Алы Нікіпорчык "«Звініць ва мне Боская нота…». Духоўная прастора Дануты Бічэль" ("Наша вера", № 2, 2006), а таксама яе разгляды хрысціянскай паэзіі Зніча і Г. Тварановіч.

А неажыццёўленыя задумы ныюць, як незагойныя раны. У дзённіку "З восеньскага – мамінага…" А. Нікіпорчык згадвае кнігу А. Шчарбацэвіча "Зямля, дзе ўздымаюць крылы буслы": "Я так пра яе і не напісала… Можа

не так пра яе, як пра самога чалавека – аўтара, укладальніка, рупліўца свайго краю <…> А як гэтую кнігу чакала мама! Баялася, каб не памерці – да кнігі… Там жа быў абзац і пра яе… <…> Аляксей Пятровіч помніў маіх і тату, і маму, папрасіў, каб я пра іх таксама напісала… <…> Ды і сама я ў гэтыя «крылы буслоў» патрапіла выпадкам – з зямнога бачання… А з нябеснага – Божым усюдыісным зрокам – провідам – промыслам… <…> Неаплочаны доўг – нявыкананы абавязак – вынырнуў, як з глыбіні рачной, з майго асенняга бяссоння” [6, с. 36].

На жаль, літаратурным служэннем усё часцей даводзіцца ахвяраваць дзеля служэння найбліжэйшым людзям. Яны зусім нямоглыя, хварэюць, і вось мама ўжо на парозе смерці. Дзённік “З восеньскага – мамінага…” адлюстроўвае душэўны стан Алы Нікіпорчык менавіта ў гэты перыяд. Эмацыянальнае поле тут літаральна трымціць ад напружання. На мяжы магчымага аўтарка нясе сваё паслушанне, якое, бадай, цяжэйшае за манастырскае, бо замест трывалага ўставу адбываецца ў варунках непрадказальнасці і фізічнай бездапаможнасці. Змагаючыся з суровым вясковым побытам без вадаправоду і цэнтральнага ацяплення, яна ў роспачы кідаецца ад доктара Хуткай дапамогі да святара, з годнасцю пераносіць крыўды і ўдзячна адзначае найдрабнейшыя праявы міласэрнасці з боку суседзяў. І ўдзень, і ўночы яе клопат не толькі пра цела (таблеткі, уколы, перавязкі, перасціланне “маміных плашчаніцаў” у крыві і зялёнцы…), але і пра душу. Выбралася на службу ў царкву, запрасіла бацюшку дзеля саборавання хворай. “Учора вечарам зноў чытала Канон… <…> і раніцай давала артас… <…> У палове трэцяй ночы я прачнулася. Чытала Псалтыр – толькі адну кафізму, на больш не было сіл” [6, с. 40].

Пакутуе чалавек на адыходзе, і разам з ім пакутуе той, хто служыць яму – да апошняга ўздыху. “Хочацца спаць. Хочацца нарадзіцца нанова… Мець шчасце і жыццё…” [6, с. 37] – недасяжная мара. Але амаль адначасова ў дзённіку занатавана і такое: “Хачу пісаць (пасля дзесяцігадовага перапынку), хачу жыць, хачу мець свабоду і святло” [6, с.36]. Жыць і пісаць – адно немагчыма без другога. І піша! Ды як!

“Гатавала на верандзе. <…> Холад люты… Выпаў снег. Дакладней, падаў. Доўга… Хлоп’ямі – амаль аўсянымі…

І ў гэтым змроку беспрасветным – белым, зімовым – невядома адкуль – з мяне – з прасторы – з другога свету – ці то песняю, ці то гукам – ува мне ці па-за мною…

мой Боже высокий
мой Боже далёкий
мой Боже – мне – свет – из глубин…

І спявалася – вялося – не голасам, а нейкім тонкім унутраным дзеяннем – адчуваннем – душою… І было светла і спакойна… Ледзь не радасна… І мама ляжыць – памірае…

І гэтае святло – як акенца: само адчынілася і само зачынілася…

Пайду лячыць маміны раны…” [6, с. 42].

Гэты запіс ад 9 лістапада 2016 г. уражвае не толькі прыгажосцю і шчырасцю перажывання, але і дакладнасцю, з якою перададзены няўлоўны момант узнікнення новага паэтычнага твора. Без дадатковых тлумачэнняў робіцца таксама зразумелым, чаму А. Нікіпорчык свядома абмяжоўвае ў сваіх вершах выкарыстанне знакаў прыпынку: у тэксце яна ў першую чаргу імкнецца адлюстраваць менавіта той “невядома адкуль” лірычны гук, інтанацыю і рытм, а граматычная ды сэнсавая логіка з іх натуральна вынікае сама сабою.

“Восеньскі” дзённік паказвае, наколькі роднасная таленту А. Нікіпорчык таксама сфера лірычнай прозы. Аўтарка далёка не абмяжоўваецца фіксацыяй падзей, хоць, здаецца, дзеля гэтага і пачынала запісваць. На старонкі выліваецца трывожны філасофскі роздум амаль накшталт нататак Б. Паскаля: “Господи, зачем я оказалась в этом мире?.. Для чего я сюда попала?.. Вышел сбой в Твоей программе?.. Или в Твоей программе сбоев не бывает?.. Может это в моей программе вышел сбой… И где та грань – между моей и Твоей прораммой?.. Как это – разделить?.. И вообще – делимо ли это?..

По чьей ошибке мне была дарована жизнь?.. Но у меня её никогда не было… Я ничего не обрела и не достигла… Боюсь, что даже ничего и не постигла… <…>” (25.09.2016) [6, с. 33]. А прыкладна праз месяц (29.10.2016) прыходзіць калі не адказ на тыя пытанні, дык падказка:

“Хадзіла на Мішыну «сядзібу», нарвала трохі пятрушкі. Ішла назад і – о цуд! – на небе вясёлка. Яна толькі нараджалася, яна да канца і не нарадзілася: не праявілася ва ўсю сваю моц і велічыню. Але – шырылася, вырастала ўверх, амаль да пераходу ў дугу (арку), і знікла. Гэта быў такі цуд! У восеньскім, амаль вечаровым змроку на свінцовым халодным небе з арэхава-апельсінавымі і блакітна-сінімі падсветкамі – вясёлка. У маёй замкнёнасці – пакінутасці – і людзьмі, і Богам – як знак – ад Госпада…

Асвяціла нейкім святлом знутры… На імгненне…” [6, с. 39].

Паэт – заўсёды паэт. Гэта ён бывае здольны ў самай звычайнай сітуацыі ўбачыць прыгажосць, раскрыць высокі сэнс, здаецца, шэраговага моманту, ператварыць яго ў факт мастацтва, зрабіўшы неабходным кампанентам цэласнага лірычнага сюжэта, абумоўленага адно свабодным рухам думкі і пачуцця творцы. Галоўным стрыжнем такога сюжэта ў “З восеньскага – мамінага…”, безумоўна, з’яўляецца аўтарскі роздум над праблемай сэнсу жыцця. Абставіны непасрэднага судакранання са смерцю найбліжэйшага чалавека надаюць зместу дзённіка гранічную пранікнёнасць асабіста перажытага і адначасова выразную ўніверсальнасць. Праз усе пакуты і сумненні ў ім праступае выснова: магчыма, чалавечае жыццё і не мела б сэнсу, калі б не было любові – Боскай Любові, якою ўсё пачынаецца і

да якое ўсё імкнецца.

Быць праваднiком гэтай Любові сярод людзей – вось высокае прызначэнне паэта. Ім і кіруецца Ала Нікіпорчык у сваёй творчасці. З максімальнай паўнатою гэтае імкненне выявілася ў выдатнай спробе акафіста Божай Маці Каложскай (26.03.2001)

<…>
Радуйся, недасягальная вечнасць
Радуйся, недакранальная светласць
Радуйся, неспасцігальная мудрасць
Радуйся, неразгаданая тайна
Радуйся, белыя-белыя крылы
найяснейшага Ангела Неба
Радуйся, невычэрпная Ласка Нябёсаў
што сыходзіць святлом на зямлю
Радуйся, покрыў святы, што зямлю атуляе
Радуйся, покліч святы, што на неба ўзводзіць
Радуйся, Божая Маці Каложская –
святло і збавенне душ нашых грэшных
<…> [1, с. 6]

Дэкларацыяй ўсеабдымнай любові гучыць таксама верш-малітва, які стаў велічным заключным акордам у першым зборніку паэткі:

Божа Ойча
Моцны і Існы
малюся за маму
родных і блізкіх
за чужых і далёкіх
за ворагаў і дабрадзеяў
за нашу бярозу
за нашыя слёзы
за лёсы
што жыццём не сталі
– прапалі
за радасці скупыя імгненні
за зямныя ўсе пакаленні
за вянок рамонкавы і васільковы
цярновы –
за святую і светлую мову
каб жыла і гучала
за Радзіму – каб не балела
каб ацалела
каб воляю вечнаю стала
29.09.2006 [1, с. 63]

Можна заключыць, што хрысціянскія матывы з'яўляюцца ў творах Алы Нікіпорчык відавочнай дамінантай. У іх дынаміцы бачна адлюстраванне лёсу і асабістых духоўных пошукаў паэткі. Гэты варты павагі прыклад вернасці найвышэйшаму ідэалу ацэняць у першую чаргу тыя, хто падобным чынам цярэбіць свой шлях да Святла.

## *Спісак літаратуры*


1. Нікіпорчык, А. Д. *Сляза і малітва: вершы,* Мінск 2006.
2. Никипорчик, А. Д. *На грани – счастья: стихи,* Мінск 2010.
3. Никипорчик, А. Д. *Звуком единственным: стихи*, Мінск 2012.
4. *Свяшчэннае Евангелле*, Мінск 2007.
5. Нікіпорчык, А. Д. *Пад бахаўскую такату дажджу: вершы*, Мінск 2007.
6. Нікіпорчык, А. Д. *"З восеньскага – мамінага…",* // "Тэрмапілы" № 21, 2017, с. 31 – 55.

# ТЭРМАПІЛЫ

Адрас: 15-420 Białystok,
Plac Nieależnego Zrzeszenia Studentów 1

выдае

*Беларускае літаратурнае аб'яднанне „БЕЛАВЕЖА”*

**Zrealizowano dzięki dotacji
Ministra Spraw Wewnętrznych i
Administracji**

## Да ведама аўтараў

Рэдакцыя прымае да разгляду празаічныя творы аб'ёмам не болей 5 друкаваных аркушаў (прыблізна 120 стр. машынапісу), паэтычныя да 200 радкоў, артыкулы да 2 друкаваных аркушаў. Усе матэрыялы прымаюцца ў электроннай і раздрукаванай форме.
Рукапісы не вяртаюцца.

Аўтары нясуць адказнасць за свае матэрыялы ў адпаведнасці з законам аб друку Польшчы.

Апублікаваныя матэрыялы неабавязкова адлюстроўваюць пункт погляду рэдакцыі часопіса.